Валерый Гапееў

# Зніч ваўкалака

Прыгодніцкая аповесць

# Змест

# 1. Стась

Вось гэтага не зразумець ніяк: трафік безлімітны, тэлефон сам выбіраў, ноўтбук нармальны, хуткасць выдатная. Любы фільм спампоўваецца ўлёт, у анлайне ў любой стралялцы — калі ласка! І ніхто ж не займае! З дваццаці чатырох гадзін сутак толькі нейкія тры — па максімуме! — ён заняты, астатні час — толькі яго.

А не хочацца. Не цягне. Надакучыла за першыя тры дні.

Дамок на лецішчы — двухпакаёвы, утульна тут, а па вечарах ціш такая, што падасць голас якая птушка — быццам праз гукаўзмацняльнік.

Сумна. Праваруч лецішча пенсіянераў, ціхія старыя, корпаюцца ў зямлі з раніцы да вечара. Там градкі — пад шнурок, ніводнай лішняй травінкі. Стась з пенсіянерамі вітаецца раніцай, хоць яны і не знаёміліся — толькі ў гэтым годзе яны купілі лецішча, дагэтуль яно пуставала. Злева лецішча ажывае ў пятніцу вечарам, прыязджае маладая сям'я, хлапчанё гадоў шасці капрызнае — праз гадзіну пачынае ўжо вішчаць. Ды яны там усе крыклівыя, быццам назапашваюць голасу за тыдзень, а потым выплюхваюць. Мужчына малады, а жывот вялікі, і голас у яго тонкі. Агідна, калі мужчына крычыць.

Стась ведаў, што яго чакае. На лецішчы бывае штогод — з бацькамі, начаваць заставаўся не раз. Згадзіўся глядзець грады, пакуль бацькі паляцелі ў Турцыю адпачываць. Можна было б і ў горадзе застацца, прыязджаць паліваць тыя соткі, ды ж дарога нязручная, аўтобус толькі раніцай на лецішча і ў абед — адтуль, ды яшчэ пешкі ад шашы і на шашу бегчы добрыя тры кіламетры.

Больш маці пашкадаваў — такая ўжо датклівая да сваіх градак. Ды агуркі і памідоры — яшчэ нічога, а вось кветнікі вялікія... Ад самай ранняй вясны і ажно да першага снегу на іх лецішчы нешта ды цвіце. Колькі яны з бацькам

сюды камянёў нацягалі, колькі зямлі! А маці штогод нешта падсаджвае, як прыязджае — адразу да кветак, размаўляе з імі, бы з жывымі. Яно то прыгожа во цяпер, не паспрачаешся, але ж палівань гэта ўсё — рукі забаляць ваду са студні цягаць.

Але і добра, што ёсць гэты занятак. Вечар надыходзіць, не спяшаючыся, акуратна паліваеш, каб не размывала вада зямлю і не зносіла з горак, дык і сонейка на захадзе апынецца. Стома ў плячах адчуецца, прыемна абмыцца, зазірнуць у халадзільнік: што на вечар з'есці? Бацькі, канешне, накупілі прадуктаў не на два тыдні, а на месяц на траіх. Уключыш фільм, на электраплітцы згатуеш макароны. Сёння... сёння будуць «макароны па-флоцкаму» — так бацька кажа. Гэта калі ў толькі адцэджаныя макароны выкалупваеш з бляшанкі тушонкі мяса палову, перамешваеш. Хлеб ужо чэрствы, але заўтра прыедзе аўталаўка, купіцца свежы. Вось хоць яшчэ нейкі новы занятак днём.

Стась за гэтыя тры дні так нудзіцца пачаў, што з невялікага гарышча сцягнуў долу важкі пакунак часопісаў «Вакол свету». І трэба ж, захапіўся! Такога ў Вікіпедыі няма!

Сёння з абеду — дождж. Навальніцы не было, пару разоў бліснула ды грымнула, але ж паліло зямлю добра. І гэтак запахла пасля! На ўтрамбаванай дарожцы выпаўзкі — земляныя чарвякі — пакідаюць вузлаватыя паскі-дарожкі. Бліснула думка, Стась заспяшаўся ў дамок, зазірнуў у шафу: бацькавы вуды на месцы. Мінулым годам яны пару разоў хадзілі на рачулку, тут побач, колькі акунёў нават злавілі. Хуценька назбіраў дзясятак выпаўзкаў, прыхапіў цэлафанавы пакет, чвэрць чэрствага бохана хлеба, які заставаўся.

Вуліца лецішча была ў невялікіх лужынах. Дарогу Стась не забыў, не маленькі ж: ісці да блізкай адсюль вёскі, там збочыць на шырокую сцежку, яна і выведзе да ракі.

Сцежка ў траве, трава ў расе — красоўкі ўміг зачвэкалі. От, трэба было ў боты абуцца...

Берагі рачулкі зарослыя — дзе тут прыпыніцца, дзе будзе кляваць? Ішоў высокім берагам, не спускаючыся да вады, выглядваў месца. Пабачыў адмысловае: рагулькі ў вадзе для вудзільнаў зроблены, зямля ўтаптана і нават кавалак бервяна ляжыць. Добрае нехта месца абсталяваў. Але ж яно не купленае, рэчка — для ўсіх! Спусціўся, замёр: па маруднай роўнай плыні хадзілі кругі, рыба гуляла. Захваляваўся, разабраў вуду, начапіў чарвяка. Закінуў, прысесці толкам не паспеў, як паплавок таргануўся, нахіліўся і нырцануў пад ваду. Стась падсек, і сэрца закалацілася ад удачы, калі трымаў у руках ладнага, такога прыгажэннага акуня! Кінуўся набраць вады ў мяшэчак, зняў рыбіну з кручка і супакоіўся ад думкі: а што з рыбай будзе рабіць? Ён жа яе ніколі не гатаваў. Ат, там пабачым... Клюе ж, зноў клюе!

## 2. Віталь

Дзень у Віталя амаль што распісаны з самага ранку. Як бацька смяяўся: будзеш жыць бы салдат у казарме. Нічога, пацярпіць Віталь і казарму. Што зробіш, калі трэба? Тым больш бабуля Зося і яе маці, прабабуля Арына, вельмі нават нармальныя жанчыны. Вось раней неяк заікнуўся пры іх бацька, што ў Віталя камп'ютар стары і слабы, дык яны праз паўгода ўручылі Віталю ўсю патрэбную суму! Ён ажно вочы вылупіў ад неспадзяванкі. Ну, пенсія ў бабулі добрая, а прабабуля дык увогуле ветэран вайны, партызаніла. Але ж усё адно сума якая! Нечакана было і прыемна. Віталь іх адзіны ўнук, мо таму і песцяць. От і цяпер: толькі прыехалі дамаўляцца, што і як будзе, а бабуля Зося адразу пытаецца: «А ці добры ў цябе тэлефон, унучак? Ты ж з намі месяц будзеш, дык каб не сумаваў без сяброў, каб перапісвацца

мог». Сучасная бабуля, усё разумее, бо ж і сама тэлефонам карыстаецца без праблем. І дала грошай на новы тэлефон! Яшчэ дадала, каб на тарыф падключыўся самы лепшы, яны самі паклапоцяцца, каб там грошы не заканчваліся. Дык жа і раней — пенсію атрымаюць і Віталю штомесяц прыходзіць эсэмэска: «Баланс папоўнены».

У маці адпачынак толькі напрыканцы лета, у бацькі яшчэ пазней, а тут непрыемнасць: бабуля Зося ехала на веласіпедзе, упала, і так левую руку выцяла — каструльку з вадой на газ не паставіць. А рукі дужыя ў іх хаце вой як трэба — прабабуля Арына хадзіць не можа, адняліся ногі гады з тры таму.

Цяпер так і пачынаюцца ранішнія клопаты ў Віталя: пакуль ён снедае, п'е чай, бабуля дапамагае ўмыцца сваёй маці, адзявае яе. Потым Віталь бярэ на рукі прабабулю, садзіць у вазок.

Прабабуля ў свае восемдзесят сем гадоў — бы дзяўчынка-падлетак: тварык дробненькі, сама нейк усохла. Ды яшчэ і саромеецца кожны раз, быццам такая ўжо гэта вялікая работа — падняць на рукі, пасадзіць у вазок, вывезці на двор ці, калі непагадзь, пакінуць прабабулю на шырокай светлай верандзе. Калі ідзе дождж, кроплі шапацяць па бляшаным даху.

— От, не насілі мяне ў дзеўках на руках, цяпер хоць праўнук паносіць,— спрабуе жартаваць з сябе прабабуля, і ці не кожным ранкам, калі Віталь ледзь паставіць на выбранае прабабуляй месца вазок, то чуе, як яна хуценька, бы сапраўдны шпіён, соўгае ў кішэню ягоных джынсаў дробную грашовую купюру.

— Бабуля, ну навошта? Я ж не за грошы раблю! — канфузіўся напачатку Віталь.— Зноў пяцёрку ўсунулі.

— А быў бы рубель папяровы, дык яго б дала,— адгукалася прабабуля.— Ці ж я вінаватая, што такія грошы цяперака? А капейкі жаніху даваць нельга: слёзы праз дзевак

будуць. Бяры, унучак, задарма на руках сваю маладзічку насіць будзеш, а ад іншых падзяка трэба.

Тут ужо Віталь канфузіцца. Жаніх... Ну так, у свае шаснаццаць Віталь выглядае амаль дарослым — выцягнуўся вышэй за бацьку, не худы. Ды не трэба яму гэтыя заляцанні з уздыхамі!

Дзень праходзіў у дробных справах: паднесці-патрымаць нешта, дапамагаць бабулі Зосі. З адной яе рукой якая работа?

Часам Віталь нудзіўся да вечара: гуляўся ў тэлефоне, млява агрызаўся ў сацсетках. Радаваўся, калі для яго знаходзілася якая канкрэтная справа: плот паправіць, дзверцы ў хлеўчыку падрамантаваць. З бацькам ён штолета быў тут, раней і аднаго яго, малога, пакідалі на месяц які, то навучыўся ўпраўляцца і з пілкай, і з сякерай. Калі ўсе справы былі перароблены, можна было ісці на рыбалку — прабабулю ў хату завозіла бабуля ці якая суседка, а пазней Віталь перасаджваў худзенькую старую з вазка на ложак.

Ужо другі тыдзень ён прыкормліваў на адным месцы рыбу — там добра клявала. Канкурэнтаў у будні нямашака: у невялікай іх вёсцы і вёсках вакол жывуць пераважна старыя, хіба што на выхадныя прыязджаюць дачнікі, тады трэба з раніцы займаць сваё месца, а то прыбягуць на халяву. Канечне, сваё апошняе школьнае лета хацелася б правесці інача́й, але ж яшчэ амаль два месяцы наперадзе, чэрвень толькі заканчваецца.

Сёння нейкае свята царкоўнае — бабуля ні па доме, ні па агародзе нічога не робіць. Віталь да абеду праваляўся на канапе. Бабулі на лаўцы перад хатай — там і суседкі падышлі, гамоняць каторую гадзіну. Потым дождж пайшоў, перайшлі ўсе разам у веранду, разахвоціліся, стол накрылі, бабуля Зося бутэльку вішнёўкі вынесла. Па кроплі выпілі, дык ужо і заспявалі.

Дождж мінуўся — зноў усе на лаўку перад хатай.

Віталь выйшаў на двор, у носе ажно засвярбела ад нечаканай свежасці. Пасля столькіх дзён спёкі, пасля такога дажджу павінна ж кляваць добра!

Хутка сабраўся, выйшаў на вуліцу.

— На рэчку, унучак? — клапатліва спыталася баба Зося, а ўсе бабулі на лаўках утаропіліся на яго, быццам ён на вайну, няйначай, сабраўся.

— Ага, прайдуся...

— То чакай, Віталічак, я табе нажа дам, вазьмі з сабой,— падхапілася з месца бабуля, Віталь у разгубленасці мусіў чакаць.

— Навошта мне такі нож? — Ён са здзіўленнем узяў у рукі працягнуты самы вялікі нож, які быў у стальніцы на кухні.

— А бяры, унучак,— угаворвала бабуля Зося.— У заплечнік свой пакладзі — вялікае і не згубіцца. А то ці сабака які шалёны, ці яшчэ што...

— І што? — Віталь паслухаўся, укінуў нож у заплечнік, паблажліва ўсміхнуўся.

— А чукабра! — нечакана голасна адазвалася адна з бабулек, а іншыя заківалі галовамі, усё гледзячы на Віталя, быццам на будучую ахвяру.

— Чупакабра,— усміхнуўся Віталь.— Што, у некага зноў курыца прапала?

— А ты не смейся! — завялася бабулька, быццам абражаная тым, што яе паправілі і затараторыла: — Тры дні таму Сцяпаніха пайшла поначы на двор дык і бачыла! Большы за ваўка, ускочыў на дах куратніка, у зубах — самы вялікі гусак! І ў гарод, у кусты, а там — у балота... А яшчэ ж бабы казалі, што ў Загрэб'і мінулым тыднем двое курэй пакрала, а раней жа колькі яшчэ было! Не смейся!

Яна спынілася, і тут адразу некалькі жанок завохкалі, пачалі згадваць, што дзе хто чуў. Але сцішыліся, калі загаварыла са сваёй каляскі прабабуля Арына:

— Слухайце, дзеўкі, што я скажу. Не прыдумляйце вы чукабраў усякіх. Не было таго ліха ў нас, пакуль Праскоўя жыла. А як памерла — дык і пачалося...

Віталь, які ўжо намерваўся крануцца, прыпыніўся: ну, якая яшчэ версія адносна гэтых чутак? Цікава, як чалавек хутка паддаецца ўсякім навінам з тэлевізара! Вось жа зусім блізка лес з аднаго боку, дзікі заліўны луг з кустоўем — з другога; за выганам тры вялікія каналы бягуць да сапраўднага балота, там запаведнік. Дзве азярыны вялікія, плыткія. То гусей у вёсцы раней было — табунамі хадзілі, мала іх хто і лічыў, пакуль не падрасталі. Дык хіба мала тут звяроў ды птушак драпежных? Раней бы на шуляка ды лісу сказалі, а цяпер вось — чупакабру бабулькам давай, каб было як у тэлевізары.

— У Праскоўі сын адзін, успомніце, як ён да яе апошнія гады прыязджаў, то з такімі торбамі назад на аўтобус садзіўся,— ціха, але пераканаўча гаварыла бабуля Арына.— А што ў тых торбах? А пасля бачыш — ён ужо на машыне сваёй прыехаў, дагледжаны ўвесь. Адкуль тыя грошы, адкуль дабро, калі Праскоўіна пенсія — слёзы, бо ж век не працавала нідзе, варажбой ды шаптаннем зарабляла. І сын, сама казала, простым рабочым у горадзе. Дык от... Адкуль тое багацце, што сын Праскоўін цягнуў з яе дома? І ж во: ні кураняты не прападалі, ні гусі. А памерла Праскоўя — і пачалося. Во вам і сакрэт...

Жанкі маўчалі, збітыя з панталыку нечаканым для іх кірункам думак. Бабулю Арыну вельмі паважалі — пустое яна гаварыць не будзе.

— Дык дагаворвай. Што замаўчала? — азвалася першая расказчыца.

— Што вам дагаворваць? Вы пра такое не чулі і ведаць не будзеце,— з жалем махнула худзенькай рукой бабуля Арына.— Я вам скажу, а вы сабе смейцеся: Праскоўя ваўкалака прывабіла. Ён ёй аднекуль цягаў дабро. А яна яго

карміла. Коз яна трымала многа, ведаеце ж. А як памерла, ваўкалаку няма куды падзецца, бо ён тут прыкормлены, вось і цёгаецца па ваколіцы,— і нечакана павярнулася да Віталя, папрасіла, як і расказвала, сур'ёзна-заклапочана: — Асцярожным будзь, унучак. Ад невядомага лепш уцячы.

— Добра, бабуля,— стрымаў сваю ўсмешку Віталь і пайшоў шпарка, у душы рагочучы. Вось гэта следчыя! Вось гэта версіі!

З добрым настроем дайшоў да блізкай ракі, ды зірнуў на сваё месца здаля і настрой знік: Віталь пабачыў постаць рыбака, быццам хлапечую. Не з іх вёскі. Значыць, нехта з дачнікаў — лецішчы недалёка.

## 3. Знаёмства

Стась, здаецца, адчуў спінай позірк, азірнуўся. Да яго падыходзіў хлопец мо яго ўзросту ці старэйшага, высокі і дужы. Стась і сам не заморыш, але думкі пра супрацьстаянне не ўзнікла, бо заняў чужое месца, а па хмурным твары гэтага хлопца відаць было, ён якраз яго і ладаваў. Таму не адварочваўся і не стаў чакаць — калі хлопец яшчэ наблізіўся, загаварыў з усмешкай:

— Прабач, відавочна, я тваё месца заняў? Выбраўся вось на рэчку, а мясцін не ведаю. Рыбу злоўленую я табе аддам, усё роўна не ўмею яе смажыць. Мне парыбачыць цікава. Клюе добра, пяць штук выцягнуў,— і Стась кіўнуў на мяшэчак з рыбай ля ног.— Я магу пайсці адсюль. Ты мне падкажы, калі ласка, у якім баку больш-менш месца ёсць, каб да вады падысці, бо берагі топкія, зарослыя...

Злосць, якая поўніла Віталя за колькі крокаў да Стася, улеглася. А што ж — прызнаў чалавек, што вінаваты, то можна і прабачыць. Ён падышоў моўчкі, скінуў заплечнік пад ногі, паглядзеў на ваду.

— Ды лаві тут, хопіць абаім месца,— абярнуўся да незнаёмца, сказаў міралюбна: хлопец, здаецца, неблагі. Колькі ўжо дзён Віталь адзін, паразмаўляць на звычныя тэмы няма з кім.— А больш рыбу няма каму пасмажыць? — спытаў, каб паказаць сваю зацікаўленасць у працягу знаёмства.

— Няма,— ахвотна адгукнуўся Стась.— Адзін на лецішчы, бацькі ў адпачынак з'ехалі, мяне кветкі з агуркамі сцерагчы пакінулі.

— Крадуць?

— Ды не, ад сонца. Паліваць штодня, бо ж паліць цяпер...

— Ага, паліць...

Стась выцягнуў сваю вуду, пачаў аглядаць кручок, папраўляць паплавок, бы была пільная патрэба. Насамрэч даваў гаспадару, Віталю, магчымасць выбраць месца для першага закіду. Ды і хай заклюе ў яго... А потым ужо пачакаць, бо не станеш жа махаць вудачкай, калі ў рыбака побач клюе?

Віталь закінуў хутка, зразумеўшы і ацаніўшы прамаруджванне Стася. Паплавок паляжаў на вадзе, павольна рухаючыся па слабым цячэнні мо з хвіліны дзве, пасля таргануўся раз і другі. Віталь падсек, не стрымаў радаснага воклічу:

— Ух ты! Быццам мяне чакаў!

Прыгожы, вялікі акунь растапырыў калючыя плаўнікі ва ўсе бакі, адчайна трапятаўся на лёсцы.

З паўгадзіны клявала добра, хоць былі прыкрыя зрывы ў абодвух хлопцаў. Потым паплаўкі сталі больш часу зносіцца цячэннем пад аер і там нерухома застываць. За гэты час новыя знаёмыя паспелі даведацца, што яны з аднаго горада, хіба ў розных школах, у абодвух — апошняе школьнае лета. У гульні гуляюць аднолькавыя, музыку слухаюць адну.

Сонца хілілася на захад, ад вады пацягнула сырасцю.

— Ну што, хопіць на сёння? — Віталь выцягнуў вуду, адчапіў чарвяка і кінуў у ваду, пасля дастаў з заплечніка хлеб, стаў крышыць і кідаць у ваду шырока, ва ўсе бакі.

— Добрая рыбалка,— дастаў свой кавалак хлеба і Стась, пачаў рабіць тое ж.

— Калі табе рыбу смажыць некаму, дык пайшлі да нас, бабуля пасмажыць,— прапанаваў Віталь.— Мо ж не абрабуюць твае лецішча.

— Ды... Я б не адмовіўся,— пагадзіўся Стась.— Пельмені з макаронамі надакучылі.

Пачулася шорганне травы. Хлопцы абярнуліся: да іх ішло хударлявае дзяўчо ў кароткіх шортах і майцы. Мабыць, Стась занадта затрымаў позірк на дзяўчыне, бо яна прыпынілася ля іх і нечакана з'едліва выскалілася ў бок Стася, нават падалася да яго:

— Што ты так дзівішся, жывых дзевак не бачыў?

— Янінка, супакойся, нармальны хлопец! — гукнуў Віталь, засмяяўся.— Навошта ты яго пужаеш?

— Хай не вылупліваецца на чужое! — заўпарцілася дзяўчына.— А ты рыбы налавіў?

— Мы налавілі — на ўсіх хопіць! — Віталь падняў свой і Стасеў мяшэчкі — дзясяткі два акунёў.— Стась, не крыўдуй на Янінку, яна такая... Але сябар надзейны. Мая суседка, на год за нас маладзейшая, да бабулі прыехала. Ды і жыла да мінулага года тут, пакуль не пераехала.

— Ага, жыла, ваўкоў па балоце пасвіла, камарэчу сваёй крывёю карміла, ад чупакабры на пячы хавалася...— крывілася Яніна, пералічваючы свае «выгоды». І тут успомніла важнае, вочы яе акругліліся, і голас стаў звычайным, хіба ўсхваляваным: — А ў нас там страх што робіцца! Зноў чупакабра! Участковы прыехаў, уся вёска на выгане! Там жа старая Адар'я казу з казлянятамі навязвае. Прыйшла па іх — аднаго няма! І каза стаіць, дрыжыць ад страху. Вяроўка перакушаная, а трава — крывёю залітая!

— Ты што? Праўда? — не паверыў Віталь.

— Сама бачыла! Столькі крыві — жах! Ты тэлефон не ўзяў, мяне бабуля да цябе паслала — паглядзець, ці жывы.

— Ну, справы...— ціха прагаварыў Віталь, павярнуўся да Стася, які слухаў, не разумеючы, пра што гаворка.— У нас тут, бабулькі кажуць, чупакабра завялася. Гусей крадзе, курэй... Раз на тыдзень ці ў нас, ці ў суседніх вёсках нешта ды прападзе. І так ужо каторы год. А цяпер во — казлянё прапала...

— Дык казляня мог і сабака здзічэлы задраць, яму што...— пацісную плячыма Стась.

— Сам ты сабака дзікі,— скрывілася Яніна.— Вяроўчына адным махам перакушана, бы яе хто нажом перарэзаў! І крыві, крыві столькі!

— Янінка! — прыкрыкнуў на яе Віталь.— Стась не дзікі сабака, а ты вось зараз...

— А я знаю, што я дзікая, я сярод ваўкоў расла! — агрызнулася Яніна, але замаўчала, пасля пацікавілася: — А рыбу смажыць баба Зося будзе? А я магу дапамагчы чысціць.

— І есці дапаможаш? — падначыў Віталь.

— Канешне! Магу за вас дваіх гэта зрабіць! — дзяўчына з усмешкай паглядзела на хлопцаў, прыжмурылася і нечакана з просьбай у голасе павярнулася да Стася: — А ты не крыўдуй, добра?

— Ды і не збіраўся,— разгубіўся Стась ад такіх рэзкіх змен у настроі і адносінах да яго дзяўчыны, гэтым разам асцярожна разглядваючы яе твар: круглявы, з выразнымі скуламі і кірпатым задзірыстым носам, тонкімі вуснамі. І праўда, было ў гэтых тонкіх рысах нешта ад вольнасці, ці дзікасці нават, а вось вочы — не. Яны былі самымі звычайнымі, шэрымі, глядзелі крыху насмешліва і адначасова з перасцярогай: маўляў, не ўздумай мяне крыўдзіць! Валасы чарнявыя, сабраныя ў кароткі хвост ззаду. І так, зблізку яна не маленькае дзяўчо, дзяўчына...

Віталь па дарозе ў вёску пераказваў Стасю вясковыя пагалоскі пра чупакабру.

Рыбу чысцілі ў двары. Бабуля Зося камандавала і падказвала. Пад вялікім трыножнікам Віталь расклаў агеньчык — тут па вечарах варылі курам і гусям бульбу, каб не смярдзела на кухні. Яніна слухала бабулю Зосю: колькі ліць алею, як вывальваць у муцэ і праз колькі часу пераварочваць. Пачала смажыць рыбу, хлопцы стаялі поруч. Бабуля Арына сядзела ў сваім вазку побач, моўчкі назірала. Калі наступіла паўза ў размовах хлопцаў з Янінай, нечакана прамовіла:

— Глядзі, Віталік, унучак, глядзі... Праз два гады з-за Янiначкі будуць хлопцы адзін аднаму чубы цягаць. Не ўпусці, каб пасля не кусаць локці. Гэткая нявеста будзе, ой, пашанцуе ж некаму...

На бабулю азірнуліся Стась і Віталь, пераглянуліся, заўсміхаліся. Яніна ж быццам не чула гэтых слоў, насцярожана сачыла за патэльняй з рыбай.

— Бабуля, ды яна ж надта худзенькая! — аджартаваўся Віталь.

— На жывой касці нядоўга мясу нарасці,— адказала бабуля.

— А з чаго вы ўзялі, што я буду добрай нявестай некаму, бабуля Арына? — нарэшце спыталася ціха Яніна.

— Бо бачу, як ты рыбу смажыш.

— Што, толькі па гэтым? А як смажу? — дзівілася Яніна.

— Па ўсім.— Бабуля Арына коратка махнула рукой, потым дадала: — Рыбу смажыш, як іншая каралі перабірае. У штанах етых абрэзаных і майцы распуснай ходзіш, а быццам на табе сукенка каралеўская надзета. Бач, парода прабіваецца. Маці тваёй бабулі са шляхты была, бацька яе, здаецца, у воласці служыў. Не пашанцавала...— нечакана дадала і змоўкла.

— Каму і чаму не пашанцавала? — ціха спытаў Віталь, бо хацелася даведацца больш. Цікава ж: Яніна — нашчадак шляхецкага роду! Але раптам якая таямніца прыватная...

— У саракавым годзе, перад вайной, заарыштавалі ды вывезлі некуды і Аліну, і мужа яе, Стэфана, і дзяцей пяцёра. Праз дваццаць гадоў толькі двое вярнуліся — Малання ды Антон...

Яніна зняла рыбу з патэльні і цяпер трымала яе ў руках, забыўшыся на тое, што трэба накладаць новую порцыю для смажання, пакусвала тонкія вусны.

— Ніколі мне пра гэта не расказвалі... Не пыталася таму што,— асудзіла сама сябе.— А я думаю, чаму, як пабачу на экране паненак, што ў зале вальсіруюць, ды мне туды вельмі хочацца,— дадала летуценна і адначасова насмешліва, саромячыся свайго прызнання.— Ну, сёння будзе вечар допытаў, мне бабуля пра ўсё раскажа!

— Пані, вам хопіць агню пад патэльняй? Ці зрабіць мацней? Ці зменшыць? — падначыў Віталь.

— Зараз як дам патэльняй! Алею во толькі шкада,— сабрала нос на нітку Яніна.— Трошкі падкінь...

Вячэралі на верандзе.

— А ты, Стасік, заставайся ў нас начаваць, не ўздумай ісці на лецішча,— распарадзілася бабуля Зося напрыканцы вячэры.— І не ўхмыляйся мне! Хай я буду лепш баба дурная, затое спакойная. Не дай бог чаго, што я маці тваёй казаць буду? Што па вёсцы нейкая халера коз рэжа надвячоркамі, а я ноччу дзіця адно з хаты выгнала?

— Дык не ноч жа яшчэ! — заўпарціўся Стась.

— Дык заставайся! Дзве канапы вольныя, ложак, выбірай сабе,— угаворваў і Віталь. Па праўдзе, цяпер, калі добра сцямнела, страшныя показкі пра невядомую чупакабру выглядалі не вельмі бяскрыўднымі.— А раніцай во тут управімся і разам пойдзем, гарод твой пальём мігам.

Стась згадзіўся.

Пасля вячэры Яніна пабегла да сваёй бабулі, а Стась з Віталем гадзіну змагаліся ў «стралялцы» па сеціве. Перамог Стась. З тым і паснулі.

## 4. Экспедыцыя

Бабуля Зося паставіла хлопцам снеданне і расказвала апошнія навіны:

— Участковы будзе справу заводзіць. Маўляў, не першы выпадак па вёсках. Кажуць, што з калгаснага цялятніка, было летась, цяля маленькае ўкралі. Дык таксама крыві-крыві было! А злодзей жа не будзе рэзаць на месцы, ён жа не дурань. І яшчэ ўчастковы хадзіў-хадзіў, зямлю ці не нюхаў, а ніводнага слядочка не пабачыў. От такая трасца ў нас завялася. То ты, Віталь, нож з сабой насі. Я во адшукала дзедаў складанчык, яго пачысціць, нагастрыць, добры будзе.

І паклала на стол вялікі сцізорык з адным лязом. Віталь кіўнуў з набітым ротам, пасунуў сцізорык да сябе. Навошта пярэчыць бабулі? Хай будзе ёй спакайней.

На лецішчы ў Стася ўправіліся па праўдзе хутка: пакуль Стась палівае, Віталь цягаў ваду, наліваў у ржавую старую ванну. То Стасева маці так прыдумала: не з калодзежа адразу паліваць, а каб вада палетнела трохі за дзень. Папілі кавы, паглядзелі навіны ў сеціве і ахнулі абодва: пра выкраданне казляняці ў іх вёсцы — на табе! — ужо толькі лянівы не напісаў. І зноў паўсюль чупакабра!

— Зараз яшчэ журналісты прыляцяць,— хмыкнуў Віталь.

— Не, ім ужо нецікава: кроў счарнела, трупа няма, слядоў нідзе. Што ім фатаграфаваць? А пісаць нешта без фотачак, дзе кроў ды трупы,— ім нецікава, бо ж і не чытае такое ніхто. Можа, кіно якое паглядзім?

— Яно б то і няблага было, ды мне ісці трэба. Раптам нешта дапамагчы тэрмінова, а там баба Зося з адной рукой,— уздыхнуў Віталь.

— Дык давай я з табой, ноўт возьмем. Можна ў цяньку паглядзець, пакуль не маюць у нас патрэбу. А як што рабіць, дык дапамагу. І на рыбалку цягне сёння, усю ноч паплавок у вачах гайдаўся.

— Крута, давай так!

Калі падыходзілі да вёскі, пабачылі тры аранжавыя і адну зялёную палаткі на ўскраіне вёскі, пад вялізным ясенем.

— Што там за дзіва?

Ажно спыніліся, ураЖаныя.

Такімі іх Яніна і пабачыла. У шортах і майцы яна ішла ім насустрач.

— Ну што вылупіліся? Чупакабру лавіць прыехалі паляўнічыя! Бяжыце, яны памочнікаў набіраюць! А мне ноўт дайце, добра? У цябе ж інтэрнэт безлімітны? — звярнулася да Стася.

— Безлімітны... А што там?

— Ну кажу ж — чупакабру лавіць будуць! — так пераканаўча казала Яніна, што было зразумела: прыдумляе.

— Янінка, калі ты чалавекам будзеш? — уздыхнуў Віталь.— Мы там бабуліны справы ўправім і садзімся ў садку глядзець «Сапраўдны амерыканскі дэтэктыў», усе серыі запар. Перад гэтым яшчэ да аўталаўкі сходзім. Яна прыедзе — набіраем колы, марожанага і чыпсаў. А вечарам ідзём на рыбалку. Пасля — зноў кіно. Лепшыя фестывальныя фільмы.

— Вы будзеце яшчэ тымі гадамі, калі не возьмеце мяне!

— Калі станеш харошай дзяўчынкай, то падумаем,— быў непахісны Віталь.— Дык хто там?

— Ат, нейкая экспедыцыя студэнтаў. Геаграфічная ці нейкая яшчэ. Кажуць, будуць хадзіць па хатах, казкі, песні, успаміны бабулек запісваць.

— Этнаграфічная,— ціха паправіў Стась.— Што, па хатах ужо пайшлі?

— Вуй, які разумны,— паказала язык Яніна.— Нас на закуску пакінулі, ці можа, мы ім не цікавыя. Падаліся ўсе на Загрэб'е, толькі двое кухарыць засталіся. Пайшлі! Чаго вы сталі, быццам вам гэтыя намёты свет засцілі? А я ўчора давай бабулю распытваць пра мінулае! Вой, лепей бы не чапала,— пасур'ёзнела рэзка Яніна.— Яна мне распавядае, а сама плача і плача. А я сяджу і такая злая, хоць бяры папругу і сама сябе сячы. Так бабулю шкада. Нічога пра сваіх продкаў не ведала. Дзядуля жывы быў, то ж ён з таго роду, ён пра столькі б змог расказаць! Стась, ты вось разумны, скажы: чаму раней не пыталася, га? Чаму, калі паміраюць людзі, калі страчваем тое, з чаго можна б было напіцца, тады смагу пачынаем адчуваць, га?

Стась ажно прыпыніўся, уражаны нечаканым прызнаннем. Глядзі ты, падавалася такой... звычайнай, а на табе — якія думкі. Уважліва зірнуў на дзяўчыну — у яе вачах не было ні кроплі заўсёднай з'едлівасці, толькі туга.

— Не ведаю, Яніна... Я і сам не распытваю, не цікаўлюся. Пакуль... А ты, Віталь?

— Нібыта я з іншага цеста,— хмыкнуў той у адказ.— Прабабуля вось жывая, будзе час, распытаю.

— Час цяпер ёсць,— уздыхнула Яніна.— Я ж вас чакала, каб да яе пайсці. Папрашу яшчэ згадаць...

— Хочаш упэўніцца ў сваёй шляхецкай крыві? — падначыў Віталь, але Яніна не агрызнулася, толькі кіўнула галавой, згаджаючыся.

— Хачу. А то вучыш у школе гісторыю ды літаратуру, дык усе мы з лапцей выраслі. А тут — во як.

— Ну, пайшлі, распытвай,— прагнаў ухмылку з твару Віталь.— Яно і праўда, адны лапці ды саха ў полі.

Да вечара ўсё склалася, як і планавалі: аўталаўка прыехала, пайшлі з бабуляй Зосяй, ледзь прывалаклі дзве торбы

з прадуктамі: хлеб, малако, каўбаса, смятана... І, канешне, набралі для «кінасеанса» ласункаў. А пятай гадзіне пачалі збірацца на рэчку, Яніна ўвязалася з імі. Рыбу лавіць яна навучылася яшчэ малой, цяпер цягала адну за адной, пасмейваючыся з хлопцаў, якім шчасціла меней.

Вярталіся, пабачылі, як пад ясенем гулялі ў мяч дзяўчаты і трое хлопцаў.

— А давайце мы рыбу экспедыцыі гэтай аднясём,— нечакана прапанавала Яніна.— Мне такая лянота яе зноў чысціць і смажыць. Ды і наеліся ж учора, а сёння мая бабуля катлеты робіць — фаршу набрала. Хадзем! І ў мяч пагуляем. Ну, чаго сарамеецеся, быццам не мы тут гаспадары, а яны, якія прыйшлі!

Канешне, гаспадарамі былі яны, а вось так запроста ісці да людзей у іх лагер неяк і не вельмі правільна, ці што.

Магчыма, здалёк іх складзеныя вуды прынялі за якія добрыя дручкі, бо гульня нечакана перапынілася, з палаткі выйшаў і стаў наперадзе сцішаных студэнтаў мужчына гадоў сарака, каротка падстрыжаны, у лінялых джынсах і кашулі без каўняра, але з вышыўкай. Каржакаваты, з кароткай тоўстай шыяй, ён, далібог, быў падобны больш на былога зэка, чым на вучонага кіраўніка ці каго там яшчэ.

Насцярожанасць на тварах студэнтаў знікла, калі Стась, Віталь і Яніна падышлі бліжэй і іхнія вуды разгледзелі, як і мяшэчак з рыбай.

— Вечар добры вам! Ці мякка вам на нашай зямлі спаць? — з ходу пацікавілася Яніна.

— Добры і вам,— адказаў мужчына, усміхнуўся.— Нам на зямлі заўсёды спаць добра, бо на сваёй спім,— парыраваў ён Яніне і нават падміргнуў.

— Зямля ўсіхняя ды край наш,— заўважыў бяскрыўдна Стась, і мужчына кракнуў:

— Вось! Малайчына! Край, канешне, ваш... Але ж дазволіце пагасцяваць? Абяцаем: не засмецім нічога, не зломім,

не абразіш словам. Вы ж мясцовыя? Мо вы нам дапаможаце? Вось наша каманда: першы, а не, ужо другі курс універсітэта, этнаграфічная экспедыцыя. Па-нашаму гэта завецца куды больш сціпла: палявыя работы. А я кіраўнік, выкладчык, Мірон Сяргеевіч.

— І што збіраеце? — пацікавіўся Стась.

— Усё. Мэтанакіравана ні за чым не выпраўляемся. Сапраўдныя перліны адшукваюцца неспадзявана, вось мы і блукаем па нашай зямлі...

— Вам трэба да маёй прабабулі, яна вам пра ваўкалака раскажа,— рагатнуў Віталь.

— Ты што? — нечакана акругліў вочы выкладчык.— Бабуля расказвае пра ваўкалака?

— Ага. Яна перакanana, што ён і цяпер тут блукае.

— Вой-вой, хлопцы, а прысядзьце, калі ласка... Вось, мы па-простаму, на траву-мураву,— узбудзіўся пачутым Сяргей Міронавіч, і студэнты падаліся бліжэй з зацікаўленымі тварамі.

— Ага, сядзем... Вы, гэта, рыбу вазьміце сабе, варыце юшку. Бо мы ўчора наеліся, а сёння азарт пагнаў на рэчку. Вось, пашанцавала,— прапанаваў Віталь.

— О, за рыбу дзякуй! Дзяўчаткі, прыміце падарунак. Эх, будзе юшка сёння! Ага, дык дзе тут у вас ваўкалак жыве?

Паселі на траве. Віталь абвёў позіркам вакол сябе і спытаў:

— А вы бачыце, што тут раней дом стаяў? Вунь бэз стары — то ж перад хатай рос. І ясень гэты — проста так тут дрэвы не садзяць, ля жытла. Тут бабулька адна жыла раней, дзесяць гадоў, як памерла. Сын прадаў хату і хлеў на дровы. Бабулька гэтая вядзьмаркай была, казалі. Я яе трохі помню, баяўся сюды заходзіць. Шаптала, varажыла, лекі розныя давала людзям, каб лячылі кароў, коней. І вось мая прабабуля Арына казала, што ваўкалака яна карміла

сваімі козамі ці малаком казіным. А той ваўкалак ёй скарбы прыносіў. То сын яе хутка разбагацеў...

— Ах ты, як цікава! А далей? — спытаў выкладчык.

— А далей бабуля памерла, сын з'ехаў. Ваўкалак галодны застаўся і пачаў у людзей красці гусей, курэй. А ўчора зарэзаў казляня на выгане і знёс,— закончыў Віталь самым сур'ёзным тонам без усмешкі.

Нехта з дзяўчат-студэнтак спуджана войкнуў.

— Во яно што... Справы тут у вас, канешне, цікавыя,— пасур'ёзнеў выкладчык.— Але хто там каго зарэзаў, міліцыя ж разбіраецца, так?

— Участковы быў, правяраў, зямлю нюхаў,— сказала Яніна.— Нічога не вынюхаў. А ў вёсках кажуць, што гэта чупакабра забрыла да нас з Амерыкі.

— Праклятыя амерыкосы, усё нам жыццё псуюць,— скрывіўся выкладчык, і не зразумела было, жартуе ён ці сапраўды так лічыць.— Ага, а дзе ж твая бабуля Арына жыве? Ты прабач, ёй колькі гадоў?

— Хутка дзевяноста. Але пры памяці і разумная,— зразумеў пытанне Віталь.— Прыходзьце, самі распытаеце.

— Канешне, канешне, прыйдзем. Мы ўсю вёску абыдзем, усіх распытаем. Так... чупакабра, кажаце. Дзе наша ахова бясстрашная? — выкладчык павярнуўся да трох хлопцаў-студэнтаў, што сядзелі разам у баку ад астатніх.— Чулі? Значыцца, быць пільнымі. Ваўкалак там ці чупакабра — тое следства высветліць, а нам ад бадзяжных сабак трэба бараніцца. Як дзе хто якую заўважыць паблізу — паведамляць адразу. А вам дзякуй, што папярэдзілі! І за рыбу — удвая дзякуй. Хочаце з намі ў валейбол паходны?

Гадзіны з дзве, пакуль не скацілася сонца за балота, гулялі ў мяч. Жартавалі, смяяліся, трохі пазнаёміліся.

Ночыць Стась зноў застаўся ў Віталя — тым больш новы серыял глядзелі далёка за поўнач. Яно і праўда — аднаму нават самы цікавы фільм так не заходзіць.

Думалі добра выспацца, ды толькі забразгалі жанкі вёдрамі ля студні, як у хату забегла спалоханая бабуля Зося:

— Хлопчыкі, бяда! Уставайце, усіх збіраюць, шукаць трэба! Ой, бяда...

— Што здарылася?

— Студэнтка з тае экспедыцыі ноччу прапала! Прачнуліся раніцай — няма яе ў палатцы! Тэлефон не адказвае, рэчы на месцы. А самой — няма!

## 5. Пошукі

Пад ясенем, у лагеры студэнтаў, сабралася ўжо ўся вёска — ад старых да малых. Чулася сцішаная трывожная гамонка. Асобнай купкай стаялі колькі мужчын, курылі. На прыцягнутым студэнтамі старым камлі сядзелі выкладчык і незнаёмы мужчына з паперамі на каленях. Мужчына задаваў пытанні, нешта запісваў. Да Стася і Віталя падбегла з вёскі запыханая Яніна.

— Выходзіць, праўда...

— Што — праўда? — вылупіў вочы Віталь, са штучнай трывогай у голасе спытаў: — Чупакабра студэнтку з'ела?

— Ідзі к чорту! — скрывілася Яніна.— Ніц не ведаеш...

— А ты ведаеш?

Стась пакрывіўся ад спрэчкі, паспрабаваў суняць напружанне:

— Ат, кіньце. Пайшлі, вунь студэнт адзін нейкі ж надта кіслы... Распытаем,— і пайшоў да невялікага росту бялявага юнака, які сядзеў на траве ў баку ад астатніх з выглядам поўнай спустошанасці на твары.

— Што нарабілася? — Стась першы апусціўся на траву побач, за ім — Віталь. Яніна стаяла.

Юнак падняў галаву, нечакана пацепнуў плячыма, быццам наляцеў прахалодны ветрык.

— Гэта вы... Лера прапала.

— Якая Лера? Такое мышаня? — удакладніла Яніна.— Самая меншая з вашых? Я чула, нехта казаў у яе бок так.

Юнак марудна ўзняў галаву на Яніну, кіўнуў.

— Так, то яна. Раніца золкая, падняліся рана. Адразу ніхто ўвагу не звярнуў. Пасля дзяўчаты пайшлі... мы кшталту прыбіральні зрабілі, за кустамі, падалей. Там яны вятроўку Лерыну пабачылі. Тады кінуліся глядзець па палатках — Леры нідзе няма. Бегалі, гукалі паўгадзіны — дарма.

— Збегла ваша Лера да жаніха, надакучылі ёй камары ды балота. Не думалі пра гэта? — з насмешкай спытаў Віталь.

— Не, не было ў Леры кавалераў. Толькі я... сябраваў з ёй. Яна замкнёная такая, ціхая,— мякка запярэчыў юнак.

— У ціхім балоце, самі ведаем, што водзіцца,— у тым жа тоне нагадаў Віталь.

Пад'ехаў адзін аўтамабіль, за ім — бус. Некалькі міліцыянераў, мужчыны, сярод якіх і двое ў гальштуках — мабыць, начальнікі.

— Старшыня сельсавета,— паказала сваю дасведчанасць Яніна.— І начальнік міліцыі з раёна. Ведаю іх...

Адзін з міліцыянераў з пагонамі маёра, рослы, шыракаплечы, з бліскучай ад сівізны ў валасах галавой, гучна загаварыў, звяртаючыся да ўсіх адразу:

— Грамадзяне, калі ласка, падыдзіце бліжэй, каб добра чуць! Вы ўсе ведаеце, што здарылася. Знікла студэнтка, завуць Валерыя. На жаль, слядоў выявіць не ўдалося, як няма і слядоў барацьбы. Усё, што маем,— гэта яе куртка, кінутая ля куста. Мы схільныя думаць, што ўсё куды менш трагічна, чым некаму мроіцца, але неабходна ўсё праверыць. Зараз будуць праведзены папярэднія пошукі. Калі ласка, хто хоча ўдзельнічаць — станьце леваруч да мяне. Смялей, не бойцеся...

Людзі заварушыліся, па левы бок ад маёра перайшлі практычна ўсе, хіба пара бабулек з кіёчкамі засталася.

Міліцыянер трохі скептычна зірнуў на жанчын сталага веку, што таксама перайшлі ў гурт будучых шукальнікаў, але змаўчаў, працягнуў гаварыць па справе:

— Адным шырокім ланцугом, адзін ад другога не больш за пяць крокаў. Сярод вас будуць нашы работнікі, трымайцеся іх, слухайце. Аглядаем уважліва кусты, яміны, дзе якія зараснікі — аглядаем максімальна ўважліва. Зараз пастроімся і рушым у той бок,— міліцыянер махнуў у бок кустоўя, за якім пачыналася балота.— Гэта самы складаны ўчастак, з яго і пачнём, пакуль сілы свежыя. Пасля вяртаемся, перадыхнём і пойдзем у другім напрамку. Вельмі настойліва папярэджваю і прашу: трымайце адно другога ў полі зроку, каб нам пасля новыя пошукі не ладзіць.

Нешта нябачнае і трывожнае накрыла людзей. Калі да гэтага здавалася, што вось зараз аднекуль з'явіцца тая дзяўчына і раніца стане ранейшай — зыркай ад сонечнага святла, бесклапотнай і мірнай, то міліцэйскі маёр быццам ставіў пячатку на цяперашнім ранні: ніякі не жарт, справа сур'ёзная...

— Бач, хутка яны ўзяліся, як чалавек прапаў,— упікнуў невядома каго каржакаваты мужчына, звяртаючыся да свайго суседа.— А як у мяне зімой гусі адзін за адным пазнікалі з хлеўчыка, дык нікога не дазвацца было, ні да каго не дастукацца.

— А ты чуў, што ўчастковы казаў пра Адар'іных коз? Ты кажа, цётка, успамінай, мо каму паабяцала казлінага мяса за тое, што сена накосіць, дык ён і забраў казляня авансам! Ну, смешачкі ім усё! Каб жывёлінку рэзаць сярод дня на выгане, ета хто на такое здольны? — падтрымаў яго суразмоўца.

— Каб тое казляня не прапала, каб крыві не было, дык сёння б не шукалі во так,— ціха заўважыў Стась.

— Чаму так думаеш? — здзівіўся Віталь.— Тут жа чалавек прапаў!

— Ну, тры гадзіны адсутнасці — яшчэ не прычына, хоць тут, канешне, абставіны іншыя,— стаў тлумачыць Стась сваю думку.— Я думаю, у міліцыі ўсе гэтыя факты аб прапажы жывёлы збіралі разам, ведаюць карціну агульную. У апошнім выпадку — кроў, то ж не жарты. То цяпер так адразу і ўстрывожыліся.

— Ты яшчэ скажы, што чупакабра студэнтку знесла,— хмыкнуў Віталь.

— Ды не, не скажу,— паціснуў плячыма Стась.— Дзяўчына магла напужацца. Вельмі напужацца. Збегчы куды і заблукаць. Тут жа во такое кустоўе, а з таго боку — лес.

— Ага, ваўкалак бабулі Арыны хацеў напіцца крыві дзявочай і ўпаляваў адну,— падвёў рысу Віталь.— Пайшлі ў ланцуг, ужо чакаюць!

Стракаты ланцуг людзей крануўся з месца. Пачаліся кусты вербалозу, густая трава, бадылле. Прагучала каманда стаць шчыльней адно да аднаго. Раз-пораз міліцыянеры ў ланцугу і студэнты крычалі гучна і працяжна: «Ле-е-ера!» Здавалася, вось зараз нехта гукне радасна, усе падбягуць на крык і пабачаць тую дзеўчыну, жывую, з вінаватым тварам. Але ішлі хвіліна за хвілінай, шалясцела трава пад мноствам крокаў і ніхто не адгукаўся, нідзе не бачна было хоць якога следу: густая трава была роўная паўсюль, не прытаптаная.

Балота пачалося паступова — вохкай глебай. Ва ўсіх былі мокрыя ногі — ад расы, а тут і чвякаць стала пад нагамі. Праплешыны, зарослыя па краях асакой, абыходзілі, бо там металічна свяцілася нерухомая вада. Неўзабаве ісці стала немагчыма: пачалося сапраўднае балота. Спыніліся, змясціліся па камандзе ў левы бок і павярнулі назад.

Вярнуліся да лагера, паселі адпачыць. Ногі ва ўсіх былі па калена ў гразі.

Яшчэ дадалося аўтамабіляў і людзей. Міліцэйскі маёр у атачэнні супрацоўнікаў разгарнуў на капоце аўтамабіля карту.

— Адпачніце крыху. Зараз пад'едуць салдаты. Каму цяжка хадзіць — заставайцеся...

Сапраўды, хвілін праз дзесяць пад'ехаў вялікі армейскі аўтамабіль з будкай, адтуль пачалі выскокваць салдаты.

Калі прагучала каманда шыхтавацца ў ланцуг, пачуўся голас дзеда, які з кійком ці не ўвесь гэты час стаяў узбоч ад усіх, у цяні ясеня:

— Трэба па вёсцы прайсціся, па садах людскіх. Хаты кінутыя агледзець, хлявы...

Маёр зірнуў на дзеда, кіўнуў.

— Маеце рацыю, дзякуй. Зараз выдзелю дзясятак байцоў. Таварышы вяскоўцы, хто мясцовы! Калі ласка, вярніцеся дадому, агледзьце ўсе свае двары, пабудовы. Уважліва, калі ласка, каб нам зноў не вяртацца. Салдаты пройдуцца па вашых агародах і садах, яны пастараюцца нічога не таптаць...

Стась, Віталь і Яніна прайшліся яшчэ двойчы ў ланцугу, потым іх гукнула бабуля Зося:

— Ідзіце паснедайце! Галодныя ж! І мне там дапамагчы трошкі трэба, Віталь...

Пакуль хлопцы елі, пасля выносілі на надворак бабулю Арыну ў вазку, па вуліцы праносіліся туды-сюды аўтамабілі. Віталь прынёс з калодзежа вады, запытальна павярнуўся да Стася:

— Ідзём?

— Пайшлі... Красоўкі ўсё адно выкідаць,— ён кінуў позірк на свой абутак.

Яны намерыліся крануцца, як голас бабулі Арыны іх спыніў:

— Не знойдзеце яе тут.

— А дзе ж яна, бабуля? — усміхнуўся Віталь.— Ці не ваўкалак яе знёс?

— Ваўкалак. Шукайце яго лежбішча,— сур'ёзна адказала старая. Канешне, бабуля Зося ёй усё расказала пра прапажу студэнткі.

— Дзе ж шукаць?

— У балоце.

Старая казала словы і глядзела на хлопцаў разумным, ясным позіркам. Стась ажно адчуў няёмкасць за насмешлівы тон Віталя, таму паспяшаўся са двара.

Ля былога селішча вядзьмаркі Праскоўі хлопцаў сустрэла ўзбуджаная Яніна. Вось жа, заўсёды ў яе самыя апошнія навіны.

— Тэлефон знайшлі! Яна з'ехала, кажуць!

Выявілася: ланцуг салдат прачасаў усю вёску і пацягнуў рухацца ў бок суседняй, захапіўшы ўчастак дарогі, якая вяла на блізкую адсюль шашу. На ўзбочыне дарогі адразу за вёскай, зусім у другім баку ад балота і лесу, адшукаўся тэлефон. Ён быў мокры, не працаваў. Студэнты з экспедыцыі і сам выкладчык пацвердзілі: тэлефон зніклай дзяўчыны Леры. Апыталі вяскоўцаў, колькі бабуль згадалі, быццам ноччу чулі гук легкавога аўтамабіля якраз на ўскрайку вёскі.

Выкладчык сядзеў самотны, варты жалю. Канешне, ён ніяк не чакаў, што ягоны палявы выхад са студэнтамі закончыцца вось так.

Аб нечым узбуджана раіліся міліцыянеры, сярод якіх было больш у цывільным. Разыходзіліся вяскоўцы, пагрузіліся ў кузаў свайго аўтамабіля і з'ехалі салдаты.

— Вось вам і ваўкалакі з чупакабрамі,— сплюнуў сабе пад ногі Віталь.— Збегла студэнтачка з кавалерам...

Сэнсу пярэчыць не было — гэтую версію агучыў і той маёр, які з самага пачатку камандаваў пошукамі:

— Далей мы будзем шукаць самі, зараз спецыялісты ўвойдуць у тэлефон, атрымаем карту званкоў. Дзякуй усім!

Яшчэ праз гадзіну месца ля ясеня цалкам апусцела. Праз вёску сумна прайшла этнаграфічная экспедыцыя, якую замыкаў выкладчык, гледзячы сабе пад ногі. Выгляд яго быў настолькі прыгнечаны, што бабуля Зося не вытрымала, прамовіла ўслед:

— От, няшчасце чалавеку. Што ён зараз бацькам скажа? Даверылі яму дзіця, а во як абярнулася...

## 6. Шашлык для ваўкалака

— А ты праўда цяпер адзін на лецішчы жывеш? — спытала Яніна, калі Стась сабраўся ісці да сябе — трэба ж апроч іншага памыць абутак ды прасушыць.

— Адзін,— кіўнуў Стась.

— І не страшна табе? — прыўзняла бровы Яніна, зазірнула ў вочы хлопцу, каб упэўніцца, ці не падманвае, і прызналася: — Я адна баюся ў доме начаваць, толькі ў кватэры нястрашна. А тут... бр-р-р,— і страсянулася.

— А каго баяцца? Ваўкалака? — сумна пажартаваў Стась.

— Я цемры баюся,— адказала Яніна.— А што ты адзін робіш?

Яны ўжо адышліся ад дома Віталя, крочылі вуліцай. Стась адчуў быццам нейкае хваляванне: ён і не помніў, каб вось так ішоў побач з дзяўчынай і размаўляў пра нешта.

— Бацькі ў адпачынак паехалі, папрасіла маці, каб паліваў усё. Яна кветкі вельмі любіць, больш за сто гатункаў самых розных... Такая работа.

— Ух ты! — выгукнула ў захапленні Яніна.— А можна мне паглядзець? Я ў бабулі кветкі садзіла-садзіла, а ніяк не растуць — агародчык на поўнач выходзіць, бэз там раска-

шуе, а бабуля высякаць не дае. Ёй кветкі — то кусты бэзу ды язміну. А я ў кватэры разводжу.

— Пайшлі, канечне. А вы чаму пераехалі ў горад?

— Ха, а ты б тут заставаўся? То во зараз хоць вы ёсць, а як лета міналася, то я адна на ўсю вёску, хоць з сабакамі гуляйся, хоць з бабулькамі — увесь выбар. Аўтобус школьны як зломіцца — пешкі чатыры кіламетры тэпай. Бацька ездзіў-ездзіў некуды ў Сібір на заробкі, то во і купілі кватэру. А летам, канешне, тут мне цікавей. Горад не люблю. У класе ні з кім не сябрую — нецікава, для дзяўчынак адзін клопат — адзенне ды фотачкі ў інстаграмах. А хлопцы быццам з малодшых класаў — толькі танчыкі ды іншае нешта. І ты гуляеш у танчыкі?

— І я гуляю.— Стась пазіраў крадком на спадарожніцу — Яніна цяпер не здавалася яму дзікай і яршыстай.— Хочаш, цябе навучу?

— Ды ну цябе! Я кветак у цябе накраду.

— Навошта красці? Я так дам.

— Так не трэба. Кветкі і расліны лепш красці — тады яны прымаюцца і растуць добра. Бабуля казала.

— Але ж мама садзіць тыя, што на вуліцы растуць... Хаця на падаконніках таксама хапае вазонаў, паглядзіш...

Пачуццё незвычайнасці сітуацыі не пакідала Стася, а толькі ўзмацнялася. Ён ніяк не мог пазбавіцца думкі, што ўвогуле першы раз у жыцці ідзе такой доўгай дарогай з дзяўчынай, больш за тое — вядзе яе да сябе на лецішча, дзе няма нікога! І хай цяпер светлы дзень, дык тым больш: суседзі ж, пенсіянеры, згледзяць немінуча і пра што падумаюць? Ён ажно ўсміхнуўся, на момант уявіўшы іхнія твары, якія выцягнуцца ад убачанага. Бо яны ж былі ўпэўненыя ў тым, што рана ці позна гэты маладзён пачне вадзіць дзявок на лецішча, а далей раскруціцца вольная карусель: п'яныя хеўры галосяць да ночы песні, усе кураць, кідаюць бутэлькі ў грады — хіба не так старэйшыя думаюць

пра падлеткаў? О, яны жыццё пражылі, яны ведаюць сучасную моладзь, яны заўсёды маюць рацыю!

Няйначай, думка блукала на яго твары, бо Яніна запыталася асцярожна, мо і думаючы, што ён пасміхваецца з яе:

— Гэта ты з мяне смяешся?

— Ды не, прабач,— усміхнуўся адкрыта Стась, прызнаўся: — Іду вось з табой і думаю, што пабачаць суседзі, прыедуць бацькі, яны і дакладуць: «А ваш ціхенькі сынок дзявок прыводзіў!»

— Вой, дык я не пайду тады... Непрыемнасці будуць?

— Ды кінь, якія непрыемнасці! Хай думаюць і плявузгаюць, калі ім хочацца. Мне маці верыць. Хіба здзівіцца...

— А чаму здзіўляцца?

Стась момант вагаўся.

— Ды так... я з дзяўчатамі не ваджуся. Зусім. Ні ў рэале, ні ў сеціве.

— А чаму? А, зараз угадаю, давай? У цябе было каханне, якое скончылася трагедыяй!

Сказаў бы так хто іншы — Стась бы пакрыўдзіўся, але ў Яніным голасе чулася і насмешкі трохі, але спачуванне дамінавала, і прызнанне быццам чулася: «Я цябе разумею, бо ў самой так было». Стась толькі моўчкі кіўнуў, а Яніна казала далей:

— Канешне, праблема... Мне было дванаццаць, я так закахалася! Па самыя вушы. А ён — гонар нашай школы, сын настаўніцы! Я яму цэлы ліст напісала, уяві, якая дурнічка. Як належыць выхаванаму сыну, ён аднёс той ліст маці. А гэтая русіца на ўроку пачала чытаць маю пісаніну і тыцкаць у памылкі. У мяне руская мова — лепш бы я японскую вучыла, бо калі па правілах нешта, дык яшчэ напішу, а ў астатнім... паўсюдна «о» пішу замест «а» — вось маё адно правіла! Ну, яна мяне выклікала, пачала дыктаваць. Уяві — з майго ліста мне дыктаваць, каб я пісала на дошцы!

— Ты што? Ну, русіца ў вас... Пісала?

— Ад разгубленасці і страху першы сказ напісала. У класе ўсе ржуць — ды што мне ўсе? Зірнула на сваю сімпатыю. А ў яго на твары... гідлівасць, вось. Я з маленькага, калі крыўдна да слёз, калі вось-вось заплачу, крычала і рабіла нешта наперакор. Ну, мне кажуць стой, а я бягу... І тут ля дошкі я схапіла анучу і давай церці на дошцы напісанае. Русіца рот адкрыла — канешне, яна зразумела, што мяне лепш не спыняць, бо закрычу, істэрыка будзе. А пасля я схапіла заплечнік свой — і з класа! Тры дні ў школу не хадзіла. Маці я не баялася, а бабуля якраз тады ў госці да сястры паехала. Ну, а бацьку я рэдка бачыла... Затое закаханасць мая сышла, быццам я яе тады з дошкі сцёрла. Вось!

— У мяне... недзе падобна,— адказаў Стась. Яму было няёмка трохі ад пачутага прызнання, ён адчуваў, што, у сваю чаргу, павінен расказаць сваю гісторыю, вагаўся — сорамна трохі і трохі балюча. Нікому ж не расказваў раней.

Яніна не стала запытальна маўчаць, бы ёй і не надта цікава было пачуць шчырасць Стася.

Як ён і прадбачыў, на рыпенне веснічак і іхнія крокі па дворыку лецішча пара пенсіянераў узняла галовы. Стасю здалося, што ён пабачыў у іх позірках і радасць ад прадбачання, і асуджэнне, канешне, і неспакой — дык чаго далей чакаць? Непрыемны халадок сціснуў жывот: быццам ён у вачах іншых робіць нешта ганебнае і павінен вось зараз апраўдвацца. Але сабраўся, зірнуў на суседзяў і кіўнуў прывітальна. Яму, на яго здзіўленне, адказалі ветліва тым жа.

— Ах, якая прыгажосць! — Яніна ў захапленні прысела перад вялікай клумбай, кранаючы ледзь-ледзь галоўкі кветак.— Вой, як я мару пра такі кветнік!

У дамку Яніна крытычна агледзелася, пацягнула носам:

— Праветрыць... А слухай, абедзенны час даўно мінуў, ты не галодны?

— Як і ты,— пацвердзіў Стась.— Зараз... У халадзільніку пельмені, смятана і хлеб ёсць. Зараз згатуем.

— Мо лепш паліць напачатку? Ды абутак памыць...

— Давай так...

Палівалі кветкі і градкі з агуркамі. У старой ванне адмакалі ад засохлай гразі красоўкі. Пасля варылі пельмені.

Калі селі есці, Яніна зноў затараторыла:

— Гэта ў халадзільніку ўсё табе бацькі пакінулі? Вой, якія яны клапатлівыя! Мне б на месяц хапіла. І нават шашлык гатовы. А калі будзеш гатаваць шашлык?

— Любіш?

— Ага! Я мяса ўсякае люблю, мне яго ніколі многа не бывае.

— То можна сёння і зрабіць. Давай пойдзем у вёску, возьмем з сабой, якраз растане. Там Віталь прыдумае які мангал ці падобнае.

— Крута! А гарбату зараз пап'ём у альтанцы, там так цудоўна сядзець будзе, ага?

Віталь пасміхнуўся ў думках — от жа, і не скажаш, што бесцырымонная, бо робіць і кажа ўсё, пытаючы дазволу. Проста з ёй і ніякай няёмкасці. Быццам даўно-даўно ведаеш. Добра, што не такая, ля якой і не ведаеш, дзе стаць і што падаць.

Яны прыселі піць чай у альтанцы пад позіркі суседзяў, але Стася нават не шкрабанула гэта. Ну і глядзіце, калі вам гэта цікава больш за ўсё астатняе.

Але, здаецца, іх не збіраліся пакідаць у спакоі — каржакаваты лысы сусед старанна абцёр рукі чыстай анучай, наблізіўся да невысокай агароджы, што аддзяляла ўчасткі, і нягучна крыкнуў:

— Стась, ці можна вас на хвілінаЧку?

Хлопец уздрыгнуў, падняўся, пайшоў да агароджы, настроіў сябе на які з'едлівы адказ кшталту: «А вам якая справа да маіх гасцей?»

Сусед працягнуў руку праз агароджу:

— Так во склалася, што вітаемся, а не пазнаёміліся, словам раней не перакідваліся. Мо ж ведаеце, я Мікалай Іванавіч, мая жонка — Марыя Антонаўна. Я, прабачце, зразумеў, што ваша госця з вёскі і вы там начавалі?

Стась быў трохі збіты з панталыку, бо чакаў якойсьці з'едлівасці ці павучальнасці ў голасе, а тут толькі цікавасць і павага — бач, нават на «вы» звяртаецца.

— Так, начаваў у вёсцы, а Яніна — вясковая, хоць зараз жыве ў горадзе, да бабулі прыехала.

— Ага, добра... То ж вы ў курсе тых спраў, што нарабіліся?

— Вы пра студэнтку, якая прапала?

— Ну так, і пра яе. Мне б хацелася пагутарыць... Бачу, чай п'яце, дык падумаў: зараз пойдзеце зноў адсюль, бо што тут рабіць, сумна, а мне карціць вельмі даведацца.

— Ды калі ласка,— пацікнуў плячыма Стась.— Хадземце да нас хіба, бо мы і праўда збіраемся хутка ісці.

— Вось, дзякуй, зараз мы прыйдзем. Вы ж не супраць, калі мы разам — з жонкай?

— Ды не...

— То во рукі памыем і прыйдзем.

Яны прыйшлі праз хвілін колькі, нечакана для Стася гаспадыня несла ў руках талерку з нечым накрытым сурвэткай. Паставіла яе на стол, сурвэтку зняла — палова пірага.

— Частуйцеся свежым, калі ласка!

Мікалай Іванавіч не спяшаўся з пытаннямі — колькі слоў пра надвор'е, пра чай, які прапанавала Яніна. Цераную гладкую лысіну, бы па звычцы прыгладжваў валасы, пачаў няспешна:

— Я ж былы ваенны. З Сібіры родам. А тут служыў апошнія гады. Дык гэтак запалі тутэйшыя мясціны! Вось выйшлі на пенсію канчаткова абое, то і пераехалі ў

Беларусь, вось і лецішча нават набылі. Спагадлівыя людзі, спагадлівая зямля. Ну, а чуткі паўсюдна хутка разносяцца. То мы ў курсе пра чупакабру,— казаў ён без усмешкі.— Ну, а што дзяўчына, па ўсім, з'ехала з некім, тое, канешне, суцешвае.

— А дзе вы тут служылі? — умяшалася Яніна.— Няма паблізу нас ваенных частак.

— Цяпер няма, а раней была,— адказаў пенсіянер.— Ад вёскі ў бок лесу, кіламетраў пяць. Помніцца, мы адтуль ездзілі па малако, яблыкі ў вяскоўцаў пыталі. На ўскрайку балота стаяла ракетная база. Яе расфарміравалі згодна з дамовамі. Ракеты вывезлі...

— Што? Сапраўдныя ракеты з боегалоўкамі? — здзівіўся Стась.

— Так, канешне, не абы-якія ракеты. Я быў прапаршчыкам, рота несла ахову перыметра. Наша, так сказаць, баявая задача.

— І дарогі ў той бок няма! — не давала веры Яніна.— Нашы б ведалі пра тую базу ракетную!

— Яны і ведалі,— усміхнуўся Мікалай Іванавіч.— Ведалі, што далей агароджы з калючага дроту заходзіць нельга, бо мы іх спынялі. З другога боку да часці падыходзіла чыгунка з адной каляіны. Канешне, яе разабралі, за дваццаць гадоў дрэвы нараслі, але, мяркую, на картах са спадарожніка можна будзе ўгадаць.

— А будынкі ніякія не засталіся? — заёрзаў Стась на месцы.— То і іх можна будзе пабачыць на спадарожнікавых здымках.

— Гэта наўрадці,— адмоўна павёў галавой пенсіянер.— На зямлі было толькі тры будынкі, казармы і штаб, іх разбіралі пры мне, вывозілі. Звычайныя шчытавыя дамы. Холадна ў іх было ноччу. Асноўныя збудаванні ці пад зямлёй, ці прысыпаныя зверху — два доты аховы, напрыклад. Дык вось, я тут параспытваў людзей. Помню, якія вёскі паблізу

нас былі. Калі ўсе незразумелыя выпадкі скласці разам, то атрымліваецца, што ва ўсе бакі ад былой часці вядуць сляды той чупакабры. Зразумела?

— Ага... А пад зямлёй можна хавацца там?

— Думаю, можна,— кіўнуў Мікалай Іванавіч.— Дзве шахты з калідорамі дакладна затапілі, адкрылі шлюзы, пусцілі балота. А вось камандны пункт быў не надта глыбока, яшчэ там памяшканні розныя былі. То магчыма, што вада ў іх не патрапіла. Месцы там нізінныя, лес цёмны, непрыветны. У грыбы-ягады туды не хадзілі, хіба дзівакі забрыдалі. Ну і мясцовыя, каторыя добра мясціны ведалі, бо заблукаць і ў балота патрапіць там вельмі проста.

— Вы хочаце, каб мы туды схадзілі? — зразумеў сэнс расказу Стась.

— Ну, тое ваша, справа, канешне,— развёў рукамі ў бакі пенсіянер, усміхнуўся.— Сам не дайду — мне дыху не хопіць, а то б я, канешне, падаўся... Цікава пабачыць, што там за чупакабра гняздо звіла.

— Так упэўнена кажаце...— засумняваўся Стась.

— А гэта адзінае месца тут, дзе можна гадамі ад людзей хавацца.

— Тады варта б было зірнуць.

— Дык я папрашу: калі насамрэч пойдзеце туды, то сфатаграфуйце, калі ласка. Хочацца мне на тыя мясціны зірнуць. І яшчэ. З паўночнага боку, ён вышэйшы, адразу пачынаецца балота. Там наш пост быў, любіў там сядзець. Непадалёк сярод балота выспачка невялікая была.

— Канешне, здыму, у тэлефоне камера добрая!

— Вой, не дурыў бы ты дзецям галовы,— упікнула жонка пенсіянера.— Ежце пірог, дзеткі, чай астыў зусім.

— Я яшчэ падагрэю,— падхапілася Яніна.

Праз паўгадзіны, прыхапіўшы з сабой пластыкавае вядзерца з мясам, Стась з Янінай ішлі ў вёску. Абое былі задумлівыя, нават Яніна прымоўкла. Нарэшце яна выпаліла:

— Гэты пенсіянер нешта ўтойвае ад нас! Надта ён хітры.

— Чаму ты так вырашыла? — здзівіўся Стась.— Расказаў чалавек, што ведаў. Цікава яму. Служыў тут. Насамрэч, калі там база была, цікава зірнуць. Ніколі не бачыў увачавідкі.

— Ат, ты зусім людзей не разумееш,— горача запярэчыла Яніна.— Кажу табе, не дагаворвае ён нешта.

— Пабачым...

— Што — пабачым? Хочаш да той часці схадзіць?

— Напачатку паглядзім, ці бачна яна на здымках са спадарожніка. Так не адшукаем...

— Можна людзей папытацца.

— Ат, яшчэ вэрхал паднімецца. Дарэчы, ты кветак, казала, украдзеш.

— А ты мяне больш не запросіш чаю папіць? — хітравата прыжмурыла вочы Яніна.

— Што цябе запрашаць? Хочаш — то заўсёды пойдзем... Ці сама прыходзь.

— І як бацькі вернуцца?

— Канешне! Ты ж мая госця...

Віталя на падворку Яніна вітала радаснымі воклічамі:

— Гэй, сябра мой галодны, я выцаганіла ў Стася мяса! Марынаванае! Давай, разводзь агонь, зараз будзем смажыць!

— Няма праблем, нам абы мяса, а вогнішча будзе, мангал прыдумаем які.

Відавочна, Віталь рады быў іхняму прыходу. І тут жа паспяшаўся паведаміць навіну:

— Ля Праскоўінага селішча стаіць палатка. Угадайце, хто там?

— Ты што? Экспедыцыя вярнулася?

— Не ўгадалі. Той самы бялявы хлопец, помніце, вярнуўся. Кажа, будзе тут. Пакуль не знойдзецца тая дзяўчына.

Стась з Янінай пераглянуліся.

— Ці ён дурны...

— Самі вы дурні абодва! — скрывілася Яніна і тут жа прапанавала: — А пайшлі да яго!

— А мяса? Ці з мясам? — падначыў Віталь.

— А якая розніца мясу, у якім месцы пад ім полымя будзе? Можа, ён галодны?

— Сапраўды, распытаем, што за справы такія,— падтрымаў Стась.

— То давайце збірацца,— лёгка згадзіўся Віталь.— Янінка, дадому збегай — бабуля пытала, мо ты дзе ад голаду памерла. Я сказаў, што цябе павялі пельменямі карміць,— адказаў Віталь, і нечакана ў яго апошніх словах прагучала ўсё роўна як рэўнасць.

— Зараз збегаю, збірайцеся! Цыбулі і зяляніва я сама прынясу! — і Янінка выбегла з надворка.

Пад ясенем было раскладзена вогнішча, на палене сядзеў, свецячы белай галавой у промнях нязыркага сонца, што хілілася да балота, юнак. Ну так, той самы.

— Мы тут падумалі, што месца пад ясенем неблагое, дый касцёр ужо ёсць, то вырашылі мяса тут пасмажыць, шашлыкоў нарабіць. Ты як, праганяць нас не будзеш? — звярнуўся да юнака Віталь, калі яны трое падышлі да палаткі.

— Ды не, чаго... Канешне.— Ён падхапіўся з месца, разгублены прыходам і такой просьбай, быццам ён тут гаспадар.

— Нож у цябе ёсць? Са Стасем пруткоў з бэзу нарэжце, будзем на іх мяса нанізваць. Толькі кару зняць трэба і паскрэбці, каб горка не было,— пачаў распараджацца Віталь.— А мы з Янінай пачнём гатаваць...

Калі Віталь па-гаспадарску нанізаў кавалкі мяса на пруткі і расклаў над вуголлем, скарыстаўшы некалькі цаглін, якія знайшоў побач у кустах бэзу, спытаў загадна ў юнака:

— Ну, цяпер кажы: як цябе завуць і што ты тут збіраешся рабіць?

Юнак таргануўся злёгку, быццам яго таўханулі, але адказваў спакойна:

— Я Арцём... Цёмка. Буду шукаць Леру. Я ведаю яе лепей за ўсіх. Не магла яна кінуць нас і з'ехаць, як кажуць. У яе... У яе не было сяброў такіх.

— Ты што, закаханы ў яе?

Ён зардзеўся, быццам чырвань вуголля скокнула на яго твар.

— Гэта няважна... Я ўгаварыў яе ісці з намі. Я за яе адказваю.

— І як ты будзеш шукаць? — са спачуваннем спытаў Стась.— Мы ж праходзілі колькі разоў тут усё.

— Далей буду шукаць, па крузе хадзіць. Усё тут абыду, далей пайду,— з ціхай упартасцю казаў Арцём, і адчувалася, што ён сапраўды будзе тое рабіць.

— І колькі дзён збіраешся шукаць? А есці што будзеш?

— Пакуль не знайду,— пануры́ўся хлопец.— У мяне былі грошы. «Ролтана» набраў...

— Во, геройскі хлопец! — хмыкнуў Віталь.— «Ролтан» — наша ўсё! А што бацькам скажаш?

— Яны ведаюць, што я ў экспедыцыі. Яшчэ чатыры дні. Пасля скажу, што працягнуўся тэрмін. Я знайду Леру. Яна недзе тут.

— Ага, яе ваўкалак знёс,— рагатнуў Віталь.— Гатовы шашлык, давайце есці!

Знялі мяса, падкінулі дроў у касцёр, а зыркае полымя быццам прыцягнула да іх густыя прыцемкі. Сонца даўно схавалася, неба яшчэ свяцілася густа-сінім на ўсходзе і блакітна-ружовым на захадзе. Хаваліся ў цемені дрэў хаты вёскі. Было ціха, нават чутно, як звінелі ў паветры камары.

Стась пачаў расказваць аб размове з суседам з лецішча. Арцём выцягнуў шыю, нават жаваць перастаў. Пасля пад-

хапіўся раптам, падбег да палаткі, выцягнуў з заплечніка невялікі ноўтбук, уключыў.

— Вось жа! Вось, акурат пяць з паловай кіламетраў! — усхвалявана ўскрыкнуў ён.

— Што вось? — скептычна скрывіўся Віталь, паглядзеў на манітор прылады.— Ну, так, вось быццам насып ад чыгункі відаць, а прамавугольнік — гэта дакладна былая база... Але што гэта значыць?

— Тое, што нам трэба дакладна туды схадзіць,— падтрымаў Стась Арцёма.

— Ногі біць — а якая мэта? — вылупіў вочы Віталь.— Хочаце на разваліны бетонныя зірнуць? Дык вось, блізка — сядзіба калгасная. Там і кароўнік стары ёсць, і яшчэ хапае будынкаў-развалін. Заўтра міліцыя раскажа, з кім з'ехала твая Лера. Пераначуем і пачуем.

Ён махнуў рукой на хлопцаў, пачаў нанізваць другую порцыю мяса на пруткі. Прытушыў вялікае полымя, выцягнуўшы паленцы з кастра. Адразу стала цямней. Яніна пацепнула плячыма, быццам ад холаду, бліжэй пасунулася да Стася. Нейкі час маўчалі, слухаючы ўзрыўное шыпенне кропель тлушчу на распаленых вуглях. Віталь варочаў пруткі з мясам, бурчаў і сам сабе, і каб іншыя чулі:

— Каб вы пажылі тут штогод, дык не такіх казак пачулі! Людзі жывуць у сваёй глушы, што ім — тэленавіны абмяркоўваць? Ім жа і сваіх навін хочацца. Тут чалавек памрэ, то на тыдзень размоў: і як жыў, і ці добрым быў, і якія былі хаўтуры, і хто прыйшоў, хто не сеў за стол. З мухі слана раздзьмуць! Быццам раней сабакі не хапалі гусянят, шулякі не ляталі. А цяпер па тэлевізары нараказвалі жахаў, от і нашы ўслед: і ў нас жа такое ёсць...

Ён адмахнуўся ад дыму, адышоўся, прысеў на палена да ўсіх.

— Зараз будуць гатовы! Эх, гэтыя доўга на агні трымаліся, а не падгарэлі, смачнейшымі за першыя будуць!

Здаецца, ён не паспеў дагаварыць апошняга слова. Ці паспеў?

Раптоўна з бэзу быццам аддзяліўся невялікі куст — і ў наступнае імгненне з гартанным рыкам да іх кастра ляцела нешта, нейкая жывёліна, але не сабака, то не сабака!

Вялікае, большае за кожнага з іх, прыпадаючы да зямлі і прыўздымаючыся, яно ў пяць скачкоў апынулася над вогнішчам — і ў наступны момант растала ў цемрадзі, што навальвалася сюды з балота...

Здавалася, чуваць, як аглушальна тахкаюць іхнія сэрцы. А дыханне не чутно.

Мабыць, прайшло не менш за мінуту скаванай страхам цішыні. Першай азвалася Яніна, і ў яе голасе быў не столькі страх, колькі прызнанне ў сораме, разгубленасць і злосць на саму сябе:

— Э-э-э... Вы чулі, як я крычала? Ці я толькі ў думках крычала ад жаху? Во — я ж не заікаюся!

Яе словы, простыя і жыццёвыя, вярнулі ўсіх да рэчаіснасці.

Услед Яніне адгукнуўся Стась, у тым жа тоне:

— Я крыку не чуў. Але, здаецца, сам крычаў.

— А я не крычаў. Але ж і вас не чуў,— быццам з жалем паглядзеў на сяброў Віталь, звярнуўся да Арцёма: — Цёмка, падай голас! Мы не заікаемся, а ты?

— Не... Я таксама не паспеў, гэта... закрычаць. А ён... А яно наш шашлык украла...

Віталь гыкнуў, зірнуўшы на вогнішча, зарагатаў, нервова напачатку; за ім зарагатаў Стась, рассмяялася Яніна, і некаторы час яны заліваліся смехам, бы дурні. Калі сціхлі, Віталь падышоў да вогнішча, наламаў тонкіх галінак, паклаў на вуголле, падзьмухаў. Агеньчык скочыў на галінкі — усім адразу стала весялей. Віталь яшчэ падклаў таўсцейшых галін. Полымя разгарэлася.

— Што гэта было? Нехта разглядзеў?

— Дакладна не сабака. Бо быццам на дзвюх нагах бегла, прыпадаючы.

— І схапіла пруткі з мясам.

— Дык на што падобна?

Стась паглядзеў на сяброў, кашлянуў.

— Ад яго несла... Я смурод адчуў. І вось зараз успомніў, дзе такі пах яшчэ сустракаў.

— Ну?

— У звярынцы. Ля клеткі з малпамі. Мне здаецца, гэта малпа. Вось.

— І што, яна замест бананаў пачала гусей есці?

— Шымпанзэ і іншыя са смакам ядуць мяса. Нават забіваюць меншых малпаў іншых відаў,— адстойваў сваё Стась.— Праўда, ніякім чынам яна тут узяцца не магла.

— Гэта не галоўнае,— нечакана амаль урачыста выгукнуў Арцём.

— А што галоўнае, белая твая галава? — пакпіў Віталь.— Яна наш шашлык знесла.

— Менавіта! — Арцём падхапіўся з месца, стаў перад іншымі, рашучы, упэўнены ў сваёй рацыі.— Яно хапала раней жывое, забівала і ела. А цяпер яно схапіла смажанае мяса, не пабаялася полымя. Гэта значыць, Лера жывая!

— А Лера тут пры чым?

— Прытым! Гэта яно схапіла Леру і недзе трымае! І вось пайшло шукаць для Леры ежу!

— Дык хай бы спытала ў нас хлеба, талерачку аднаразовую і відэлец,— рагатнуў Віталь.— Ну ты даеш!

Арцём ажно падскочыў ад таго, што гэтыя недаверкі не ўспрымаюць ягоных слоў сур'ёзна:

— Яны там! — адчайна махнуў ён рукой у бок лесу.— Яны — на базе! Я заўтра пайду туды!

— Не разганяйся надта,— астудзіў ягоны пыл Стась.— Малпа, хоць тая ж шымпанзэ, мацнейшая за нас траіх разам, трэба ведаць. І потым... мы не ведаем, што гэта...

— Ваўкалак! — гукнуў Віталь.

— Ваўкалак,— сур'ёзна кіўнуў яму Стась.— Успомні словы бабулі Арыны: тут мы яго не знойдзем. Пойдзем заўтра.

— Добра, прымаю, што тут сапраўды творыцца нейкая хрэнь. І трэба разбірацца.— Віталь рашуча падняўся, загаварыў загадна: — Ты, Цёмка, збірай свае манаткі — пойдзеш да нас начаваць. Дзе дваім месца ёсць, трэці памесціцца. Цяпер галоўнае: нікому пра сённяшняе не казаць. Нас альбо на смех падымуць, альбо заўтра тут войскі будуць. Калі знойдзем на той базе якое логава — тады будзем трубіць. Прымаецца?

— Прымаецца,— падняўся з месца і Стась, за ім Яніна.

Быццам заключылі дамову.

## 7. База

Стась з Арцёмам леглі на канапе ў вялікім пакоі, Віталь уладкаваўся ў пярэднім — тут таксама стаяла канапа, старая, вузкая, але ж зручная — ні мяккая, ні цвёрдая. Самае тое.

Заснуць ніяк не мог. Занадта многа навалілася на яго за гэты дзень.

Сам ніяк не думаў, што запсіхуе, калі Яніна пайшла са Стасем на лецішча. Вось скажы ты, учора была яму лепшым сябрам, бо з кім тут яшчэ быць — са старымі ці малымі, а з'явіўся гэты Стась... Не, Яніна яму не тое каб падабалася, дзяўчына як дзяўчына. Але ж яны колькі сябры, а вось так кінуць... Але прыемна, што яны вярнуліся, і вось — мяса прынеслі, каб разам пасмажыць.

Нешта ёсць сапраўды ў гэтым лесе... Каб сам не пабачыў — не паверыў бы, Віталь такі. Але ж пабачыў. Значыць, трэба вырашаць пытанне. Сэнс ёсць паглядзець

на тую базу. Калі таго ваеннага паслухаць, атрымліваецца, логава таго стварэння — там. Колькі з бацькам у грыбы хадзілі, туды не даходзілі — месца там не грыбное. Ці казаў што бацька пра базу? Патэлефанаваць заўтра? Не, скажа сядзець дома, прыляціць на выхадныя... І трэба будзе ўсё расказваць. А раскажаш — у лес носа не пакажаш. Бацька такі — збярэ мужыкоў, мо і паляўнічага са стрэльбай, ды рушаць кагалам.

А тое стварэнне схаваецца ад іх кагалу. І логава прыхавае, калі яно там ёсць.

Значыць, трэба ісці ціха. Вельмі ціха. Як ісці? Шлях — не праблема, Стась павядзе па тэлефоне — навігатар ёсць, казаў. Што трэба ўзяць з сабой? Гэта практычная задача, яе Віталю і рашаць. Ежы, вады... Па лесе пяць кіламетраў — дзве гадзіны, дзве назад, дзве гадзіны на месцы. Як мінімум — паўдня. Калі нічога не здарыцца. Сякерку малую... Два добрыя нажы. У лес зайсці — добрыя дручкі выразаць, дубовыя. Яны цяжкія і ёмкія. Запалкі. Кавалак плёнкі поліэтыленавай — раптам дождж, схавацца недзе будзе... Янінку браць з сабой? Яна ж учэпіцца. А раптам што? То сам возьмеш, сам жа адказваць будзеш, як гэты Арцём — навошта ўгаворваў? Дарослая — гэта адно, іншая справа, калі паклікаў, ці вось дазволіў ісці разам, ведаючы, што можа быць небяспечна. А як Стась за яе заступіцца? Ат, няхай ідзе! Чаго баяцца таго стварэння, калі яно людзей баіцца? Малпа дык і малпа...

Рыпнулі дзверы, у святле месячыка, якое сачылася праз акно, у пакой зайшоў Стась.

— Чаго не спіш? — прыцішана спытаў Віталь.

— Падумаў вось,— шэптам адказаў Стась.— Трэба сказаць, а то раніцай збірацца, дык важна.

— Пайшлі!

Віталь падняўся, сцягнуў з канапы коўдру — на дварэ будзе золка. Выйшлі, прыселі на прыступках ганку, накрыліся.

— Кажы,— паказваючы сваю незадаволенасць, буркнуў Віталь.

— Тут доўга, ты прабач,— пачаў Стась.— Адышоў ад таго страху, думаў і ўспомніў.

— А ты карацей, ноч жа...

— Паспрабую... Я неяк, калі НЛА зацікавіўся, чытаў. Значыць, недзе ў Еўропе быў выпадак — там людзі лятаючую талерку на небе ўбачылі. Многа людзей, самых розных. І якраз адзін журналіст быў з фотаапаратам, ён пачаў здымаць. Наляцела туды пасля рэпарцёраў, канешне, людзі апісвалі: якая яна была, як рухалася. Ва ўсіх апісанне супадала: спачатку была як сігара, потым ператварылася ў талерку, лётала па небе, хутка мяняючы напрамкі. Вось... Тут журналіст, які сам усё бачыў, нарэшце праявіў плёнку, стаў друкаваць здымкі. І ашалеў. Там, на фотаздымках, было зусім іншае: нейкія аблокі дзіўнай формы, на кожным здымку — розныя! Тады ўмяшаліся вучоныя, уважліва ўсё разгледзелі і сказалі: справа ў нашым розуме. Бо вось так бывае: калі мы бачым недзе нешта раней намі нябачанае, дык мозг... ну, ён быццам падказвае нам, падсоўвае ўжо раней убачанае і гэта... ідэнтыфікуе як знаёмы аб'ект. Ну, вучоныя і сказалі: былі нейкія завіхрэнні на небе, воблакі імкліва мяняліся, людзі не маглі падумаць, што гэта воблакі, не бачылі раней такога, вось мозг ім і намаляваў, быццам яны бачаць тую сігару, затым — талерку, бо раней бачылі такія малюнкі і быццам здымкі такіх НЛА!

— Ну, дапусцім, я зразумеў. А пры чым гэта да нас? — без цікавасці спытаў Віталь: расказанае яго сапраўды не кранула.

— Ды вось пры чым... Мы раней казалі між сабой пра ваўкалака, жартавалі, а вобраз ваўкалака нам вядомы з фільмаў. Мозг запомніў яго. І вось мы ўбачылі нешта, чаго раней не бачылі ніколі. Ну і... мозг нам падказаў такі во-

браз, выцягнуў з падсвядомасці. Я не кажу, што гэта факт, але так можа быць!

— Ого! — Віталь цыркнуў слінай далёка ў траву, задумаўся.— І мы чацвёра пабачылі адно, а насамрэч там магло быць іншае?

— А што — чацвёра? Там горад бачыў!

— Дык што тады сперла наша мяса?

— Мог і сабака які шалёны...

— Не мог,— катэгарычна пляснуў па голым калене Віталь.— Сабака гарачага ніколі не схопіць. Гэта я табе кажу.

— А шалёны?

— Шалёны не есць, не п'е, пакуль не здохне. Толькі кусае. Хаця, хто ведае...

— Тады... Чупакабра.— І твар Стася ў месячным святле расцягнуўся ва ўсмешцы.— Ты не смейся... Чупакабру апісваюць, але ні здымкаў, ні відэафільмаў няма. Што за стварэнне — ніхто не ведае.

— Ага... І яна тую Леру сцягнула? Бо ж вялікая, дужая...

— Я ж казаў пра мозг, які нам карцінкі падкідае. Яно нам магло вялікім здасца. Тым больш у прыцемках, на фоне вогнішча...

— А дзе Лера, па-твойму?

— Не ведаю,— уздыхнуў Стась.— Цёмка ўпэўнены... Калі яму паверыць, то я мяркую, што Лера магла пабачыць раніцай гэтае стварэнне і кінуцца бегчы.

— Дык жа шукалі!

— Яна магла кінуцца ў лес. Бо з боку балота — туман, туды бегчы надта страшна. А тут — лужок.

— А чаму не ў вёску, чаму не ў палатку? — разгарачыўся Віталь.

— Ну, вось яна пайшла да тых кусцікаў, а чупакабра тая з'явілася за яе спінай — перакрыла ёй шлях! Ды і

магла дзяўчына ўпасці, падхапіцца... а вакол туман, кусты стагамі стаяць, страціла арыентацыю...

— Добра, прафесар,— палагадней Віталь.— Згодны, магло нам прымроіцца. І дзяўчына магла кінуцца ў лес і бегчы без памяці, пакуль не ўпала. Заблукала... Пра яе знойдзены ў іншым баку тэлефон забудзем, га? — нагадаў ён са смехам.— Добра, пакуль забудзем, ды надалей абапірайся на факты заўсёды і іх не адкідвай! Што прапануеш браць?

— Вяроўку тонкую, але каб моцную.

— На што?

— Каб кшталту коп'яў зрабіць.

— Шарыш! Пра нажы я падумаў, сякерку малую возьмем. Але то мой клопат. Пайшлі спаць! І гэта, ты мне скажы, адкуль столькі слоў вучоных набраўся? Разважаеш, як наш настаўнік матэматыкі.

— Дык у мяне часу вольнага процьма. Спортам не займаюся, гульнямі надта не захапляюся. То праглядваю розныя сайты, як чым зацікаўлюся — гляджу ўсё, што знайду.

— А мяне нічым не зацікавіць,— без жалю прызнаўся Віталь.

— Яшчэ не траплялася тэма, значыць. Тады так возьме — жыць ёй станеш,— прадказаў Стась.

Віталь прачнуўся першым з хлопцаў, адразу зірнуў на акно: промні сонца малявалі на занавесках светлыя прамавугольнікі. Добрае, значыць, будзе пагода.

Яшчэ вечарам папярэдзіў бабулю Зосю: ім трэба схадзіць да былой базы, бо іх новы сябар — Арцём — спецыяльна застаўся тут, у яго блог у сеціве, дзе ён апісвае ўсякія закінутыя месцы. Легенду прыдумаў сам, пакуль веранду прайшоў і адкрыў дзверы ў хату. Бабуля, канешне, завохкала — чаго ж так позна сказалі, яна б напякла-насмажыла. Бач, насамрэч цяпер во смажыць — вунь які пах струменіць праз няшчыльна прычыненыя на веранду дзверы.

Снедалі яешняй з блінамі, пасля бабуля выказала свае просьбы — што трэба ёй зрабіць, бо ж адна да вечара. Не так і мала спраў сабралася.

Яніна сядзела на лавачцы перад хатай, цярпліва чакала, не азывалася. Ля яе стаяў заплечнік, напакаваны.

— Сабралася, значыць? — дабрадушна запытаўся Віталь, калі хлопцы выйшлі на вуліцу.

— А што, паспрабуйце не ўзяць! — дзяўчына схіліла галаву набок і высунула язык.— Я вам такое ўчыню!

— Ды ціха ты, ніхто цябе не гоніць,— паморшчыўся Віталь.— Зараз во вады наносім гарод паліваць, бабулю Арыну вынесем на надворак і пачнём збірацца.

— Я сабралася!

Хвілін трыццаць пайшло на зборы. Было ля адзінаццаці гадзін.

— Бабуля, мы на сувязі пастаянна, тэлефоны ў нас зараджаныя, не хвалюйся,— казаў Віталь бабулі Зосі.— Да заходу сонца вернемся, нам толькі пафоткаць. Лезці нікуды нікому не дам, сам не палезу.

— Глядзіце ж там! Як што нейкае, лепш здароваму ўцячы, чым хвораму перамагчы!

Бабуля Арына пільна ўзіралася ў юнакоў, паківала галавой у бок Яніны, калі ўжо збіраліся крануцца з месца, загаварыла:

— Дарма будзеце ногі біць і камароў карміць. Няма ваўкалака ў лесе.

— Чаму, бабуля? — азірнуўся Стась.

— Бо зніч не ў лесе.

— А дзе зніч? — ускінуўся нечакана Арцём, які таксама прыпыніўся і глядзеў на старую.— Дзе зніч, бабуля?

— У балоце, пад зямлю праваліўся,— няпэўна махнула рукой старая.— Быў раней там. Ваўкалак таго месца пільнавацца павінен.

— Дык у якім баку? Дзе? — загарэўся юнак.

Віталь паморшчыўся, чмыхнуў носам:

— Бабуля Арына, вось мы вернемся і паслухаем вашы казкі пра ваўкалака і пра тое, што некуды знікла... Цёмка, дай чалавеку спакойна адпачываць, пайшлі!

— Не нешта знікла, а зніч,— буркнуў Арцём незадаволена.

— Ты забыў, чаго ты тут? Калі так — заставайся і слухай бабулю! — адрэзаў Віталь.

Тут умяшалася бабуля Зося:

— Вой, мама, хай ідуць дзеці, задурыш зараз галовы сваімі казкамі. Яны ж ідуць базу тую ракетную глядзець, што ты іх пужаеш несусветам? Ідзіце, дзеці, не баўцеся доўга толькі, Віталь!

Ля ўчарашняга вогнішча пад ясенем Віталь прыпыніўся. Спыніцца мусілі ўсе.

— Цяпер так,— пачаў ён.— Ты, Стась, ты, Цёмка,— мае госці. Я за вас адказваю. І за цябе, Янінка, таксама, хоць я цябе ведаю, на што ты здольная. Тым не менш з мяне спытаюць. Таму, каб ісці далей, прымайце: вы мяне слухаеце, калі справа тычыцца практычнай часткі. Што ні скажу — слухаецеся. Стась, ты вядзеш па навігатары, як учора казаў?

— Ужо забіваю каардынаты,— Стась дастаў тэлефон, уключыў праграму.— Напрамую — балота, па крузе давядзецца...

— Выдатна. У лесе ідзём адно за адным, Стась — ты першы. За ім ты, Янінка. Ты нашы вушы і нашы вочы. Далей Цёмка, я замыкаю. Пачакайце хвілінку...

Віталь абышоў іх учарашняе вогнішча, наблізіўся да кустоў бэзу, пільна ўглядаючыся пад ногі. Вярнуўся, рэзумаваў:

— Слядоў, як і чакалася, ніякіх. Здзірванела тут усё.

— Пра сляды, здаецца, ніхто і не казаў ніколі,— заўважыў Стась.

— Ага, я пра тое і падумаў... Не дурное стварэнне, калі палюе там, дзе слядоў не застанецца. Усё зразумела? Каб не казалі мне потым, чаго я раскамандаваўся — я за вас адказваю. Згода?

Ніхто не пярэчыў, нечакана адчуўшы незвычайную сёр'ёзнасць іхняга паходу.

Але як толькі ўглыбіліся ў лес, парадак давялося мяняць: падлесак быў вельмі густы, неспрактыкаванаму Стасю ісці было надта цяжка. Да таго ж пракладзены па карце курс — адно, а ты прайдзі прама, калі то балаціна, то зараснік з маладых елак, то буралом. Віталь дастаў адзін з вялікіх нажоў, пайшоў наперадзе, дзе збочваючы, дзе адсякаючы галінку-другую. Раз-пораз яго папраўляў Стась:

— Бяры больш улева, адхіліліся надта... Паварочвай...

Ішлі без перадыху — так захацеў Віталь.

— На месцы перахопім чаго, адпачнём. А то нап'ёмся чаю, бутэраў нажуёмся, якая тады хада?

Змрочны лес са старымі дрэвамі і густым калючым падлескам нечакана пасвятлеў, дрэвы быццам разбегліся ў бакі па невялікіх узгорках — вандроўнікі апынуліся ў старым бары. І спыніліся, ураджаныя пабачаным.

Рэдкія тоўстыя хвоі стаялі роўнымі карычнева-залатымі стаўбурамі, як калоны ў агромністым храме. Падлеску не была, зямля спрэс была ўкрытая тоўстым слоем рудой ігліцы, якую дзе-нідзе прабівалі зялёныя кусцікі чарнічніку. Бор праглядваўся далёка-далёка наперад, на іх шляху ўзнімаліся і апускаліся, чаргаваліся пагоркі і нізіны.

— Як у кіно якім,— прыцмокнуў Віталь.

— Бы ў храме,— паправіў яго Арцём, прысеў на кукішкі, абапёршыся аб хвою. Відавочна, ён стаміўся — кволы ж зусім, ды яшчэ распешчаны гарадскім жыццём.— Велічна тут,— уздыхнуў нечага, дастаў тэлефон і стаў пстрыкаць у розныя бакі.

— Чаму ўздыхаеш? — пацікавілася Яніна.

— Бо зрэжуць жа хутка гэты бор... Вунь, бачыце — свежыя паметкі, зробленыя фарбай на хвоях...

Былі паметкі, і з-за гэтага факту рэчаіснасці знікла крохкае чараўніцтва...

— Пайшлі. Колькі яшчэ? — спытаў Віталь у Стася.

— Менш за кіламетр.

Мінулі бор, ідучы праз яго не адно за адным, а ўсе разам, побач, і было чамусьці так светла і лёгка на душы ў гэтай урачыстай цішыні. Пасля лес зноў загусцеў падлескам, хвоі зніклі, замест іх асіны, грабы і бярозы зашалясцелі лісцем. Ішлі па нізіне, пасля пачаўся адчувальны пад'ём.

Рэзка засвятлела спераду, сцішылі крок — лес заканчваўся. Раптоўна адкрытыя зыркаму сонцу, небу спыніліся. Раскрытая наўсцяж прастора нечакана занепакоіла: тут не было вялікіх дрэў, пад якімі можна б было ўкрыцца, толькі невысокія дрэўцы і кустоўе. І сонца свеціць, і малады вясёлы строй бярозак, а ўсе сціхлі, толькі Стась, паўшэптам, пацвердзіў агульную здагадку:

— Мы на месцы. Тэрыторыя базы...

Ён пільна ўглядаўся ў тэлефон, пакруціў галавой па баках.

— Калі вось так прама — выйдзем на дарогу, ля яе нейкі квадратны ўзгорак незарослы. Магчыма — дот, пра які казаў мой сусед па лецішчы. Ад дота ідзе дарога, далей — фундамент. Казармы былыя. Ну і будзем глядзець...

— Да дота! — прыцішана скамандаваў Віталь.— Кучней трымаемся.

Яны міналі паляны, праходзілі густыя купкі кустоў і шэрагі маладых дрэўцаў. Такія густыя, прыціхлыя, яны быццам папярэджвалі: глядзі, за намі можа нехта схавацца...

Яшчэ — цішыня. У лесе цішыня глыбокая, спакойная, а тут — крохкая, тонкая, гатовая вось-вось узарвацца нечым нападным рыкам ці сухім жорсткім шалясценнем драпежных кіпцюрастых лап па прысохлай траве...

Наперадзе паказаўся парослы дробным кустоўем узгорак, з вяршыні якога вырастаў бетонны прамавугольнік. Не згаворваючыся, подбегам, прыгінаючыся, перабеглі некалішнюю дарогу, што добра ўгадвалася і цяпер. З аднаго боку ўзгорка пабачылі бетонную сцяну, якая ў ім хавалася, там быў праём. Чамусьці без страху зазірнулі і ўвайшлі ўнутр. Яно і на самой справе — хто будзе хавацца на самым відавоку?

Унутры дота — цалкам бетоннага пакоя метраў пяць на пяць з высокай столлю — было пуста. Сцены, паглыбленні ў іх, адкуль, відавочна, нешта вырывалі. Шмат сухога лісця на бетоне падлогі, тры амбразуры — вузкія акенцы.

— Адпачнём? — ціха спытаў Віталь, скінуў заплечнік.

— Ты казаў, каб дручкі якія выразаць, нажы прывязаць,— нагадаў Стась, таксама зняў заплечнік, прысеў на падлогу.

Астатнія зрабілі тое ж. Яны сядзелі паўкругам, маўчалі, ні ў каго не ўзнікла думкі прапанаваць паесці.

— А як яно насамрэч тут? — трывожна спыталася Яніна, і было бачна, што гэтае пытанне звініць напружана ва ўсіх у галовах. Бо ж яны бачылі — якое яно вялікае, хуткае, дужае! А як выскачыць з зарасніку, кінецца на іх?

— Зараз...— хрыпата пачаў Віталь, кашлянуў.— Зараз зрэжам пару дрэўцаў — нажы прывяжам. У мяне — сякерка ў руках. Кустоў баяцца няма чаго — дзень жа, логава сярод дрэў ніхто рабіць не будзе.

— Ага, няма чаго! — запярэчыла Яніна.— А як яно нас учула і цяпер сочыць, выбірае момант? Мне страшна,— прызналася.

— Ты тут паніку не наганяй,— пасур'ёзнеў Віталь, загаварыў гучней.

— Прызналася — дык і добра,— памкнуўся Стась супакоіць усіх.— Нічога дзіўнага — месца незнаёмае, незвычайнае: адкрытая быццам прастора, але ж шмат закрытага

ад вачэй. Вы тут даставайце чаго паесці, а мы з Віталем зробім зброю,— усміхнуўся ён.

Яны выйшлі з дота, агледзеліся. Купка бяроз рознай таўшчыні расла паблізу, праз уяўную цяпер дарогу. Віталь ішоў першы, зірнуў туды, куды яна вяла, і раптоўна прысеў, рэзка тарганууўшы Стася. Таму не трэба было тлумачыць, чаму і навошта.

— Ц-с-с!..— прасіпеў Віталь, паказаў кіўком галавы туды, дзе ён заўважыў небяспеку.

— Там двое... Давай паўзком назад. А то выскачыць хто, не ведаючы.

Стась згодна кіўнуў. На карачках яны вярнуліся ў дот.

— Стась, цікуй! Ціха толькі! — закамандаваў Віталь.— Зараз выходзім, прыгінаючыся, паварочваем налева, забіраемся за пагорак, хаваемся ў кустах. Нейкія дзве постаці ідуць ад базы па дарозе ў наш бок. Звычайныя быццам людзі. Не пытайцеся, не ведаю, не пабачыў добра. Нас яны дакладна не заўважылі.

— А як гэта... Лера і нехта? — пракаўтнуў сліну Арцём.

— Не,— адмоўна пакруціў галавой Віталь.— Росту аднолькавага, мужчыны, высокія. Выходзім, а то будзем як у клетцы, калі сюды зазірнуць!

Яны ляжалі за кустом, Віталь са Стасем трохі наперадзе, бліжэй да дарогі. Было неверагодна ціха — ні спеву птушак, ні стракатання конікаў. Шоргат дзвюх пар ног у траве набліжаўся.

Нечакана пачулася гучнае сіпенне і трэск, і перш чым угледзіць постаці, яны пачулі скажоны дынамікам голас:

— База, я першы. Што ў вас?

— Першы, я база,— адказаў спакойны мужчынскі голас.— Даем адбой. Слядоў доўгатэрміновага ці кароткатэрміновага знаходжання чалавека ці звера не выяўлена. Падземныя памяшканні пустыя, дзве шахты абвалены. Вяртаемся.

— Зразумела, база. Вяртайцеся.

Праз лісце хлопцы пабачылі двух міліцыянераў у трохі незвычайнай форме. Яны ішлі няспешна, вольна, мінулі дот, зніклі за паваротам. І быццам вынеслі на сваіх шырокіх чорных спінах усю трывогу і незвычайнасць, якія настойваліся ў маладым зарасніку і самім паветры. Старая дарога, кустоўе, бярозкі з вясёлымі белымі ствоамі сталі будзённымі, звыклымі і заклікалі прысесці пад іхні цень у разнатраўе, якое ніколі не бачыла касы.

Колькі хвілін Віталь са Стасем ляжалі нерухома, пасля адпаўзлі да сваіх.

— Усё нармальна, гэта міліцыя,— супакоіў Арцёма і Яніну Віталь.

— Гэта АМАП,— папраўіў Стась.— Форма, ну і іншае там. З пісталетамі... А чаму мы хаваемся? — Ён памкнуўся сесці вольна.

— Ляжы пакуль! — цыкнуў Віталь.— Не хапала яшчэ, каб нас тут скруцілі і павезлі потым разбірацца: хто такія, з якой мэтай, што робім. Ці ты думаеш, што яны нам павераць? У іх работа такая — правяраць усё. І пойдзеш пашпарт шукаць...

Стась паслухаўся, павярнуўся на спіну.

Хвіліну маўчалі.

— Значыць, не адны мы падумалі пра базу,— задумліва прагаварыў Арцём.— Значыць, міліцыя праверыла тэлефон Леры, нічога там не знайшла. Але чаму яны не арганізоўваюць пошукі?

— Чаму-чаму... Ідзі, дагані, спытай,— запсіхаваў Віталь.

Ён сам падхапіўся, сеў.

— Давайце хоць паядзім-пап'ём... Дарма ішлі. Яны папярод нас усё тут абшукалі. Вы ж чулі — «слядоў знаходжання не заўважана».

— Ну, базу ўсё адно паглядзім, цікава ж...

Але цікавага насамрэч было мала. Паўцёмны доўгі калідор свяціўся далёкім выхадам на паверхню наперадзе. І тое святло разам са святлом ліхтарыкаў мабільных тэлефонаў, іхнія спакойныя галасы і — галоўнае — веданне, што да іх усё праверылі і нічога небяспечнага не знайшлі, праганялі гнятлівасць сутарэння. Калідор адкрываўся праёмамі ў некалькі невялікіх пакояў, таксама пустых і шэрых. Было бачна па смецці на падлозе, што наведваліся сюды людзі нейкі час — выдзіралі дзе якое жалеззе, можа, і кабель сілкавання тут быў раней ці сякая-такая мэбля, дзверы і падлогі...

Адшукалі тыя самыя пускавыя шахты — яны былі завалены кавалкамі бетону, але былі ўсё адно яшчэ глыбокімі, і ад іх несла жудой.

— Значыць, адсюль ракеты ўзляталі? — спытала Яніна.

— Маглі ўзлятаць,— ціха паправіў Стась.— То ж былі ракеты з ядзернымі боегалоўкамі. Такія ўзлятаюць адзін раз.

— Чаму?

— Таму што другі раз іх запускаць некаму будзе. Ядзерная вайна, калі б пачалася, мы б тут не гулялі...

Стась помніў, што абяцаў свайму суседу па лецішчы, і яны пайшлі разам на паўночны бок базы. Доўга не маглі зразумець, дзе ён тут пачынаўся, той перыметр аховы, бо ўжо і лес зноў пачаўся, як апынуліся на пакатым з іх боку ўзгорку, які крута зрываўся ўніз да зарослага возера ці балотца. Метраў за дзвесце ад іх ляжаў круглы невялікі востраў, парослы вольхамі. А далей за ім раскінулася балота — сапраўднае, векавое, такое панылае, ажно сківіцы занылі як ад аскомы. Праваруч далёка на гарызонце сярод балотнай роўнядзі ўзвышаўся востраў куды большы, парослы лесам. Стась зрабіў здымкі, каб паказаць пасля суседу — прасіў жа чалавек.

Назад вярталіся сумныя. Не ад таго, што нічога не знайшлі, а ад таго, што не ведалі, дзе шукаць яшчэ. Калі

да вёскі заставалася хвілін дваццаць ходу, зазваніў тэлефон Віталя.

— Хутка будзем, бабуля Зося,— адказаў ён і, паслухаўшы, дадаў: — Канешне, у нас усё нармальна. Нікога там няма і не было — усё пустое, закінутае.

Ён сунуў тэлефон у кішэню, паціснуў плячыма:

— Нешта бабуля надта ласкавая...

Яна і сустрэла іх ля былога Праскоўінага надворка, і гэта не столькі здзівіла, колькі ўсхвалявала ўсіх: проста так чаго ісці насустрач?

— А мае ж дзеткі, як добра, што вы хуценька! А то хоць ты бяжы самой... У Мокуці цялятка парвала нешта. Казалі людзі, дзірка на шыі, заднюю нагу адгрызла і знесла... Вой, што ж ета робіцца...

— Што за Мокуць, бабуля?

— Урочышча, за калгаснай фермай, далекавата ад нас, у іншым баку.

— Дык чаго за нас хвалявацца?

— Казалі, крывавы след у наш бок ішоў...

— Мо воўк які ці сабака здзічэлы?

— Які ж воўк нагу адну адгрызе, як нажом адрэжа, ды яшчэ косці аддзеліць?

Да сябе на лецішча Стась пайшоў з Арцёмам.

— Дваім вам там весялей будзе. Заўтра прыходзьце! З раніцы самай, бабуля бліноў напячэ,— казаў на развітанне Віталь.

## 8. Логава

Сусед-пенсіянер, ледзь Стась рыпнуў веснічкамі, устаў з шэзлонга, пайшоў да агароджы:

— Вітаю, вітаю! Тут аўталаўка прыязджала. Яна, так выходзіць, і хлеб развозіць, і навіны апошнія. Казалі, цяля

загрызенае і напалову з'едзенае, а крыві няма ні кроплі: высмактана праз рану на шыі...

— Дзень добры! — адказаў Стась, прыпыніўся разам з Арцёмам, прадставіў яго: — То мой сябра, Арцём. Наконт цяляці чулі, толькі казалі, што нага не то адгрызена, не то адрэзана. Пра выпітую кроў не гаварылі. А мы былі на былой базе. Нічога там не знайшлі. Ды і няма там дзе хавацца — голыя бетонныя пакоі. Дарэчы, там і міліцыя правярала, бачылі.

— Ага, вось як...— незразумела пракаментаваў Мікалай Іванавіч.— А вы там фатаграфавалі?

— Канешне, я ж абяцаў. Заходзьце, зараз я праз ноўтбук пакажу, каб лепш відаць было.

Сусед разглядваў фотаздымкі, увесь падаўшыся наперад, да манітора. Ён незвычайна дыхаў — набіраў шумна паветра, пасля выдыхаў доўга і бязгучна.

— Лепшыя гады там пакінуў. І здароўе,— з жалем пракаментаваў ён убачанае, патлумачыў: — Ракетнае паліва — ядавітае, вельмі небяспечнае. Там такая хімія... Перыядычна старое паліва злівалі і вывозілі, прывозілі новае. То каля цыстэран працавалі ў такіх касцюмах, як у касманаўтаў. Калі пачаўся той разлад, ну, Савецкі Саюз адмянілі, рыхтавалі ракеты да вывазу. Канечне ж, паліва злівалі. Нешта там у іх не так пайшло, пралілося на зямлю. Месца тое якраз было на маршруце патрулявання. І ў першую ж ноч салдацік адзін атруціўся, павезлі ў медсанбат. Не вярнуўся ўжо, камісавалі. Нам няўцям было: што здарылася, бо мы ж — ахова, з намі не лічыліся, такімі сакрэтамі не дзяліліся. Трэба было грунт здымаць, дэзактывацыю праводзіць. Адно прысыпалі пяском свежым, бо якая там дысцыпліна была, усё рушылася. У мяне салдат збег, якраз на гэтым маршруце патруляваў. Аўтамат кінуў. Пракляты пост... Адзін хворы, другі дэзерцір. Рапарт напісаў, самі мы трохі пабегалі па лесе. Не знайшлі, дый, кажу,

у тыя дні такое было — бы канец свету прыйшоў, ніхто нікога не слухаў, нічога нікога не хвалявала.

— А чым паўночны ўчастак такі прывабны? Балота ж дый годзе,— спытаў Стась.

Былы прапаршчык крэкнуў.

— А пакажы мне карцінку. Далей, далей... Стоп, глядзіце. Астравок невялікі ў балоце. Раней дзве вузкія насыпаныя дамбы яго з базай злучалі, пасярэдзіне тых дамбаў — дарога, па нізе, вады не было там, хоць і гразка. Тут асобны пост быў для нас. Дарога на востраў заканчвалася зачыненымі металічнымі дзвярыма — як уваход у пограб. Што там было — ніхто не ведаў, дзверы гэтыя толькі адзін раз адчыніліся пры мне. Калі пакінулі базу ракеты і ракетчыкі, прыйшлі два аўтамабілі. Сабралі тады ўсіх салдат, маіх, з гаспадарчага ўзвода, нават з кухні. Камандаваў наш асабіст, з ім яшчэ трое сяржантаў незнаёмых. З аўтамабіляў мае салдаты выносілі скрынкі з паперамі. Насілі ў той пограб. Мой адзін салдат казаў, што за ўваходам пачынаўся тунэль метры ў два вышынёй, з асвятленнем. Цягнуўся ён далёка пад востраў, не згледзець было. Але салдаты, канешне ж, па тым тунэлі не гулялі: данёс да парога — і назад. Доўга там асабісты валэндаліся, суткі цэлыя. Казалі салдаты, быццам дым бачылі. Значыць, ліквідавалі паперы непатрэбныя. Пасля прыехаў экскаватар на тыя дамбы. Мяркую раскопваць іх і засыпаць той ход, ды не бачыў сам — мы з'язджалі адтуль, толькі гаспадарчы ўзвод заставаўся...

— Дык вы падумалі, што калі нехта можа хавацца на базе, то той ход — найлепшае месца? — выказаў здагадку Арцём, які дагэтуль толькі слухаў, баючыся прапусціць хоць слова.

— Так,— згадзіўся былы прапаршчык.— Але на здымках бачна, што затоплена ўсё... Я дакладна помню, што той уваход быў вельмі нізка, арыенцір — чатыры вольхі з

аднаго кораня быццам — вось яны. Праўда, тры засталіся, адна ўпала. Ніжэй за іх быў той уваход. А цяпер тут вада, балота. Значыць, тут схованкі быць не можа. Дзякуй, што выканалі маю просьбу.

— Дык а куды ход той вёў?

— Таго не ведаю, але здагадацца няцяжка — там быў ЗКП. Запасны камандны пункт. На выпадак ядзернай атакі павінен такі быць. Аўтаномны, надзейна схаваны, на доўгі тэрмін знаходжання ў ім абмежаванага кантынгенту. Бо што зверху было — яно ж са спадарожнікаў праглядвалася наскрозь, якая там тайна ваенная. А гэтага, не ведаючы, і не знойдзеш...

Вечарам, як заўсёды, Стась адпісаўся бацькам у месенджары: усё добра, у яго тут з’явіліся сябры. Ці можа ён іх частаваць? У прыватнасці, трохі разгрузіць халадзільнік ад мяса? Адказала маці: «Мы табе верым. Разгружай увесь, якраз збіралася мыць». Стась гукнуў Арцёму:

— Заўтра зробім шашлыкоў наноў!

— Прапануеш лавіць чупакабру на жыўца? — усміхнуўся той нявесела ў адказ, адарваўся ад аркуша, на якім нешта чарціў.— Невядома, адкуль яна прыйдзе, куды і ў які час. Я не ведаю, што рабіць далей. Дзе шукаць? — закончыў роспачным пытаннем.— А час ідзе! Мы шашлык ядзім, а Лера?

— Гэй, ціха! Прапануеш галадаць, пакуль не адшукаецца? І чым гэта ёй дапаможа? Што ты там малюеш?

— Ды вось, спадарожнікавую карту перамаляваў... Пазначаю месцы.

— Чырвоны крыжык — знойдзены тэлефон? — Стась зазірнуў на карту.

— Так. Адзначыў месцы бліжэйшых вёсак. Сапраўды, база — адзінае зацішнае месца, дзе можна было пабудаваць логава. Ну, любой жывёле ж трэба адпачываць недзе, спаць.

— І трымаць у заложніках дзяўчыну.

— Так… Бачыш, з заходняга боку ад нас — толькі балота. Вось наша база.

— Астравы на балоце?

— Так… Адзін мы бачылі, я тады разглядваў спускі да балотца таго… Не, не заўважна, каб хто ад базы на астравок трапляў. А вось гэта той вялікі востраў. Да яго дарогі няма.

— Дык ад вёскі ён бліжэй, чым да базы!

— Ну так, мы ж круг рабілі ўздоўж берага. А напрасткі да вострава тры кіламетры.

— А калі наша чупакабра?

— На востраве? Балота ж… Бачыш, няма нават каналаў ніякіх. Запаведнік. Мы яго трохі вывучалі перад экспедыцыяй. Гэты бок — непраходны. Журавінавыя мясціны вось тут, але зноў жа да вострава яны не падыходзяць.

— Зімы чакаць?

— Балоты зімой цалкам не замярзаюць, небяспечныя мясціны застаюцца, шляху не ведаць — загінеш.

— Добра, заўтра з раніцы параімся.

— Трэба бабулю Арыну распытаць.

— Пра той, як яго…

— Пра зніч. Пра ваўкалака. Пра тое месца, дзе быў зніч, пад якую зямлю праваліўся.

— А зніч — гэта што? Пасля я падрабязней сам пагуглю.

— Пагуглі. Зніч — свяшчэнны агонь нашых продкаў. Паганцаў. Зазвычай, рабілася капішча пад якім старым дрэвам, у асаблівым месцы, ля каменя вялікага. І там раскладаўся агонь, які падтрымлівалі, каб ніколі не згасаў. Верылі яны ў тое, што пакуль гарыць агонь — жыць роду.

— Ну, казка як казка, а чаго ты, як пачуў, усхваляваўся?

— Калі недзе гарэў зніч, значыць, там было капішча. А гэта ведаеш, як цікава сёння? Ого, каб адшукаць тое месца! Навуковая сенсацыя магла б атрымацца.

— І ты б праславіўся?

— Ну так... Але ж самому цікава — знайсці, пабачыць. Пасля раскопваць археолагі прыехалі б. Знаеш, як цікава зямлю перабіраць, попел з таго вогнішча, якое тысячу гадоў таму гарэла? Уга, я быў у мінулым годзе на раскопках!

— Ясна. А ваўкалакі служылі ахоўвай ля таго агню, як бабуля Арына кажа?

Арцём задумаўся на хвіліну, паморшчыў нос.

— Не, яна нешта блытае. Я зараз напішу нашаму выкладчыку, можа, ён патлумачыць. Але не павінны ваўкалакі быць ля святога месца. Яны хай і не інфернальныя істоты, але ж каб ля капішча быць — не павінны.

— Пішы. І давай класціся. Заўтра ўсе разам параімся.

Назаўтра як магнітам іх усіх пацягнула пад ясень, на былы Праскоўін надворак. Неслі з сабой усё неабходнае, каб паабедаць тут жа. Схадзілі ў блізкі лясок, паблукалі між кустоўя ў пошуках сухога голля, назбіралі ўдосталь, расклалі вогнішча. Самі паселі на палене.

— Ну, цяпер давайце, выкладвайце. Толькі па справе, без фантазій. Што мы на сёння маем? — спытаў Віталь, калі ўсе апусціліся на траву.

Пачаў Стась, апавёў пра тое, што яны з Арцёмам пачулі ад былога вайскоўца. Арцём згадаў пра зніч, пра ваўкалака. І пра востраў на балоце.

Віталь паморшчыўся.

— Да вострава не дайсці па балоце, факт. Мне бацька казаў. Яны, як хлапчукамі былі, спрабавалі зімой туды патрапіць, даходзілі. Думалі, там што цікавае, мо зайцоў многа. Пусты востраў, хоць і вялікі. Таму ніхто туды не імкнецца, хоць, кажуць, многа там качак ды іншых птушак, але ж тут запаведнік. Бацька казаў, па вясне, як вада высока стаіць, можна было даплысці да вострава асобнымі шляхамі на лодцы-пласкадонцы. Была такая ў запаведніку

вельмі даўно, там быў такі рухавік — прапелер ззаду, як на самалёце.

— І ўсё адно, трэба распытаць тваю бабулю Арыну,— заўпарціўся Арцём.

— Ну, дык яна ж і так ці мала расказала,— хмыкнуў Віталь.— Што ваўкалака вось Праскоўя прывабіла, карміла-паіла, а ён ёй нейкае такое дабро знекуль цягаў, разбагацела. А як памерла, бедны ваўкалак пачаў гусей жэрці!

— А ты не смейся! — пакрыўдзіўся Арцём.— У старых сваё ўспрыманне свету. Яны нам кажуць, а мы іх проста не разумеем, бо інакшай сусвет уяўляем! Вунь Хрыстос сваім вучням пра сваё Царства Нябеснае толькі прытчамі мог расказваць. А нейкае зерне ісціны там заўсёды ёсць, яго пабачыць трэба!

— Ну дык пабач і нам пакажы! — ужо запсіхаваў Віталь.— Які там агонь і ў якім месцы ахоўвае ваўкалак? Можа, ён тваю Леру ў якасці жрыцы туды зацягнуў, дык пойдзем вызваляць!

— А ты не крычы! — умяшалася Яніна, якая дагэтуль толькі слухала, паглядваючы на хлопцаў.— Вось вазьмі ды і правер.

— Што праверыць? — вытарашчыў вочы Віталь.

— Калі Праскоўя ваўкалака прыкарміла, дык недзе ж ён у яе быў! Пашукаць сляды...

— Ага, поўсць недзе на кустах бэзу засталася,— цыркнуў Віталь слінай, але раптоўна паспакайнеў: практычны розум быццам задаволіўся, атрымаўшы яўную задачу па ягоных сілах.— А ты малайчына,— усміхнуўся ён Яніне.— Хоць адзін чалавек сярод нас цвяроза думае. Маеш шанец праверыць — правярай! Слухайце... Хаты даўно няма, хлява — таксама. Прымем як існае: Праскоўя сапраўды прывабіла ваўкалака. Калі карміла, то ён у яе і адпачываў. Хай сабе яна жыла адна, тым не менш такога госця за стол не пасадзіць жа. Значыць, была недзе схованка для

госця. На гарышчы — не, бо там зімой холадна. У самой хаце ці хляве хаваць не станеш — рознае можа здарыцца, як зойдзе чалавек. Што застаецца? Падполле, дзе бульбу хаваюць,— першае. Пограб — другое. Ну і трэцяе — калі такую схованку адмыслова зрабілі.

— Каму яна магла тайну даверыць такую? Сыну, хіба?

— От не ведаю... наўрад ці. Карацей, зараз так: Стась і Яніна — гатуйце ежу, тут застаяцеся, мы з Арцёмам ідзём да мяне, у бабулі ля плота валяецца скрутак дроту сталёвага, таўсценны. З яго адсякаем па метры кавалкі, прамім, заточваем на канцах. І мацаем гэтымі шчупамі найперш месца, дзе стаяла хата, дзе быў хлеў, пограб. Зразумела?

Праз паўгадзіны тры шчупы былі гатовы, мяса таксама падсмажылася. Елі з апетытам, трохі ўзбуджаныя той справай, якой планавалі заняцца. Ніхто не падганяў, але відавочна спяшаліся хутчэй узяць у рукі «шчупы» — вострыя на адным канцы кавалкі сталёвага дроту.

Віталь пачаў першы — з таго месца, дзе раней стаяў дом. Падполле тут угадвалася па невялікай яміне. Першыя паўгадзіны нічога не далі — часам шчупы скрыгаталі аб кавалак цэглы ці камень у зямлі, часам утыкаліся ў кавалак гнілой дошкі. Запал пачаў знікаць. Ужо абтыкалі тое месца, дзе стаяў вялікі хлеў — тут не было ніякіх неспадзяванак, сталёвыя пруткі ўваходзілі ў зямлю хай і з цяжкасцю, але не выяўляючы нічога цікавага.

— Усё? — Стась, засмучаны, спыніўся.

— Быццам усё,— адказаў Віталь.— Яшчэ, мне помніцца, недзе тут,— ён павёў рукой,— стаяў дрывотнік. Ну, дровы туды складвалі. Праверым.

У гэты час ля былога надворка прыпыніўся сталы мужчына з веласіпедам — сусед бабулі Зосі. Не спяшаючыся, закурыў, паглядзеў на хлопцаў.

— Можа, вы скарбы Праскоўіны шукаеце, га, Віталь? — спытаў ён.— То дарма — яе сын тут і цвіка не пакінуў, усё вывез.

— Ды вось спадзяёмся, дзядзька Ігнат, што і нам нешта засталося,— у тон яму адказаў Віталь, утойваючы прыкрасць,— не хапала тут сведкаў! Ягоны шчуп уваткнуўся ў прыхаванае дзёрнам палена. Віталь шмаргануў, выцягнуў дрот.

У гэты ж момант Стась ціха вохкнуў:

— Пуста! Тут пуста!

Ягоны пруток схаваўся ўвесь у зямлі, рукой Стась крануўся травы. Віталь падскочыў, пачаў тыкаць — усюды натыкаўся на драўніну.

— Я па рыдлёўку! — крыкнуў ён і пабег дахаты.

Пакуль ён вярнуўся, Стась з Арцёмам пруткамі ўзрывалі дзёран. Пабачылі адну шырокую дошку, другую. Між імі металічны пруток уваходзіў далёка ўніз, у пустэчу. Дзядзька падкаціў веласіпед да ясеня, прытуліў, сам падышоў, паглядзеў з цікавасцю. Рыдлёўкай, якую прынёс запыханы Віталь, спешна, але акуратна зразалі дзёран — і пад ім адкрываліся дошкі і аполкі. Нарэшце цалкам вызвалілі адну дошку, шырокую, падкапалі яе з канцоў.

— Падымаем?

— Раз-два!

Унізе была яміна.

— Логава!

Скінулі яшчэ пару аполкаў — і пабачылі ўсё: у яме метры два на два на адной палове было кшталту нізкага ложка з дошак, на якіх ляжалі ватоўкі ці то жоўтыя, ці то карычневыя. Гэта была відавочна пасцель, і было зразумела, што на ёй адпачывалі не адзін раз. Тут жа стаялі дзве вялікія алюмініевыя міскі. У другім куце ямы грувасцілася куча рыззя.

— Гэта ж бушлаты... Вайскоўцы такія носяць,— выпусціў цыгарэтны дым дзядзька Ігнат.— Вось вам і ваўкалак Праскоўін. Звані ў міліцыю, Віталь!

— Навошта міліцыя?

— Бо справа не жартоўная, а тут сляды могуць быць, як іх там, доказы ўсякія. Звані. І нікога туды не пускайце.

Праз чвэрць гадзіны пад ясенем была ці не ўся вёска, узбуджана гудзела. Падыходзілі вяскоўцы, зазіралі ў схованку, божкалі, ахалі: во табе, праўду казала старая Арына — прыкарміла ведзьма Праскоўя ваўкалака! Віталь са Стасем вартавалі, каб хто з дзяцей, аднекуль яны тут узяліся, не скокнуў уніз.

Прыехаў участковы, паціснуў хлопцам рукі, бы сваім знаёмым, лёг на дошкі зверху, свяціў ліхтарыкам, пасля дакладваў па тэлефоне. Неўзабаве яшчэ прыляцелі два міліцэйскія аўтамабілі. Адзін міліцыянер у цывільным скокнуў з чамаданчыкам уніз, здзіўлена гукнуў:

— Быццам ход! Ану, пашукайце за тры-чатыры метры ўваход.

І махнуў рукой у бок кустоў бэзу.

Уваход быў прыкрыты звычайнай пячной заслонкай, зверху закіданы смеццем і сухім голлем. Па людскім натоўпе пранёсся ўсхваляваны гул.

Міліцыянер, які камандаваў людзьмі пры арганізацыі пошукаў Леры ў тое ранне, паклікаў хлопцаў.

— Ну, давайце хлопцы... Толькі шчыра: што маеце на сёння, чаму вырашылі шукаць тут нешта? Не таіцеся, зразумейце: справа не пра нейкае цяля. Дзяўчыну мы не знайшлі.

Віталь пераглянуўся з астатнімі.

— Кажы ўсё, Віталь,— сказала Яніна.— Сам жа бачыш — было каму красці наш шашлык...

— А ён жа сядзеў гэты час побач з намі, чакаў,— услых падумаў Арцём.

— І далей бы сядзеў, каб Віталь не пахваліўся, што шашлык атрымаўся смачным-смачным,— засмяяўся Стась.

— Дык праўда ж, ад мяса гэтак пахла! — згадзіўся Віталь.

Міліцэйскі маёр няўцямна пераводзіў позірк з аднаго хлопца на другога, зняў фуражку, выцер залысіны.

— Распавядзіце, чэрці... Здаецца, вы ведаеце больш за нас.

— А вы наўзамен з намі падзеліцеся? — не столькі спытаў, колькі паставіў умову Віталь.

— Раскажу, хоць ведаем нямнога,— паабяцаў міліцыянер.

## 9. Казкі бабулі Арыны

— Вы ўпэўніліся, што ў словах бабулі ёсць рацыя, няхай і нямнога! — упарта гаварыў Арцём.— Праверылі толькі адзін факт — і ён спраўдзіўся. Таму хоць ганіце мяне са двара, а я ўсё адно вярнуся і буду прасіць бабулю расказаць мне пра ваўкалака і зніч! Гэта адзіная нітачка, няма больш ніякіх шляхоў!

— Супакойся, ніхто цябе не пагоніць,— ляпнуў яго па плячы Віталь.— Зараз папрашу бабулю даць табе, як там завецца, інтэрв'ю,— рагатнуў ён.

— Я бабулін аповед для дакументаў запішу!

— Пішы, пішы...

Бабуля Арына напачатку бязгучна варушыла вуснамі, быццам спрабуючы, ці зможа яна загаварыць.

— То я буду табе казаць, а ты сам выбірай, што табе трэба, што не,— нарэшце сказала яна да Арцёма, які паклаў бабулі ў прыпол уключаны дыктафон, а сам, седзячы перад ёю на лавачцы, наставіў на яе вочка тэлефона — запісваў спачатку відэа («Так трэба! Гэта ж навука!»). Віталь, Стась і Яніна сядзелі крыху воддаль, каб не замінаць.

— Бабуля Арына, скажыце, калі вы нарадзіліся і дзе, як ваша поўнае імя, прозвішча і прозвішча па бацьку.

— Гэткі ты разумны, бы той міліцыянер... Нарадзілася на Вялікую Прачыстую, у дваццаць дзявятым годзе. Татку звалі Хведар, а маму Кацькай, Кацярынай. А прозвішча ў дзеўках была Лучыц...

Выйшла бабуля Зося, войкнула, перапыніла:

— А стойце, што ж вы робіце? Ці ты на кіно здымаеш? А вой, мамуля мая ў такой хустцы будзе? Янінка, ты б хоць мне сказала, што вы тут надумалі! А кохта якая страшная, прычасаная абы-як! Чакайце, чакайце! Віталь, вязі бабулю на двор, я ж яе прыхарашу хоць крышку, нягожа так...

Арцём разгубіўся, залыпаў вачыма. А Віталь ужо каціў бабулю, і сама яна, мабыць, зразумеўшы важнасць сітуацыі, казала ўслед сваёй дачцэ, бабулі Зосі, якая заспяшалася ў хату:

— Вышываную бяры кохту! З вузельчыка.

Бабуля Зося спынілася на ганку, крутнулася:

— Дык тое ж на смерць ты сабрала!

— Адзін раз надзенеш на жывую. Хай будзе прыгожа. Хлапец кажа, вучоныя глядзець будуць, каб не сорамна табе было.

Хлопцы пайшлі на вуліцу, хвілін праз пятнаццаць вазок выкаціла з двара Яніна. Ззаду ішла бабуля Зося, задаволена ўсміхалася.

Бабуля Арына была ў новай хустцы ў зыркія вялікія кветкі, у бялюткай з вышыванымі каўнерыкам і рукавамі блузцы. На маршчыністай старэчай шыі віселі каралі з карычневага колеру каменьчыкаў. Яніна падкаціла вазок пад цень бярозы.

— Вой, бабуля, ты зараз кіназорка,— здзівіўся Віталь.— Я таксама цябе на відэа здыму,— палез ён па тэлефон.

...— Мне расказваў мой татка, а яму — ягоны татка. Некалі даўно жылі людзі, у якіх быў зніч. То агонь такі. Сам ён гарэў, не гас аніколі, ані дроў яму не трэба было. Той зніч мог людзей наскрозь бачыць. Як трэба было каго

на хлусню праверыць — вялі да зніча, клалі руку ў агонь. Хто не брахаў — той цэлы, і рукі цэлыя. Як на душы ў чалавека бруд ды чарноцце — успыхваў і згараў. Яшчэ здарыцца які мор у людзей, то звечара ішлі мужчыны ў лес, ссякалі там хвою стогадовую, з камля яе рабілі смалістыя лучыны на кожную хату. А жанкі за гэтую ноч пяклі сем хлябоў, ткалі сем ручнікоў. І з гэтымі хлябамі ішлі да зніча, хлеб і ручнікі там пакідалі, а падпальвалі свае лучыны. І пакуль лучыны гарэлі, трэба было ўсе хаты абысці. І тады мор праходзіў, ці то на дзяцей ён нападаў, ці на дарослых, ці на гавяду. Такая сіла ў тым агні была. Калі рабілі маладым вяселле ды ў новую хату жыць ішлі, дык у печы першы раз запальвалі тым агнём, што ад зніча прыносілі. І шчасце было ў людзей, і жылі хораша... Усе чужыя хацелі сабе такі агонь, дык свае берaглі надта, ахоўвалі. А для аховы адбіралі моцных мужчын. Прыводзілі таго маладога да агню. Калі добры той чалавек, дык зніч пераўтвараў яго ў ваўкалака: быў ён ноччу ваўком, удзень — чалавекам. Ведаў усе шляхі лясныя і балотныя. Ды вось, казалі людзі, тыя ахоўнікі, што зніч берaглі, захацелі панаваць над усімі. І сталі з людзей пытаць усяго-ўсякага, хто да іх прыйдзе. Дзевак маладых патрабавалі да сябе, каб тыя ля агню служылі, а больш каб іх саміх улагоджвалі. Хлопцаў дужых набіралі, сваімі ваўкалакамі парабілі. Страху на ўсіх людзей напусцілі. Пабудавалі церам вялізны, ідалаў там розных наставілі, золата ды серабро паўсюль блішчыць. І ад людзей патрабуюць: больш нясіце, больш давайце. Тады людзі сталі Бога прасіць, маліцца. А Бог ім сказаў: «Што ж я вам дапамагаць буду, калі вы не мне служыце, а цераму балотнаму? Вы ж не ў царкву ідзяце маліцца, а да каменя ў чыстым полі». А людзям жыць ніяк стала — хлеб у іх адымаюць, самых моцных хлопцаў і прыгожых дзяўчат у служкі забіраюць. То паабяцалі людзі Богу, што не будуць больш камяням маліцца, не будуць ідалам кланяцца. Бог

ім паверыў, і ў адну ноч праваліўся пад зямлю той церам з ідаламі і з агнём разам. Адняў Бог у людзей памяць, каб забылі яны дарогу да таго месца. Ды каб Бога людзі па ўсякіх дробных справах не турбавалі, аднаму старому ён пакінуў памяць, бо ж гарыць той агонь, ацалеў адзіны ваўкалак, які яго ўратаваў. То па якой справе, што зніч вырашыць дапаможа, людзі і хадзілі да старога, а ён ужо адзін да зніча ішоў, рабіў, што трэба. Як стаў стары зусім нямоглым, прыйшоў яго век, дык сыну свайму перадаў: як да зніча дайсці, якія словы казаць, каб зямля адкрылася. Гэтак во і жылі доўга людзі. А за тым знічам сіла нячыстая ганяецца, бо зніч жалеза ў золата плавіць, волава ў срэбра. Ваўкалак вартуе зніч ад нячыстай сілы да гэтай пары, бо мы жывём — і зніч гарыць; як зніч згасне ці нячысцікі яго захопяць — і наш род знікне. То нельга ўсім усякім той зніч паказваць, як будзе вакол яго людзей многа са злымі сэрцамі: у зямлю зніч схаваецца... А ваўкалак як у ваўка ператвараецца, можа толькі ірваць супрацiўніка свайго ікламі ды кіпцюрамі, а есці ён нічога не есць, пакуль чалавекам не зробіцца. Ды вось бяда: чым больш ваўкалак жыве, тым больш забывае, як назад у чалавека пераўтварыцца. І згаладалы доўга бывае, слабне надта. І больш забывае. То тады трэба ведаць словы асаблівыя. Як сустрэнеш ваўкалака нямоглага, сказаць іх, стане ён чалавекам, пакармі яго. Бо ён не вінаваты, што ваўкалакам яго зрабілі, лёс ягоны такі. Шкоды ж людзям ён не робіць, калі толькі хто зніч скрасці не захоча, тады ўжо міласціны не будзе. А як прападзе апошні ваўкалак, дык і зніч нячыстая сіла захопіць ці сам ён прападзе. А што ўжо з намі тады будзе — адзін Бог ведае. Без зніча роду нашаму не жыць... Праскоўя словы такія ведала, каб ваўкалака ў чалавека ператварыць, тое ўсе зналі, бо вядзьмаркай яна была. Карміла ваўкалака, а ён за гэта ёй розныя скарбы прыносіў. Адкуль скарбы? Дык як хадзілі раней людзі да

зніча, самае каштоўнае неслі, каб ім дапамог. Праваліўся зніч пад зямлю, і багацце тое з ім. Вось ваўкалак і цягаў яго да Праскоўі. Не дзіва, што сын яе разбагацеў. Казалі, пасля яе смерці і назусім з'ехаў у Амерыку ці куды... Ніхто сёння дарогу да зніча не ведае. Вось тое балота за намі — там, казалі лес сцяной стаяў, а ў тым лесе — гара вялікая. І на той гары — церам, у ім зніч гарэў. А як правалілася гара, стала балота. Ды такое Бог балота зрабіў, летам кроку не ступіш, зімой быццам лёд, а пад ім усё жывое, цёплае. Станеш — і няма цябе...

Бабуля замаўчала... Уражаныя, маўчалі ўсе, нават баба Зося не пабегла рабіць свае справы, як прыпынілася з першымі словамі маці, то і слухала далей.

— А як жа ваўкалак дарогу да зніча знаходзіў? — з павагай пацікавіўся Арцём, апусціў мабільнік, размяў руку — зацяклі мышцы, пакуль рабіў запіс аповеду бабулі Арыны.

— Ваўкалаку дарога вядомая. Ён па балоце, бы ты па цвёрдым, ходзіць.

— Дык ёсць дарога да зніча?

— Казала ж я: ад бацькі да сына пераходзіла ета... Ды вось, сёння згубілася. Памятаю, казаў мне татка, а яму — яго татка... Да зніча простым чалавекам не дойдзеш, трэба і змяёй пабыць, і зайцам.

— А ў які бок ісці?

— Тое не ведаю, а што ведаю, не патлумачу. Казаў татка, як прыйдзе таго чалавека век, то трэба прычакаць, калі апоўначы на Купалу з'явіцца воўк на небе і стане сляпое Воўчае вока на цвіку, дык ісці на левае вока. От табе ўсё, што ведала...

— А дзе раней вогнішча раскладвалі на Купалу?

— Як я дзеўкай была, дык на Курылінай гары, з яе да рачулкі колы скочвалі, а тыя колы паперад саломай абкручвалі, дзёгцем мазалі ды запальвалі. Было... і прайшло.

Бабуля змоўкла і прыплюшчыла вочы.

— Зрылі і Курыліну гару, і іншыя нашы горы,— уздыхнула побач бабуля Зося.— Гравій трэба быў, анягож...

— А Воўчае вока — то ж зорка на небе, так? А якая?

— Можа, і на небе. Ды ці ж быў мне час на неба глядзець, унучак? — уздыхнула бабуля Арына, не расплюшчваючы вачэй.— Не паказваў мне татка Воўчага вока. Ці я запамятавала, гэтулькі гадоў жыву,— ледзь чутна прамовіла яна.

Арцём хацеў яшчэ нешта спытаць, але Віталь шэптам спыніў яго:

— Прыснула яна... Стамілася. Столькі расказваць — ніколі раней так многа не гаварыла. Пайшлі. Чайнік пастаўлю, пап'ём, хто што захоча...

Гуртам зайшлі на веранду. Арцём ішоў апошнім. Твар яго быў настолькі прыгнечаны, што Яніна спалохалася:

— Ты што, Цёмка? Мо хто званіў? З Лерай што?

Арцём марудна падняў вочы на сяброў, пакруціў адмоўна галавой.

— Ніхто не званіў. Не ведаю...— і нечакана ці не закрычаў адчайна, з такім болем, што ажно вусцішна стала: — Дзікуны! Нацыя няздар! Ведаем назвы зорак на лацініцы, ведаем легенды старажытных грэкаў, а сваё — СВАЁ!!! — не ведаем!

— Ты чаго крычыш? — здзівіўся Віталь.— Нармальную казку табе бабуля расказала, будзе табе для справаздачы з экспедыцыі...

— Казку?! Казку?! — узвіўся Арцём, і было так дзіўна бачыць яго, заўсёды ціхмянага, дробнага, які паўсюдна ззаду, цяпер у цэнтры, узбуджаным і злым.— Ты пра зоркі ведаеш, ведаеш? Воўчае вока — якая зорка? Ды яшчэ сляпое і левае ёсць! Ну? Адну-адзіную Венеру ведаем, ды і тое дзякуючы літаратуры!

— Дык мо і то Венера,— ціха падказаў Стась.

— Не рабіце з мяне і сябе ідыётаў! Якая Венера, калі там зоркі, дык жа дзве, дзве!

Ён гатовы быў расплакацца ад бездапаможнасці і злосці на самога сябе і яшчэ незразумела на што. Усе маўчалі, не разумеючы прычыны адчаю хлопца. А як суцешыць ці супакоіць, калі не ведаеш, ад чаго ўсхадзіўся?

— Ціха тут! — усе разам з Арцёмам уздрыгнулі ад уладнага крыку Яніны.— Каму крычыш? Чаму крычыш? Сядзь і патлумач, усхадзіўся тут. А то зараз плюхну вадой з вядра, ахалодаеш!

— Во, Янінка, наводзь парадак,— рагатнуў Віталь.— Насамрэч, Арцём, давай без крыку. Калі што маеш слушнае — гавары. Не — ідзі за хлеў, там можна паплакаць і пакрычаць, на балота дзівячыся.

— Добра, я не буду,— буркнуў Арцём, сеў у кут на нізкі ўслончык, уваткнуў навушнікі ў дыктафон, пстрыкнуў ім.

Закіпеў чайнік, згатавалі чай і каву, Віталь дастаў пячэнне.

— Спадар прафесар, сядайце да нашага стала, не брыдзіцеся...— паўжартам запрасіла Яніна ў паклоне.

Нейкі час моўчкі сёрбалі, нарэшце Стась папрасіў:

— Дык чаго ты ўсхадзіўся, га? Ну казка ж... паданне!

Арцём, нібыта супакоіўшыся, кіўнуў, пракаўтнуў, адставіў кубак.

— Значыць, казка... Добра, я вам казку раскажу цікавую. Жылі-былі дзед і баба. І была ў іх курачка-раба. Знесла курачка яечка, не простае, а залатое. Дзед біў — не разбіў. Баба біла — не разбіла...

— Тут мышка бегла, хвосцікам махнула...— прадоўжыў Віталь.— Давай сур’ёзна.

— Ды калі ласка, зараз сур’ёзна будзем! Калі вы такія разумныя, калі ведаеце казку, вывучылі яе, дык адкажыце мне на пытанне: чаму гэта баба і дзед сталі плакаць, калі яечка залатое разбілася? Яны ж самі таго хацелі — разбіць яечка! — і Арцём па чарзе абвёў усіх позіркам.

— А цікава,— усміхнуўся Стась.— Сапраўды...

— Калі самі білі, дык, можа, на патэльню? — хмыкнуў Віталь.

— У казках не бывае лішніх слоў, як не бывае і таго, каб некуды словы трэба ўстаўляць,— жорстка парыраваў Арцём.— Далей: як з залатога яечка можна зрабіць яечню? Няма адказу? Добра... Мыш бегла. Чаму мыш? Чаму яечка не само ўпала, чаму ад хвосціка? Маўчыце, га? Добра, апошняе пытанне: чаму курачка-раба суцяшае дзеда з бабай не тым, што знясе ім новае яечка залатое, а новае і — простае?

— Кажы, не цягні,— не стаў чакаць Віталь.— Здаёмся.

— Добра, кажу. Мыш — хтанічная істота. Яна — жыхарка падзем'я, яна — нібыта госця з таго свету. Хвост мышы і змяя ў Бібліі, якая спакушае Адама і Еву,— падобныя. Адчуваеце аналогію? Ну, пра стварэнне ж свету ведаеце, пра выгнанне з раю? — Арцём з просьбай зірнуў на сяброў, уздыхнуў.— Добра, коратка так: Бог стварыў чалавека, з ягонага рабра — жанчыну, пасяліў іх у раі. Сказаў: «Рабіце што заўгодна, адно не ежце плода з аднаго дрэва, бо памраце». А тут змяя поўзала і сказала Еве: «Калі паспрабуеце гэты плод, дык будзеце ведаць дабро і зло, а не памраце». Ну, Ева паспрабавала — смачна, дала і Адаму. Паелі — і вочы іх адкрыліся, і зразумелі, што яны голыя... Схаваліся ад сораму. Бог даведаўся, што Адам і Ева парушылі ягонае вета, ды і адправіў іх на зямлю і сказаў: «Будзеце потам і кроўю цяпер зарабляць сабе хлеб, а ты, жанчына, будзеш з болем нараджаць дзяцей». Гэта Біблія...

— Дык падмануў, выходзіць, Бог, а змяя праўду сказала? — перапыніў Стась.

— Ну, калі падыходзіць з кантэксту, то так... Не памерлі Адам з Евай, але пачалі ведаць пра дабро і зло. Але, чакайце, не перабівайце, бо пачнём пра гэта — не хопіць дня і ночы. Вяртаемся да дзеда з бабай. Курачка знесла ім залатое яечка — гэта Бог даў людзям рай. А яны, неслухі,

пачалі той рай — тое яечка — разбіваць. І мыш хвосцікам ім дапамагла. І як Адам з Евай хаваліся ў сораме ад Бога і плакалі, што парушылі забарону, так і тут дзед з бабай плакаць пачалі. Бог адправіў людзей на зямлю — курачка знесла людзям другім разам не залатое, а простае яечка. Ну, як вам казачка дзіцячая? Вы цяпер будзеце пытацца, чаму яна столькі часу жыве? Ды ў нашых генах закладзена перадаваць веды пра стварэнне сусвету сваім дзецям! І перадаём, самі даўно згубіўшы сэнс!

— Афігець, Цёмка! — выгукнуў у захапленні Стась.— Без жартаў кажу! Насамрэч жа, каб была яна бязглуздасцю, хіба б захавалася? Дык што, у кожнай казцы такі сэнс глыбокі закладзены?

— Ды не ведаю,— зморшчыўся Арцём.— Вучоныя, якія фалькларам займаюцца, ведаеце, як над казкамі працуюць? Ага, вам толькі здаецца, што казкі — пустое, для дзяцей. Вось жа — пра курачку-рабу я вам казаў. А вось Кашчэй Бессмяротны — хто ён? Ну, казка пра тое, як Іван-царэвіч вызваляе Васілісу? Дык вось, Кашчэй — гэта паганства, язычніцтва. А Васіліса — Русь. А Іван — праваслаўная вера, хрысціянства. Вось так. А яшчэ колькі тут сімвалаў розных у тым жа яйку, у іголцы, у шчупаку, мядзведзю...

— Чакай-чакай,— перапыніў яго Стась.— Мы табе верым, ва ўсякім разе, я дык дакладна прымаю, што ў казках можа быць утоены сэнс. Дык расшыфраваць яго трэба. І гэта, чаго ты так усхадзіўся? Табе зразумелы сэнс казкі... ну, не казкі, аповеду бабулі Арыны пра той зніч і пра ваўкалака?

Арцём уздыхнуў са скрухай.

— Не таму, што сэнс незразумелы ці малазразумелы. Як нам выкладчык апавядаў, эпізод, дзе Бог загадвае нейкаму месцу пад зямлю праваліцца,— часта сустракаецца. Я так зразумеў, у бабуліным расказе гэтаксама пра барацьбу хрысціянства з паганствам вядзецца. Зніч, капішча,

служкі — гэта паганскае. А вось Бог адзін, да якога людзі звяртаюцца, царква — то ўжо хрысціянства. Бачыце, напачатку зніч і капішча — толькі добрае, а пад уплывам хрысціянства яно пачынае быццам несці зло, і людзі ўжо просяць новага, хрысціянскага Бога ім дапамагчы. Пад зямлю правалілася нешта — тое можа азначаць, што яно існавала доўгі час пасля забарону, магчыма, і пад зямлёй, схаванае ад хрысціян, ад царквы. Вы ж не думаеце, што нашы продкі адразу адмовіліся ад сваёй спрадвечнай веры, перахрысціліся і забыліся на Перуна і Грамавіцу... Ага, колькі вякоў свае святы паганскія праўлялі. Купалле вунь да гэтай пары дажыло. Ды хопіць. Мне ад іншага крыўдна: у гэтым паданні бабулі ёсць фактычны матэрыял — каардынаты месца і напрамак шляху. А мы не ведаем пра зорку! Ды і не ведаем нават, ці зоркі тут.

— Не ведаю я такой гары, як яе там? — зразумеў, пра што ідзе гаворка, Віталь.

— Курыліная. Гэта не страшна, распытаем, можа, хто помніць. Ды і месца для купальскага вогнішча зазвычай вякамі ў адным месцы знаходзіліся.

— То тады знеслі нашу гару,— падумаўшы, сказаў Віталь.— Бабуля Зося дакладна сказала: яшчэ я малым быў, тут гады тры экскаватары працавалі, пясок адсюль вывозілі. Гэта з вёскі ў бок шашы трэба ісці. Поле там роўнае даўно.

— Не бяда, адшукаем у сеціве старыя карты — там павінна быць на мясцовасці хоць нешта пазначана. Ведаю рэсурс, дзе ўсе мясціны,— усхапіўся Стась.— Зараз жа і пачну. А ты, Цёмка, пашукай сваё Воўчае вока. Ну, няўжо ў сацыяльных сетках няма вучоных тваіх?

— Ды могуць быць,— уздыхнуў Арцём.— Мірон Сяргеевіч не адказвае чамусьці. Зараз буду шукаць.

— Во, займіцеся справай,— узняўся з месца Віталь.— А мы тут прыбяромся пакуль...

Праз паўгадзіны вынікі былі і ў Стася, і ў Арцёма. Стась знайшоў зручны сэрвіс, дзе можна было супастаўляць кропкі на спадарожнікавай карце, яны аўтаматычна пераносіліся на выяву старой карты.

— Гэта так званая «вярстоўка», ваенная карта. Тут усе больш-менш значныя вышыні пазначаныя. Вось вёска, балота, рачулка, а вось урочышча Курылец пазначана, вось і гара, без назвы, але самая вялікая, да таго ж супадае з бабулінымі словамі — блізка рачулка, куды скочвалі колы... І ўрочышча аднайменнае побач. Вось яна тут дакладна, памецім.

— Ну, з адным разабраліся, галавастыя! — ухваліў Віталь.— А ты чаго сумны, Цёмка?

— Будзеш тут вясёлы,— уздыхнуў Арцём.— Ва ўсім, дзе здолеў знайсці нешта воўчае, ёсць толькі Воўчая зорка.

— Дык вось жа! Выдатна!

— А што выдатнага, калі Воўчая зорка толькі адна, а нам трэба Воўчае вока сляпое і яшчэ адно вока — левае?

— Можа, сузор'е Ваўка якое? — прапанаваў версію Стась.

— Можа! Але ж ці не ўсе артыкулы, і вялікія і малыя, паўтараюць адзін аднаго! Некалькі сузор'яў, пара зорак, Месячык, Сонца і адзіная планета — Венера! І вось на Венеру пішуць, што яна — Воўчая зорка! От такая ў нас навука! Кажу ж, грэкаў з рымлянамі вывучылі, экзамены па тых міфах здаём, а пра сваё — так, каўзануліся на факультатыве і надзейна забыліся.

— Чакай, а калі побач з Венерай, якая завецца Воўчай зоркай, у гэты час на небе яшчэ нейкая зыркая? Тады атрымаецца — быццам вочы свецяць!

— Не ведаю... Карту неба трэба шукаць.

— Знойдзем. Наперад пайшлі ў бабулі яшчэ папытаем,— прапанаваў Стась.— Як яна Венеру называе...

Так і зрабілі.

— Бабуля Арына, а як вы называеце зорку, якая першая на небе пасля заходу сонца з'яўляецца?

— Дык Вечарніца гэта,— не задумваючыся адказала бабуля, пазіраючы з цікавасцю на моладзь.

— А яна ж і раніцай гарыць і апошняй згасае, так?

— Не, унучак, раніцай то ўжо іншая, то Божая памашніца нам свеціць удзень...

Прыселі на лаўку, нават крыху збянтэжаныя. Стась унурыўся ў ноўтбук, нешта шукаў, разглядваў.

— Не, не можа быць Венера тым Воўчым вокам,— уздыхнуў ён праз хвіліну.— Вось тут інтэрактыўная карта зорнага неба. Венера побач з Сонцам заўсёды. Ноччу, тым больш апоўначы, яе не відаць на небе.

— А сузор'е Ваўка ёсць? — ажывіўся Арцём.

— Ёсць... Але яно нябачнае ў Беларусі, сузор'е паўднёвай часткі неба,— з жалем канстатаваў хутка Стась, зрабіўшы некалькі запытаў.— Ды слухай, як там яшчэ Венеру называлі ў тваіх кніжках, каб мне не гугліць? Тут во бабуля адразу дзве назвы дала — Вечарніца і Божая памашніца. Ты казаў пра Воўчую зорку. А яшчэ?

— Дык жа па-рознаму... І Мядзведзіца, і Ведзьма, і Чараўніца... А што з таго?

— Падумаў: калі ў нас у розных месцах па-рознаму ўсё завуць, дык мо мае сэнс пакапацца ў кнігах ды пашукаць пра якую пару зорак асаблівую... Можа, у якога даследчыка ёсць такая пара, ды завецца па-іншаму?

— Ды я думаў, што варта не толькі артыкулы ў сеціве зірнуць, а кнігі глянуць. Зрабіў сабе выпіску аўтараў, кнігі якіх не выкладзены... У бібліятэку трэба.

— А ў чым праблема? То едзь.

— Ды праблема... На апошнія грошы макаронаў накупляў, а карткі не браў з сабой, то пазваніў бы бацьку...

— А спытаць у нас не спрабаваў? — нечакана зазлаваў Віталь, які дагэтуль адно слухаў у паўвуха, не ўмешваўся

ў размову.— Быццам ты лялечку для сябе збіраешся купляць. Зараз спытаю ў бабулі Зосі, пазычым у яе рублёў трыццаць — і ляці на Мінск. Пасля разбяромся. Аўтобус праз паўтары гадзіны туды пойдзе.

— Я загадзя паглядзеў расклад...

— Стратэг,— усміхнуўся Віталь, дадаў: — Я не разумею, нашто вам тая зорка, гара, але я вам абодвум давяраю. Вы мне той шлях намалюеце, я пайду і вас павяду. Збірайся! Начаваць ёсць дзе?

— На вакзале пераначую. Наўрад ці сёння хутка спраўлюся — мала засталося часу. Яшчэ заўтра буду сядзець.

— Тады спытаю ў бабулі трыццаць рублёў. Заўтра чакаем вечарам. Не адшукаеш нічога — вяртайся ўсё адно, будзем далей думаць.

## 10. Арцём

Бабуля Зося намервалася сабраць ды ўсунуць Арцёму ў заплечнік хоць які бутэрброд, угаворвала перахапіць чаго, ды ён аднекваўся. А дарэмна — праз гадзіну язды ў аўтобусе засмактала пад лыжачкай. Падумаў, што на прыгараднай аўтастанцыі павінен быць нейкі буфет ці кіёск, схопіць хот-дог ды з’есць, пакуль дойдзе да станцыі метро. Паўгадзіны — і ён у бібліятэцы. Білет каштуе нямнога. Яшчэ ёсць час да дзевяці гадзін вечара — раптам яму пашанцуе? Толькі вызначыцца са спісам кніг, якія найперш замаўляць. Мабыць, самыя раннія выданні...

Каб не думаць пра ежу, Арцём стаў згадваць экспедыцыю — самае балючае для яго. Зусім не таму, што прапала Лера, то не балела болем, то лягло бядой, якую трэба было выправіць. Ад іншага балела.

Калі Мірон Сяргеевіч паведаміў у дэканат універсітэта аб надзвычайным здарэнні — прапажы студэнткі, калі

пачулі загад: не марудзячы, вяртацца ва ўніверсітэт, тады Арцём уголас выказаў свае сумненні адносна таго, што Лера магла з некім паехаць у невядомым ім кірунку. На яго паглядзелі як на падлетка-летуценніка. Ён разгарачыўся, пачаў крычаць — і такім яго аднакурснікі бачылі ўпершыню. Нават Мірон Сяргеевіч здзіўлена пазіраў на заўсёды ціхамірнага, самага дробнага з хлопцаў, студэнта, які раптам кінуўся ці не шалёна даказваць: Лера не мела таемных сяброў, не кахала таемна некага, яна ніколі б не падвяла іншых, тым больш выкладчыка, і яго, Арцёма, бо яны давяралі адно аднаму! А калі яны зараз пойдуць адсюль без Леры, калі не будуць шукаць Леру тут — яны здраднікі, яны — баязліўцы, яны — подлыя!

Можа, выкладчык Мірон Сяргеевіч сказаў бы тады што іншае, каб пасля крыку Арцёма не прагучаў з'едлівы, са шкадобай, голас:

— Яшчэ адзін рамантык закаханы! Лепш бы глядзеў за сваёй сімпатыяй, дык не збегла б!

Арцём замаўчаў, бы спатыкнуўся, раптоўна зразумеўшы: ніхто не ўспрымае ягоныя словы хоць трошачкі сур'ёзна. Ён разгублена азіраўся, але паўсюль натыкаўся на насмешлівыя позіркі, а недзе — і на амаль грэблівыя: маўляў, хто ты такі, каб усіх асуджаць?

Сітуацыю па-свойму патлумачыў Мірон Сяргеевіч:

— Калі ты быў бліжэй да Леры, чым усе астатнія, дык павінен быў бы ведаць больш пра яе намеры і планы... Збіраемся!

Калі вярнуліся ў Мінск, Арцём паехаў не на цэнтральны вакзал, каб браць білет ды ехаць дадому, а вярнуўся на прыгарадную аўтастанцыю. Адтуль патэлефанаваў сваім бацькам, што ў яго ўсё ў парадку, каб не хваляваліся з-за навін у інтэрнэце: дарэмныя хваляванні, знойдзецца дзяўчына, міліцыя высветліла, што яна з некім з'ехала. А іх экспедыцыя працягваецца, мабыць, яшчэ і будзе пра-

доўжана з-за таго, што яны былі вымушаны спыніцца на пошукі ды хваляванні. Яшчэ напісаў у месенджары дваім хлопцам з іх экспедыцыі аб сваім рашэнні, але адзін не адказаў увогуле, а другі коратка кінуў: «Як хочаш».

Ды найбольшы боль быў ад слоў выкладчыка. Балела таму, што і ён, дарослы мужчына, які павінен хоць трохі разбірацца ў людзях, вырашыў, што Лера збегла. Божа, ды Лера — дзіця кволае! «Кніжнае дзіця»,— як аднойчы лагодна назваў яе ён сам, выкладчык. Лера — зусім не прыстасаваная да жыцця дачка настаўнікаў з райцэнтра. Але яна... Яна навучыла Арцёма за паўгода іх знаёмства любіць сваё. «Вось ты зайздросціш грэкам, італьянцам, што ў іх такая цікавая спадчына, такія легенды? А ты палюбі сваё! Бо ж ёсць што любіць! І калі палюбіш сваё, пачнеш проста паважаць чужое. Не зайздросціць іншым — а паважаць. Калі любіць сваё, тады так проста прыняць любоў іншага чалавека да ягонага свайго. І пачаць паважаць гэтага чалавека. А ён будзе паважаць цябе. Хто ўмее любіць — той умее паважаць»,— сцвярджала яна і расказвала безліч усяго з беларускай этнаграфіі, чаго не чуў Арцём на лекцыях. Адкуль яна ведала столькі? Аднойчы на лекцыі Мірона Сяргеевіча яна пачала пярэчыць яму наконт выявы шасціпялёсткавай кветкі на вільчыку хаты — і той, напачатку саркастычна ўсміхнуўшыся, дазволіў ёй выказацца напоўніцу. А пасля запрасіў у экспедыцыю. Пасля лекцыі, якая была ў іх апошняй, яны цэлых паўгадзіны заставаліся ў аўдыторыі, і Арцём быў сведкам размовы двух людзей, адзін з якіх меў сістэматызаваныя веды, вопыт акадэмічнай працы, а другі — шчырую любоў да свайго, радзіннага, пэўную разгубленасць перад той гарой розных цікавостак, што адкрыліся ёй і адкрываюцца. Яны размаўлялі амаль як роўныя, бо галоўнае, што было ў іх абаіх, што ўраўноўвала выкладчыка і студэнтку-першакурсніцу,— любоў да этнаграфіі. Розніца была толькі ў тым, што Лера не ведала,

куды скіраваць свае пачуцці. Мірон Сяргеевіч за кароткія хвіліны размовы паказаў ёй і Арцёму шлях у сістэму, якая б усё знойдзенае і адкрытае пераўтварыла ў магутны падмурак духоўнага жыцця, умацоўвала б яго.

Лера баялася ісці ў экспедыцыю — была, апроч іншага, хваравітая, ёй начаваць у намёце пасля аднаго няўдалага вопыту яшчэ ў школе было страшна. Арцём угаварыў, пабяцаўшы, што і спальнік знойдзе адмыслова для яе, і дыванок добры здабудзе. Бацькі адпусцілі Леру. Яны ўжо былі перадпенсійнага веку, вельмі позна ажаніліся, таму ніколі не пярэчылі яе жаданням. Што праўда, Лера многага і не патрабавала ад іх. «Я сказала ім, што ў мяне будзе асабісты целаахоўнік,— пажартавала Лера.— І яны згадзіліся мяне адпусціць. Пасля экспедыцыі паедзем да мяне ў госці, то ж якраз па дарозе да твайго дому, пакажу, хто мяне ахоўваў». Арцём засаромеўся вельмі: які з яго ахоўнік? Не ўдаўся ні ростам, ні моцай...

Можа, і добра, што не згадзіліся застацца тут ягоныя сябры, што адмаўчаўся выкладчык — у яго зараз ёсць таварышы, якія гатовы з ім шукаць Леру, раскрыць таямніцу іх вясковага пярэпалаху. Хай будзе так...

Аўтобус спыніўся. Яшчэ з акна яго Арцём прыкмеціў кіёск, ля якога была пара столікаў — там пілі піва мужчыны. Але вунь мажная цётка купіла свайму сыну, тоўсценькаму і няўклюднаму, ход-дог і бутэльку колы. Той адразу ж пачаў кусаць гарачую булку, і па барадзе пацёк чырвоны соус. Арцём здрыгануўся: як кроў...

Закінуў рукзак на плячо, падышоў да акенца кіёска, дастаў з кішэні пяцьдзясят рублёў адной навюткай купюрай, якую дала бабуля Зося,— сказала, што меншых няма, а рэшту прывязе ды аддасць.

Прадавец пакасілася на купюру, але змаўчала, адно ўважліва паглядзела праз яе на святло, памацала пальцамі. Выдала спачатку рэшту, пасля маленькую бутэльку колы і

хот-дог. Ля высокага століка Арцём прыпыніўся, адкаркаваў колу, зрабіў пару глыткоў. Кінуў бутэльку ў заплечнік, адкусіў кавалак булкі з сасіскай, рушыў у напрамку станцыі метро.

— Ты мне дапаможаш?

Дзяўчына гадоў васямнаццаці ці больш з'явілася ля Арцёма бы з паветра. Ён уздрыгнуў ад нечаканасці — вось жа нікога побач не было, і на табе — дзяўчына з сумкай ля ног. Апранутая ў шорты і кароткую майку-топ, зусім як Яніна там, у вёсцы. Ды Яніна зусім дзяўчо, а ад гэтай ажно патыхае хваляй здаровай пачуццёвасці, і вопратка не столькі хавае цела, колькі падкрэслівае яго прывабнае хараство.

— Тут недалёка, паднесці сумку... Калі ласка,— усміхалася напамаджанымі вуснамі дзяўчына. Круглы твар, валасы цёмныя, доўгія, хвалістыя. Вочы глядзяць з усмешкай. Дзяўчына, канешне ж, здагадалася, што нарабіла сваім нечаканым з'яўленнем перад хлопцам, маладзейшым за яе ды яшчэ такім во... ніякім.

— Дык канешне, канешне! — нарэшце адрэагаваў Арцём, нагнуўся, каб падняць сумку, але дзяўчына адну лямку сумкі ўжо ўзяла сама:

— Цяжкая вельмі. Тут кнігі. А мне вунь туды, напрасткі... тры хвіліны! Мама не хоча сюды заязджаць, гэтакі рух заўсёды, ды яшчэ святлафор так працуе, што рызыкуеш прастаяць паўгадзіны мінімум,— тлумачыла дзяўчына, кіруючы ад аўтастанцыі да купкі дрэў і кустоўя.

Трымаючы адной рукой сумку, Арцём забыўся, што ў другой двойчы адкусаны ход-дог, а кетчуп з маянэзам пачалі выцякаць на руку, ды ён трываў.

Тут і сцежкі не было, але дзяўчына ўпэўнена вяла між дрэў, наперадзе віднеўся насып дарогі. Арцём паспеў яшчэ падумаць, як стала зацішна: кусты і дрэвы схавалі дарогу і будынкі. Яны якраз праходзілі нібы ў варотах між кустоў,

як дзве рослыя постаці хлопцаў раптоўна ўзніклі па баках. Дзяўчына кінула сумку, тая балюча стукнула Арцёма па назе. І тут жа абедзве рукі Арцёма вышэй запясцяў і локцяў нібыта абцугамі сціснулі, закруцілі за спіну. Далонь, ад якой моцна тхнула тытунём і нечым яшчэ непрыемным, накрыла ягоны рот.

— Ціха, хлопчык, ціха. І будзеш цэлы,— з’едліва-ветліва папярэдзіў голас над галавой.

Страх паралізаваў і не даваў ажыць ніводнай думцы. Дзяўчына памкнулася да яго, у наступны момант яе тонкая рука апынулася ў левай кішэні джынсаў — там ляжала рэшта з пяцідзесяці рублёў.

Праз імгненне ўсе зніклі.

Арцём няўцямна азірнуўся. Ля ног ляжала тая самая сумка, якую ён дапамагаў несці. Ён нахіліўся і расшпіліў замок-маланку. Сапраўды, кнігі. Старыя. Мабыць, з нечае бібліятэкі, магчыма, і выкінутыя на сметніцу. Каму сёння будзе цікавае «Былое і думы» Герцэна? Арцём выцягнуў кнігу з сумкі, заўважыў, што левая рука, выпацканая ў ружова-белае месіва, усё яшчэ трымае хот-дог.

Апусціўся на траву побач з сумкай. І толькі цяпер яго накрыла, бы хваляй гарачай вады, разуменне таго, што адбылося. Ён быў абсалютна бездапаможным у руках некага. Яго абрабавалі. А ён…

Кусаў халодную булку з сасіскай, жаваў і глытаў разам са слёзамі, якія цяклі бязгучна з вачэй, не спыняючыся. Арцём сам не разумеў, як так адбываецца, чаму ён плача, але не хацеў задумвацца над гэтым. Проста пасядзець, з’есці гэты пракляты хот-дог… Еў, каб толькі стрымаць рыданне, якое рвалася з грудзей. Піў колу, пачало трэсці. Абліўся, адкінуў бутэльку з напоем убок. Абцёр рукавом твар і вочы. Падняўся, зірнуў на сумку. Шавяльнуўся жаль да кніг. І тут жа падумалася: а яны ж вернуцца, забяруць сваю сумку, зацягнуць да аўтастанцыі, і зноў тая краля

звернецца да падобнага на Арцёма лоха з просьбай аб дапамозе. Злосць здушыла — хапануў кнігу і далёка кінуў за кусты, выцягнуў другую, трэцюю, раскідваў як мага далей, не гледзячы, пасля схапіў пустую сумку і пабег назад да аўтастанцыі, да ратавальнай дарогі. Кінуў ношку ля сметніцы.

Ногі самі вялі яго да станцыі метро, злосць саступіла месца адчайным развагам: што рабіць далей? Тэлефанаваць няма каму — бацькі далёка адсюль, як перададуць грошай? Ды яшчэ маці, урач раённай бальніцы, крыўдуе на сына, што не паслухаў яе, не пайшоў у медыцынскі. Яна валявая, лічыць, што бацька са сваёй мяккацеласцю загубіў характар сына. Бацька даў бы грошай, ды ж ніколі іх не мае — ягоная зарплатная картка ў маці. Маці не дасць. Яна распытае вельмі падрабязна: колькі, навошта, дзеля чаго, хто верне патрачанае? Пасля скажа: кожны павінен займацца сваёй справай. Гэта значыць, нечага сядзець у той вёсцы — шукаць Леру павінны праваахоўнікі.

Сярод аднакурснікаў-мінчукоў такога сябра, да якога б можна было звярнуцца па пазыку, няма. Вось няма — і ўсё! Адзін курс навучання, мала часу, каб добра даведацца адзін пра аднаго, дый як моцна самі яны мяняюцца за год...

Хто застаецца? Выкладчык. Што праўда, Арцём ніколі не злоўжываў тым правам, якое даў усім Мірон Сяргеевіч,— тэлефанаваць яму ў любы час па любой патрэбе. Ведаў, многія карысталіся. І літаратуру патрэбную прасілі, і іншыя пытанні задавалі. Адзінае, што мог Арцём,— напісаць у Вайбер, тое таксама дазволіў выкладчык. Але ж у месенджары ён не адказаў. Можа, не выходзіў у сеціва. Тады — званіць. Апошні шанец. Грошай — капеек — на дзве паездкі на метро. А станцыя метро — вось. Дзе жыве выкладчык? Пасля пра гэта...

Паток людзей кіраваўся пад зямлю, быццам мноства раўчукоў злівалася ў адной вялікай прорве. Арцём адышоў

як мага далей: яму падалося, што і яго зараз зацягне ў гэты вір і панясе...

Ён лічыў гудкі, памятаючы правіла ад маці: калі чалавек не адказаў на пяты гудок, спыні выклік. Не спыніў. Шосты гудок перарваўся знаёмым голасам:

— Алё, слухаю!

— Мірон Сяргеевіч, добры дзень! Гэта Арцём Мікуліч. Прабачце, што турбую, мне больш няма да каго зараз звярнуцца. Я ў Мінску, мне трэба ў бібліятэку, пашукаць там... У мяне няма грошай. Толькі на метро. А мне вяртацца яшчэ...

— Хвілінку...— відавочна, выкладчык пераварваў інфармацыю.— Прабач, магу я пацікавіцца: што ты там збіраешся знайсці і чаму так тэрмінова? Куды табе вяртацца? Дадому?

— Нам трэба ведаць, якую зорку старажытныя беларусы называлі Воўчым вокам.

— Нечакана... А нам — гэта каму? І што дасць назва?

— Мне і тром сябрам. Назва дасць кірунак шляху.

— Загадкава гаворыш. Ці не можаш сказаць усёй праўды?

Арцём прамарудзіў секунду, хутка і дакладна, робячы паўзы між сказамі, адказаў:

— Мы шукаем Леру. Я па-ранейшаму ўпэўнены, што яна недзе ля той вёскі. Ёсць доказы таго, што ля вёскі адбываецца нешта незвычайнае. Бабулька адна распавяла пра ваўкалака, які жыве на балоце. Я запісаў на відэа. Бабуля сцвярджае, што ёсць дарога туды. З гары, на якой раскладвалі вогнішча на Купалле, у тую ж ноч трэба ісці на зорку, якая завецца Воўчым вокам. Там дзве зоркі, ну, воўчыя вочы. Ісці трэба на левае. Мы адшукалі гару і можам у любы час пракласці вектар, але не ведаем, на якую зорку.

— Дык ты не паехаў дадому? — ціха спытаў выкладчык.

— Не,— адказаў Арцём так, каб болей пра гэта не пыталіся.

— Мне ўсё зразумела, хоць нічога не зразумела...— уздыхнуў Мірон Сяргеевіч у трубцы.— Ты калі вяртаешся назад?

— Буду сядзець сёння да закрыцця, заўтра бліжэй да апоўдні аўтобус туды.

— Зможаш пад'ехаць да мяне?

— Дык... а грошы?

— Я ў бальніцы зараз, Арцём,— адказаў выкладчык і адразу ж загаварыў цвёрда, каб ягоная навіна не паспела аформіцца для Арцёма ў прыкрую безнадзейнасць: — Едзь да бібліятэкі, чакай там ля галоўнага ўвахода. Цябе сустрэнуць, перададуць. Калі можаш, прыедзь, калі ласка, пасля...

— Добра!

Праз паўгадзіны Арцём цярпліва таптаўся ля ўвахода ў бібліятэку, не верачы да канца ў тое, што атрымалася з ягонага званка. Адна з жанчын, што ішлі міма, запаволіла хаду, глядзела на яго. Арцём зірнуў на яе твар, і яна, ужо ўпэўнена трымаючы свой позірк на ім, падышла.

— Вы Арцём?

— Так...

— Мяне завуць Кацярына Віктараўна, я жонка Мірона Сяргеевіча. Вось грошы.— Яна дастала с сумачкі кашалёк, працягнула купюру.— Мірон Сяргеевіч пытаўся, дзе ты збіраешся начаваць.

— Я... пакуль не думаў,— унікнуў Арцём адказу.

— Зразумела. Тады мы прапануем спыніцца ў нас. Мірон Сяргеевіч вельмі просіць. Ты збіраешся быць да закрыцця сёння?

— Так.

— То мо закончыш на сёння на гадзіну раней? Скажам, у восем я буду чакаць цябе, мы на машыне пад'едзем да

Мірона Сяргеевіча, а раніцай я падвязу цябе зноў сюды. Як табе?

— Добра,— кіўнуў Арцём, каб хутчэй пайсці ў бібліятэку, бо ў гэтыя хвіліны пачуваўся вельмі няёмка. Вось: далі грошай, дык цяпер і ўмовы нейкія…

— То запішы нумар майго тэлефона, каб нам не згубіцца.

З моманту, калі Арцём зайшоў у бібліятэку, да таго, калі разгарнуў першую замоўленую кнігу, прайшло паўгадзіны. Прысеў да стала, пачаў гартаць, ліхаманкава праглядваў старонкі — вось жа, вось тут павінна быць! Спадзеў, што менавіта цяпер яму трапіцца на вочы радок з тлумачэннем «Воўчага вока», пачаў знікаць на трацiне кнігі. Арцём імкнуўся не прапускаць старонак, нават калі тэкст быў зусім не пра зоркі. Гэта замаруджвала працэс прагляду, тым больш што нейкія сказы ўражвалі незвычайнасцю, навізной прачытанага — міжволі спыняўся на сказах, ужо чытаў удумліва. А час не бег — ляцеў. Астатнія старонкі прымусіў сябе праглядваць па дыяганалі — часу не хапала.

— Выгляд не самы радасны,— падтрымала Арцёма спагадлівай усмешкай жонка выкладчыка, калі ён выйшаў з бібліятэкі і падышоў да яе. Едзем у бальніцу да Мірона Сяргеевіча? — жанчына зірнула запытальна.

— Канешне, едзем.

Мірон Сяргеевіч у спартыўным касцюме чакаў іх у бальнічнай альтанцы. Нявесела ўсміхнуўся, падаў руку, пацiснуў хлапечую — усё неяк павольна, не характэрна для яго.

— Сядайце… Во бачыш, Арцём, быццам здаровы, як кажуць нашы людзі, толькі касой махаць, а не ўтрымаўся на нагах. Сціснула, паветра не хапала. Паклалі во эскулапы, паўдня пад кропельніцай… Расказвай. Наперад прабачэння прашу. У цябе. І здаецца, трэба будзе прасіць у Леры…

— Яе яшчэ знайсці трэба,— буркнуў Арцём — яму было ніякавата з-за выбачэння выкладчыка.

— Можаш падзяліцца? Што там у вас?

Арцём думаў: з чаго пачынаць? Пасля вырашыў расказваць усё, як ёсць. Урэшце, чаму ён павінен нешта ўтойваць ад выкладчыка? Таму пачаў з сустрэчы з Віталем, Стасем і Янінай. Расказваў пра скрадзенае мяса невядомай істотай, пра расказ былога вайскоўца, пра іх паход на базу і сустрэтых там міліцыянераў, пра знаходку логава: «А бабуля Арына, выходзіць, не меле языком абы-што!» З ноткай гонару расказаў пра запіс бабулінага аповеда пра зніч і ваўкалакаў.

Мірон Сяргеевіч слухаў, уражаны і ўважлівы да кожнага слоўца. Узрадаваўся, калі Арцём сказаў, што зрабіў відэазапіс бабулі. І яны разам тут жа слухалі і глядзелі нетаропкі аповед старой.

— Неверагодны запіс, малайчына,— ухваліў выкладчык.— Пазней выкладзі на паперу, у новы зборнік уключым... Так,— паляпаў пальцамі па коўдры.— Значыць, калі ў вас будзе кірунак, вы пойдзеце шукаць той правалены пад зямлю церам?

— Нічога іншага не застаецца,— паціснуў плячыма Арцём.— Гэта хоць нейкая зачэпка. Іншых няма...

— Я цябе папрашу — ты мне пра ўсё-ўсё пішы, добра? Зараз я да сеціва падключуся, будзем на сувязі. Можа, нечым дапамагу. Паспрабую ўставаць, мо расхаджуся...

— Супакойся, Мірон! — паўшчувала ягоная жонка, якая ўвесь гэты час сядзела на крэсле ля акна.— З сэрцам не жартуюць. Крок да інфаркту...

— Ат,— паморшчыўся, як ад кіслага, выкладчык, звярнуўся да Арцёма: — Вось пра што скажу. На жаль, сапраўдных даследчыкаў ва ўсе часы было мала. Таму і атрымліваецца так: звесткі з адной кнігі перапісваюцца ў іншую. Добра яшчэ, калі аўтар нешта дадае сваё, нейкія

асаблівасці, новыя словы, тлумачэнні. Але, на жаль, так не заўсёды. І вось яшчэ якая бяда: у нас язычніцтва не стала дзяржаўнай рэлігіяй у тым сэнсе, якой была рэлігія ў Рымскай імперыі ці Грэцыі. Вось таму такая невядомасць, таму такі няпэўны, а часам і спрэчны наш беларускі пантэон. Адсюль жа і іншае: малы арэал выкарыстання тых ці іншых астронімаў, тапонімаў. Як кажуць, што ні сяло, то звычай. Таму недзе Венера — Вечарніца, а недзе — Воўчая зорка ці яшчэ як. Мне, на жаль, нідзе не сустракалася аповеда, каб там фігуравала Воўчае вока. Не думаю, што недзе зафіксавана, бо ў свой час чытаў такія кнігі... Але не адчайвайся, нават калі не знойдзеш у кнігах. Бо, звярні ўвагу: размова ж ідзе не пра звычайнае грыбное месца, а пра вельмі сакрэтны аб'ект. Таму і інфармацыя пра яго месцазнаходжанне можа быць максімальна зашыфравана. Трэба падумаць, тут ніводнага слоўца няма выпадковага...

— Як у казках,— уставіў трохі засмучаны Арцём.

— Так, як у казках,— кіўнуў выкладчык.— Кожнае слова мае сэнс. Таму раю прайсціся па вёсцы, распытаць старых жыхароў: можа, нехта скажа пра Воўчыя вочы на небе. Ці хоць пра адно вока...

Арцём млява аднекваўся ад прапановы начаваць у кватэры выкладчыка, яму было вельмі няёмка ехаць да незнаёмай жанчыны, вячэраць там, мыцца, класціся спаць...

— Слухай, Арцём. Вось калі не прывядзі бог, з табой нешта здарыцца на тым вакзале, як мне далей жыць, не ведаеш? — ціха спытаў, як выклаў свой галоўны і апошні козыр выкладчык, і Арцём у гэты момант зразумеў усё тое, што адчуваў, што перажываў мужчына: на ягоным сумленні — жыццё Леры. Калі яна не знойдзецца — хто і што можа зняць з яго пачуццё віны?

Кацярына Віктараўна павяла сябе з Арцёмам быццам са сваім малодшым братам — гэтак проста ў яе атрыма-

лася, і праз колькі хвілін у чужой кватэры ён пачуваўся больш-менш нармальна.

Клаўся спаць, тушыў святло, у вачах скакалі радкі і літары, пасля — зоркі на небе. Думаў, не зможа заснуць, ды стома ўзяла сваё — у нейкі момант ён нібыта праваліўся ў той зорны свет...

Раніцай ён стаў развітвацца з Кацярынай Віктараўнай.

— Чакай, у мяне сёння вольны дзень. Я завязу цябе на аўтамабілі, як ты закончыш,— паведаміла жанчына як аб даўно дамоўленым, і Арцём не змог запярэчыць. Мабыць жа, яны — выкладчык і ягоная жонка — гэтаксама хочуць хоць нешта зрабіць. Няхай і ілюзорная надзея на тую справу.

Учарашняя размова з выкладчыкам трохі суцешыла Арцёма, настроіла на магчымае паражэнне ў пошуках, таму наступныя дзве кнігі ў бібліятэцы хлопец праглядваў без учарашняга хвалявання. Ён быў гатовы да паражэння. Апоўдні ён хацеў спыніцца — галава пачала кружыцца ад бесперапыннага сачэння вачамі па радках, ды і есці захацелася, але заставалася прагледзець яшчэ адну кнігу. Без асаблівай надзеі Арцём замовіў яе, хутка пачаў гартаць. Раззлаваўся: кніга была дакладнай кампіляцыяй з іншых кніг, ён у розных месцах сустракаў знаёмыя цытаты. І нават сама пабудова была цалкам падобнай. І хоць настрою ніяк не было — вяртаўся з пустымі рукамі, ды сумленне не мучыла — зрабіў усё ад яго залежнае.

Кацярына Віктараўна папрасіла Арцёма дапамагчы ёй зрабіць пакупкі — спыніліся ля сеткавіка. Ён каціў цялежку, яна клала прадукты, прыпынілася ля напояў:

— Што вам лепш узяць: колу, спрайт ці яшчэ нешта?

Арцём зірнуў на яе:

— Вы гэта нам купляеце?

— Канешне. Дык што вы любіце?

— Ды без розніцы. Там простая вада смачная. Неяк і не п'юцца ніякія колы...— пацiснуў ён плячыма.

# 11. Трыумф і паражэнне

Стась раніцай шыбаваў у вёску. Званок ад Яніны застаў яго на паўдарозе:

— Можа, ты яшчэ спіш? — адразу спытала Яніна.

— Ды не, іду да вас.

— А слухай, ты ў руках сякерку можаш трымаць?

— Не, я прынцыпова нічога цяжэйшага за камп'ютарную мышку падымаць не збіраюся.

— Вой, не псіхуй толькі,— апраўдалася дзяўчына.— Бабуля сама збіраецца ісці за гарод, там кустоўе вялікае, хоча дручкоў павысякаць, бо фасоля паперла ўверх, старыя калкі паламаліся ды і не хапае. А яна ж ледзь ходзіць, ногі хворыя. А сякера сапраўды не мыш. Зможаш?

— Змагу,— з усмешкай у думках адказаў Стась. От ты скажы, і пакрыўдзіцца хочацца на Яніну, а разам з тым разумееш, што нічога крыўднага яна не гаворыць. Кажа, што думае.

— А ты снедаў? — пацікавілася Яніна.

— Не хвалюйся, сыты.

Бабуля Наста, распаўнелая, няўклюдная ў рухах з-за тоўстых, як стаўбуры, ног, якія перастаўляла з цяжкасцю, зірнула на Стася, ацэньваючы, працягнула невялікую сякеру.

— Акуратна глядзі, бо ўчора Мікіта нагастрыў. Ды дубчыкаў мне не трэба ў палец, і каб доўгіх. Зірні на агарод, якія там... Ды не баўцеся доўга, Янінка!

Не зразумець было, навошта сказала апошнія словы бабуля Наста, быў у іх нейкі прыхаваны падтэкст. Непрыемны? Можа, і так. І толькі калі Стась і Яніна выйшлі за агарод, прайшлі праз лужок, перабраліся цераз плыткую канаву і ўступілі ў зараснік кустоўя, дзе траплялася і вялікія вольхі, асіны, бярозкі, Стась зразумеў папярэджанне: тут было вусціішна. Яніна мо інстынктыў-

на трымалася бліжэй да яго — месца насамрэч не было гасцінным і светлым.

Стась выглядзеў вялізны куст, у якім было некалькі вартых, на яго позірк, галін.

— То і не будзем далёка хадзіць...

Сякерка сапраўды была вострая і зручная — мяккае дрэва паддавалася з аднаго ёмкага ўзмаху. Яніна выцягвала галіны і складвала на вольным месцы між копнаў кустоў.

Спакваля вусцішнасць знікла, дый сякерка ў руках, упэўненыя ўзмахі дадавалі ўпэўненасці ў сабе — няма чаго ім баяцца. І замест страху ўзнікла і пачало расці кволае напачатку, пужлівае пачуццё асаблівасці гэтых хвілін. Яны — Стась і Яніна — раптам адчулі сябе надзейна схаванымі ад чужых вачэй. І толькі яны тут, сам-насам.

Стась крадком, калі Яніна не бачыла, кідаў на яе позіркі, нечакана для сябе адчуўшы, што ён любуецца спрытнымі рухамі дзяўчынкі, яе зграбным целам. Раптам Яніна нечакана абярнулася — і яны сустрэліся позіркамі, Стась адчуў сябе злоўленым знянацку, усё адно як тое было злачынства — глядзець на дзяўчыну. Яніна ўсміхнулася, вінавата нават, быццам яна не павінна была так рабіць. Як заўсёды, яе простасць прыйшла на дапамогу ў няёмкі момант:

— А ты чаго на мяне так глядзіш?

Шчырае пытанне вымагала шчырага адказу, і Стась не стаў прыдурвацца ці хавацца за двухсэнсоўнасцю:

— Ты спрытная. Прыемна глядзець.

І адчуў, як чырванее, зірнуў долу, на куст, выбіраючы яшчэ якую галіну.

— А ты таксама прыгожа працуеш,— пачуў словы Яніны, ускінуў позірк: дзяўчына глядзела на яго наўпрост, і было ў яе вачах большае за звычайную пахвалу — было прызнанне. І акрамя іншага, прызнання ў тым, што яна цішком паглядвае на Стася, калі ён не бачыць.

Тут было ціха — звычайныя гукі з вёскі заблытваліся ў кронах дрэў і губляліся ў ім. Адсюль нічога не было відаць, акрамя блакітнага ў лёгкіх пасмах белых аблачынак неба. І здавалася, увесь свет цяпер — толькі ўрочышча з густым кустоўем, у якім яны адзіныя — Стась і Яніна.

Іх абаіх хвалявала схаванасць ад усіх людзей, вопыт якой яны абое зазнавалі першы раз. Быццам у паветры, сярод гэтых кустоў, між імі ўзнікла амаль рэальнае нешта. Стась падумаў: поле, якое хвалявала, тонка вібрыравала, улоўліваючы іх думкі і пачуцці, прыцягвала іх адно да аднаго і трымала на адлегласці па сваіх нязведаных законах, якія яны, Стась і Яніна, адчувалі інтуітыўна і падпарадкоўваліся ім. Адначасова поле тое было слабым, крохкім, яго можна было знішчыць адзіным словам, думкай нават — пошлымі, проста нязграбнымі, злымі, раўнадушнымі, і існавала веданне, што калі тое зрабіць, такое поле больш ніколі не ўзнікне. Падавалі вельмі важным, надзвычай важным зрабіць усё, каб нічога не парушыць...

— Вой, Стась, мо хопіць ужо? — перабіла думкі і дзеянні хлопца Яніна, стоячы ля складзеных роўна галін.— Не дацягнем! — і ўсміхнулася вінавата, што ёй даводзіцца спыняць цячэнне незвычайных хвілін.

— Дацягнем... Можа, тут абсекчы?

— Не, не будзем смеціць. Падсохнуць галінкі, то бабе будзе зручна распальваць у пячурцы...

Управіліся на дварэ і ў агародзе, бабуля Наста гукнула паесці. Яна сама сядзела на канапе наводдаль, бесцырымонна распытвала Стася: адкуль сам, а хто бацькі, колькі зарабляюць, дзе працуюць. Стась напачатку саромеўся, яго бянтэжыла такая наўпроставая цікавасць да сябе, а пасля зразумеў: бабуля пытаецца дабрадушна, ёй насамрэч цікава. І спытаў у сваю чаргу:

— Бабуля Наста, а вы не ведаеце, якую зорку на небе завуць у вас Воўчым вокам?

— Дык адкуль жа мне ведаць? — бабуля Наста ніколечкі не здзівілася нечаканаму пытанню.— Нам за зямлёй да скацінай няма часу на зоркі дзівіцца. Як была маладая, то нешта бачыла. А цяпер з курамі спаць кладуся.

— І ніколі не чулі, каб нехта так казаў? — дапытваўся Стась.

— А пастой-ка... Вадзіла я Янінку да старога Яўдоха, каб лекаваў яе ад перапуду. То ён тады не прыняў нас: маўляў, Воўчае вока над лесам. Я тады зірнула — і праўда, ззяла над лесам такім святлом нядобрым тое вока.

— А ў якім баку? — узрушыўся Стась.

— Дык ягоная хата яшчэ і цяпер стаіць — то якраз уздоўж дарогі, як на лес зірнуць. Нізка вісела. А больш ні ад каго не чула...

— Дзякуй вам!

— Няма за што, абы вам на карысць. Паелі?

— Дзякуй, вельмі смачна ўсё.

— Ат, якія тут смакі! То ж не крамнае...

На вуліцы Стась заспяшаўся:

— Хадзем хутчэй! У Віталя мой ноўт, зараз пабачым зорку!

Прыселі ўтраіх у прадчуванні разгадкі таямніцы, Стась уключыў карту зорнага неба.

— Так, калі глядзець уздоўж вуліцы на лес, атрымліваецца амаль поўдзень. Уводзім час — няхай будзе дзесяць гадзін вечара. Глядзім...

З хвіліну дзівіліся на манітор.

— І дзе тое вока? — скептычна хмыкнуў Віталь.

— Не ведаю,— расчаравана прызнаўся Стась.— У гэтым напрамку нізка над гарызонтам нічога такога няма... Хіба вось Антарэс, зорка яркая. Але ж яна адна, ды і побач няма нічога такога.

— Эх, вам усе задачкі каб рашаць, з ноўтбука не вылазячы,— пакпіў Віталь.

— А што ты прапануеш? — з выклікам спытала Яніна, баронячы Стася.

— Калі ўжо паверылі бабулі Арыне, дык трэба яшчэ каго распытаць са старых. Ды ўсіх! Можа, яны больш ведаюць, хоць у які бок ісці. А пасля самім шукаць дарогу. Будзем ведаць месца — здолеем адшукаць і дарогу!

У гэты час на вуліцы з'явіўся легкавы аўтамабіль. Ён збочыў з дарогі і прыпыніўся насупраць.

— Нічога не знайшоў,— кісла скрывіўся Арцём замест прывітання, як выйшаў з аўтамабіля.

— І за што цябе тады возяць? — пад'юдзіў Віталь.

— А, знаёмцеся: Кацярына Віктараўна, жонка Мірона Сяргеевіча, выкладчыка. Яна мне... грошай дала. А сам Мірон Сяргеевіч у бальніцы. Вось...

З двара бабуля Зося выкаціла вазок з бабуляй Арынай: цікава ж паглядзець, хто тут да дзяцей прыехаў.

Жонка выкладчыка выйшла з машыны, пачціва павіталася з бабулямі, паціснула рукі ўсім.

— Хлопчыкі, дапамажыце разгрузіцца,— папрасіла яна.

Віталь са Стасем няўцямна пераглянуліся, і Кацярына Віктараўна патлумачыла з усмешкай:

— Тут вам трошкі пачастункаў ад мяне і Мірона Сяргеевіча. Марожанае ў вядзерцы ёсць, частуйцеся! Як вашы справы? Арцём казаў, што вы шукаеце зорку пад назвай Воўчае вока. Ці адшукалі?

— Адшукаеш тут... — уздыхнуў Стась, падняўся з лаўкі.— Я Стась. Гэта Яніна, Віталь. Нейкія намёкі толькі ёсць...

— Вельмі прыемна,— Кацярына Віктараўна паціснула рукі, прапанавала: — У мяне час вольны да вечара, можа, возьмеце ў каманду, падумаем разам?

— Ды ніхто не гоніць,— дазволіў Віталь.— Было б над чым думаць...

Праз колькі хвілін яны паселі на двары паўколам, бо на вуліцы сабраліся бабулькі: нехта прыехаў да Зосі, трэба паглядзець. А значыць, бабуля Зося з бабуляй Арынай таксама былі там.

— Ёсць у нас толькі адно ўпамінанне, вось бабуля Наста сёння апавяла пра выпадак,— казаў Стась.— Але зноў жа, па зорнай карце — адзіная зорка. Яна зыркая — я паглядзеў на фота — больш блакітная, чым чырвоная.

— А чаму Воўчая павінна быць чырвонай? — хмыкнуў Віталь.

— Ну, я падумаў, што вочы звера — жоўтыя ці з чырваннню. А не блакітныя...

— І пэўна ж, ты маеш рацыю,— заўважыла Кацярына Віктараўна.— Мне давялося бачыць вочы ваўка ў цемры.

— Ого, а дзе?

— Ды я ж альпінізмам займалася раней, шмат паходаў было ў юнацтве.

— І якія воўчыя вочы?

— Немігатлівыя — гэта галоўная адметнасць. Жаўтлявыя, да аранжавага. Чырвоныя ад бляску кастра.

— Чакайце, чакайце...— Стась захваляваўся.— Вы кажаце — немігатлівыя. Дык гэта ж галоўная асаблівасць будзе? На небе ўсе зоркі міргаюць...

— Акрамя планет.

— Так, акрамя планет! Дык наша зорка будзе нейкай планетай. Але ж няма ніякай, калі глядзець на лес і неба над ім уздоўж вуліцы. А бабуля Наста яе бачыла...

— А калі бачыла? — насцярожылася Кацярына Віктараўна.

— Калі мяне вадзіла лячыць ад перапуду да ведзьмака мясцовага. Ён памёр ужо,— падказала Яніна.

— Калі гэта было, помніш дакладна?

— Лета было... А, мне было пяць гадоў, я напужалася сабакі, калі да аднае цёткі ў агарод залезла, каб галінку ліпы

адламаць. Бо якраз была Тройца, дзеці тады ламалі галінкі ліп і клёнаў, каб бабулі хаты ўпрыгожвалі.

— Стась, дык трэба ўвесці ў карту зорнага неба дакладныя дату і час,— падказала Кацярына Віктараўна.— Зямля ж наша верціцца вакол сваёй восі, верціцца вакол сонца — значыць, выява зорнага неба будзе мяняцца і з днямі, і з месяцамі.

Стась пераналадзіў дату і час.

— А Тройца — гэта калі? — спытаў Віталь.

— Зараз пагуглю… праз пяцьдзясят дзён пасля Вялікадня,— знайшоў адказ Стась.— Вось, цяпер яшчэ і дзень Вялікадня шукаць трэба…

— І трэба дакладны год,— заўважыла Кацярына Віктараўна.— Справа ў тым, што планеты самі рухаюцца вакол сонца, іх час абарачэння не супадае з зямным годам, значыць, кожны год яны будуць мець іншае месца на небе. Яніна, дакладна табе было пяць гадоў?

— Дакладна,— кіўнула дзяўчына.— Мне ў той год бацька прывёз веласіпед, таму я запомніла.

— Так, год ведаем, дату ведаем, час каля дзесяці вечара,— пстрыкаў Стась клавішамі.— Атрымліваем… Юпітэр! Ён! Глядзіце: над самым лесам! Вялікая немігаючая зорка, вельмі яркая! Яе ні з чым не зблытаеш!

Усе ўтаропіліся ў манітор, быццам на ім была канчатковая разгадка таямніцы.

— Уводзь цяпер дату Купалля, час апоўначы! — заспяшаўся Арцём.

Стась паслухаўся.

— Няма Юпітэра ўвогуле…

— Не адчайваемся,— супакоіла ўсіх Кацярына Віктараўна.— Пра што я казала: у нейкі год Юпітэр павінен з'явіцца на небе ў гэты час… Мяняй гады, Стась.

Стась паслухаўся. Праз хвіліну выгукнуў:

— Ёсць! — і замоўк, разгублены.— А што далей? Дзе другое вока, якое сляпое? І што гэта за вока?

— А ты не спяшайся,— паўшчувала яго Яніна.— Знайшлі адно, знойдзем і другое.

— Зараз трэба дакладна згадаць усе словы бабулі Арыны,— пачаў Арцём.— Як казаў Мірон Сяргеевіч, у такіх паведамленнях не будзе ніводнага лішняга слова. Усякую дробязь трэба ўлічыць. Давайце паслухаем...

Ён адшукаў запіс у тэлефоне, дастаў з заплечніка нататнік. Гучаў бабулін ціхі голас, Арцём часам спыняў яго, нешта памячаў на паперы.

— Урэшце, вось што атрымліваецца. Час апоўначы на Купалле. Сляпое воўчае вока — на цвіку. Трэба ісці на левае...

— І што гэта дае? Вось што? — насмешліва спытаў Віталь.— І ты яшчэ адзін момант не згадаў: бабуля казала пра век чалавечы. «Як прыйдзе таго чалавека век». Гэта што значыць?

— Не ведаю я!

— Ну вось...

— Чакайце, не сварыцеся,— засяродзіўся Стась на карце зорнага неба.— Я во зараз мяняю гады... Побач з Юпітэрам яшчэ ёсць Сатурн і Марс. Іх таксама добра відаць на небе. І яны ў розныя гады па розны бок ад Юпітэра. Ступар, не ведаю, што далей.

— Напачатку, мне здаецца, трэба з цвіком тым разабрацца. Што за ён? — уставіла Кацярына Віктараўна.

— Ну, цвіком называлі Палярную зорку ў многіх месцах, тое я прачытаў,— згадаў Арцём.

— А што значыць — на цвіку?

— Не ведаю...

— Давайце, я патэлефаную Мірону Сяргеевічу,— прапанавала жанчына, усе згодна прамаўчалі, яна набрала нумар.— Мірон, паслухай, мы тут спрабуем разгадаць

бабуліны словы... Ага, усе разам. Што значыць, па-твойму, быць на цвіку? Калі прыняць, што цвік — Палярная зорка? — яна ўключыла гучную сувязь, паклала тэлефон на лаўку.

— Дзень добры ўсім,— павітаўся выкладчык.— Мне падаецца, у такіх слоў толькі адно тлумачэнне: насупраць. Вось цвік, на ім вісіць нешта. Палярная зорка змешчана ад умоўнага цэнтра неба на Поўнач, значыць, зорка, якая знаходзіцца на поўдні, будзе вісець на цвіку. Як думаеце, лагічна?

— Думаем, лагічна,— падаў голас Стась, які хутка мяняў даты на анлайн-карце неба.— Вось, ёсць такі год! Юпітэр знаходзіцца на поўдні, Купалле, час апоўначы.

— А чаму Юпітэр? — здзівіўся выкладчык.

— Ды мы тут пачулі ад аднае бабулі, яна згадала, што на адну зорку неяк сказаў вядзьмак мясцовы — Воўчае вока. Вылічылі, што гэта быў якраз Юпітэр,— патлумачыў Арцём.— Але мы не ведаем, другую зорку пары... Думаем, што гэта таксама планета, але Марс ці Сатурн — невядома.

— Трэба думаць... Помні: нічога не бывае лішняга, кожнае слова мае сэнс,— нагадаў выкладчык.

Думалі. У цішыні сядзелі хвілін пяць. Толькі Стась падчас роздуму, пакусваючы вусны, нешта ўсё шукаў у сеціве.

— Год Юпітэра — 12 зямных гадоў,— нарэшце загаварыў ён, падсумоўваючы свае пошукі.— Атрымліваецца, ён займае адно і тое ж месца ў адзін і той жа час адзін раз у 12 гадоў. Вось...

— Што нам гэта дае? — спытаў Арцём.

— Не ведаю пакуль.

— Дык нам жа пара трэба, а не адзінае вока,— невядома чаму зазлаваў Віталь.— Што вы ўчапіліся за гэты Юпітэр.

— Правільна, Віталь,— заўважыла Кацярына Віктараўна.— Там размова ідзе пра пару, якая займае ўмоўнае месца ў нейкі перыяд.

— У які?

— Думаем...

— У век чалавечы! — гукнуў Стась.— Віталь звярнуў увагу, а мы не палічылі вартым: «як прыйдзе таго чалавека век».

— Дык гэта можа азначаць толькі тое, што чалавеку паміраць час! І хутчэй за ўсё, так і ёсць,— не згадзіўся Арцём.

— А навошта казаць пра гады, калі і без іх зразумела, што таямніцу трэба перадаваць свайму сыну ці некаму? — пацiснула плячыма Яніна.— Ты ж сам казаў: няма тут слоў без сэнсу.

— Дык тут і ёсць такі сэнс: перадай перад смерцю.

— «Як прыйдзе твой век» — гэта не «перадай перад смерцю»!

— Ну, і які той век,— мусіў здацца, але ўсё яшчэ ўпарціўся Арцём.

— А які сённяшні век чалавека? Ну, колькі гадоў звычайна жыве? — звярнуўся Стась да Кацярыны Віктараўны.— І колькі раней жыў?

— Няпростае пытанне, канешне,— задумалася жанчына.— Трэба гугліць, Стась, але будуць лічбы па сярэдняй працягласці жыцця, а іх я, як выкладчык геаграфіі, і так помню. Час сярэднявечча і раней — не болей за трыццаць гадоў.

— У трыццаць гадоў паміралі? — вохнула Яніна.

— Ды не,— усміхнулася Кацярына Віктараўна.— Гэта агулам сярэдняя працягласць жыцця. Бо ж людзі паміралі ад хвароб, у войнах, была вялікая смяротнасць сярод дзяцей. Канешне, нехта дажываў да пяцідзесяці і старэй.

— А раней старых ды нямоглых адвозілі ў лясы, каб яны там паміралі,— уставіў Арцём.— Ну, ёсць такія паданні, яшчэ існуе гісторыя пра тое, як адзін сын не адвёз бацьку ў лес паміраць, а схаваў і карміў, а пасля бацька дапамог сыну і ягонай сям'і перажыць тры страшныя галодныя гады. З таго часу ў лес старых бацькоў не адвозілі.

— Вось тут можа быць зачэпка добрая,— узрушылася Кацярына Віктараўна.— Нямоглы, стары чалавек які, у колькі гадоў?

— Ды як на пенсію ідзе,— гукнуў Віталь.— Што тут думаць? Сама дзяржава прызнае: не можаш рабіць.

— Слушна. Але ж раней на пенсію не адпраўлялі.

— Дык і што? — заўпарціўся Віталь.— Мне бабуля расказвала, раней служылі па дваццаць пяць гадоў у арміі, а ішлі ў дваццаць. Вось, салдат здатны быў да сарака пяці! А яшчэ прыходзілі, жаніліся, дзяцей гадавалі.

— Дык бяром шэсцьдзясят за век чалавечы? — рэзумавала Кацярына Віктараўна.— Недзе сённяшні сярэдні ўзрост, калі чалавек не памірае ад хвароб, не гіне на вайне.

— Ну, возьмем шэсцьдзясят і што? — не разумеў Арцём.— Што гэта дае?

— Гэта дае перыяд. Толькі адзін раз у шэсцьдзясят гадоў на небе ўтвараецца такі малюнак, па якім можна вызначыць напрамак.

— Але якім чынам? — запсіхаваў Арцём больш ад таго, што задача, як ён цяпер бачыў, рашалася без ягонага належнага ўдзелу: ён не адшукаў патрэбнай зоркі ў кнігах, не мог пахваліцца логікай рашэння задачы. Усё гэта балюча хвастала па ягоным самалюбстве, тым больш што перад ім былі школьнікі, а ён жа — студэнт.

— Прапануй,— рэзка астудзіў ягоны пыл Віталь.

Стась памаўчаў, пакусваючы вусны.

— Давайце не спяшацца. Значыць, маем пару зорак, будзем зваць так планеты, якія раз у шэсцьдзясят гадоў паўтараюць сваё становішча на небе.

— Дык тое ж проста, то матэматыка! — ускліккнула Яніна.— Колькі год Юпітэра?

— Дванаццаць зямных.

— Марса?

— Адзін і восем дзясятых

— Якія там яшчэ планеты?

— Сатурн... Амаль трыццаць зямных гадоў. Меркурый... Ён блізка ад сонца, як і Венера, апоўначы не відаць ніколі,— падказваў Стась.

— Ну і трымайце: спалучэнне на небе Юпітэра і Марса будзе паўтарацца праз... Стась, памнож дванаццаць на адзін і восем... вось, праз дваццаць адзін і шэсць дзясятых года. Спалучэнне Юпітэра і Сатурна паўтараецца праз... праз шэсцьдзясят гадоў! — ускліккнула Яніна.— Ну, чаго дзівіцеся? Калі Сатурн зробіць два абароты на небе, Юпітэр зробіць пяць — і яны сыдуцца ў ранейшых кропках!

— Малайчына, Яніна! — Стась увёў лічбы з клавіятуры ноўтбука, гукнуў: сённяшняй ноччу іх можна будзе пабачыць!

— Што сядзець? — Віталь відавочна засядзеўся на месцы, узняўся з лаўкі.— Зоркі ведаем, гару ведаем — пайшлі!

Стась склаў ноўтбук, заўважыў у роздуме:

— Вось пра што падумаў. Значыць, каб патрапіць да зніча, трэба шлях трымаць ад той гары на зорку. Так? А сама гара вунь там.— Ён паказаў за вёску ў бок шашы.— Ва ўсякім разе, адтуль, мяркуем, да зніча сцежка. Помніце, дзе знайшлі тэлефон Леры?

— Дык казалі, што ішла па вуліцы, і машына быццам гула,— разгублена згадала Яніна.

— Калі тэлефон быў знойдзены на ўзбочыне, неабавязкова чалавеку ісці было па дарозе,— падумаўшы, загаварыў Віталь.— Ад Праскоўінага надворка можна, канешне, ісці вуліцай, пасля збочыць на поле і дайсці да гары, якой зараз

няма. Але ж можна ісці і агародамі з другога боку, пасля перайсці цераз дарогу і кіравацъ на гару. Не ўсё тут ясна, Стась правільна заўважыў. Гатовы? Пайшлі!

— І мяне вазьміце,— папрасілася Кацярына Віктараўна.— Я толькі хуценька пераапрануся.

— Добра, пачакаем,— уздыхнуў Віталь, дадаў: — Але камандаваць тут буду я. Бо і вы — наша госця.

— Я буду слухацца,— паабяцала без усмешкі жанчына.

Кацярына Віктараўна пераапранулася ў доме за некалькі хвілін і зрабіла ўражанне на хлопцаў сваім з'яўленнем: у адмысловым касцюме, высокіх чорных чаравіках, валасы схаваны пад бейсболкай. Планшэтка і бінокль у чахле на баку, яшчэ з багажніка аўтамабіля дастала спецыяльны кій.

— Я гатова.

Віталь крыху сканфузіўся — адказаць, што і яны гатовы, было занадта — у чым былі, у тым і збіраліся ісці.

— Ды мы ж толькі кропку вызначыць, паглядзець...— прамямліў ён.

— Што, я вас трошкі шакіравала сваім выглядам? Не звяртайце ўвагі: вопыт паходаў у горы такі — заўсёды збірайся як мае быць. То ідзём?

Прыхапілі два ноўтбукі — Стасеў і Арцёмаў.

— На адным раскрыем карту, на другім — выяву зорнага неба, перанясём напрамак і каардынаты,— тлумачыў Стась няўпэўнена, бо сам дарэшты не ўяўляў, як тое будзе рабіць.— Я на свой спампаваў і паставіў навігатар, зараз настроімся...

Нарэшце прайшлі вуліцай вёскі, адчуваючы на сабе позіркі вяскоўцаў: трое хлопцаў і жанчына ў незвычайным для вёскі касцюме з імі выглядалі трохі дзіўна. Ішлі па навігатары да вызначанай кропкі — згодна са старой картай-«вярстоўкай», там раней знаходзілася Курылінага гара.

А зараз тут роўнымі шчацінiстымі радкамі ўздымалася кукуруза.

— Ідзіце між радкоў,— папярэдзіў Віталь.— А то зглेдзіць аграном ці старшыня — аштрафуе...

Хвілін праз дзесяць хады па полі Стась спыніўся, агледзеўся па баках:

— Тут. Некалі на гэтым месцы была гара. Уяўляю, як добра адсюль бачылася ўсё. Арцём, даставай свой ноўт, заходзь на сайт...

Інтэрактыўная карта зорнага неба заварожвала. А калі пачалі мяняць час і даты — завохкалі: так цікава было бачыць увачавідкі, як круціцца неба вакол Палярнай зоркі...

— Трэба выставіць дату дакладную...

— Тое канешне. Сёмага ліпеня, нуль гадзін. А цяпер круцім гады... Трэба, каб Сляпое вока — гэта Сатурн, ён куды слабейшы па свяцільнасці, павіс на нашым цвіку — стаў якраз насупраць Палярнай зоркі... Чакайце, сама многа — усяго шэсцьдзясят разоў увесці год,— усміхнуўся Стась.

Усе прыціхлі, Стась пстрыкаў і пстрыкаў клавішамі.

— Ёсць! — недзе на трыццатай спробе спыніўся ён.— Сатурн — Сляпое вока — прама на цвіку. Юпітэр — Воўчае вока — злева. А далей...

Але што рабіць далей, Стась дакладна не разумеў. Вось перад табой карта зорнага неба, вось на другім маніторы — карта мясцовасці. І што рабіць?

— Ну вось, быццам усё...— Стась зірнуў на Кацярыну Віктараўну, прызнаючы за ёй больш дасведчанага чалавека.— А далей як, не цямлю нешта. То ж неба, а тут зямля.

Жанчына адказала без усмешкі:

— Нічога дзіўнага, і не павінен чалавек ведаць усё і разбірацца ва ўсім. Зірнём разам... Так, там ніжэй на сайце кіраванне, уключыце сетку азімутаў. Вось, бачыце: поўдзень, поўнач... цяпер з цэнтра бяром азімут на зорку.

— А мы ў цэнтры?

— Ну канешне! Дзе б ты ні стаў — ты ў цэнтры пад небам.

— Тут дакладна вызначыць цяжка... А з чаго пачынаць? Ну, дзе нуль?

— Поўнач — нуль. Па гадзіннікавай стрэлцы. Усход — 90 градусаў.

— Ага, зразумела... Поўдзень будзе 180, плюс яшчэ 25—225 градусаў,— палічыў Стась.— Зараз на навігатары зробім вектар ад нашай кропкі! — Радасна, у прадчуванні вырашэння складанай задачкі і атрымання ўзнагароднага выніку, ён схапіў другі ноўтбук, пакорпаўся, пакруціўся з ноўтам на месцы ў розныя бакі і раптам расчаравана сеў.

— Там поўнач, вось вектар...

— І што? — зазірнуў з-за Стасевага пляча Віталь.— Куды гэта ты паказваеш?

— На суседнюю вялікую вёску. І яшчэ далей... там палі, дарога, яшчэ вёска.

— Лажа атрымалася? — з дрэнна прыхаванай насмешкай спытаў-сцвердзіў Віталь.

— Лажа,— ціха прызнаў Стась.— І на старой карце тая вёска пазначана. Няма там дзе хавацца.

Стала ціха. Што было рабіць далей, што казаць, ніхто не ведаў.

Кацярына Віктараўна прысела проста на зямлю, падцягнула да сябе калені, нейкі час глядзела быццам скрозь манітор, пакусваючы роўныя падфарбаваныя вусны.

— Нечага мы не ўлічылі...

Усе маўчалі. Віталь цыркнуў слінай.

— Так я і ведаў. Бабулькі не проста казкі кажуць, не проста казкі,— перадражніў ён Арцёма, зіркнуўшы на сябра.— Ну, давайце, разгадвайце казкі бабулі Арыны!

— А што ты прапануеш? — з выклікам спытаў Стась, і гэта была памылка, бо, раззлаваўшыся, Віталь падхапіўся на ногі.

— Я прапаную рэальна шукаць! Ісці да дзядоў старых — яны палявалі раней на балотах, могуць сцежкі ведаць! І не толькі бабуля Арына можа ведаць пра таго ваўкалака! Самім спрабаваць!

— Што спрабаваць? Што? — Стась таксама падняўся. Яму было крыўдна, ён не разумеў, чаму нічога не атрымалася, калі ўсё ішло так добра! — Як нам шукаць дарогу, у якое месца на балоце ці ў лесе, калі мы не ведаем, куды ісці? Пра што пытацца? Ці ведае хто, якую сцежку?

— Хлопцы, цішэй, калі ласка! Ну што вы? Гэтак жа справы не робяцца! — паспрабавала суцішыць сяброў Кацярына Віктараўна, але, здаецца, толькі падліла алею ў полымя сваім умяшаннем, бо Віталь ажно скрывіўся.

— Канешне, не робяцца так! Экспедыцыю на кукурузнае поле наладзілі, выставіліся перад усёй вёскай, паселі тут як... як шаманы! Зоркі шукаць! Я пайшоў!

— Куды? — разгубіўся Стась.

— Пайшоў шукаць рэальны шлях! Да дзеда Сямёна падыду — ён самы стары, напэўна, ведае, у якіх мясцінах можна зверу ці чалавеку хавацца доўга.

— Бабуля казала праўду,— нарэшце ціха падаў голас Арцём, які дагэтуль не прамовіў і слова, адчуваючы цяжар віны, бо ж ягоная гэта ідэя — пошукі сцежкі да ваўкалака па бабуліным аповедзе.— Мы проста не разумеем пакуль нечага.

— Ну, то думайце! Разумных галоў тут без маёй занадта,— махнуў рукой Віталь і шпарка пашыбаваў да дарогі.

Няёмкае маўчанне доўжылася некалькі хвілін. Яны сядзелі — двое хлопцаў, дзяўчына і дарослая жанчына — сярод кукурузнага поля і ўсе разам усведамлялі, што іх ідэя зараз выглядае дзіцячай забаўкай, з якой варта пасмяяцца нават без шкадавання іх, такіх упэўненых яшчэ паўгадзіны таму.

— Чакайце, хлопчыкі,— падала голас Кацярына Віктараўна.— Стась, дай, калі ласка, ноўтбук. Гэта карта, так?

Яна доўга і ўважліва разглядвала старонку сайта з інтэрактыўнай картай зорнага неба, а потым, нарэшце, шырока ўсміхнулася:

— Вось мне трэба двойку ставіць за такі ўрок! — выгукнула з радаснай палёгкай.— Вой, як мне сорамна! Пра дату пяць разоў казала. А каардынаты месца? Тут жа, бачу, сам сайт аўтаматычна не вызначае месца. Стась, знімі з навігатара каардынаты і ўвядзі ў карту.

— Чорт, і праўда! — Стась пачухаў патыліцу.— Зараз...

Калі лічбы былі ўведзены, карта зорнага неба адчувальна крутнулася.

— Вось цяпер зусім па-іншаму! — узрадаваўся Стась.

— Ага, а Сляпое вока ўжо не на цвіку,— заўважыла Яніна.

— Не бяда, зараз год будзем мяняць далей... Не, назад трэба. Ёсць!

Кацярына Віктараўна пазваніла мужу, паведаміла радасную вестку.

— Дзякуй табе за дапамогу, мы ўсё знайшлі! Гэта дакладна тое, пра што апавяла бабуля. Сляпое вока — Сатурн — вісіць на цвіку, Воўчае вока злева. Зараз Стась пракладвае на навігатары напрамак... Гатова! Балота за вёскай, тое, вялікае. І далей — востраў на балоце! Востраў!

Сапраўды, напрамак з Курылінай гары ўказваў на востраў на балоце. Бабуля Арына казала не абы-што! Вось ён, кірунак, дакладны і роўны — ад гэтай былой гары і праз балота. Значыць, недзе там ёсць таемная сцежка.

— Хадзем, гукнем Віталя — і ў дарогу!

Падхапіліся, засоўваючы ноўтбукі ў заплечнікі.

Вярталіся назад хутка, спяшаліся — ім было чым падзяліцца з сябрам. Калі зайшлі ў вёску, Кацярына Віктараўна сказала:

— З балотам жартаваць нельга — думаю, вы гэта разумееце. Мне зараз вяртацца трэба, таму, калі ласка, знойдзеце пачатак сцежкі ці падобнае — спыніцеся, не спяшайцеся. Прыеду праз дзень я, збяруцца яшчэ дарослыя. Гэта вельмі сур'ёзна. Мы не ў казакоў-разбойнікаў гуляем, а шукаем чалавека...

І праўда, у запале разгадкі таямніцы неяк адышло на задні план тое, што сапраўдная мэта — знайсці Леру.

Віталь сядзеў на лаўцы перад хатай. Дзіўна, але ён зірнуў на радасных сяброў і не зрэагаваў ніяк. Выглядаў ён прыгнечана.

— Мы знайшлі! Бабуля Арына нам усё дакладна паведаміла, мы, доўбні, даўмець не маглі адразу,— падзяліўся радасцю Стась, калі ўсе спыніліся перад лаўкай.

— І шукаць трэба на востраве сярод балота, што за вёскай, так? — з горыччу ўдакладніў Віталь, не ўзнімаючы вачэй.

— Ага. Адкуль ты ведаеш? — няўцямна застыў Стась.

— Ваенныя сказалі.

— Якія ваенныя?

— Такія. Прыехалі на аўтамабілі грузавым. На выгане спыніліся, чалавек дзесяць. Палатку вялізную паставілі. Тут старшыня сельсавета быў, бегаў па вёсцы, каб коз там не навязвалі. Бо пляцоўку для пасадкі верталёта робяць. А заўтра паляцяць, значыць, на той востраў. Так яны сказалі.

— Але чаму? Адкуль? Хто ім што казаў? — ажно затросся Арцём.— Яны нешта ўтойваюць ад усіх, тады міліцыя абшуквала базу, зараз — цэлы верталёт... Чаму так?

— Таму што ім не бабулька казкі расказвае, у іх інфармацыя, ясна? — ужо са злосцю адказаў Віталь, хоць было бачна, што злуе ён зусім не на Арцёма.

Кацярына Віктараўна сабрала свае рэчы, не стала пераапранацца. Пацiснула рукі ўсім на развітанне, суцяшаючы і ўпікаючы адначасова, сказала:

— Тое, што прыбылі ваенныя і будзе верталёт,— гэта значыць сапраўды, што ў людзей ёсць інфармацыя, якой не валодаеце вы. Але, хлопчыкі, дзеля чаго пошукі? Дзеля задавальнення сваіх амбіцый, дзеля славы? Ці для таго, каб адшукаць чалавека? Вы і так зрабілі нямала. Галоўнае — адшукалі логава, прымусілі каго трэба паверыць ва ўсю сур'ёзнасць вясковых паказак. Яно і праўда: на пустым месцы нічога не ўзнікае. Трымайцеся! Арцём, мы на сувязі заўсёды, звані.

— Дзякуй вам! Абавязкова,— адказаў Арцём і дадаў цішэй, сарамліва: — Я вам вярну грошы... Вось толькі ўсё тут скончыцца, і вярну.

— Пазней пра грошы. Удачы вам!

Аўтамабіль плаўна крануўся, пакаціўся па траве на праезную частку дарогі.

А з канца вёскі, з боку выгану ішлі тры салдаты, несучы дзве вялікія плоскія каністры. Яны набліжаліся да студні.

## 12. «Перадача» для Леры

Каністры ў салдат былі зялёныя, плоскія. У такіх звычайна вяскоўцы трымалі бензін ці дызельнае паліва. А салдаты набіралі ў іх ваду. Няўмела лілі з вядра ў вузкія рыльцы, вада напалову пралівалася міма, але гэта, відавочна, салдат мала хвалявала.

— Зараз калюжыну зробяць, не падысці будзе да студні,— прабурчаў Віталь.— Акрамя аўтамата, нічога ў руках трымаць не навучыліся!

Усе разам назіралі за работай ля студні, быццам гэта было нешта надзвычай важнае. Нарэшце каністры напоўніліся, іх зачынілі. Самы меншы салдат стаў пасярэдзіне, двое яшчэ па баках — і так яны панеслі дзве каністры.

— Нават вядро на месца не павесілі! — зноў са злосцю пракаментаваў Віталь.

— Чаго ты злуешся? — паўшчувала Яніна.— Павесіцца вядро, высахне вада...

— Прыперліся, то хай паводзяць сябе як людзі!

— Не зрывай злосць на гэтых салдатах,— сказаў Стась.— Яны служаць. Ім загадалі — яны тут. І чаго ты ўсхадзіўся? Мы ж мелі рацыю, у правільным кірунку рухаліся. І не трэба нам цяпер у балота лезці — яны туды лёгка патрапяць, усё праверацць...

— Вось таму і крыўдна,— пацішэў Віталь.— Як мы ім усё расказалі, як логава адшукалі, дык яны зразумелі, што тут не жарты. Той маёр казаў, што ў іх быццам няма ніякай інфармацыі, у нас яе больш. Не веру я... Хай бы міліцыя верталёт выклікала — у выратавальнікаў жа ёсць. А чаму тут ваенныя? Спецаперацыя нейкая, а не пошукі дзяўчыны!

— У тым логаве бушлаты ваенныя былі,— уставіў Арцём.

— Дык што?

— Не ведаю. Але ж сувязь нейкая, мабыць, ёсць — нездарма ж тут салдаты. І база былая.

— Пустая база, праверылі ж.

— А можа, там хады ўсякія таемныя, ваенныя ведаюць.

— Ага, адзін адсюль і да Мінска, другі — у Амерыку...— падкалоў Віталь, але, зірнуўшы на Арцёма, лагодней дадаў: — Не крыўдуй, я так, з гарачкі. І колькі праўды ў тваіх словах ёсць: нездарма тут ваенныя. Слухай, а што ты за грошы вінен гэтай альпіністцы?

Арцём нечакана для ўсіх уздрыгнуў — на яго пазіралі з зацікаўленасцю. Ён уздыхнуў і нехаця выціснуў з сябе:

— Лахануўся на аўтастанцыі. Павёўся... Дзяўчына сумку папрасіла паднесці, там зараснік невялікі, праз яго павяла нібыта да дарогі. А тут двое... За рукі схапілі — яна залезла

ў кішэню, грошы дастала — і зніклі... Пяць секунд. Спужацца не паспеў. А прасіць больш не было ў каго — не вяртацца ж без кнігі... Таму і патэлефанаваў выкладчыку. Ён у бальніцы зараз, пад кропельніцай — сэрца схапіла. Як толькі закончыцца ўсё, я паеду дадому, вазьму ў бацькоў грошы і вярну, праўда!

— Ды не сумняваемся,— Віталь цыркнуў слінай — зноў ён «заводзіўся».— Але ж, злавіць бы іх!

— Там такія дзецюкі — нас траіх мала будзе,— сумна ўсміхнуўся Арцём.— Агідна так...

—Так дзіўна,— загаварыла Яніна, вусцішна пацiснула плячыма ад сваёй думкі.— Тут у нас бяда, чалавек прапаў, табе грошы далі, каб яе ратаваць, а нехта гэтыя грошы проста адбірае, бо яму пагуляць хочацца. Стась, ты ў нас самы разумны: чаму ўсё так?

— Які я разумны? Адкуль мне ведаць? У інтэрнэце пра гэта не пішуць...

— А пра што там пішуць?

— Пра рознае...

— Ну, вось пра што ты даведаўся сёння ранкам? Сядзеў жа, чытаў, я бачыла.

— Ат,— Стась адмахнуўся, але, заўважыўшы, што Яніна не збіраецца адставаць ад яго, прызнаўся з усмешкай: — Вучоныя-медыкі ўстанавілі новую фобію, задакументавалі нават. Ну, фобія — гэта страх чаго-небудзь. Вышыні, ці цеснаты, ці цемры. Дык вось, знайшлі яшчэ філафобію. Гэта страх у некага закахацца. Вось і прачытаў.

Яніна ніякай цікавасці да гэтай фобіі не праявіла, толькі чмыхнула носам.

— Ты б лепш знайшоў, як завецца фобія, калі ваўкалака баішся...

— Дык яе і шукаў, натрапіў на іншае. Не зарэгістравана пакуль фобія такая. Бо спачатку даказаць трэба, што

ты яго баішся. А як даказаць, калі самога ваўкалака ніхто не бачыў?

— Мы ж бачылі! Ён наша мяса скраў!

— Ага...

— Пайшлі на рыбалку! — падхапіўся раптам Віталь.— Што тут сядзець? Арцём, ты як, умееш лавіць?

Арцём засаромеўся, шмыгнуў носам:

— Тэарэтычна ўмею... Разы са два, здаецца, трымаў вудачку, ездзіў з бацькамі на прыроду, было там плыткае возера. Камароў карміў... Але ў мяне цяпер рэпелент ёсць!

— Усё, дамовіліся. Пайду ў бабулі прасіць кашы на падкормку, ці мо і варыць давядзецца...

І давялося, бо прасяную кашу бабуля варыла раз на два дні, куранятам, аддала сёння ўсю. Пакуль капалі чарвякоў на гародзе пад кустамі парэчак, каша якраз зварылася. Бабуля выбрала колькі маладых невялічкіх агурочкаў, Віталь адрэзаў хлеба і каўбасы — адмовіліся абедаць, цяжка ісці на рэчку на поўны страўнік.

Рака сустрэла цішынёй — у густой траве не чутно было стракату конікаў, у чароце не азываліся птушкі. І сам чарот, што дзіўна, быццам на карцінцы якой — не шалясцеў, ніводная чарацінка не хісталася. І пах — гэтакі востры, густы, як адвар з розных зёлак.

— Ну і ціша, бы ў кіно бязгучным,— шэптам сказаў Стась, калі хлопцы прыпыніліся на беразе.

— І прыпарвае моцна,— дадаў Віталь.— Мабыць, збярэцца к вечару навальніца. Можа, і клёў будзе ўдалым.

Не спраўдзілася: клявала вельмі слаба, паплаўкі цячэннем адносіла ўбок. Хлопцы перазакідвалі, і тады лёгкі плёск снасці па вадзе падаваўся незвычайна гучным. Выцягнулі мо з дзясятак рыбін на траіх. Нават на вудачку Арцёма пачапілася лядашчая плотка. Але як зняць рыбіну з кручка?

— Давай дапамагу, белая галава,— дабрадушна прапанаваў Віталь, і Арцём тут жа працягнуў яму рыбіну на лёсцы.

— Я ж казаў, рыбак з мяне ніякі...

Ізноў маўчалі. Пра што было гаварыць?

Расчараваны такім уловам, Стась зноў закінуў чарвяка на лёсцы далёка на сярэдзіну ракі, а сам прылёг на схіл берага, заклаўшы рукі пад галаву.

— Мае бацькі ў нядзелю прылятаюць. Вечарам павінны прыехаць сюды. Казалі, каб у горад прыехаў, а я сказаў, што ўсё адно ж яны збіраюцца назаўтра быць на лецішчы, то хай самі едуць. У іх яшчэ адпачынак, будуць тут, а я паеду ў горад.

— Мае ў суботу будуць,— падзяліўся сваім Віталь.— Пыталіся, што смачнае прывезці. Мабыць, бабуля вельмі мяне хваліла.

— Што замовіў?

— Ат, гэта я іх смачным тут накармлю — во, мяса насмажым, вопыт маю.— Віталь таксама лёг дагары, зірнуўшы на паплавок, які прыбіла цячэннем да чароту, але не стаў перазакідваць.— Сумна летам і тут, і ў горадзе. Хіба што, калі грошы маеш, дык дзе пацёгаешся. Сябра ў гаражы скутар рамантаваў — можа, атрымалася ў яго. Ды каб сюды той скутар, то паганяў бы, а па горадзе толькі вечарам ды дзе-небудзь у закутцы. Цёмка, а ты што рабіць будзеш — два месяцы лета наперадзе?

Той сядзеў з летуценнай усмешкай на твары, глядзеў на рачную плынь перад сабой. Азірнуўся на сяброў, паціснуў плячыма:

— Калі Леру знойдуць, дапамагу ёй даехаць дадому. Я вас вось пра што папрашу: Лерыны рэчы забралі, а яна пасля гэтых балот будзе выглядаць адпаведна. Дык вы тады дапаможаце ёй, добра? Ну, каб памыцца, адзенне памыць.

Лера такая ж, як і Яніна, дык можа, у Яніны будзе што з адзення, калі ў Леры парвецца. А далей я не загадваў.

— Ну ты даеш, белагаловы,— з захапленнем пракаментаваў Віталь пачутае.— Ты так упэўнены, што Лера недзе тут, што яе да гэтага часу трымае ў палоне ваўкалак? І што вось тыя салдаты спусцяцца на востраў і — хоп-ля — Лера там стаіць прывязаная да крывой бярозкі, а ваўкалак зубамі ляскае, салдат да яе не пускае? Ты ў сваім розуме?

— Не, нельга чалавека прывязваць надоўга,— спакойна паправіў Арцём.— Мышцы зацякуць, амярцвеюць...

— А калі яна ў балота рванула, заблукала, трапіла ў багну і няма яе ўжо, няма? — Віталь рэзка сеў.

— Яна жывая, яна ў палоне,— упарта ўсміхнуўся Арцём.— Хай Стась пацвердзіць: навошта ваўкалаку красці ў нас з-пад носа гарачае мяса, рызыкаваць, калі да гэтага часу ён харчаваўся сырым мясам з кроўю?

— Га, Стась? Ты чуў? Пацвярджай,— Віталь штурхнуў сябра.

Стась таксама сеў, задумаўся.

— Арцём мае рацыю. Ваўкалак, ці чупакабра, ці чорт балотны — факт, усе крадзяжы — жывёл і птушкі. А тут — смажанае мяса. Яно і нясмачнае для чалавека, які прызвычаіўся да сырога. Я чытаў неяк пра гэта.

— Добра, будзем лічыць, вы мяне пераканалі,— нечакана згадзіўся Віталь.— Цяпер падкажыце, як трапіць у верталёт.

— Навошта? Без нас знойдуць,— уздыхнуў Стась.

— А чаму без нас? Мы ім далі ўсю інфу для таго, каб яны заварушыліся як след. А цяпер нам кажуць — «Адыдзіце ўбок!»

— Нам наогул нічога не кажуць,— заўважыў Стась.— Трэба мне на лецішча — паліваць...

— Ды не спяшайся,— Віталь задраў галаву, прыжмурыўся, паглядзеў у бок сонца.— Глядзі, якая смуга на небе. Навальніца будзе...

— Нешта хмар не відаць...

Сапраўды, хмар на небе не было, але з ранейшага блакітнага колеру на небе мала што засталося — быццам хто малако разліў па нябесным празрыстым купале, скрозь які блакіт цяпер ледзь свяціўся. Сонца хоць і было яшчэ высока над зямлёй, але страціла сваю зыркасць, свяцілася, бы ў тумане.

— Кажу — будзе навальніца. Не першы раз такое неба бачу. Ноч будзе вясёлая. Заставайцеся ў мяне, а то ў вёсцы вусцішна вельмі, калі ў цемры паліць і бабахае.

Пакуль вярнуліся з рэчкі, пакуль вячэралі, за вокнамі цямнела ўвачавідкі. Бабуля Зося не ўтойвала свайго неспакою і, адначасова, радасці:

— От хай бы і добры дождж быў, даўно зямля просіць, але ж во збіраецца на добрае вяселле... Віталь, выцягвай антэну з тэлевізара, ды пробкі з лічыльніка павыкручвай.

Калі падрыхтоўка да сустрэчы навальніцы была завершана (вокны зачынены, электрычнасць адключана, канец тэлевізійнай антэны ўстаўлены ў кветкавы вазон), недзе далёка за балотам завуркатала. Не пагрозліва нават, а ласкава-папераджальна «Я іду, рыхтуйцеся...»

Бабуля Арына сядзела ў сваёй калясцы перад акном, праз якое быў відаць канец вёскі і вялізны ясень на былым Праскоўіным надворку.

— Працяглы дождж будзе,— сказала бабуля Арына.— І навальніца моцная.

— Чаму, бабуля? — тут жа зацікавіўся Арцём, спадзеючыся пачуць яшчэ якую прыкмету ці мясцовую гісторыю. Ён кінуўся да заплечніка дастаць дыктафон, уключыў яго, прысеў на кукішкі перад старой.

— Бо ясень стаіць, лісток не варухнецца. Само лісцё на ясені не блішчыць. Не хмара на неба паўзе, а неба хмурнее. Самая ноч будзе для ваўкалака...

Тут ужо і Віталь са Стасем крутнулі галовы да бабулі.

— Чаму для яго — самая ноч? — загарэліся вочы ў Арцёма.

— То ж людзі ўначы навальніцу баяцца, а ён — не. Яго маланка не заб'е. То ходзіць ён тады па зямлі без страху. Дождж сляды змывае. А яму ж самотна ўсё жыццё, а помніць жа, што чалавекам быў. Таму і ідзе да людзей такой парой, хоць людзей і баіцца, як і людзі яго. Каторы раз яго так во бачыла...

— Дзе бачылі?!

— А вунь на ясені сук вялікі ўбок тырчыць. На ім даўно Праскоўін сын арэлі вешаў, гушкаліся. На яго ўскараскацца няцяжка. То як бліснє маланка — так і бачыла яго: сядзіць бы намаляваны. А пасля знікне, не ўбачыш.

Бабуля замаўчала. Хлопцы пераглянуліся паміж сабой, Віталь кіўнуў, усе накіраваліся на веранду. Тут было ўжо амаль цёмна. Выйшлі на двор — неба стала цалкам шэрым, нельга было ўгадаць, у якім баку сонца, хоць, па гадзінніку, яно яшчэ не павінна было зайсці.

— Ну, што скажаце? — спытаў Віталь у сяброў.

— А чаго ты раптам усхадзіўся? — здзівіўся Стась.— Ты ж не верыш у ваўкалака.

— Веру — не веру, то для бабуль,— адказаў упэўнена Віталь.— Я ж вам гаварыў: я веру, што нехта ці нешта тут ёсць. Зыходзім толькі з таго, што можна пабачыць, памацаць, што ёсць разумнага і што можна патлумачыць. А бабуля казала пра ясныя і практычныя рэчы: яно з'яўляецца і гуляе спакойна тады, калі дождж змывае сляды. Ну? Цалкам разумнае дзеянне. Бабуля казала раней, што Праскоўя прывабіла ваўкалака — мы знайшлі логава.

Бабуля кажа, што ваўкалак прыходзіў і сядзеў на ясені ў дождж. Можа, і сумаваў, халера яго ведае. Але ў нас ёсць шанец.

— Злавіць яго? — Твар Стася выцягнуўся.

— Ну не... Лавіць тое, што зубамі адгрызае ногі ў казы,— не хачу,— рагатнуў Віталь.

— Прасачыць? — загарэўся Арцём.

— Ты ў цемры бачыш? А яшчэ як навальніца, дождж, гром? Не, я пра іншае.

— Дык кажы, цягнеш ката за хвост...

— Майце цярпенне, а то і далей будзеце кідацца на злом галавы, не падумаўшы,— пачаў Віталь.— Праверым, каб ведаць на сто адсоткаў.

— Што праверым?

— Усё праверым. Ці ёсць ён насамрэч. Ці крадзе прадукты і носіць іх тваёй Леры.— Віталь зірнуў на Арцёма.— Ці жывая Лера...

— І як праверым?

— Проста. Тады ён у нас скраў мяса. Вы мяне пераканалі: не сабе. Выдатна. Зараз гатуем... гатуем бутэрброды. З маслам, каўбасой. З белым хлебам, чорным. Гурочкаў пару. Вады бутэльку.

— І чапляем на той сук ясеня! — ускрыкнуў ад здагадкі Стась.

— Так.

— Клас! Ваўкалак папрацуе паштальёнам! Арцём, ідзі, гатуй бутэрброды для Леры.

— І запіску напішу.— Твар Арцёма быў задуменны: хлопец не падзяляў радасці ад ідэі Віталя.

— Дык чаго ты сумны?

— Верыць заўсёды лепш, чым ведаць, калі толькі за «ведаць» не стаіць добрае.

— Спакойна, ныцік! — Віталь падапхнуў Арцёма на веранду.— Давай, рэж хлеб і батон, пішы запіску. Я вам

паверыў — дык і вы мне верце! Хоць у мяне ніякіх тэорый — толькі практыка!

Віталь спытаўся бабулю Зосю і з ходу патлумачыў:

— Бабуля, мы табе скажам, а ты каб нікому не казала: ваўкалака мы бачылі, калі мяса смажылі раней. Не пытайся які: не разгледзелі. Вялізны, калматы. Ён у нас мяса скраў. Хлопцы ўпэўнены, што мяса скраў для Леры, дзяўчыны, якую недзе трымае. Дык мы зараз хочам нагатаваць бутэрбродаў і павесіць на сук ясеня. Бабуля Арына кажа, што ваўкалак у навальнічныя ночы там сядзеў. А калі прыйдзе сёння — хай забярэ нашу перадачу для Леры. Ну, дасі нам хлеба і каўбасы?

— А божачкі! — бабуля пляснула рукамі.— Дык зараз, зараз я вам дастану...

Яна крутнулася назад, відавочна, да халадзільніка.

— Класная ў цябе бабуля! — адзначыў Стась.— Ніякіх лішніх пытанняў.

— За гэта асабліва паважаю, яшчэ з дзяцінства,— усміхнуўся Віталь.— Але не думай, яна пасля ўсё з цябе выцягне, распытае. Але зараз толькі дапамагаць будзе.

Бабуля Зося прынесла каўбасу, масла, батон.

— Пакуль шчэ відаць, гурочкаў памацаю,— і заспяшалася ў агарод.

— Дык ліст пісаць будзеш? — спытаў Стась Арцёма.

— Буду.

— То пішы, пакладзём між кавалкамі хлеба.

— А як ён убачыць ды выкіне?

— Ну... Слухай, калі б ён быў такі разумны, як ты, ён бы коз не рэзаў і на гусей не паляваў.

— А каб быў дурны, дык яго б даўно злавілі.

— Твая праўда. Халера ведае, які ён і што гэта... Пішы не адну, многа! У кожны бутэрброд пакладзём.

— А што пісаць?

— «Кахаю, сумую» — рагатнуў Віталь, дадаў рэзка: — Кароткае і суцяшальнае, каб яна, калі ў палоне, ведала, што яе шукаюць менавіта там, дзе яна зараз знаходзіцца.

— Тады... тады: «Лера, трымайся! Мы хутка цябе вызвалім».

— Хай так. Падпішыся.

Ад бутэлькі з вадой вырашылі адмовіцца: а раптам ваўкалак палічыць, што цяжка будзе ды кіне ўсё? Усё паклалі ў чорную цэлафанавую торбачку. Ужо грымела ваўсю, неба на захадзе ўспыхвала белым — не асобнымі звілістымі паскамі, а вялізнымі плямамі з неакрэсленымі краямі. Было амаль цёмна, ледзь угадвалася вяршыня старога ясеня на фоне цёмна-шэрага неба. Спяшаліся: вось-вось пачнецца дождж, у паветры адчувалася прахалода.

Віталь падскочыў, ухапіўся за сук, падцягнуўся, сеў, звесіўшы ногі. Яму падалі торбу. Прыхопленай вяроўчынай нямоцна прывязаў торбу да сука. Прыхінуўшыся спінай да шурпатага ствала, нейкі час глядзеў у бок вёскі, якая ўгадвалася кронамі асобных дрэў у вышыні, а ніжэй — некалькімі жоўтымі плямамі акон.

— Заснуў там? Злазь! — крыкнулі Віталю знізу.

Ён скочыў на зямлю, сказаў задуменна:

— А калі там сядзіш, вёска здаецца іншай...

У гэты час цішыня вакол здрыганулася ад дзясяткаў удараў важкіх дажджавых кропляў па лісці дрэва, потым дождж забарабаніў па зямлі. Хлопцы кінуліся бегма, а буйныя кроплі захвасталі па іхніх спінах, моцна, быццам каралі за нейкае няправільнае дзейства.

Бабуля Зося чакала на парозе адчыненай веранды. Ускочылі, атрэсліся, азірнуліся на двор — і тады лівень шухнуў... Ажно зашумела, забрынчэла вакол: адгукалася на кроплі трава, лістота яблыняў, шыферны дах дома. Вадзяны пыл залятаў на веранду. Бліснула блакітам — ажно зажмурыліся

на імгненне, і да трох не далічыў Стась, як грымнула, бы залп, а потым пакацілася велізарная жалезная пустая бочка з краю на край неба, ракочучы, падскокваючы па нябачных нябесных камянях.

— Зачыняйце веранду, хлопчыкі! А злітуйся, Божа...— казала бабуля Зося.

Сядзець перад акном было і жудасна, і цікава: густы змрок раптоўна ўспыхваў — і быццам на саміх шыбінах акна, а не недзе ўдалечы, імгненна малявалася карціна: вялікі ясень, кусты бэзу — усё ў змярцвела-блакітным святле. Ніхто не змог пахваліцца, што бачыць на суку іх чорны пакет: адсюль да дрэва добрая сотня метраў.

Дождж ліў, не мяняючы ні на хвіліну сваёй сілы. Быццам асобна ад яго джыгалі маланкі, калі вуркатаў, калі ляскаў так, што ўсе ўздрыгвалі, гром. З таго боку шыбіны акна былі ў дарожках вады, разглядзець праз іх карцінку ясеня ў блакітных спалохах было немагчыма. Час цягнуўся марудна, да ўсяго адключылася мабільная сувязь. Сабраліся на кухні — тут бабуля запаліла газавую лямпу, на якую дзівіліся з захапленнем, нагрэлі ваду на газавай пліце, пілі чай. І мусілі ўсё да апошняй дробязі расказаць бабулі.

Навальніца сціхла гадзіны праз дзве. Пацішэў, але не спыніўся дождж. Палеглі спаць.

Здаецца, прачнуліся яны разам. Не было яшчэ і сямі гадзін раніцы.

— Бабуля, мы зараз! — крыкнуў Віталь.— Стаў чайнік!

Прайшоўшы палову дарогі, яны пабачылі, усе разам, упэўніліся, зірнуўшы адзін на аднаго: няма пакета на суку!

— Не павінен быў упасці,— прамармытаў Віталь.

Чорнага пакета не было і пад ясенем. Валяўся той абрывак вяроўчыны, якім Віталь прывязваў пакет да сука. Разарваны абрывак.

Віталь яшчэ хадзіў кругам, узіраючыся пад ногі.

— Ну, чаго сталі? Глядзіце, шукайце! Можа, з'еў усё тут, паперчыны ж жэрці не будзе, хай ён і ваўкалак. Калі валяюцца, дык дарэмна ўсё.

— Агурок з'еў.— Стась нагнуўся і падняў з зямлі акрайчык агурка з невялічкім хвосцікам.— Свежы, наш. Больш нічога не відаць.

— Ну вось, наш паштальён панёс пасылку да Леры! — Віталь ляпнуў па плячы Арцёма.— Сядзі, Цёмка, тут і чакай адказу! — зарагатаў ён.

— А сапраўды, што зараз рабіць? — спытаў той.— Трэба, відаць, расказаць: Лера жывая, яна ў палоне...

— Каму расказаць? — набычыўся Віталь.— Ты яшчэ не зразумеў, што яны ў два разы больш за нашага ведаюць? Што нам трэба, дык гэта Яніна.

— Навошта?

— Шпіёнку з яе зробім,— сур'ёзна адказаў Віталь.

## 13. Стрэлы на балоце

Гукаць Яніну не давялося: яна ўжо чакала хлопцаў на лавачцы. Праўда, не садзілася, бо тая была мокрая ад дажджу. На дзяўчыне былі не заўсёдныя шорты і топ, а лёгкая светлая сукенка. Мабыць, гэтая адзежына прымушала Яніну трымацца асабліва, з большай дзявоцкасцю ці што, бо цяпер яна нават здаля ніяк не нагадвала няўрымслівага падлетка. Не дзіва, што Стась і Арцём адчулі сябе трошкі ніякавата, ды яшчэ Яніна ўсміхнулася ўсім, калі віталася, зусім па-іншаму, загадкава трошкі. Толькі Віталь нікольк не ўразіўся зменамі, узрадаваўся адкрыта:

— Вой, якая ты малайчына! От, на цябе ўжо як на нявесту глядзець будуць. Але выдатна, ты быццам угадала, як апрануцца. Ты мне трэба.

— Навошта я табе? — Здзіўленне Яніны было большым за абурэнне ад нагадвання пра нявесту.

— Ну, не мне аднаму — нам! Трэба будзе пакруціцца каля салдат. Нам трэба ведаць, што яны і дзе збіраюцца рабіць.

— А вы чаго цёгаліся пад ясенем? Што там нюхалі на зямлі?

— А гэта Арцём сваёй Леры перадачку перадаў!

— Што? Ану, расказвайце!

— Пайшлі ў дом, мы яшчэ не снедалі. Будзеш з намі?

— Буду, таксама не ела яшчэ. Страху нацярпелася вечарам. Бабуля адно хрысціцца, святло запальваць не дае, пакуль грымець не перастала. Во забабоны якія...

— Гэта не забабоны,— мякка запярэчыў Стась.— Старыя людзі ведаюць, што маланка ў электрычныя слупы часта б’е. Тады па правадах разрад разбягаецца, у хаты... Будуць працаваць тэлевізар ці халадзільнік — пагараць. Не дзіва, што засцерагальнікі выкручваюць. А яшчэ з разетак падчас навальніцы можа шаравая маланка з’явіцца. Многа выпадкаў апісана.

— Гэта якая? — азірнуўся Віталь.— Ніколі не бачыў.

— Шанцуе тым, хто бачыў,— усміхнуўся Стась.— Шаравая маланка — такое дзіва, яшчэ дагэтуль яе прырода невядомая. Ну, якім чынам яна ўзнікае і што сабой уяўляе. І чаму ў адных выпадках узрываецца, а ў іншых — проста раствараецца ў паветры...

Стоячы на парозе веранды, бабуля адразу ж пацікавілася, уважліва азіраючы рукі хлопцаў: што там з той «перадачай»? Ажно сумеліся крыху: як скажуць, што ўсё ўпала, валялася ўнізе, размоклае, дык не пусціць за парог!

— Усё добра, бабуля! — супакоіў яе Віталь.— Ён быў. Пакета няма, Стась вось знайшоў агрызак агурка, больш нідзе нічога. Ні аб’едкаў, ні паперы. Значыць, панёс з сабой.

— Ну, малайцы, добра прыдумалі. Хадзіце снедаць!

Паселі піць чай з аладкамі, што паспела напячы бабуля. Арцём, перахапіўшы дзве аладкі, загаварыў пра маланкі:

— А шаравая маланка, дарэчы, добра вядомая ў старажытнасці. Нават у Бібліі ёсць згадка пра яе — там Бог з'явіўся некаму з прарокаў у выглядзе круглай маланкі з іскрамі, якая ззяла і гарэла. І ў нас, беларусаў, ёсць Перунова кветка — з дрэва вырэзвалі, майстравалі кветку з шасцю пялёсткамі і прыбівалі раней на вільчык. Каб самы галоўны Бог агню і навальніц не чыніў зла гэтаму дому, бо ягоны гаспадар Бога паважаў...

— А зніч не вырэзвалі? Якім яго малявалі ці майстравалі? — зацікавіўся Стась.

— Не, выяў зніча асобна нідзе не адшукалі... Калі прыйшло хрысціянства, то ўсё было паступова вынішчана. Ідалаў, ну, багоў паганскіх, палілі, калі драўляныя, калі каменныя — разбівалі. Капішчы з зямлёй раўнялі, правекавечныя дубы, пад якімі зазвычай і рабілі капішчы, ссякалі, выпальвалі нутро, каб засыхалі. Камяні святыя альбо абзывалі чортавымі, каб людзі іх цураліся, прыдумвалі розныя байкі страшныя пра іх. А іншыя камяні, калі вельмі прыцягальнымі для людзей былі, аб'яўлялі святымі ды ўжо хрысціянскімі. Асабліва тыя, дзе розныя паглыбленні былі прыродныя — тыя ямінкі называлі слядамі ці Бога, ці Божай Маці, а то і Маці з дзіцём-Хрыстом. Вось так...

— А чаму так? — сур'ёзна спытала Яніна.

— Што — так? — не зразумеў Арцём.

— Ну, навошта нішчылі? Вунь пра грэкаў калі вучылі — дык і статуі засталіся, і малюнкі, і ўвогуле ўсё. Легенды ў школе вучым. А ў нас легенд чаму няма?

— Ну, ты задаеш пытанні,— усміхнуўся Стась.— То пыталася, чаму ў нас адны клапоцяцца пра пошукі чалавека, а другія грошы адбіраюць; то цяпер вось... Адкуль нам ведаць? Хай Арцём пацікавіцца ў выкладчыка.

Яніна пацiснула плячыма, гледзячы ў вочы Стасю, сказала сур'ёзна:

— У мяне, можа, першы раз у жыцці такое, каб размаўляла з разумнымі хлопцамі, якія яшчэ і не задаюцца і не пасміхваюцца. Калі яшчэ такое выпадзе...

— Добра, скончылі тэму,— скамандаваў Віталь, якому надакучыла размова пра нішто.— Вось што, Янінка... Я табе казаў ужо: табе трэба будзе пайсці да салдат. Зараз я падумаў: можна ўзяць малака казінага. Твая ж бабуля трымае казу?

— Лепш агуркоў маладых.

— Ага, бяры агуркоў маладых.

— Толькі я не частаваць, а прадаваць панясу!

— Ну, паспрабуй. Ты ж не сарамлівага дзясятка, язык падвешаны добра. Зразумела?

— Зразумела. Ужо ісці?

— А чаго чакаць?

— Добра.

Яніна паднялася з табурэта, але тут Стась машынальна паклаў ёй руку на плячо, жадаючы, каб яна зноў села. І сам спужаўся свайго жэсту: гэта ж не на хлапечае плячо, на дзявочае паклаў руку, адчуў далонню пад тонкай тканінай цела! Хутка адхапіў руку, зразумеўшы гэтым разам, што на яго рух звярнулі ўвагу. Нечакана хваля гарачыні апаліла твар і ён хрыпла папрасіў:

— Чакай, Яніна...

Усе маўчалі, Віталь адкрыў быў рот, каб спытаць, ці не вельмі гарачае плячо ў дзяўчыны, але змаўчаў, пабачыўшы няёмкасць на твары сябра. Стась кашлянуў і, апраўдваючыся, загаварыў:

— З аднае размовы мала толку. Тым больш калі пачнуцца пошукі і прыляціць верталёт... І што яны шукаюць, наогул.

— Дык жа студэнтку!

— Ты сам казаў: хай бы міліцыя, хай выратавальнікі. Карацей, нам каб падслухаць іх.

— Якім чынам?

— Думаю вось. Шкада, не ў Мінску, зараз бы набылі мікрафон шпіёнскі, метраў на трыста дзеяння...

— А ў мяне дыктафон ёсць! — ускрыкнуў Арцём.— Падкласці, запісаць, пасля паслухаць! Толькі,— ён спахмурнеў,— як заўважаць, шкада, бо ж назад не забярэш. Там столькі запісаў яшчэ не знята на паперу.

— Дыктафон — цікава, але не вельмі. Дзень згубіш на запіс, ноч на праслухоўванне. Так і тэлефонам запісаць можна, не трэба рызыкаваць тваімі запісамі,— разважаў Стась, раптам ажно прыўзняўся ад думкі, што бліснула ў галаве: — Тэлефон! Тэлефон уключыць на размову!

— Гэта як? — не зразумеў адразу Віталь.

— Ды проста! — загарэўся Стась.— Напрыклад, я тэлефаную табе, размову не заканчваем. Свой уключаны тэлефон я пакідаю ў той палатцы. Ты таксама не выключаеш свой. І мы слухаем!

— Супер, Стась! — пляснуў сябе па калене Віталь.— Янінка нездарма кажа, што ты разумны хлопец.

Пачалі абмяркоўваць дэталі. Які тэлефон і чый? Віталь прапанаваў узяць стары бабулін — ёй раней куплялі просты тэлефон, надзейны, ды выслізнуў быў з рук у вядро з вадой. Аджыў амаль, але палова экрана не свеціцца. Больш танна было новы купіць, такі ж просты, чым гэты рамантаваць. А акумулятар там вельмі добры — бабуля раз на тыдзень зараджала. Гадзін восем ці больш павінен трымаць у рэжыме «размова». «Сімку» выцягнуў са свайго смартфона Арцём — у яго там дзве стаялі, абедзве вялікія, да тэлефона бабулінага падыходзілі. «Любімых нумароў», на якія можна было па ўстаноўленым тарыфе званіць бясплатна, было два. Не пыталіся, якія гэта ну-

мары, Арцём дадаў у «любімыя» нумар Віталя. Паставілі «сімку» ў бабулін стары тэлефон, тэлефон — на зарадку. Праверылі сувязь. Пакуль тэлефон зараджаўся, выканалі няхітрыя справы-даручэнні бабулі Зосі. Заадно папрасілі яе яшчэ «памацаць», як яна сама казала, агуркоў — трэба для справы. Бабуля і на гэты раз нічога не пыталася, пайшла ў агарод і неўзабаве вярнулася з агуркамі ў прыполе. Падышла Яніна, якая таксама была ў сваім агародзе, прынесла агуркоў. Яна трошкі падмалявала вочы і напамадзіла вусны, чым на гэты раз трохі збянтэжыла і Віталю:

— А ты ж прыгожая, суседка...

— А вы во не бачыце! — нечакана амаль зазлавала баба Зося.— Усё дзявок сабе шукаеце за морам, а пад носам сапраўднага разгледзець не можаце. От будзеце шчэ локці кусаць!

— Ды бачым мы, бабуля, бачым,— апраўдваўся Віталь, разгублены такім нечаканым напорам: мо першы раз бабуля Зося ўпікала яго ў нечым, ды яшчэ так сур'ёзна.

У старым бабуліным тэлефоне з «сімкай» Арцёма выключылі гук — так сказаў Стась, каб выпадкова нейкае слова з іхняга боку не перадалося туды, дзе будзе ляжаць тэлефон. Праверылі яшчэ і яшчэ раз. Усё быццам павінна было спрацаваць добра. Пайшлі ў бок выгану правесці Яніну, даючы ёй апошнія ўказанні: каб не пакласці тэлефон мікрафонам уніз, каб не патрапіўся адразу на вочы. Нечакана пацішэлі — разуменне таго, што яны робяць справу не зусім законную, а можа, нават і супрацьзаконную, авалодала ўсімі. Падслухваць вайскоўцаў — сапраўднае шпіёнства. Віталь і ў гэтай сітуацыі прадэманстраваў сваю кемнасць:

— Ты, Стась, будзеш адсочваць у размове, калі раптам нехта заўважыць тэлефон ды скажа нешта пра гэта. Тады адразу ж заканчваеш размову, каб тэлефон адключыўся, а Янінка бяжыць у палатку гаротнай дзяўчынкай, якая

згубіла недзе свой тэлефон, пакуль гурочкамі гандлявала. Каб ніякіх падазрэнняў, вось так. Ну і пасля, як закончым, пойдзе і спытае, ці не губляла ў іх сваё багацце.

Гэта супакоіла. Ды ім жа гэта не для гулянкі якой трэба, не збіраюцца яны выведваць ваенныя сакрэты...

Другі ад выгану дом пуставаў.

— Гаспадары памерлі, дзеці прыязджалі адно на Радаўніцу, а купляць дом для жытла і не было каму: хто будзе сяліцца ў вёсцы, дзе няма ні пошты, ні крамы, ні школы з садком,— патлумачыў Віталь, калі павёў сяброў да гэтага дома.— Вунь, на цэнтральную сядзібу збіраюцца з такіх вёсак, якія пакрысе пусцеюць і дзічэюць, як Яніна кажа. А можа, дзеці знарок не захацелі прадаваць бацькоўскі дом, хату, у якой выраслі. Вось прыедуць раз ці два разы на год — і быццам ёсць у іх прытулак тут, ёсць дзе спыніцца, адчуць сябе дома, гаспадарамі. Гэта, мабыць, так важна — ведаць, што ў цябе заўсёды ёсць апошні прытулак — твой родны дом. Хай стары, хай вокны ў ім з цёмнымі ад пылу шыбінамі, хай двор зарос крапівой і быльнягом, але ж вось у садзе яблыні стаяць з завяззю, і глядзі, падрэзаныя акуратна. Найлепш легчы пад крайняй яблыняй. Тут некалькі старых кустоў парэчак хаваюць цябе з боку выгану, а табе добра бачна Яніну, якая ўжо дайшла да вялікай цёмна-зялёнай палаткі, размаўляе з салдатам, што выйшаў да яе насустрач.

Палеглі на яшчэ вохкую ад мінулага дажджу траву.

Стась слухаў уключаны тэлефон, які знаходзіўся зараз у Яніны, праз навушнікі, моршчыўся:

— Яна ідзе, сукенка шамаціць, трава пад нагамі — ажно ў вушах страляе. Так, салдат узрадаваўся, пайшоў клікаць лейтэнанта... гуркам рады! Вось дык Яніна! Яна просіцца ў палатку паглядзець, як жывуць салдаты, бо нібыта яе старэйшы брат збіраецца стаць ваенным! Ну, малайчына!

— Зайшлі ў палатку! — Віталь назіраў за выганам праз кусты.

— Пра верталёт пытае... Так, прыляціць хутка. Будуць абследаваць востраў. Упс! Тэлефон, здаецца, упаў... Яніна развітваецца, голас ужо здаля. Малайчына! Яе місія выканана!

— Цяпер слухай. Ці ўключай на гучную...

— На гучнай сувязі хутчэй здохне тэлефон.

— Значыць, слухай так, але ж кажы пра ўсё.

— Дык канешне! Нехта загадвае навесці ідэальны парадак... рыхтуюцца да сустрэчы. Мабыць, чакаюць некага важнага.

Прайшло колькі часу.

— Вунь і важныя,— Віталь кіўнуў на дарогу да вёскі, з якой збочыў у бок выгану армейскі УАЗ, а следам за ім — аўтамабіль з будкай, на якой, хутчэй за ўсё, былі дугі антэн.

— Ого, машына сувязі,— пацвердзіў здагадку Арцём.— У мяне бацька на такой служыў, бачыў ягоны армейскі альбом.

На выгане пачаўся рух. Яніна ўжо адышлася далёка, заварочвала ў вёску, як і дамовіліся. Групу малых хлапчукоў, якія ішлі да палаткі, выйшаў сустрэць салдат з аўтаматам. Спыніў дзятву, паказаў рукой — нельга. Хлапчукі паселі ў траву — ім цікава было пабачыць верталёт, прыляціць жа!

З УАЗа выйшла трое, здаецца, афіцэраў, іх сустрэлі. Усе пайшлі ў палатку. Віталь запытальна зірнуў на Стася.

— Ды мацюкаюцца яны! — паморшчыўся ў адказ Стась.— Стол каб па цэнтры, святла паболей... Карту на стол... Задача — пошук аб'екта. Быць асцярожнымі — магчыма, з ім цывільная. На верталёце прыбудуць двое вопытных разведчыкаў. З імі разам на востраў ляцяць пяцёра салдат. Ці падрыхтаваныя добра, пытаецца. Спускаюцца на стропах. Пакуль разведчыкі аглядаюць востраў, салдаты рыхтуюць пляцоўку для пасадкі на востраве верталёта. За

гэты час верталёт робіць аблёт вострава і балота побач з ім, самога вострава. Што ёсць перакусіць? Дзе ўзялі такія смачныя агурочкі?

Стась не вытрымаў, засмяяўся:

— Дагадзіла Яніна генералу!

— А то генерал? — спытаў Віталь?

— Не, я так сказаў. Падпалкоўнік — так да яго звярталіся. Зараз ядуць, будуць піць чай. Верталёт вось-вось прыляціць...

— А мне што рабіць? — раптам сумна спытаў Арцём.

На яго зірнулі з неўразуменнем.

— У сэнсе? — перапытаў Віталь.

— Ды я, атрымліваецца, нічога не раблю!

— Чаго ты разнюніўся? Мы тут што, дровы нарыхтоўваем? Усе ўтрох ляжым пакуль,— адмахнуўся Віталь.

— І гэта, ты зараз са мной размаўляеш, хіба не? — усміхнуўся Стась.— Ляжы спакойна, я стамлюся — будзеш ты слухаць...

— І кінь дурное — перажываць з-за нечага, нібыта тут за цябе тваю справу робяць,— дадаў Віталь.— Хто на што здатны, чые рукі, ногі ці галава ў гэты момант трэба, той і заняты. Цяміш? І слухай во, аналізуй, ты ж умееш.

— Добра...— буркнуў Арцём, быццам трохі павесялеўшы.— Слухаю. Не падабаецца мне...

— Што не падабаецца?

— Што ў іх там,— Арцём кіўнуў на выган з палаткай,— галоўная мэта — знайсці нейкі аб'ект. А Лера, выходзіць, другарадная задача...

— Так, нешта тут цёмнае. Ды развіднее хутка, усё пабачым і пачуем.

Армейскае «неўзабаве прыляціць» расцягнулася амаль на гадзіну чакання. Нарэшце пачуўся рокат верталёта, пасля ён паказаўся на небе, павялічваючыся ў памерах і аглушаючы наваколле, стаў зніжацца. Да тых хлапчукоў, якіх

спыніў салдат, далучаліся яшчэ дзеці. Нехта і са старэйшых падышоў зірнуць на такое дзіва: сапраўдны верталёт апусціўся за іхняй вёскай. Калі шчэ было такое?

Арцём з Віталем пазіралі на Стася, той паціскаў плячыма ў адказ:

— Чую, як стракаціць, гул суцэльны. Нічога не чуваць... Адно пара мацюкоў...

Далейшыя дзеянні на выгане разгортваліся хутка. Загадзя падрыхтаваныя салдаты паселі ў верталёт, той зароў, узляцеў і імкліва пранёсся над самымі хатамі вёскі — у бок балота.

Хлопцы ляжалі, паглядвалі на Стася. Прайшло хвілін дваццаць.

— Пакуль нічога... Вось, здаецца, той падпалкоўнік, запатрабаваў сувязь...

Ён зняў навушнікі, хутка ўключыў гучную сувязь:

— Слухаем разам, здаецца, трымае акумулятар добра.

Сцішыліся, пасунуліся галовамі да тэлефона, які ляжаў між імі трыма. Пачуўся незадаволены камандны голас:

— Сяржант, доўга яшчэ мне чакаць? Давай сюды... Канал закрыты? Глядзі мне... Гэта «Востраў»! Дайце мне «Першага»... Таварыш палкоўнік, аперацыя пачалася. Ёсць дакладваць аб усім! Сеансы сувязі з «Крылом» праз кожныя дзесяць хвілін, калі ў іх нічога надзвычайнага. Там капітан роты разведкі, самы вопытны, гэты не ўпусціць. Ёсць! Сяржант! Праз пяць хвілін дасі «Крыло», і каб я не паўтараў два разы!

Усталявалася цішыня, толькі пратупалі нечыя ногі зусім блізка ад тэлефона, здалося — зараз на яго наступяць, хлопцы ажно сцяліся. Пранесла.

Праз пяць хвілін прагучаў малады голас:

— «Крыло» на сувязі, таварыш падпалкоўнік!

— Давай... «Крыло»? Дакладвайце! Што значыць, байцам нешта мільганула? У вас вочы, каб толькі на жанчын

вытрашчвацца? Мне ў штаб так і загадаеш далажыць: «Мае разведчыкі быццам нешта бачылі?» Капітан, калі ты не разумееш усёй адказнасці аперацыі, я табе пазней яе патлумачу, але ўжо не капітану, а старшаму лейтэнанту! Не мне цябе вучыць! Перарыць там усё! Праз дзесяць хвілін каб быў вынік!

Зноў наступіла цішыня, у час якой хлопцы чулі дыханне адзін аднаго.

— Таварыш падпалкоўнік, «Крыло»!

— Давай... Слухаю... Дазваляю страляць на паражэнне! У балота не ўпусціць! Нам трэба аб'ект! Аб'ект жывы ці мёртвы! Згіне ў балоце — будзеш сам асушваць яго, але дастанеш! Выконвай!.. Сяржант, дай «Першага»! Таварыш палкоўнік, дакладваю: група выявіла аб'ект на востраве. Густая расліннасць замінае пераследаванню, падтрымка з неба ўскладняецца наяўнасцю падлеску і кустоў. Група працягвае планамернае прачэсванне. Так точна, дадзены дазвол на прымяненне зброі. Так точна, жывым ці мёртвым. Заява для прэсы гатова ў чатырох варыянтах. Наша здымачная група будзе праз пяць хвілін. Ёсць адправіць вам сюжэт!.. Сяржант! Згатуй мне чаю... Надта моцны не рабі! Без цукру.

І зноў усталявалася цішыня. Доўгая і пакутлівая.

Віталь спытаў чамусьці шэптам:

— Значыць, яны ведаюць, на каго там палююць?

— Думаю, так,— згадзіўся Стась.

— Гэты падпалкоўнік сказаў, што гатова заява для прэсы ў чатырох варыянтах. Гэта як? — спытаў Арцём.

— А вось так... Варыянт, калі той аб'ект бяруць жывым і знаходзяць тваю Леру, калі яго бяруць і не знаходзяць, калі бяруць мёртвым, калі нічога не знаходзяць,— пералічваў магчымы зыход падзей Віталь.— Ваенныя — яны такія. Усё пралічана, каб не разгубіцца ад пытанняў.

— Ніхто ў іх асабліва пытацца не будзе,— заўважыў Стась.— У іх свая прэса, тэлебачанне. Ведаю. Здымуць, што трэба. Вы ж чулі: «Ёсць адправіць сюжэт!» — перадражніў ён голас падпалкоўніка.

— Эх, каб нам зараз на востраў...— уздыхнуў Арцём.— А калі яны застрэляць яго?

Усе сцішыліся, быццам недзе там, на востраве, здарылася нешта непапраўнае і яны самі былі ў гэтым вінаватыя. Ну, хай не вінаватыя, але ж засталіся ўбаку, не змаглі ўмяшацца. Гэта ж іхні ваўкалак. Ён скраў мяса, але ж і бутэрброды аднёс да Леры. Ну, яны так думаюць, што аднёс. А куды ён іх яшчэ мог падзець? Калі б еў, то на месцы, агурок жа вунь з’еў. А што гусей ды коз краў, дык есці ж яму трэба было нешта. Хто яго здагадаўся пакарміць?

Тэлефон ажыў, хлопцы ўздрыгнулі ад голасу сяржанта:

— «Крыло», таварыш падпалкоўнік!

— Слухаю...

Дакладвалі падпалкоўніку доўга, ён не перабіваў, толькі дыхаў цяжка, быццам нёс мех на плячах. Нарэшце загаварыў сам:

— Малайчына! Прачэсвай усё акуратна! Не прапусці ні сантыметра! Можа, знойдзецца цывільная ці яе сляды... Сяржант! «Першага» давай!... Таварыш палкоўнік, дакладваю: аб’ект быў прыціснуты на краі вострава, кінуўся ў балота. Змог адарвацца на вялікую адлегласць. На папераджальныя стрэлы не рэагаваў, вяртушка стрымаць яго таксама не змагла. Быў ранены трапным стрэлам. Упаў у балота. На жаль, выцягнулі яго ўжо мёртвага. Група вядзе пошукі на востраве, пакуль слядоў дзяўчыны не выяўлена. Так точна, прачасаць да сантыметра! Такая задача пастаўлена, таварыш палкоўнік.

Хлопцы слухалі, стаіўшы дыханне. Прайшло яшчэ паўгадзіны. Тэлефон маўчаў. У поўнай цішыні вакол прыглушаныя крокі ў густой траве зашалясцелі як сігнал —

уздрыгнулі, крутнулі галовы на гук — да іх ішла Яніна, апранутая ў сіні спартыўны касцюм. Яна, узрушаная, прысела на траву побач:

— Вам усё чутно? З балота дзядзька Ігнат прыехаў, па лазу для кошыкаў хадзіў. Казаў: чуў стрэлы! Многа разоў! Так напужаўся, што на лазу забыўся, хутчэй дадому. Верталёт кружыць і кружыць у балоце, далёка.

— Мы ведаем,— адказаў Стась.— Тут падпалкоўнік дакладваў свайму начальству. Забілі нейкі аб’ект. Ці сам захлынуўся ў балоце. Зараз шукаюць Леру, прачэсваюць востраў. Ты малайчына, так удала тэлефон паклала — мы ўсё патрэбнае чулі.

— У палатцы нары такія нізкія, што я прысела, быццам паспрабаваць, ці мякка, ды апусціла тэлефон… Мне ўжо ісці да палаткі, казаць, што згубіла?

— Не, не трэба! — спыніў яе Віталь.— няхай закончыцца гэта ўсё, з’едзе падпалкоўнік. Паспеем забраць. Падазрэнні могуць быць, ды і яшчэ пачуем мо што…

У палатцы быццам пачулі ягонае жаданне — з тэлефона пачуўся знаёмы камандзірскі голас:

— Сяржант, дай «Крыло»! — Падпалкоўнік нейкі час слухаў, завяршыў размову кароткім: — Вяртайцеся! Глядзі, капітан: адказваеш! — пасля звярнуўся да тых, хто быў у палатцы: — Лейтэнант, звязвайся з мясцовым кіраўніцтвам, няхай прыбывае сюды, збірае вяскоўцаў. Пракурора раённага папярэдзь, ён недзе тут блізка павінен быць. Здымачная група, працуеце больш з насельніцтвам. Каб было, што людзі радыя, пазбавілі іх чупакабры. Група вяртаецца з вострава. Труп і астатняе здымаеце, сюжэт без вас змантціруюць, вы здымайце ўсё запар.

— Нам бы самім на тое балота патрапіць, ёсць жа там нейкія сляды, логава? — прагучаў незнаёмы голас, мабыць, некага са здымачнай групы.

— Абмяркуем! — згадзіўся палкоўнік.

Праз хвілін дваццаць на выган прыехалі тры легкавыя аўтамабілі. Ля салдата, які перакрываў вольны ход да выгану, сабралася ці не ўся вёска — і дзеці, і мужчыны, і жанкі.

— Адключайся, можа? — сказаў Віталь да Стася.— Зараз пойдзем туды, там больш пачуем.

— Ага,— згадзіўся Стась.— Яны зараз усе звонку.— Ён паціскаў кнопкі на тэлефоне.

Верталёт прыляцеў з балота, зрабіў круг над выганам, сеў. Калі ягоныя рухавікі сціхлі, натоўп людзей, у якім ужо былі і нашы сябры, рушыў да палаткі, дзе купкай стаялі ваенныя, з імі і цывільныя, сярод якіх быў і старшыня сельсавета. Людзі ішлі, таўкліся, выбіраючы месца, каб усё пабачыць. Не жарт: ваенныя застрэлілі ў балоце чупакабру, якая крала ды ела гусей, курэй, рэзала коз.

Аператар з відэакамерай усё шукаў патрэбнае месца для здымкаў. Узрушаны шэпт шалясцеў у натоўпе, бы ветрык у апалым лісці — гучна ніхто не размаўляў. Усе былі страшэнна заінтрыгаваны, глядзелі на тое, як салдаты даставалі з верталёта і паклалі на зямлю нешта, загорнутае ў плашч-палатку. Яно было важкім, вялікім!

— Таварышы вяскоўцы! — пачаў падпалкоўнік, у момант усталявалася цішыня.— Вы павінны ведаць, што выпадкі крадзяжоў хатняй жывёлы, знікненне студэнткі не магло заставацца без увагі кампетэнтных органаў. Да нас звярнуліся па дапамогу, і сёння нашы байцы абследавалі востраў у балоце. Як вы самі лічыце, да вострава нельга дабрацца ў такі час. Разам з тым, вывучэнне сітуацыі паказвала, што адзіным прытулкам для таго, хто выклікае жах у наваколлі, быў менавіта востраў. Што сёння і было даказана. Вось, аперацыя дала плён, глядзіце!

Тут падпалкоўнік азірнуўся на салдат, двое падышлі і разгарнулі плашч-палатку. Натоўп людзей спуджана падаўся назад. Было з-за чаго!

На зямлі, увесь запэцканы ў балотную твань, ляжаў мёртвы чалавек: босы, у штанах, вышэй за пояс нічога не апранута. Ён быў страшэнна зарослы, валасы галавы, барады і вусоў спляталіся разам, мокрыя, брудныя. Твар мярцвяка застыў у жудаснай грымасе, у якой сабраліся разам страх, адчай і нянавісць.

Ваенны, мабыць, задаволены эфектам, кашлянуў і прадоўжыў:

— На востраве быў заўважаны вось гэты невядомы. На заклікі спыніцца і здацца ён адмовіўся, папераджальныя стрэлы былі ім праігнараваны. Быў ранены трапным стрэлам, але кінуўся ў балота, дзе ўпаў у яміну і захлынуўся. Адтуль яго дасталі, і вось ён перад вамі. Папярэдне ёсць такая інфармацыя, што гэта беглы злачынца з адной з суседніх з намі краін. Зараз пачнецца работа спецыялістаў, якія дакладна высвятляць гэтую асобу. На востраве было знойдзена логава, ля якога вось,— ваенны паказаў на выкладзеныя ля цела знаходкі,— байцы знайшлі косткі жывёлы і птушкі, армейскі штык-нож, старую ватоўку. Гэта даказвае слушнасць нашай знаходкі. Зараз на востраў адпраўяцца следчы і пракурор для правядзення неабходных у такіх выпадках дзеянняў. З сённяшняга дня вы можаце спаць спакойна: чупакабры больш няма!

— А дзяўчына? — гукнуў нехта з натоўпу.

Палкоўнік зняў фуражку, цэрануў насоўкай вялікую лысіну, надзеў фуражку і старанна паправіў яе, перш чым пачаць гаварыць.

— Дакладна кажу: абсалютна ніякіх слядоў знаходжання дзяўчыны на востраве не выяўлена. Не мая справа рабіць высновы. Мы толькі знаходзім і выяўляем факты, але, мне здаецца, прапажа дзяўчыны і гэты вось чупакабра — супадзенне. Тэлефон дзяўчыны, наколькі мне вядома, быў знойдзены ля дарогі на ўскраіне вёскі. Кампетэнтныя органы займаюцца вывучэннем гэтай справы, пошукавая ра-

бота працягваецца. Упэўнены: дзяўчына хутка знойдзецца, яшчэ дзень-другі пачакаць. Што зробіш — малады розум, гарачыя пачуцці...

Пасля кожны мог падысці бліжэй, куды хацеў: хлапчукі кінуліся да верталёта, з мужчын каторы і жанкі падыходзілі да ляжачага цела, некага спынялі аператар з відэакамерай і жанчына з мікрафонам, пыталіся: ці задаволены яны работай ваенных?

Яніна неўпрыкмет збегала ў палатку, вярнулася, кіўнула хлопцам і паказала тэлефон: усё ў парадку. Без размоў вярталіся ў вёску, не згаворваючыся, прыселі на лаўку.

— Ну, што скажаце? — спытаў ва ўсіх Віталь.

— А ты што скажаш? — у сваю чаргу, спытаў Стась.

— Я спачатку вас, разумных, паслухаю.

— Не ведаю я, што асабліва і гаварыць,— прызнаўся Стась.— Мы ж чулі: на востраве быў найвопытнейшы разведчык. Яны абшукалі яго ўвесь...

— А я не веру,— уздыхнуў Арцём, паўтарыў настойліва: — Я не веру. Лера недзе там. І яна жывая.

— Такі страшны гэты... ваўкалак,— уздыхнула Яніна.— А мне яго чамусьці шкада. Чаму ён быў там?

— Табе ж сказалі: беглы злачынца, хаваўся...

— Гэта ж колькі гадоў! За гэты час і звар'яцець можна! — уздыхнула Яніна.

Віталь вытрымаў паўзу, загаварыў упэўнена і нават важна:

— Цяпер я казаць буду. Вы бачылі тое, што прывезлі з сабой салдаты з логава. Калі я некалькі гадоў жыву, дык вакол мяне павінна куды больш костак быць...

— Можа, яны не ўсё забралі,— уставіў Стась.

— Не перабівай, дай сказаць,— паморшчыўся незадаволена Віталь.— Сказана было: знойдзена ля логава. Ты бачыў дробныя косткі птушыныя? Ну, калі іх сабралі, дык нешта іншае прапусцілі б? Але далей... Што гэта значыць? Думаю,

тое логава — не адзінае. Канешне, каб пабачыць яго, дык сказаў бы дакладна. Ды і якім бы ні было логава, зімой там жыць нельга без агню.

— Ён зімой мог прыходзіць у логава на Праскоўін падворак.

— Мог! Але і там колькі гадоў няма дома — гэта адно. А вось другое: людзі б сляды заўважылі на снезе, гэта не той час, калі Праскоўя жыла. Але ёсць куды важнейшае за ўсё гэта!

— Ну, што?

— Не цягні, кажы!

Віталь паглядзеў на сяброў, хітравата прыжмурыўся:

— Тэарэтыкі! Дзе чорны пакет, які ён забраў? А ён забраў, мы ўпэўніліся, мінулай ноччу? Ага! Ён яго некуды аднёс! Карацей... Зараз усё тут сціхне, ваенныя зваляць, а вы мне пакажаце, куды ісці, каб трапіць на сцежку праз балота, які па казцы бабулі Арыны вылічылі.

— Гэта не казка,— паправіў Віталя Арцём.

— Хай не казка,— ляпнуў яго па плячы Віталь.— Абы ў ёй была праўда. Вось наконт легенд не ведаю, а ў казках жа, сам казаў, праўда бывае!

## 14. Воўчае вока ўзышло над зямлёю...

Пакуль ваенныя збіраліся, Стась з Арцёмам збегалі на лецішча: праз дзень вернуцца з адпачынку бацькі, трэба парадак які навесці, дый зірнуць на кветнікі, як яны пасля ліўня. Збольшага павыціраў пыл, па падлозе пасоўгаўся з мокрай анучай — быццам, норма. З халадзільніка Стась дастаў пачак пельменяў, зварылі. «Хлеб чэрствы,— адзначыў для сябе Стась,— трэба купіць свежага, а то маці адразу пачне ўпікаць».

Ды не да хлеба, а з сабой бацькі, вядома ж, прывязуць усяго! Ужо заўтра вечарам яны будуць у Беларусі, раніцай наступнага дня — тут, на лецішчы. Супакоіў іх: маўляў, усё нармальна, нічога не згарэла, не зарасло пустазеллем. Час праводзіць цікава, пазнаёміўся з мясцовымі хлопцамі, разам ходзяць на рыбу, гуляюць у сеціве ў «стралялкі».

Калі абедалі ў альтанцы, падышоў сусед. Павітаўся, пацікавіўся навінамі. Хоць ён сам ведаў як быццам усё, Стась коратка расказаў пра ўбачанае. Канешне, пра тое, што падслухалі, не сказаў.

Былы прапаршчык пажаваў задумліва вусны, кракнуў:

— Што ж, я так і думаў...— і пайшоў да сябе.

Стась з Арцёмам пераглянуліся.

— Гэты дзядзька нешта не дагаворвае,— услых падумаў Арцём.

— Згодны. Альбо мы нечаму не надалі ўвагі ў яго расказе раней...

Калі прыйшлі ў вёску, Віталь іх ужо чакаў, нецярпліва тупаючы без мэты на надворку.

— Дзе вы ходзіце так доўга? Хутка сонца сядзе... Пайшлі? — пасля зірнуў на ногі сябрукоў, заўважыў: — У балота ж ідзём, а вы як на танцы сабраліся. Мо б старое што надзелі. У мяне, крамя гэтых, яшчэ джынсы ёсць. Можа, даць каму?

— У мяне ж няма больш нічога,— пацiснуў плячыма Арцём,— а твае джынсы мне хіба пад пахамі зашпільваць.

Стась адмахнуўся:

— Памыюцца красоўкі і штаны. Дый нам сёння толькі на кропку зірнуць. А Яніна дзе?

— У яе хатнія справы — бялізну мые з бабуляй. Дый не трэба яна цяпер, а заўтра тым больш,— адказаў Віталь.— Яшчэ не хапала цягаць дзеўку па балоце. Хадзем! Я вудачкі бяру, быццам ідзём на рыбалку, сказаў бабулі, што заўтра з раніцы збіраемся на ўвесь дзень, у мяне бацькі

прыязджаюць пасля абеду, твае, Стась, таксама пазаўтра будуць. Ну, быццам вось апошняя рыбалка перад тым, як раз'ездземся. Бо на балота бабуля не пусціць. Яна мне наўпрост сказала, каб туды не лез.

Выйшлі за вёску, Стась дастаў тэлефон, уключыў навігатар. Да берага балота было кіламетры са тры, ад краю балота да вострава — каля двух кіламетраў. Але ісці па прамой лініі ніяк не атрымалася: напачатку былі калгасныя палі. Не пойдзеш жа па пасевах! Не хапала яшчэ на канфлікт нарвацца. Потым канавы адна і другая. Калі адышліся далекавата, Віталь у кустах прыхаваў вудачкі: чаго іх было несці? Ля канавы раслі вялізныя таполі, унізе было поўна сучча, абламанага моцнымі вятрамі, рос падлесак. Ішлі ўздоўж наезджанай трактарамі дарогі, вышукваючы месца, каб перайсці, бо пакуль было шырока і глыбока. Віталь паглядваў у бок таполяў. Потым прыпыніўся, гукнуў за сабой — нагледзеў гонкія маладыя асінкі. Зрэзалі тры штукі, даўжынёй метры па тры, моцныя.

— Спатрэбяцца.

Дайшлі да месца, дзе гэтая канава ўлівалася ў яшчэ большую. Балазе, тут былі масты — каб праязджаць тэхніцы. Стась пазіраў на манітор, папярэдзіў: наперадзе, маўляў, яшчэ два разы шлях цераз канавы, то лепш адразу ісці берагам канавы, няхай і будзе крук. З ім згадзіліся: ісці дарогай было куды лягчэй, чым напрамкі цераз поле ці цераз луг з густым травастоем.

Было ўжо ля чатырох гадзін пасля абеду, сонца паліла ваўсю — на вольнай прасторы яно падавалася бязлітасна гарачым і зыркім. Наўкола не было відаць ні душы, толькі далёка адсюль, на гарызонце нячутна рухаўся кормаўборачны камбайн, а за ім — два трактары з прычэпамі. Дайшлі да чарговага мастка, крочылі ўздоўж наступнай канавы. Гэтая была зусім плыткая, вужэйшая за іншыя, дарогі ля яе не было.

Пачалося кустоўе, з зараснікамі крапівы, такімі густымі і такімі вышэзнымі, што не верылася, як яна сама магла нарасці, а не нехта яе тут сеяў. Недзе купкамі стаялі вольхі. Часам пад нагамі рабілася мякка, збочвалі крыху, але Стась упарта трымаўся кірунку.

— А цяпер толькі прама і прама...

— І выйдзем на сцежку?

— Не ведаю... Вы ж самі падумайце: калі тое гаварылася? А балота вунь колькі асушылі. Можа, дзе мы стаім цяпер, раней была багна сапраўдная і сцежка проста пад нагамі. Пайшлі, пакуль можна ісці...

Ісці было можна, але як няпроста! Збочвалі і вярталіся, цераліся праз зараснікі, скакалі па купінах у нізінках, дзе было топка. Мокрыя па калена, з рукамі, апечанымі крапівой, яны ўпарта прасоўваліся наперад. І раптам кустоўе і зараснікі быццам расступіліся перад імі — наперадзе была зарослая травой канаўка, а за ёй ляжала балота: роўная пляскатая паверхня з рэдкімі куцкамі кустоў. Спрэс ляжала трава: дзе зялёная купінамі, дзе жоўтая шчэццем, дзе рудая гнілымі плямамі. Невялікімі лапікамі паблісквала ў промнях сонца чорная вада ў «вокнах». Леваруч бялелі, быццам крыжы на могілках, ствалы бярозак, нятоўстыя, але толькі ствалы — ні галін, ні веццяя, мёртвыя. Такія ж чаплялі позірк удалечыні.

Віталь пераскочыў канаву, пачакаў сяброў. Было бачна, што сам ён не чакаў такога гнятлівага пейзажу, бо сказаў нерашуча, чакаючы падтрымкі:

— Ну што, трэба паспрабаваць... Стась, дакладнае месца?

— Так, стаім роўна на лініі...

— Арцём, як там было ў бабулі? Проста стаць ды ісці? Мо пойдзеш першым?

Арцём шмыгнуў носам, бы ў нечым вінаваты, ціха адказаў:

— Я балота на свае вочы, во такое, першы раз бачу. А сказана... Змяёй і зайцам ісці.

— Значыць, класціся на пуза ды паўзці? — рагатнуў Віталь.

Было бачна, што яму самому страшна рабіць першы крок у балота. Яно было такое чужое, быццам уварвалася ў іх свядомасць з нейкага іншага вымярэння, ці то з фільма якога, ці з гульні. І цішыня — цішыня такая, што ажно вушы калола ад шоргання травы пад нагамі.

— Добра, зараз паспрабуем, толькі адпачнём.— Віталь сеў на ўзбочыну канавы, апусціў уніз ногі. Раскрыў заплечнік, выцягнуў зматаную вяроўчыну, якую чапляюць бялізну развешваць. Вяроўчына была новая.

— Я паспрабаваў — вяроўчына трымае маю вагу, не здолеў парваць,— усміхнуўся Віталь.— Значыць, зараз я абвязваюся добра і спрабую ісці наперад. За колькі крокаў ад мяне, след у след — Стась. Вяроўчыну трымае. Ты, Арцём, замыкаеш... таксама вяроўчыну каб трымаў.

— Лепш нам таксама абвязацца...

— Заўтра прыдумаць трэба, як абвязвацца, на рамяні трэба якое кольца. Пакуль проста вакол сябе адзін раз, каб яна не падала, але і не заціскала. Ну што, пайшлі? Мне, шчыра кажучы, страшнавата, але цяпер, калі вяроўчына ёсць, дык адно гідка ад думкі, што правалюся, увесь у гніллё запэцкаюся. Мацайце перад сабой добра, хоць я буду першы ісці... І вакол сябе. Ну, як кажуць абедзве мае бабулі, «з Богам ці што»?

— Хай будзе так,— усміхнуўся Стась.— Арцём, гатовы?

— Гатовы.

Першыя крокі па балоце Віталь рабіў надта асцярожна, падоўгу тыкаючы палкай перад сабой. Пасля асмялеў. Ногі лезлі ў мяккую зямлю па шчыкалаткі — на гэта не зважалі. Праз крокаў дзесяць Віталь спыніўся: ён тупаў нагой, а перад ім гайдалася зямля — быццам хвалі разыходзіліся на

колькі метраў ва ўсе бакі. Відавочна, зверху тут быў тоўсты пласт травы, жывой і адмерлай, а пад ім — прорва. Віталь не рызыкнуў ісці: надта ж жахліва выглядала гэтае пагойдванне. Збочыў налева — там было цвярдзей.

— Во, тут нешта і надта цвёрда,— праз колькі крокаў сцішана прагаварыў ён, стоячы на месцы і тыкаючы дручком вакол сябе.— Ага, вось сюды пайшло...— Ён зрабіў некалькі крокаў убок, азірнуўся: — Тут дакладна, як сцежка пад нагамі, цвёрда, не грузнуць ногі! Ісці?

— Але ж то ўбок,— паціснуў плячыма Стась.— Ды пайшлі...

«Сцежка» закончылася хутка, і наперадзе дручок Віталя нечакана праваліўся глыбока. Хлопец хутка мацаў ім перад сабой, па баках, гукнуў радасна:

— Во, зноў быццам намацаў. Але тут пераступаць трэба!

Ён зрабіў вялікі крок, апіраючыся на дручок, смялей пайшоў — ужо амаль у адваротны бок.

— Ты ж назад вяртаешся,— заўважыў Стась, гледзячы на экран тэлефона.

— Ідзі, Віталь, ідзі,— раптам закрычаў радасна Арцём.— Змяёй! Змяёй ідзеш! Сцежка зігзагам! Як змяя паўзе — не наперад, а па баках віхляючы. І з аднаго зігзагу на другі трэба скакаць, бы заяц! А-а, я бабульку Арыну сёння чым-небудзь пачастую смачным! Што яна любіць найбольш, Віталь?

— Ды не ведаю,— спыніўся той ад разгубленасці.— Што, дакладна так?

— Так! — пацвердзіў словы Арцёма Стась.— Навігатар наш шлях малюе: мы ўзбіліся на сцежку і віхляем!

— Наперад! Хадзем! — падахвоціў Арцём.

— Куды наперад, дзівак? Вострава не відаць,— усміхнуўся Віталь.— Не забыўся, мы толькі сцежку шукаць пайшлі. Ноч наперадзе.

— Ну, яшчэ пройдзем, каб на наступны зігзаг патрапіць, дакладна ведаць будзем,— угаворваў Арцём.

— Пайшлі...

Асмялелі, адчуваючы цвёрдае пад нагамі, хоць тыя і па калена месцамі зарываліся ў мяккую твань. Ішлі блізка адзін за адным, гледзячы сабе пад ногі. Таму Стась амаль уткнуўся тварам у спіну Віталя, які нечакана застыў на месцы.

— Што там? Сцежка кончылася? Мацай наперад і ўлева!

— А ты зірні.— Віталь трошкі пасунуўся ўбок.

Стась зрабіў крок і ледзь стрымаўся, каб не крыкнуць ад узрушэння.

— Ану, Арцём, паглядзі ты і скажы, што бачыш.— Ён падміргнуў Віталю, гэтаксама саступіў убок, даючы Арцёму зірнуць наперад.

Арцём углядаўся ў балота наперад, вусны яго бязгучна шавяліліся.

Адносна роўная па колеры паверхня перарывалася за пяць крокаў ад іх выразнай, няроўнай чорнай паскай. Арцём азірнуўся назад, бачачы амаль такую ж за сабой. Значыць, нехта хадзіў перад імі гэтай сцежкай, узбіўшыся на яе іншым шляхам.

— Мы знайшлі сцежку ваўкалака.— Арцём аблізаў засмяглыя вусны.— Яны не перапыняліся ні на хвіліну ўвесь гэты час, а піць вельмі хацелася.— У цябе вада, Стась?

Стась кіўнуў, дастаў з заплечніка бутэльку вады, працягнуў Арцёму. Папілі ўсе.

Падышлі да таго месца, адкуль з балота на сцежку заходзіў нехта. Хоць хто гэта можа быць, акрамя іхняга ваўкалака? На балоце ў напрамку вёскі засталася добра бачная ў парушаным покрыве балота дарожка.

— Нам пашанцавала, што ён хадзіў тут сённяшняй ноччу,— заўважыў Віталь.— Ну што, вяртаемся следам ваўкалака?

— Давай. Сонца ўжо апускаецца, нам ісці больш за паўтары гадзіны.

— Пайшлі!

Вярталіся па слядах смялей, але не забываліся мацаць наперадзе сябе. Ці мала што... Усё было б добра, але раптоўна, быццам абудзіў іх хто, у паветры павісла літаральна хмара камарэчы. Не паспявалі пляскаць сябе па тварах і руках.

Калі наперадзе ўзнікла канаўка, за якой было ўжо куды цвярдзей і можна было не баяцца «вокнаў», сляды наперадзе амаль згубіліся. Быццам і там відаць, і ў іншым месцы парушана твань, і яшчэ там прымятая трава...

— Калі ён выходзіў з балота ці ішоў праз яго, заўсёды выбіраў іншы шлях,— выказаў здагадку Віталь.— Такім чынам, ягоную сцежку ад канавы ніхто не заўважыць, калі толькі спецыяльна не шукаць самыя свежыя сляды. Вось такая чупакабра, вось такі ваўкалак...

Назад вырашылі вяртацца тым жа шляхам, якім ішлі сюды, ужо ведалі дарогу. Прайшліся ўзбочынай метраў дзвесце, пабачылі «сваё месца».

Спяшаліся.

Віталю пазваніла Яніна. Ён сказаў ёй, што пра ўсё раскажуць пазней.

— Зараз вуды захопім ды на рэчку пойдзем,— казаў Віталь Яніне.— Там памыемся добра, трохі абсохнем. Хвілін праз пятнаццаць. У мяне хлеб з сабой і агуркоў колькі, сала кавалак... Эй, балотаходы, Яніна пытаецца, ці хочаце есці.

— А здагадацца нельга?

Дарога назад падалася куды карацейшай. Мо таму, што прыемна было ўгадваць мясціны, дзе яны праходзілі раней. Віталь выцягнуў вуды са сховішча, паўз агароды мінулі вёску і зайшлі на рэчку — добры далі крук, але што паробіш:

даведаецца бабуля, дзе былі насамрэч, заўтра з двара не пусціць Віталя. А без яго не пойдзеш...

Паселі на беразе, стомленыя, але шчаслівыя... Дзіўна, але тут і камароў амаль што не было. Закінулі вуды, пачапіўшы на кручкі шарыкі з мякішу хлеба, разуліся, скінулі штаны — трэба ж было ўсё абмыць. Вошкаліся доўга. Віталь раней за ўсіх паспеў, збегаў да кустоў, наламаў трохі сухога голля, хутка расклаў невялікае вогнішча.

— Хоць камароў меней будзе. І сала зараз падсмажым! Смакоцце!

Ад яго слоў Стась і Арцём зглытнулі сліну — так хацелася есці.

Віталь даставаў з заплечніка хлеб, агуркі і сала, калі зверху пачуўся шоргат ног па траве: Яніна спускалася да іх, у руках трымала торбу.

— А я вам бульбы з мясам прынесла! Сама гатавала! Яшчэ цёплая!

— Ура! Яніна ратуе нас ад галоднай смерці!

— Даеш бульбу і мяса!

А яна, зноў апранутая ў тую ранішнюю сукенку, усміхалася, пільна ўглядвалася ў іх радасныя твары.

— Вы знайшлі? Вы знайшлі сцежку! — не пыталася, а сцвярджала.

— Знайшлі, Яніна! — не стаў цягнуць Стась.— Сядай, мы раскажам. Бабуля Арына казала не абы-што: сцежка віецца змяёй, ідзе зігзагам па балоце. І ёй карыстаўся ваўкалак.

— Які то ваўкалак,— з лёгкім расчараваннем заўважыла Яніна.— Сказалі ж — беглы злачынца... А сцежка віецца? Яе зрабіў нехта? А як?

— Хто яго ведае. Пад нагамі цвёрда, нешта ляжыць там. Можа, дубовыя плахі.

— Дрэва? Пяцьсот гадоў у балоце ляжаць будзе? — не паверыла Яніна.

— Будзе,— кіўнуў, сцвярджаючы, Стась.— Дуб не гніе ў вадзе, у балоце. Ён робіцца чорным, надзвычай цвёрдым. Калі пашчасціць каму дастаць такое дрэва, то можна прадаваць — з такой чорнай драўніны дэкаратыўныя рэчы робяць, вельмі цэняцца.

— Усё ты знаеш...

— Не я, гэта інтэрнэт.

Елі, спяшаючыся, і не маглі наесца — гэтак смачна было: гарачая бульба, халодныя скрылікі белага сала, з ружовай пражылкай мяса, маладыя агурочкі. Гарэла вогнішча, падсыхалі на беразе джынсы і красоўкі са шкарпэткамі. Хлопцы расказвалі, Яніна ўважліва слухала. Калі пачула, што заўтра з самай раніцы выбіраюцца на балота, сказала так, што ніхто, нават Віталь, не змаглі запярэчыць:

— Можа, давядзецца там да вечара быць. То я з сабой набяру ежы паболей, вы таксама прыхапіце чаго. Але ж вам не ўзяць многа, бо бабуля западозрыць, што не на рэчку збіраецеся. Скажыце, што мне яшчэ з сабой узяць?

— Ты... гэта, можа, што з дзявочага трэба,— адчуваючы няёмкасць, прапанаваў Стась.— Лера там чатыры дні, па балоце ішла, ці цягнуў ён яе... Брудная ж страшэнна будзе. Вось...

— Гэта канечне,— проста кіўнула Яніна.

— Вось што нам неабходна — на ногі мяшкі для смецця,— падумаў услых Віталь.— Тут мы толькі ў балота зайшлі, а скура на нагах збялела. Навошта псаваць здароўе — у мокрым абутку хадзіць. Бабуля расказвала, раней уручную касілі на балотах, дык касцы як у лапцях дзень прастаяць у вадзе, то скура такой рабілася на нагах, што самі ісці не маглі — выносілі іх на ношах. Мы — у красоўках; ботаў, каб да калена, няма. А так у тыя мяхі сунем ногі, падвяжам — і добра. Можна па два адразу, бо яны занадта тонкія. Карацей...

— Карацей, я скрутак вазьму, ёсць у бабулі, пасля ёй куплю,— знайшлася Яніна.

Сядзелі на беразе, палілі касцёр, сушылі над полымем свае транты, пакуль сонца не схавалася за далёкім лесам. Хоць абутак, канешне ж, не высах, апрануліся-абуліся, сабраліся дахаты. Стась азірнуўся на сонца, гукнуў сяброў:

— Вунь Вечарніца! Венера! — і паказаў на зыркую кропку не небе, якая гарэла на захадзе. Пасля пакруціў задранай галавой па баках, дастаў тэлефон.

Усе стаялі, чакалі, нават не пытаючыся, што ён там збіраецца ім паказаць. Стась быў заняты з хвіліну, пасля крутнуўся сам тварам да Вечарніцы, зірнуў на зорку, у тэлефон, нарэшце павярнуўся няспешна, важна нават, паказаў позіркам на неба, якое яшчэ было зусім светлым і толькі тры кропкі-зоркі свяціліся на ім.

— Вунь яны — Воўчыя вочы. Глядзіце: дзве зыркія кропкі побач, адна трохі вышэй за другую. Першая, слабейшая,— Сатурн, тое Сляпое вока. А тая, ярчэйшая за першую — Юпітэр. Наша Воўчае вока!

— Воўчае вока ўзышло над зямлёю, ціхія згадкі з сабой прывяло,— перафразаваў Арцём словы верша.

Ад бабулінай вячэры ўжо адмовіліся, толькі чаю ўсе захацелі. Пакуль згатавалі і папілі, на двары добра сцямнела.

— От як не ведалі людзі, што за чупакабра, дык было нават не так страшна,— прызналася Яніна.— Хоць загадкава было, цікава.

— Гэта чаму? — здзівіўся Стась.

— Ну, чупакабра ды і чупакабра. Ніхто не бачыў. Адна ці адзін, разумееш? Усе лічылі, перакана볍ыя былі — нешта адно, хай незвычайнае. А тут неспадзеўка — звычайны беглы злачынец на востраве сярод балота.

— Дык жа застрэлілі яго, ты ж сама бачыла!

— Яно так... Але, чула, як жанкі ля калодзежа гутарылі: як адзін уцёк ды на іхнім балоце схаваўся, значыць, і яшчэ

нехта мог уцячы ў такое месца. То будуць дзівіцца: у каго і дзе першая гусь ці курыца прападзе. Як здарыцца такое — значыць, хеўра там цэлая, а папаўся толькі адзін. От так. Таму і страшна...

— Ну, давай я цябе правяду дадому,— смехам прапанаваў Стась, а Яніна кіўнула з усмешкай, у якой ён пабачыў сапраўдную ўдзячнасць.

Выйшлі на вуліцу. Неба было спрэс усыпана зоркамі, ажно не верылася, што так наяве бывае, а не толькі ў тэлевізары. Яніна прыпынілася, падняла галаву.

— А дзе ж наша зорка? — спытала з жалем, што не змагла сама знайсці.

— Вось тут яна ўжо,— Стась паказаў рукой.— Бачыш, як гарыць... Бы і сапраўды нечае вока — не міргне, чырвонае... А хочаш, я раскажу табе, чаму з дзяўчатамі не сябрую?

— Дык са мной жа быццам сябруеш,— хітравата зірнула на яго Яніна і дадала: — Раскажы, калі давяраеш мне.

— Дык ты ж мне даверылася,— нагадаў Стась.

— Табе расказала, бо я табе веру, а ты мне хочаш расказаць, нібыта доўг аддаць? — з усмешкай у голасе спытала Яніна.

— Не, я проста хачу падзяліцца. Чым ні з кім не дзяліўся. Бо я табе таксама веру,— ціха адказаў Стась.

Яны ішлі пасярэдзіне вуліцы, святло з акон хат асвятляла дарогу. А над імі быў велізарны зорны купал.

— Мы з дзіцячага садка сябравалі,— ціха гаварыў Стась.— Яе звалі Дзіяна. Нашы матулі сябравалі доўга, толькі калі мы падраслі, нечага перасталі хадзіць у госці. Не ведаю чаму. У школе мы сядзелі за адной партай, увесь час разам. З нас нават не пасмейваўся ніхто. Толькі адзін раз, прыйшоў новенькі, праз месяц абазваў нас жаніхом з нявестай, я тады ў бойку кінуўся, мы адзін аднаму насы разбілі. Вось... У восьмым класе я быў у яе ў гасцях. Рэдка

такое здаралася, бо яе маці глядзела на мяне не вельмі добразычліва. Ды на той час я не звяртаў надта ўвагі. Мы разам тады рыхтаваліся да кантрольнай па хіміі, Дзіяне цяжка даваліся задачы, я дапамагаў. Бацькі некуды вечарам сышлі, мы яшчэ пілі чай, пасля я паехаў дадому. А назаўтра Дзіяна прыйшла ў клас такой хмурай. Адразу да мяне: «Аддавай пярсцёнак!» Я вочы вылупіў, а яна кажа, што маці, калі вярнулася, не знайшла на сваім парфумным століку пярсцёнак. Хоць дакладна помніць, што, калі пакідала кватэру, ён быў. У мяне тады мову адняло, я не ведаў, што адказаць. Дзіяна адмовілася са мной размаўляць, пры ўсіх крыкнула, што я — злодзей. Мне так крыўдна было. Вярнуўся са школы дадому, сустрэла маці: навошта я ўзяў чужое? Я тады заплакаў, хоць сорамна было, а заплакаў: ад крыўды, ад бездапаможнасці. Маці мне расказала: званіла маці Дзіяны, крычала, што я злодзей, украў надта каштоўную рэч, што і раней яна мяне падазравала. Тых жа цукерак заўсёды мала што еў многа, дык і ў кішэні з сабой пхаў. І яшчэ многа чаго. Я тады аслупянеў, нават забыўся на свой сорам: як такое можа быць? Гэтага не маглі казаць пра мяне! Я ж не рабіў такое! Маці мне паверыла. Дзіяна — не. Да канца года мы не размаўлялі. А потым... Потым я даведаўся, што мая маці званіла Дзіянінай, пыталася, колькі каштуе той пярсцёнак, збірала пакрысе патрэбную суму. Бо яна бацьку не сказала, ён у нас... гарачы. Гэта было ў маі, заканчваўся навучальны год. Не ведаю, як я перажыў тыя месяцы. Дзіяна сядзела перада мной, колькі разоў хацеў з ёй пагаварыць, яна адварочвалася. Аднойчы сказала, каб я ад яе адчапіўся. І так зірнула... Столькі грэблівасці было ў яе позірку, быццам я куча дзярма з мухамі, а не чалавек. Аднойчы вечарам мама вярнулася з горада, гукнула мяне на кухню, там выклала на стол грошы і сказала, што Ліна — Дзіяніна маці — грошы

не ўзяла. Чаму? Ды таму, што пярсцёнак знайшоўся. Маці маўчала, і я маўчаў. Стала яшчэ больш крыўдна, ажно балюча. Але я нічога Дзіяне не казаў. Яна назаўтра так зірнула на мяне... Са страхам зірнула. Можа, баялася, каб я ў класе не стаў пры ўсіх расказваць? Дык не збіраўся. Вось як было. Ніколі не думаў, што бывае так цяжка, калі табе не вераць, калі падазраюць, ды што падазраюць, калі нехта ўпэўнены, што ты ўчыніў злачынства, подласць. А табе ніяк не даказаць адваротнага. Цябе не чуюць. А зрабіць нічога не можаш...

— Мы дайшлі...

Яніна прыпынілася, пацепнула плячыма — ноч была свежай, а ў яе — кароткія рукавы ў сукенцы, ды яшчэ плечы заголеныя.

— Тады да заўтра! Дабранач!

— І табе салодкіх сноў. І яшчэ, чуеш, Стась...— Яніна кранулася яго рукі: — Я ведаю, што такое абвінавачванне і калі не можаш давесці праўду. Ведаю, як баліць. Таму больш ніколі нічога не даказваю.

— І я цяпер не кідаюся нешта даводзіць. Нават па дробязі.

— Правільна робіш... Бяжы, а то бабуля Зося хвалявацца будзе,— усміхнулася Яніна.— Заўтра сустрэнемся.

Стась, вяртаючыся, паглядваў на неба — прама на яго шляху свяціліся чырвоным трывожным святлом Воўчыя вочы, велічныя ў сваім немігаючым ззянні.

Арцём чакаў яго на верандзе.

— Чаго не ідзеш спаць?

— Ды так... Слухай, а ты можаш папрасіць, каб твае бацькі купілі... ну, прысмакаў?

— Магу. Мама пыталася, я пісаў: вязіце, што заўгодна, абы смачна. А што трэба?

— Зефір ружовы. У шакаладзе.

— Табе так зефіру захацелася?

— Ды не мне.— Арцём азірнуўся на дзверы, шмыгнуў носам.— Ад бабулі Зосі даведаўся: бабуля Арына вельмі любіць такі зефір. А яго аўталаўка не прывозіць, толькі белы...

— А-а-а,— ледзь не рассмяяўся Стась.— Вырашыў стрымаць слова?

— Ну так,— сур'ёзна прагаварыў Арцём.— Нельга паабяцаць, ды не выканаць, тым больш калі абяцаеш аддзячыць за зробленае дабро.

— Дык толькі я ды Віталь чулі. Чаго перажываць, дзівак?

— Сам ты дзівак,— застаўся сур'ёзным Арцём.— Балота чула. Вада чула, трава, дрэвы. А нам заўтра ісці...

— Ды не хвалюйся, зараз жа напішу! — з усмешкай супакоіў сябра Стась, дастаў тэлефон, уключыў месэнджар, зрабіў допіс.— Усё, кладзіся спаць спакойна, балота будзе задаволена!

Арцём уздыхнуў, зірнуў на Стася з жалем:

— Ты ж во столькі ўсяго ведаеш, чытаеш... Нас выкладчык калісьці ў лес павёў па вясне. Зайшлі, значыць, ён пабачыў першы пянёк замшэлы, падышоў, дастаў з заплечніка хлеба акраец і паклаў на той пянёк. Калі мы заўсміхаліся, ён нам сказаў: «Гэта гаспадару лесу, каб быў з намі лагодны. І помніце, што ад нашай веры не залежыць існаванне прадмета веры». Вось так. Ты нешта не бачыш, памацаць не можаш, не верыш у яго, а яно можа існаваць, бо яно ад тваіх пачуццяў і адчуванняў не залежыць. Электрычнасць вось, магнітнае поле існавалі заўсёды, хоць чалавек пра іх не ведаў і не верыў, што нешта такое можа быць. Некалі ўсё адкрыюць... А ты смяешся.

— Больш не буду. Ага, пра тое, што вада валодае памяццю, нешта такое чытаў.

— Вада помніць, рэагуе. Яна — жывая. І ўсё жывое, у чым вада. Так выкладчык кажа.

— Дарэчы, ты яму званіў?

— Званіў... Ён у навінах пра ўсё пачуў, перадавалі па тэлевізары нават. І ў сеціве пішуць. Заўтра сюды наедуць журналісты...

## 15. Запасны камандны пункт

Ледзь выйшлі за вёску, трапілі ў такі густы туман, што, ідучы, бачылі толькі спіны папярэдняга перад сабой. Балазе, туманнае покрыва было не спрэс, часам перарывалася, таму не гублялі напрамак. Віталь упэўнена крочыў уперад. Увайшлі ў травастой і сталі «абувацца» ў тонкія чорныя мяхі для смецця. Яніна за вечар паспела нарабіць і кольцаў з гумкі — каб не вошкацца з завязкамі.

— Будзе добра, калі вышэй каленяў нідзе не будзе,— выказаў спадзеў Віталь.

— Файна ты прыдумаў,— пахваліў яго Стась.— У мокрых красоўках увесь дзень як паходзіш, то невядома чым усё скончыцца...

На балоце туман вісеў пухнатай коўдрай па-над дрыгвой, густы і белы, толькі ім да пояса. Незвычайна было ісці ў ім — адно плечы і галовы відаць.

Давіла на вушы цішыня. Праўда, калі сонца паднялася вышэй, балота пакрысе ажыло: ценькалі дробныя птушкі, даносіўся нечы клёкат, а разы са два вухнула, мабыць, сава, цягуча і жахліва. З таго ці іншага боку часам даляталі гукі хуткага трапятання крылаў: то качкі ўздымаліся ды пераляталі на іншае месца; чулі, а пасля і бачылі нетаропкі, напоўнены спакойнай веліччу і шалясценнем паветра, палёт шэрых жураўоў.

Віталь задаваў тэмп — не хуткі, але роўны, з кароткімі перадыхамі, калі пераскоквалі на наступны зігзаг.

— Гэта ваўкалак часта апошнія дні тут хадзіў, сцежку добра відаць,— казаў ён сябрам.— Ужо з гадзіну ідзём, а вострава быццам і няма.

— Нармальна ідзём, набліжаемся,— адказаў Стась, зірнуўшы на тэлефон.— Не ведаю, як далёка зігзагі цягнуцца наперадзе; калі так, як раней, то палову шляху мы прайшлі...

Дыхнула ветрыкам, раз і другі, туман пачаў распадацца на кавалкі, чапляючыся за кусты, уздымаўся ўгару і за нейкія хвіліны знік зусім.

Яны спыніліся ўсе разам, ашаломленыя, быццам зірнулі на сябе зверху і пабачылі: чацвёра маладых, з калкамі ў руках на велізарнай плошчы адвечнай дрыгвы. Ва ўсе бакі ад іх паверхня балота была аднолькава жудаснай, варожай і небяспечнай. Гарызонт хаваўся за кустоўем. Калі б не навігатар у тэлефоне, варта б было крутнуцца два разы — і ўжо не ўспомніш, у які бок трэба ісці. Хіба што арыентавацца па сонцы, але яно было ахутана белай смугой.

Напачатку падумалі, што наперадзе спрэс кустоўе, ды Стась пацвердзіў: яны набліжаюцца да вострава. Пакрысе пачалі ўгадвацца вяршыні асобных дрэў.

Ступілі на цвёрдую зямлю — і ўпалі разам ніцма.

— Вой, як я дайшла — не разумею,— аддыхваючыся, гаварыла Яніна.— Здаецца, больш за пяць крокаў і не зрабіла б. Ажно не верыцца, куды мы зайшлі.

Яніне не паспелі адказаць — «заспяваў» тэлефон у кішэні Віталя. Той нервова палез па яго, зірнуў на экран, падаў знак іншым, каб маўчалі.

— Бабуля? Што нарабілася? А божачкі, ды ўсё ў нас нармальна. Рыбу ловім, мы далёка пайшлі, да старога моста, там шчупакі нібыта ёсць, зайшлі да Стася, у яго спінінг узялі. От таму і шэптам размаўляю... Усё добра, кажу! Узялі мы з сабой перахапіць, не будзем галоднымі. Добра, добра,

не палезем у балота... Усё будзе добра, бабуля! Мы будзем трымацца...

Выключыў тэлефон, павярнуўся да сяброў:

— Бабулю Зосю не падманеш... Здагадваецца, дзе мы. Гаворыць: «На прамілы Бог прашу — асцярожненька! Трымайцеся адно аднаго». Яна заўважыла, што шнура для бялізны няма. От, разведчык сапраўдны!

— Як цікава атрымліваецца! Вось мы для бабулі — дык амаль дарослыя людзі, адчуваецца гэта. А для бацькоў — дзеці малыя, неспрактыкаваныя, неразумныя, не здольныя на хоць нешта без іх дапамогі,— у роздуме прамовіў Арцём.— Чаму так?

— Мабыць, раней час быў іншым,— адказаў Віталь.— Мой бацька ў мае гады грошы зарабляў, усе справы па гаспадарцы рабіў. А сам баіцца, як я за сякеру бяруся... Але хопіць ляжаць.— Ён падхапіўся, узіраючыся ў глыб вострава, спытаў: — З чаго пачнём?

Падняліся астатнія, паскідалі смеццевыя мяхі з ног.

Востраў падаваўся пачаткам лесу — вольхі змяняліся асінамі, бялелі між іх сталёвых ствалоў бярозкі, цямнелі грабы, асобна стаялі каржакаватыя дубы. Ціха шумеў вецер у кронах дрэў, часам даносіліся галасы птушак. Карацей, тут было куды весялей, чым на роўнядзі балота.

— Пройдзем па прамой лініі наскрозь, востраў менш за кіламетр у дыяметры, амаль што круглы,— гледзячы ў тэлефон, прапанаваў Стась.

— Тады пайшлі. Ланцужком, крокаў за пяць адно ад аднаго. Каб самім не згубіцца і нічога не прапусціць,— распарадзіўся Віталь.

— А што шукаем? — Арцём перавязваў шнуркі ў красоўках.

— Пакуль — тое логава, што ваенныя знайшлі. Ды ўсё, што незвычайнае тут, што зацікавіць. Нават паперкі не прапускайце.

Крануліся. Ланцужком, гледзячы пад ногі і па баках. Так дабраліся да ўяўнай сярэдзіны вострава. Вялікая горка ўзвышалася на паляне, парослай ядлоўцам. Горка была пярэстай: чарнелі дзіркі старых і свежых лісіных нор, у колькіх месцах свяціўся жоўты пясок, які жывёлінка выграбала з нары.

— Ух ты, тут лісы ёсць! — здзівіўся Віталь.— Мабыць, па лёдзе трапіла сюды ды і засталася...

Яшчэ пара крокаў — і ўсе спыніліся, ашаломленыя: перад імі быў дуб, такі стары, што нават не верылася. У яго ўжо не было вяршыні — мабыць, яе, ссохлую, паламала бурай, і цяпер на зямлі ляжала некалькі дубовых сукоў, дзе спарахнелых, дзе замшэлых. Тоўстыя, без вецця, без кары сухія агромністыя сукі на дрэве падаваліся пачварнымі косткамі. Вялізнае дупло — месца ад колішняга сука — чорнай дзіркай свяцілася на вышыні метраў трох.

Але дуб яшчэ быў жывы: адзін сук цалкам не страціў кару, ад яго выкідвалася ўбок невялікая галіна, у руку таўшчынёй — з зялёным бліскучым лісцем.

Падышлі да дрэва, пакраталі ягоную кару, што ў адным баку засталася на таўсценным стаўбуры.

— Якая моц! — у захапленні выгукнуў Віталь.— Вось вам сапраўдная прырода! Гэта ж колькі яму гадоў, га?

— А хто палічыць? — паціснуў плячыма Стась.— Можа, тысяча, а можа, семсот... Ён амаль засох, стары зусім. А дубы могуць і да дзвюх тысяч гадоў жыць.

Прайшлі дзясяткі два крокаў далей і наткнуліся на тое, што ваенныя назвалі логавам ваўкалака.

Агромністая яліна ўпала некалі пад напорам ветру, у яе аказалася неверагодна шырокае карэнішча, якое было вывернута цалкам з зямлі. Гэтае карэнішча паслужыла адной сцяной для схованкі. Наўскос карэнішча было абстаўлена суччам, зламанымі дрэўцамі, закідана лапнікам. З аднаго боку засталося месца для ўвахода.

Ваенныя сабралі ўсё з сабой, хіба што некалькі пёрак на доле паказвалі на тое, што тут было нечае прыстанішча. І сам дол, канечне, з сабраным і наваленым мохам, утаптаным, зляжалым. Тут было цесна для ўсіх, зазіралі па чарзе.

— Такое адчуванне, быццам гэта дзіця няўмелае рабіла,— кіўнуў на «логава» Віталь.— Як сабе хочаце, але тут у дождж нельга схавацца — будзе ліць за каўнер. І глядзіце самі: гэта ён нядаўна зрабіў, напэўна, некалькі дзён таму! Вунь на зламаных галінах яшчэ лісце не пасохла!

— Ну, і чаго ты нервуешся?

— Значыць, сапраўднае логава не тут!

— А можа, ён усяго толькі некалькі дзён таму сюды прыйшоў — вось і зрабіў спехам нейкае логава, каб перачакаць,— не здаваўся Стась.

— Добра, пайшлі шукаць! — псіхануў Віталь.

Дайшлі да краю вострава, павярнулі назад. І яшчэ пасля раз павярнулі, і яшчэ... Віталь не прапаноўваў прысесці адпачыць, ішоў зацята, моўчкі паварочваў, чакаў, калі з ім параўняюцца астатнія. Незаўважна іхняя радасць ад удала пройдзенага шляху змянялася расчараваннем. Там, у вёсцы, ім здавалася, што тут яны адразу нешта пабачаць, знойдуць. А вось трапілі сюды і зразумелі: гэта самы звычайны кавалак лесу, акружаны балотам. Тут толькі дрэвы і кусты, зямля пад нагамі і неба над галавой. І больш нічога не можа быць!

Нават Арцём, які ў першыя хвіліны аглядаў востраў з палаючым позіркам, зараз унурыўшыся, цягаўся сярод іншых, гледзячы сабе пад ногі.

Прыкладна праз гадзіну Віталь падаў каманду:

— Ідзем да дуба. Там адпачнём. Падумаем.

— Калі нам будзе пра што думаць,— уздыхнуў Стась.

Больш ніхто не адгукнуўся на словы Віталя.

Пад дубам раскрылі свае заплечнікі. Яніна паслала на зямлі белую хусцінку, якую захапіла з сабой. Прагна

накінуліся на ежу. Елі моўчкі, адчуваючы, як вяртаецца да іх надзея. Агульны настрой агучыў Віталь, сёрбаючы яшчэ гарачы з тэрмаса чай:

— Трэба яшчэ раз уважліва ля таго логава паглядзець. Мабыць, дзе след які заўважым. Не можа быць, каб ён тут усяго некалькі дзён прабыў, калі дарогу сюды ведаў!

— Ногі гудуць...— Стась лёг ніцма, выцягнуў ногі, паклаў іх на сук, каб былі вышэй за галаву.

— Во пад галаву вазьмі,— працягнула яму Яніна свой заплечнік.

— А сама? Давай разам, ён вялікі, месца хопіць...

Яніна паслухалася, паклала сваю галаву на заплечнік побач са Стасевай, узіралася, як і ён, на дуб — ён узвышаўся перад імі.

— Чаму дрэвы такія розныя? Адны і сто гадоў не пражывуць, а іншыя — тысячы! — задала яна нечаканае пытанне.

— Дык жа ў прыродзе так паўсюдна... Некаму жыцця адзін-два дні, ёсць такі від матылькоў. Вылецець, пакахацца — і памерці...

— Ну, ты скажаш...— не паверыла Яніна.

— То праўда,— з жалем адказаў Стась.— І звычайныя матылі жывуць толькі адно лета...

— Як адно лета? Я калі пасля зімы знаходзіла матылёў, якія быццам мёртвыя, заўжды думала, што яны аджывуць, на сонца іх клала...

— Не ўсе аджывуць. Чытаў, не помню ўжо, некаторыя — здаецца, паўлінава вока, крапіўніца — зімуюць. Пасля адкладваюць яйкі і паміраюць. Але большасць толькі летуе.

— А навошта дрэву такое доўгае жыццё?

— Не ведаю...

— Дык знайдзі адказ. Сам кажаш, у сеціве на ўсё ёсць адказы. Глядзі, гэты дуб жыў тысячу гадоў. Раней, можа, і балота не існавала, тут паблізу людзі сяліліся. Дарога

была. І пад гэтым самым дубам спыняліся зусім іншыя людзі. Раскладвалі вогнішча, смажылі мяса... А нехта, як і мы, ляжаў пад ім і глядзеў у неба. А неба пералівалася, як зараз...

— Чаго яно ў цябе пералівaецца? — насцярожыўся Стась.

— А я адкуль ведаю? У цябе не пералівaецца, у мяне — пералівaецца.

— І дзе яно пералівaецца?

— Вунь тая аблачынка дрыжыць, над дуплом... Не ўся, ледзь-ледзь,— Яніна паказала рукой уверх.

Стась пільна ўглядваўся ў тое месца, пакусваў вусны і раптам падскочыў:

— Дупло! Адтуль ідзе паветра! Нагрэтае!

Падхапіліся ўсе.

— Яніна, ты малайчына! — усхваляваўся Стась, тлумачыў: — Яна заўважыла дрогкасць паветра над дуплом. Я зірнуў — і праўда, ёсць. Значыць, адтуль выходзіць паветра. Адкуль? Якое паветра? Трэба лезці!

— Не спяшайся, не так проста,— астудзіў ягоны пыл Віталь.— Трэба якое дрэва сукаватае... Каб зламанае. З таго боку нашу вяроўчыну перакінем. Ты бяры вяроўчыну, перакідвайце з Янінай, у дзве жылы. Мы з Арцёмам дрэва пашукаем. Здаецца, бачыў я хвою непадалёк зламаную, адно каб не надта гнілая.

Праз чвэрць гадзіны вяроўчына была перакінута цераз сук, да дуба прыставілі кавалак ствала хвоі.

— Двое з абодвух бакоў трымаюць хвою, каб не крутнулася! Стась, я абвязваюся вяроўчынай, ты трымай яе пастаянна нацягнутай. Глядзі, каб я, у выпадку чаго, не грымнуўся!

Ён спрытна ўзняўся да дупла, зазірнуў у яго нутро, нейкі час глядзеў, пасля павярнуў галаву да сяброў унізе і гукнуў, уражаны:

— Тут труба! Тоўстая, сантыметраў дваццаць ці больш! З каўпаком. А ў трубе — дзіркі. Зараз пасвячу тэлефонам, трымайце добра!

— Сфатаграфуй! — падказаў Стась.

Праз пяць хвілін яны разам глядзелі на здымкі ў тэлефоне.

— Труба ідзе проста ў зямлю, дуб увесь дуплаваты, пусты ўнутры,— каментаваў Віталь.

— Вентыляцыя! І значыць, пад намі — той самы ЗКП — запасны камандны пункт! — сцвердзіў Стась.— Вось чаму ваенныя прыляцелі сюды! Яны занепакоіліся: у тым логаве на Праскоўіным падворку мы знайшлі армейскія ватоўкі, бушлат яны знайшлі і ў гэтым логаве. Яны думалі, што гэты беглы злачынца адшукаў уваход на ЗКП. Помніце, адстаўны прапаршчык казаў пра ход на маленькі востраў, а там пачынаўся доўгі-доўгі тунэль? Да маленькага вострава адсюль кіламетр ці трохі больш. Яны нездарма пасля затапілі ўваход адтуль! І глядзіце вакол: мясціна гэтая,— ён павёў рукой,— без старых дрэў, адно маладняк. Значыць, тут будавалі, пасля пасадзілі дрэўцы!

— Нам трэба знайсці ўваход,— ціха прагаварыў Арцём.— Абавязкова адшукаць. Лера — там.

— Тое зразумела,— кіўнуў Віталь.— Толькі як яго шукаць? Якім ён можа быць?

— Ваенны разведчык яго не знайшоў,— уздыхнуў Стась.— А як мы знойдзем?

— А можа, знайшоў?

— Калі б знайшоў, дык бы і Лера была ўжо дома. Ці яе насамрэч няма тут.

Арцём панурыўся.

— А ён ведаў, што шукаць? — Віталь зірнуў на Стася задумліва.

— У сэнсе?

— У такім, што ваенным ставяць задачы: агледзець, абнюхаць, выявіць сляды знаходжання. Вось яны пабачылі той шалаш пад вываратнем. Усё, задача выкананая. Думаеш, той разведчык ведаў, што на востраве — ЗКП?

— Твая рацыя… Мог і не ведаць. З той размовы, якую мы чулі, ніяк не скажаш, што згадвалі пра ўваход на ЗКП.

— Ну вось! Яны не знайшлі ўваход, бо не ведалі, што трэба яго шукаць. А мы — ведаем. Давайце зараз вызначым прыблізны перыметр, па маладых дрэўцах. Засяродзімся на ім. І пачнём абмацваць літаральна кожны куст.

Уваход заўважыла Яніна. Яна прыпынілася ля шэрагу ялінак, падышла бліжэй да аднае, высахлай. Гукнула Стася.

— Глядзі… Чаму гэтая засохла? Даўно ўжо, вунь як іншыя падраслі. А не ўпала, стаіць. Нічога пад ёй не расце. І тут іголіца… неяк не так ляжыць, як побач.

Сапраўды, сухая ялінка была вышынёй з метр, а вось побач амаль усе яе зялёныя сёстры — пад два і больш. Да Стася падышлі і Віталь з Арцёмам. Віталь уважліва агледзеў сухі ствол ялінкі і пераможна ўсміхнуўся:

— Ёсць! Глядзіце: тут так зручна ўзяцца рукой… І ствол зусім голы, ні моху, ні іголіцы. Ды за гэтае месца сто разоў браліся!

— І ты вазьміся!

— І пацягнуць?

— Цягні!

Віталь пацягнуў. Потым мацней — і ялінка нахілілася ўслед за ім з карэнішчам, нечакана амаль квадратным, адкрываючы пад сабой самы сапраўдны лаз.

— Ход! — вырвалася ўздыхам ва ўсіх.

Ход быў вузкім і крутым, у зямлі былі адкапаны прыступкі. Дна не відаць.

— Чакайце, я першы,— заспяшаўся Віталь.— Вяроўка дзе? Абвязваемся, тут не жарты.

— Не жарты, так,— згадзіўся Стась.— Яніна ўчора навяла на думку: калі збег адзін злачынца і яго падстрэлілі, дык чаму нельга збегчы групе? І калі адзін толькі быў наверсе, а іншыя — там, пад зямлёй? Мы зараз сунемся туды, яны зразумеюць, што іх выкрылі, ды...

— А мы пачакаем трохі! — астыў раптоўна Віталь.

Яны адышліся разам за колькі крокаў, прыселі пад елку. Адкрыты лаз зеўраў на іх чорным вокам. Стала вусцішна, быццам вось-вось адтуль нехта выскача, як выскачыў тады той ваўкалак з цемры да іх вогнішча...

— Ніякі гэта не беглы злачынца,— загаварыла Яніна, згадаўшы той вечар.— Успомніце, ён кінуўся да нашага мяса, як сапраўдны дзікун! Калі б не адзін быў, дык не столькі б гусей ды іншага прападала,— есці ж трэба ўсім.

— І бабуля Арына казала, што самотны ваўкалак сядзеў на суку ясеня ў навальнічныя ночы,— нагадаў Стась.

— Лезем? — спытаў ва ўсіх Віталь і дастаў тэлефон.— У нас ёсць самае разумнае выйсце: зараз тэлефануем у міліцыю, расказваем, дзе мы і што мы. Праз гадзіну ці дзве на востраве будуць дарослыя; сцежку пасля нас яны пабачаць; падкажам, як ісці. Апраўдаемся: лаз пад зямлю, мяркуем, у ЗКП ёсць, але нам страшна. Лера цярпела столькі дзён, яшчэ пацерпіць некалькі гадзін.

— Лезем,— падхапіўся Арцём.— Я пайду першы!

— Супакойся, Рамэа,— падняўся з зямлі Стась.— Давай, Віталь, ранейшым чынам. З вяроўкай, як па балоце ішлі.

Ужо не раздумваючы і не абмяркоўваючы нічога, яны падышлі да лаза, Віталь уключыў ліхтарык тэлефона. Стаў на карачкі і задам пачаў спускацца.

— Ну, мне ісці за табой? — гукнуў Стась праз хвіліну.

— Чакай трохі... Каб на галаву не ўпаў,— пачуўся голас Віталя.— Яшчэ трохі... Норм! Тут памяшканне, бетон пад нагамі, высокая столь. Спускайцеся асцярожна!

## 16. Палонніца і зніч

— Ле-ара! Ле-ера!

Нечаканы крык Арцёма прымусіў усіх уздрыгнуць, а пасля рэха адбілася ад нябачных сцен, вярнулася слабейшым, скажоным гукам, нібыта нехта з цемры наперадзе адказаў здзекліва, перадражніў.

— Блін, папярэджваць трэба! — злосна прасіпеў Віталь у бок хлопца.— Мы што, дамаўляліся пра гэта?

— А чаго нам зараз баяцца? Чаго? — ускіпеў Арцём, зрабіў крок наперад, уключыў ліхтарык на сваім мабільніку.— Нам Леру шукаць трэба!

— Псіх! — пакруціў галавой Віталь.— Стой, куды папёрся? Ідзем, як і на балоце, у звязцы. Ты — апошні!

Яны стаялі ў канцы бетоннага калідора. Тут сценка была прабіта — праз гэтую дзірку яны сюды і трапілі. На падлозе грувасцілася гара зямлі. Відавочна, яе выцягвалі, рыючы лаз наверх.

— Пайшлі!

Шэрыя сцены. Дзверы расчынены. Вялікі пакой, сталы, лаўкі. Нешта кшталту дошкі на сцяне, адзін кут літаральна завалены пустымі бляшанкамі, ірванай абгорткай. Насупраць — дзверы, пакой пусты, у куце складзеныя ці то крэслы, ці то ложкі, матрацы — на падлозе. Пакой з паліцамі, стэлажамі. На адным з іх, у куце — бляшанка кансервы. Невялікі пакой са сталом, на якім нейкая апаратура, ля сцяны — тапчан з матрацам.

Цені мігцелі па сценах, прадметы ў святле ліхтарыкаў скажаліся і рухаліся. Калі пакідалі пакой, пусты і мёртвы, здавалася, што яны нешта абудзілі ў ім, нябачнае, хіжае і яно цяпер ідзе за іх спінамі. Арцём іншым разам свяціў назад, дрыжэла рука, калідор быццам мяняўся ў памерах, у колеры, бы звер які прыпадаў да падлогі і поўз...

Паварот налева. Яшчэ калідор. Ліхтары не даставалі да яго канца.

— Стась, Яніна, выключайце свае ліхтары, а то сядуць акумулятары ва ўсіх, будзем блукаць у цемры.

— Трэба вярнуцца ды нарабіць факелаў са смалякоў,— ціха прапанаваў Стась.

— Мабыць, давядзецца... Але, паспрабуем яшчэ тут Арцёмаву практыку. Цёмка, гукні! Толькі не так трагедыйна, як першы раз, ага?

— Добра,— кіўнуў Арцём, набраў паветра ў грудзі: — Лера!!! Гэта Арцём! Ле-е-е-ра-а-а!

Рэха гэтым разам наляцела і ззаду і спераду. Слухалі, стаіўшы дыханне — яно было шумным.

— Яшчэ гукай,— ціха папрасіў Віталь, і тут аднекуль спераду данёсся ціхі, нават не сам голас, а толькі слабы цень яго:

— Арц-ё-ё-ём!

— Яна! Яна!!! — ускінуўся Арцём і закрычаў на ўсю глотку: — Ле-ера! Мы ідзём! Трымайся! Гукай нас!

Шпарка пайшлі па калідоры, мінулі адны дзверы, другія...

— Адкуль быў голас? Гукай Леру!

— Лера!!!

— Арцём!

Голас быў слабы, падалося — з наступных дзвярэй. Шпарка прайшлі — вялізны пакой, нейкі агрэгат, бочкі, густы смурод дызпаліва, на падлозе — тлустыя чорныя пісягі.

— Дзе ты, Лера? Лера!

Замёрлі, слухаючы — і ўжо блізка, аднекуль з кута слабое, дзявочае:

— Цёмка! Я тут, Цёмка...

Кінуліся ў той кут і пабачылі: у куце стаялі дзве бочкі, трэцяя ляжала між імі і агрэгатам і разам яны загародж-

валі дзірку ў сцяне. Балазе, бочкі былі пустыя. Адкацілі прэч адну, вызвалілі тыя дзве ля сцяны, адцягнулі іх. Дзірка аказалася ходам, вузкім, кароткім — мо метры з два. Працісkaліся адно за адным, застывалі на імгненне, уражаныя: невялікае памяшканне з паўкруглай столлю. Яно было асвечана дрыготкім святлом невялікага агню, што гарэў пасярэдзіне на ўзвышэнні.

— Лера!

— Арцём, ты?

— Я! Не бойся, гэта сябры!

У куце пакоя невялікага росту, худзенькая дзяўчына з растрапанымі валасамі, брудная, з перапуджаным тварам, паспрабавала ўзняцца на ногі і ступіць крок наперад, але засталася стаяць.

— Гэта сябры, Лера, сябры.— Арцём пасвяціў ліхтарыкам на твары сяброў, на свой, ступіў да дзяўчыны.

Яна абхапіла яго рукамі, і плечы яе задрыжалі ад плачу.

— Ну, ціха, ціха… Усё скончана. Мы тут. Зараз, зараз пойдзем наверх…

— Я верыла, я ведала, што ты мяне адшукаеш… Ты ж абяцаў, што будзеш адказваць за мяне,— праз слёзы гаварыла Лера.— А пасля ён прынёс бутэрброды, а там запіска ад цябе… Я плакала ад радасці…— І раптам сціхла, насцярожылася: — А дзе ён?

— Хто? Ваўкалак? Яго застрэлілі, ён мёртвы…

— Завошта? Ён жа проста страціўшы розум чалавек…

— Ён цябе не крыўдзіў? Ты хочаш есці, піць?

— Піць толькі, я не галодная. Ён прыносіў мне мяса сырое, я не магла есці. Пасля прынёс смажанае…

— То ў нас украў,— рагатнуў Віталь.— Яніна, вада ў цябе?

Яніна хутка дастала бутэльку вады, працягнула палонніцы. Лера прагна папіла.

— Ён прынёс мне два батоны і хлеба бохан, пасля — цэлы пакет з бутэрбродамі,— аддыхалася яна.— А ўчора пайшоў па ваду для мяне і не вярнуўся...

— Ты яго нібыта шкадуеш? Ён зацягнуў цябе сюды...

— Стакгольмскі сіндром,— ціха заўважыў Стась, пабачыў незразумелыя позіркі, патлумачыў: — Гэта калі ахвяра пачынае шкадаваць свайго крыўдзіцеля.

— Але ён ні ў чым не вінаваты, праўда ж! Ён нікому не хацеў злога, ён выжываў як мог, хаваўся,— горача запярэчыла Лера.

— Ды мы яго таксама ні ў чым не вінавацім,— хмыкнуў Віталь.— Падумаеш, пара гусей, казляня ды яшчэ вось дзяўчына.— Хадзем наверх! Годзе тут... Зараз выключацца ліхтарыкі. Гэта смальняк гарыць? Ён падпаліў для цябе, каб весялей было?

Віталь зрабіў крок да агеньчыка, але спыніўся ад папераджальна-ўмольнага крыку Леры:

— Не кранайся яго! Гэта непагасны агонь!

Усе аслупянелі.

І ад таго, што пачулі, і ад інтанацыі голасу Леры, якая во толькі была няшчаснай палонніцай, ледзь гаварыла, а тут так крычыць...

Вочы ўжо дастаткова прывыклі да няяркага святла, цяпер можна было пабачыць, што невялікі, чатыры на чатыры метры, пакой мае не бетонныя сцены, а выкладзеныя з камянёў, што нізкая столь — таўсценныя чорныя бэлькі з цэлых дрэў, заваленыя камянямі. Бэлькі абапіраліся на тры каменныя слупы, што стаялі ў розных месцах пакоя. Агонь гарэў не на ўзвышэнні, а на адным вялізным вуглаватым валуне. Валун ніжэйшы, з пляскатым роўным верхам стаяў поруч, бы стол.

Усе зараз глядзелі на сам агонь — і бачылі, што няма з чаго яму гарэць: языкі полымя сыходзілі літаральна з каменнай паверхні! Крок наперад зрабіў Арцём, зачара-

вана глядзеў на агонь. Агмень быў невялікі, як ад смаляка, толькі не чырвоны, а светла-жоўты, сонечны. Ён чуйна калыхаўся ад іх галасоў.

— Не гасне? Праўда, не гасне? Гарыць і гарыць? Сам? Нічога не трэба падкідваць? — павярнуўся ён з пытаннямі да Леры.

— Гарыць і гарыць,— кіўнула яна.— Яму не трэба дроў...

— Гэта зніч,— урачыста прагаварыў Арцём, абвёў позіркам памяшканне.— Гэта зніч! Гэта капішча! Некранутае нікім! Гэта чароўны камень! І той дуб, дуб! Стась, ты адзначаў, дзе мы зараз?

— Тут не цягне сувязь,— адказаў Стась.— Там бетон экраніруе, а тут... не ведаю, што.

— І што, ён праўда, не згасае ніколі? — спытала Яніна ў Леры.— Вось так гарыць і гарыць?

— Не згасае. Колькі я была тут... А колькі я была? Колькі дзён прайшло? Два? Мяне шукаюць усе?

— Чатыры...— адказала Яніна.— Хадземце наверх. Пасля ў нас будзе час. Дайце чалавеку адчуць сапраўдную волю! Варушыцеся! — загадала яна хлопцам.

Апошнім пакідаў памяшканне Арцём. Ужо вылез праз дзірку, але зноў засунуў галаву ўнутр пакоя. Нейкі час ён глядзеў на агонь і шаптаў:

— Зніч... Ты ёсць, ты сапраўдны...

На паверхні Лера, жмурачыся ад сонечнага святла, павольна апусцілася на зямлю. Пасля агледзела ўсіх, а потым — сябе. Засохлая балотная гразь пакрывала яе скуру на твары і руках, адзенне.

— Божачкі, чатыры дні... Я не веру. Не веру, што ўсё скончылася...— Слёзы пакаціліся з яе вачэй.— Мама ведае, так, ведае? Трэба паведаміць ёй, у таты такое слабае сэрца... Цёмка, у мяне няма тэлефона...

— Твой тэлефон знайшлі. На дарозе. Міліцыя вырашыла, што ты з'ехала некуды. З некім... А як званіць тваім? — апомніўся Арцём, дастаў свой тэлефон.

— Я не помню нумароў, нічыіх не помню,— роспачна прашаптала Лера.

— Вой, толькі не трэба ўжо цяпер істэрык, добра ж усё! — умяшаўся Стась.— Звані выкладчыку свайму, Цёмка! У яго павінны быць усе тэлефоны.

Арцём хутка зрабіў выклік.

— Мірон Сяргеевіч! Мы знайшлі Леру! З ёй усё добра! Дзе мы? Мы...

— У лесе, мы ў лесе! — нечакана прыглушана закрычаў Віталь, і Арцём паслухмяна сказаў у тэлефон: — Мы ў лесе.

— Пасля ўсё патлумачым, хутка будзем у вёсцы, з Лерай усё ў норме. Самі дойдзем! — загадна сіпеў Віталь.

— Пасля, пасля патлумачу,— паўтараў Арцём.— Хутка выйдзем у вёску. Не, не трэба нам дапамога ніякая. Вы перадайце маці Леры, каб не хвалявалася. Ну хай звоніць мне...

— Яніна, скажы свой тэлефон! — зноў загадаў Віталь, Арцём зрэагаваў:

— Чакайце, зараз скажу нумар. Гэты тэлефон пастаянна побач з Лерай будзе. Запісвайце.— Арцём назваў лічбы, прадыктаваныя Янінай.— Усё, да сувязі! Не перажывайце, мы здаровыя і не галодныя, дарогу дадому добра ведаем, дый навігатар у нас ёсць, дойдзем куды заўгодна. Да пабачэння...

Арцём, успацелы, страсянуў галавой, паглядзеў на Віталя:

— А чаму ты так?

— Таму! — агрызнуўся Віталь.— Думаць трэба! Тут запасны камандны пункт! Ваенныя як апараныя падхапіліся, калі западозрылі, што нехта можа быць на гэтым востраве і знайшоў уваход. Таму і прыляцелі. Гэта табе не жарты.

— Дык гэта ж даўно закінуты пункт, каму ён сёння трэба?

— А я ведаю? Калі б не быў трэба, дык яго б не хавалі. Вунь база нікому не трэба — ідзі там у кантру гуляй!

Хочаш, каб вярнуліся ў вёску, а цябе арыштуюць і пачнуць дапытваць па кабінетах: што бачыў, дзе бачыў, каму расказаў?

— Давайце пасля пра гэта,— умяшаўся Стась і, каб ніхто з сяброў не запярэчыў яму, прысеў перад былой палонніцай, зазірнуў у вочы, клапатліва спытаў: — Лера, ты як? Супакоілася крыху? Мо распавядзеш: што здарылася?

Лера кіўнула, пачакала, пакуль хлопцы ўсядуцца вакол.

— У тую ноч... я выйшла з палаткі і пайшла да кустоў, за якім зрабілі часовую прыбіральню. Было быццам светла, месячык на небе, але адышлася — такі туман, за два крокі нічога не бачыла. Ішла, ішла... І раптам над галавой як шухнула нешта, быццам прывід, я так напалохалася, мяне паветрам абдало!

— Сава, мусіць,— пракаментаваў коратка Віталь.

— Можа, і сава... Я ўпала, падхапілася, мне і ў туалет расхацелася. Прабеглася і раптам разумею: я не ведаю, куды бягу! Мяне жуда ахапіла, вакол туман шэры-шэры, з яго чорныя, страшныя кусты выпаўзаюць, я мінаю адзін — там іншыя. Я запанікавала. Крычаць хацела — а толькі сіпела нешта. І бегла, бегла... Спатыкалася ў траве, падала. А крыкнуць не магла: страх скаваў горла, хрыплю, сіплю. Яшчэ... раптам падумалася: мне гэта сніцца! Не бывае такога наяве: ночы такой шэрай, жоўтай плямы на небе замест месячыка, туману і кустоў такіх страшных. Сама сабе загадваю ў галаве: «Прачніся, прачніся!» І шчыпаю рукі, ногі. Але прачнуцца не магу. Яшчэ больш жудасна... А потым я ўпала, пакацілася ў ваду. Сэрца падскочыла да горла — вада такая пякучая!.. Хацела стаць на ногі, а тыя пагрузлі, я апынулася ў вадзе з галавой. Ірванулася наверх, закрычала — і глынула вады. Ірвалася наверх, цялёпкалася. Сілаў ніякіх не засталося. І тады мне нечакана стала ўсё роўна. Я так стамілася!.. У галаве толькі адна думка: «Ат, апускайся на дно, там можна адпачыць, там ціха і ўтульна...» Недзе

думка кволая б’ецца: «Нельга, змагайся, махай рукамі...» І рукі яшчэ махаюць, а галава ўжо адпачывае. Тады адчула, як мяне схапілі за руку. Моцна пацягнулі — і я на беразе. Нічога не цямлю. Апусцілася на калені. Мяне нехта падхапіў, цягне. Не разумею, хто гэта, дзе гэта... Толькі смурод помню. Моцны, раней не чула такі. Подбегам рухаліся, куды — не ведаю. Ачомалася трохі, хацела крыкнуць яму, каб спыніўся, тарганула сваю руку, за якую ён мяне цягнуў. Туману ўжо не было, і я пабачыла: напаўголы мужчына. Ён спыніўся і азірнуўся на мяне. Блізка-блізка да майго твару свой наблізіў. Твар зарослы, у брудзе. Вочы як бліснулі! Такія страшныя вочы! Здаецца, я ўскрыкнула і страціла прытомнасць, бо ачомалася, калі ён мяне нёс — перакінуў цераз плячо, бы мяшок які. Чула, як хлюпае гразь пад яго нагамі. Затузалася на ягоным плячы. Ён прыпыніўся, схапіў маю галаву, павярнуў да сябе, выскаліў зубы і загыркаў. Як самы сапраўдны звер. Я сцялася. Плакала, душылася слязьмі. Ён доўга мяне нёс. Адзін раз мы ўпалі, і я з галавой апынулася ў вадкай гразі. Потым ішлі па цвёрдым, па лесе. Ён піхнуў мяне пад зямлю — там было зусім цёмна і так страшна... Прымусіў нагнуцца і лезці. Там трапятаў агеньчык, я ўзрадавалася: тут людзі, але — нікога. Ён збегаў некуды і вярнуўся з коўдрай. Такой смярдзючай, але мне было так холадна, што я перасіліла агіду. Сціснулася, калацілася ў куце, а ён сядзеў на кукішках перад агеньчыкам, да ўсяго безуважны, мокры, брудны, такі страшны. Я баялася слова вымавіць. Заплюшчыла вочы і суцяшала сябе: «Гэта сон, гэта сон, я прачнуся раніцай у сваёй палатцы, раскажу пра гэта ўсім, і мы будзем смяяцца». Але прачнулася ў тым самым куце. Агеньчык гарэў, а нікога не было. Я крычала, гукала, плакала... Ён з’явіўся... не ведаю, колькі часу прайшло, прынёс ці то гуся, ці качку, абдзёртага, разадранага. Адарваў кавалак сырога мяса, з кроўю і соўгае мне да рота. Мяне званітавала. Ён нешта мармытаў неза-

даволена. Я паспрабавала з ім загаварыць. Ён павярнуўся да мяне, слухаў. Галаву набок схіліў, а твар стаў такім пакутным. Быццам ён хоча зразумець, але не можа. Ён мэкаў мне, бы глуханямы. Потым прынёс мне хлеб. Кавалак быў чэрствы, брудны. Але я ела — мне так хацелася есці! Яшчэ ён прыносіў мне смажанае мяса, свежы батон, цэлы. І вось бутэрброды. Я сядзела там... Плакала, ела, спала. Адзін раз паспрабавала выпаўзці, ды пабачыла, што лаз зачынены з таго боку. Калі ён прыходзіў, размаўляла з ім. Ён слухаў нібыта, але, як толькі я пачынала прасіць, плакаць, крычаць, каб выпусціў мяне, шчэрыўся пагрозліва і незадаволена, нават гыркаў. І сядзеў і глядзеў на агонь...— Лера памаўчала, спытала ў Віталя, прызнаючы за ім галоўнага: — Праўда, яго застрэлілі?

— Так. Праўда,— лаканічна адказаў Віталь.

— Але чаму?

— Ваенныя сказалі, што заўважылі яго тут, загадвалі спыніцца, але ён кінуўся наўцёкі. Стралялі папераджальна ўверх. Ён, маўляў, не звяртаў увагі, пабег па балоце. Яны кажуць, што ранілі яго, ён упаў, а там — багна, захлынуўся...

— Так шкада...

— Чаго яго шкадаваць? — упікнуў Арцём.— Ён бы цябе тут трымаў, пакуль...

— Бы ды кабы,— узняўся на ногі Віталь.— Рабіць высновы трэба па тым, што зрабіў, а не асуджаць за тое, што намерваўся. Тым больш калі не ведаеш, што за намеры. А ад смерці ён Леру выратаваў — гэта факт. Калі і здзічэў, нешта ж чалавечае ў ім засталося...

— А якія маглі быць намеры ў здзічэлага чалавека?

— Ну, ён збіраўся падкарміць Леру і прынесці яе ў ахвяру знічу,— самым сур'ёзным чынам сказаў Стась, гэтаксама ўзнімаючыся на ногі.

— Ты жартуеш ці што? Што вы здзекуецеся з мяне! — раззлаваўся Арцём.— Я вам не маленькі хлопчык!

— Хопіць вам! Яшчэ пасварыцеся! — прыкрыкнула Яніна, зморшчылася, як ад кіслага.— Зараз нам з Лерай да вады трэба — яна ж бы чарцяня. Я тут пераапрануцца ўзяла — павінна падысці табе па памеры. У мяне маленькі тэрмас з чаем застаўся, колькі бутэрбродаў. Не разлічвайце,— гэта для Яніны. Час выбірацца адсюль. Усё! Мы памыемся і будзем ля дуба.

— Вада, каб памыцца можна было, у тым баку блізка ад берага,— раптоўна супакоіўся Віталь, паказаў рукой.— Добра, так і зробім. Вы там мыйцеся, ежце, адпачывайце... Мы нырнём пад зямлю, разведаем трошкі, можа, што адшукаем.

## 17. Таямніца ваўкалака

— І на той агонь глянуць трэба ўважліва,— дадаў Стась.

— Як глянуць? Што глянуць? — узвіўся Арцём.— Ды гэта ж зніч! Вы разумееце ці не? Сапраўдны зніч, непагасны агонь! Адзіны жывы зніч на сёння! Адзінае капішча сапраўднае! Некранутае! Там усё фатаграфаваць трэба, план складаць... Там работы на тры дні! А пасля раскопкі рабіць!

— Не гарачыся,— ціха кінуў Стась.— Падумаем...

— Што падумаем? Што тут думаць яшчэ? Ты разумееш, што гэта значыць для навукі — такая знаходка?

— Пасля,— адмахнуўся Стась.— Зараз шукаем смалякі, бо ліхтарыкі слабыя.

Спусціліся ў ЗКП ужо смела, бы ў сваё хатняе сутарэнне. Старанна абышлі ўсе пакоі ў першым калідоры, асцярожна зайшлі і агледзелі памяшканне з агрэгатам і бочкамі, адкуль быў прабіты ўваход да капішча. Стась упэўнена выказаў думку, што агрэгат — электрагенератар. А працуе на дызельным паліве — вунь бочкі ёсць, пах

характэрны. У куце пабачылі цяжкія чорныя скрыні — акумулятары.

Наступны калідор — зноў некалькі памяшканняў. Адзін быў са стэлажамі, на іх пабачылі пару складзеных ватовак. Другі пакой напалову быў застаўлены вялізнымі металічнымі шафамі з мноствам ручак, тумблераў — нейкая апаратура. Гэты калідор заканчваўся масіўнымі жалезнымі дзвярыма, заржавелымі знізу напалову, зачыненымі на механічную засаўку — вялізны рычаг пасярэдзіне, уніз і ўверх выходзілі ў пазы штыфты. Перад дзвярыма плюхала вада. Віталь выказаў здагадку:

— Ад гэтых дзвярэй пачынаецца той тунэль на маленькі востраў, пра які ваш прапаршчык расказваў. І тунэль зараз затоплены.

З ім пагадзіліся.

Яшчэ адзін невялікі пакой — на стэлажах кіпамі ляжалі кардонныя каробкі. Мяркуючы па ўсім, там былі паперы.

Стась пацягнуўся зняць адну каробку, Віталь спыніў яго:

— Можа, лепш нам не ведаць, што тут ляжыць? Той прапаршчык расказваў, што паперы сюды насілі перад тым, як закрыць назаўсёды ЗКП. Гэтыя паперы пахавалі як сакрэтныя.

— Ат, калі даведаюцца, што мы былі тут, ніхто нам не паверыць, што мы нічога не чапалі,— сумна ўсміхнуўся Стась, пацягнуў адну каробку, дастаў з яе пухную папку, прачытаў: — Без дазволу не выдаваць. Надзвычай сакрэтны фонд. Справа агентурнай распрацоўкі нумар дванаццаць сто шэсцьдзясят адзін...— змоўк.— Ну цябе к чорту, такую справу. Ляжы тут,— ён сунуў папку на месца.— Пайшлі да зніча!

У памяшканні капішча Стась спакойна падышоў да агню, колькі хвілін уважліва глядзеў на яго, нават спрабаваў панюхаць паветра над языкамі полымя.

— У камені многа расколін… Гэта гарыць газ, метан. У балоце такі газ не рэдкасць. Прыблізна так я і думаў, калі чытаў пра зніч.

— Газ жа блакітным гарыць,— здзівіўся Віталь.

— А ў запальнічцы, бачыў, жоўтым,— усміхнуўся Стась, патлумачыў: — У газавай пліце да згарання газ змешваецца з паветрам, гарыць сумесь, таму і гарыць зырка, блакітным, кіслароду хапае. А калі сам струмень падпаліць, то ён вось такі… Дзіўна, столькі гадоў мінула, а вентыляцыя добра працуе, аднекуль прасочваецца паветра сюды і выходзіць.

Ён агледзеў столь, закладзеную вялікімі каменнымі плітамі. Задраўшы галаву, стаяў і Віталь.

— Бач, бэлькі трымаюць столькі гадоў…

— Дуб. А тут суха. І яшчэ тысячу гадоў прастаіць.

— А мы на якой глыбіні зараз?

— Над намі метры два, мяркую…

— Не прабіцца зверху будзе? — быццам рашаючы ў галаве нейкую задачу, спытаў Віталь.

— Уручную — наўрад ці. Камяні не маленькія, не зрушыць без тэхнікі. Ды знайсці іх яшчэ трэба. Хаця, калі надта паўпірацца — можна многае…

— І ёсць рызыка, што, зверху разбіраючы, рызыкуеш усё абваліць,— прыцмокнуў Віталь.

— Пра што вы думаеце, не разумею,— занерваваўся Арцём.— Навошта зверху разбіраць? Тут расчысціць праход добра, там лаз зрабіць акуратна. Гэтае месца стане такім вядомым! Ура, мы праславімся!

— Во, справу гаворыш,— быццам сур'ёзна згадзіўся Віталь.— Дарогу праз балота вымасціць. Ці ваенныя верталёт дадуць у арэнду. Грошай заробяць. Сюды стануць кампаніі прыязджаць. На тваім знічы шашлыкі смажыць.

— А…— раскрыў рот Арцём, замятляў галавой, бы камароў адганяючы: — Ты абы-што гаворыш! Ды тут можна!..

— Цішэй, не крычы ля зніча,— спыніў яго Віталь.— Помніш, што бабуля пра яго гаварыла?

— Ты ж не верыў, крывіўся: казкі!

— Не крычы,— паўтарыў, паморшчыўся незадаволена Віталь.— І спакайней трошкі, а то, як бабуля кажа, быццам у гарачай вадзе купаны. Што да мяне, то я недаверак ад прыроды. Пакуль пальцы не апяку, не паверу, што горача. А цяпер бачу, што бабуля Арына казала праўду. І пра ваўкалака, і пра зніч.

— Што ты думаеш наконт ваўкалака? — спытаў Стась.

— А што тут загадкавага? Ён тут жыў. А тут, як казаў твой сусед-прапаршчык, было назапашана прадуктаў, адзення і іншага патрэбнага на доўгі час для групы людзей. Кансервы бачылі? А тыя бушлаты? Можа, і зброя тут была. Там адно памяшканне, у ім падстаўкі такія, падобна на тое, каб аўтаматы ставіць. Бабуля казала, што старая Праскоўя на багацце ўзбілася праз ваўкалака. Ён мог усё вынесці, а тая прадавала праз сына. Тады такі час быў... Усё супадае.

— Згодны, і я так падумаў.

— Добра, вы разабраліся, дайце мне вырашыць хоць частку маёй справы! — рашуча загаварыў Арцём.— Адыдзіцеся падалей, мне трэба зрабіць здымкі гэтай пячоры...

— Пасля зробіш,— нечакана рашуча прытрымаў ягоную руку з тэлефонам Віталь.— Давай наверх, нам трэба вяртацца, а мы яшчэ не ведаем, што казаць...

— Калі пасля? — закапрызіў, як маленькі, Арцём.— Чаму пасля?

— Ну, таму... Кажу — будзе ў нас час. Ты ж сёння не з’язджаеш нікуды?

— Не-е.

— Ну вось. Ды і што ты мабільнікам наздымаеш? Я сваім напішу, у бацькі добры фоцік — возьмеш яго.

— Праўда, ёсць добры фотаапарат?

— Праўда. Стась, на выхад? — спытаў Віталь сябра.

Стась паківаў галавой, гледзячы на агонь на камені.

— Уяўляю, як бясконцымі днямі ў поўнай самоце ён сядзеў ля гэтага агню... Бачыце, Леру сюды прывёў... Арцём, навошта?

— Адкуль мне ведаць? Ён жа дзікі, ён злачынца ўчарашні! Як яшчэ Лера жывая засталася!

— Дзікун...— Стась задумаўся на імгненне, павярнуўся да Віталя: — Ёсць момант! А я думаю, чаму яно мне спакою не дае...

— Што? — зацікавіўся Віталь.

— Там адно памяшканне, у ім тапчан, на тапчане — матрац. І змятая коўдра. Гэта значыць, што на ім адпачываў зусім не дзікун. Але вось які момант: там на падлозе пыл і слядоў не бачна. Значыць, даўно ніхто туды не заходзіў.

— Пакуль не разумею тваю логіку,— паморшчыўся Віталь.— Ты ж мяне ведаеш, давай да сутнасці адразу.

— Значыць, я думаю так. Тое, што ваўкалак наш сапраўды сябе як ваўкалак паводзіў ці дзікун — падобна на тое. Але калі ён спаў на тапчане, кінуўшы на яго матрац — значыць, рабіў гэта добра ўсё ўсведамляючы. Няма там слядоў і шмат пылу — значыць, тое было вельмі даўно. Але было. І той пакой трэба пільна агледзець.

— Выходзім! — кароткім загадам выказаў сваю згоду Віталь, прыкрыкнуў на Арцёма: — Э, я сказаў: будзе час, не пстрыкай зараз сваім тэлефонам. Пакрыўдзіш яшчэ зніч. Мы і так вунь — ахоўніцу ад яго забралі.

— Надта ты верыць у бабуліны казкі стаў,— незадаволена прабурчаў Арцём, але сунуў тэлефон у кішэню.

У памяшканне, пра якое казаў Стась, ён заходзіў так рашуча, быццам сам тут пражыў паўгода ці болей. Прыпыніўся, хутка пасвяціў па сценах. Усё як звычайна: шэры

роўны бетон, нейкі кабель па ім (а ў калідоры дык цэлыя скруткі такіх). Вакон няма, канешне, толькі дзверы. Стол, апаратура. Стась хутка пасвяціў усюды, нават памацаў рукой. Пасля, перасіліўшы гідлівасць, падышоў да тапчана і сцягнуў долу коўдру, нават злёгку страсянуў яе.

— Што шукаеш? — пацікавіўся Віталь.

— Не ведаю,— прызнаўся Стась.— Каб хоць нешта. Пасвяці...

Ён павагаўся і паволі пачаў падымаць і закручваць матрац. І ўсе разам яны пабачылі нейкі журнал. Стась узяў яго ў рукі, прачытаў на вокладцы:

— Журнал частот і прыёму... Без запісаў на першых старонках. А тут...

Ён разгарнуў журнал там, дзе ў яго было ўкладзена нешта. Аказалася — аловак. Стась хутка пагартаў некалькі старонак, на якіх былі запісы.

— Цяпер сапраўды пайшлі наверх. Там пачытаем і будзем усё ведаць.

Яны выбраліся наверх, не сталі прыкрываць лаз, пайшлі да дзяўчынак. Яніна і Лера былі пад дубам, якраз закончылі піць чай.

— Што, скарбаў ніякіх? — жартам спытала Яніна.

— Ёсць скарб, вось,— Стась паказаў журнал.— Тут нейкія запісы. Мяркуючы па ўсім, яны зроблены тым, хто жыў тут.

— Ты што? Ваўкалакам? — вытарашчыла вочы Яніна.

— Іншага не застаецца. У вас як справы?

— Мама звaніла,— паведаміла Лера.— Я сказала, што заблукала ў лесе... Правільна сказала?

— Малайчына, правільна,— ухваліў Стась, а Арцём нечакана закрычаў раздражнёна:

— Што адбываецца? Я не разумею! Мы такое тут знайшлі, гэта сенсацыйнае адкрыццё! Чаму мы павінны маніць дарослым? Трэба сказаць праўду! Што вы задумалі? Мяне

прымусілі лгаць выкладчыку, цяпер Яніна падманвае бацькоў. Як было — так і было, мы павінны...

— Ды цішэй ты, пасля пагаворым,— жорстка спыніў яго Віталь.— Не забывайся: ты ў гасцях. І я казаў: я павяду вас толькі тады, калі будзеце мяне слухаць ва ўсім. Вы паабяцалі, таму пакуль мы тут — слухаецеся. Пасля — як хочаце. Давай, Стась, сваю кніжку разгортвай...

— А чаю ні грамулькі няма? — спытаў Стась у Яніны. Тая ўсміхнулася ў адказ, выцягваючы з заплечніка яшчэ адзін тэрмас:

— Што б вы без мяне рабілі! Добра, хоць суседка не пыталася, навошта мне тэрмас... Віталь, Арцём, вам наліваць? Трымайце кубкі...

Нейкі час маўчалі, пакуль Стась праглядваў запісы, пільна ўзіраючыся ў радкі — мабыць, прызвычайваўся да почырку. Запісы былі зроблены простым алоўкам.

— Ну, больш-менш разумею, хоць почырк яшчэ той.— Стась адставіў напалову адпіты кубак з чаем, кашлянуў.— Слухайце...

Мабыць, мінула некалькі дзён, я не ведаю. Гадзінніка я не насіў, вось што дарма. Зараз трохі супакоіўся, вырашыў запісаць гэта. Канешне, я ўпэўнены, што выберуся адсюль, але на ўсякі выпадак пакіну запісы. Дый прыемна пасля махання ломам і кувалдай вось так завяршыць дзень. Значыць, у тую ноч я стаяў на пасту. Мяне павінны былі змяніць праз паўгадзіны, калі я адчуў, што павінен нешта рабіць. Гэта было дзіўнае пачуццё: я нешта павінен рабіць, некуды ісці, бегчы, пра нешта казаць! І з кожнай хвілінай яно мацнела, мяне проста насіла, я не мог стаяць на месцы. Бегчы, неадкладна бегчы, усім расказаць! Пра што? Не помню. Гэтага не помню. І я не вытрымаў: паставіў аўтамат ля слупа, быццам ён мог без мяне ахоўваць перыметр,— а мне тады так і здавалася, што сам

аўтамат — жывы і мяне разумее. І я пабег. Апынуўся ў рове, які вёў да выспачкі. Дзверы ў сутарэнне былі прыадчынены, за імі спаў салдат. Добра помню гэта: ён сядзіць, як баба на возе, выцягнуўшы ногі, спінай абапіраецца аб сцяну. На сцяне — пляма цьмянага святла ад чырвонай лямпачкі ў плафоне. Лямпачка фарбавалася гуашшу, няроўна, недзе гуаш падгарэла... Я не стаў будзіць салдата, мне ён не трэба быў. Зірнуў далей — пабачыў доўгі, бясконцы тунэль-калідор. Напачатку гарэлі па сценах колькі чырвоных лямпачак-пазнак, далей была цемра. Я бачыў гэты калідор, калі мы насілі сюды каробкі з паперамі. Ён быў такім прыцягальным, загадкавым. Цяпер мне трэба было бегчы па ім, да самага канца бегчы. Я пабег. Чым далей — тым хутчэй, яшчэ хутчэй. Паветра не хапала, каўнерык душыў. І цемра, цемра, якая зрэдчас перарывалася адзінокім чырвоным вокам на сцяне. Гэтае вока, здавалася, крычала мне: «Ты можаш спазніцца, не паспець!» Бег. Былі дзверы, вялізныя. Адчыненыя. Я заскочыў за іх — і тут мяне ахапіла жудасць. Я зразумеў, чаму я бег: мне трэба тэрмінова зачыніць гэтыя дзверы, таму што... Чаму — не ведаў. Зачыніў, налёгшы на вялізны рычаг. І праваліўся ў бяспамяцтва...

Стась уздыхнуў, паклаў журнал на калені, адпіў з кубка.

— Помніце, былы прапаршчык расказваў пра тое, як пралілі на зямлю ракетнае паліва? Адзін салдат атруціўся, адправілі ў медсанбат. А другі ў гэты час, прапаршчык казаў, збег, кінуўшы аўтамат на пасту. Вось хто збег! Я пагугліў быў пасля расповеду прапаршчыка пра ракетнае паліва. Надзвычай атрутная штука. Выклікае вельмі моцнае ўзбуджэнне. Чалавек губляе сувязь з рэальнасцю, можа страціць прытомнасць, свядомасць затуманеная. Што і бачым — дакладныя сімптомы...

— А прапаршчык маўчаў. А мог бы расказаць, ён жа падазраваў,— хмыкнуў зняважліва Арцём.

— Давай далей, Стась,— папрасіў Віталь.— Ёсць яшчэ запісы?

— Ёсць, гэта быў толькі пачатак. Чытаю далей...

Але пачаць Стась не змог: раптоўна ўсе ажно ўздрыгнулі ад гуку званка тэлефона — настолькі ён падаваўся тут чужым, лішнім. Віталь, а гэта яго тэлефон зазваніў, алёкнуў:

— Слухаю! А, і вам дзень добры! Ну, з сябрамі... А што такое? Тата, слухай... Калі ўжо бабуля пра нешта здагадалася, дык мне што ўтойваць? Ну, у лесе мы. Заўтра нашаму сябру ад'язджаць, папрасіў, каб яшчэ раз выйшлі на пошукі. Ну, кахае яе хлопец, мабыць. І тут застаўся шукаць, мы трохі дапамагаем. Як поспехі? Ды знайшлі. У тым сэнсе, што мы знайшлі Леру, дзяўчыну знайшлі. Так, паведамілі яе маці. Ды ў лесе і знайшлі. Добра, раскажам, як выйдзем. О не, не трэба нам дапамога, і нас шукаць не трэба. Тут у Стася... Сябра мой новы, Стась, дык вось ён у навігацыі шарыць, як бог. Мы з ягоным тэлефонам хоць пешкі да Кітая. Так, ніякіх пытанняў — выйдзем самастойна. Ну, нам тут колькі...— Віталь прыкрыў тэлефон рукой, зіркнуў на Стася, шапнуў: — Скажы дзесяць! — і зноў загаварыў у тэлефон, калі Стась выканаў ягоную просьбу: — Во, чуў — недзе з дзесяць кіламетраў, гэта па лесе, а тут усе стомленыя. Нармальна, не галодныя, з сабой бралі. Прывітанне маме, няхай не хвалюецца! Чакайце, ага... Усё, на сувязі пастаянна...

Віталь усміхнуўся сябрам:

— Зараз нам наладзяць сустрэчу! Чытай хутка, Стась!

Стась працягнуў чытанне:

Я апрытомнеў, падхапіўся і адразу ўспомніў усё, і сэрца зайшлося ад жаху: што я нарабіў! Вакол была цемра. Мяне ўратавала запальнічка ў кішэні. Пстрыкнуў, пабачыў дзверы перад сабой. Пайшоў наперад па калідоры. Першыя дзверы, таўхануў іх. Гэта, мяркуючы па ўсім, быў пост. На сцяне заўважыў металічную скрыню і рычаг — рубільнік.

Шмаргану́ў яго ўверх — і зажмурыўся ад святла лямпачкі, хоць якое там было святло — ледзь свяцілася ніць. І калідор быў асвечаны.

Кінуўся назад, да вялізных дзвярэй. Пабачыў рычаг — яго трэба было падняць уверх, каб клінападобныя штыфты ўверсе і знізу выйшлі з пазоў. Пачаў пхаць, штыфты выйшлі напалову. І тут са шчыліны, якая ўтварылася, струменямі лінула вада. Ад верху да самага нізу. Я ўявіў шырокі роў да выспачкі, тыя дамбы — і зразумеў, што альбо вада сама прарвала дамбу, альбо яе раскапалі спецыяльна. Мы ж ведалі, што база будзе канчаткова зачынена і што мы знаходзіліся тут апошнія тыдні. І яны маглі затапіць гэты сакрэтны тунэль. Пад нагамі ўжо хлюпала вада. Тут было ніжэй, чым у самім калідоры. Яшчэ мільганула думка: вось я адчыню, вада схлыне, тунэль вызваліцца. Добра, што ўцяміў: вада — не куча пяску перад дзвярыма. Яна запоўніла ўвесь тунэль аж даверху — вунь адтуль б'юць струмені. Налёг зноў на рычаг, тузаў, кідаўся на яго целам, пакуль не спынілася вада. Тым часам лямпачкі ў калідоры свяцілі ўсё слабей. Я пабрыў па калідоры. Большасць памяшканняў была зачынена. Забрыў у генератарную, пазнаў — такая была ў нас на паверхні. Добра, што ў школе трохі вывучалі трактар. Атрымалася запусціць дызель тады, калі лямпачкі амаль згаслі. Быў такім шчаслівым, калі дызель запрацаваў роўна, а святло стала яркім. І зноў заснуў там — ад дызеля ішло цяпло, а я быў мокрым. Прачнуўся і на гэты раз доўга не мог зразумець, дзе я.

...Ужо некалькі дзён я тут — гляджу, колькі з'еў бляшанак тушонкі. Першае, што зрабіў,— знайшоў ламы, кувалду, зняў сякеру з пажарнага шчыта. Пазбіваў замкі з усіх дзвярэй. Зразумеў дакладна, дзе я: гэта запасны камандны пункт, даводзілася быць на такім. Тут тушонкі, галет, цукру хопіць на год на цэлы ўзвод. Вялізны бак з нержавейкі

з кранам — вада. Невялікі склад зімовага адзення. Ускрыў скрыні з трыма аўтаматамі, ёсць некалькі каробак патронаў. Набіў усе ражкі, зарадзіў.

Абстукаў сцены, спадзеючыся вызначыць, якая будзе не такой тоўстай, як іншыя. Бо пошукі іншага, замаскіраванага выхаду выніку не далі: яго больш няма. Ёсць толькі ўваход. Ну так — гэта ж на выпадак вайны, ядзернай. Не будзе куды выходзіць на паверхню, калі яна здарыцца. ЗКП будавалі з улікам такой вайны, значыць, тут сцены сама мала метр таўшчынёй. Як мне прабіць? І калі праб'ю, то куды? У балота, адкуль хлыне вадкая гразь? З генератарнай у столь выходзіць труба — вентыляцыя, бачна, як цягне туды паветра, але столь мне не прабіць дакладна, да таго ж труба загінаецца — мацаў ломам. Тут ёсць туалет, ён літаральна ў сцяне. І я падумаў, што ягоная задняя сцяна будзе танчэйшая за іншыя месцы. Расстраляў цэлы ражок патронаў з аўтамата ў сцяну, якую збіраюся ламаць. Гук стрэлаў аглушыў так, што пасля я біў ломам сцяну і не чуў гуку. І кулі пакінулі зусім малыя выбоіны. Ломам атрымліваецца лепш, але цяжка, марудна.

...Мне часам вельмі страшна. Хоць я вывучыў усе памяшканні — тут няма нікога, апроч мяне. Але часам... Часам мне здаецца, што па калідоры ноччу нехта ходзіць — я чую крокі. Сярод ночы прачынаюся ад жаху — сцены майго памяшкання ссоўваюцца адна да другой, столь апускаецца. У штабным памяшканні знайшоў радыёпрыёмнік, бачыў такі ў радыстаў. Пстрыкаў усімі магчымымі тумблерамі — паўсюль была цішыня, але неяк атрымалася падабраць камбінацыю, калі ў навушніках зашыпела. Тады я, затаіўшы дыханне, круціў ручку настройкі — і пачуў голас чалавека. Здаецца, па-польску. Я так радаваўся яму — чалавечаму голасу! Знайшоў яшчэ адну станцыю, дакладна, польскую. Часам там гучала музыка. Прыёмнік я не

выключаў ніколі — ён падключаны да электрасеткі, якую сілкуе дызельны электрагенератар.

...У генератарнай — пяць бочак. Яны павінны быць поўнымі, але ж толькі ў адной напалову паліва. Значыць, скралі і прадалі — звычайная справа. Тым больш што генератарная не замыкаецца. Таму працуе дызель на зарадку акумулятараў. Пасля выключаю. Акумулятары пасля поўнай зарадкі трымаюць доўга.

Адчай быццам мінуў, хоць часам накатвае. Асабліва калі думаю пра маму. Бацька нас кінуў, бабуль і дзядуляў у мяне няма. Мама засталася зусім адна. Яна мне пісала два разы на тыдзень. Мне так шкада яе! Мабыць, калі я выберуся, мяне адправяць у дысбат. Гэта як турма. Ну і няхай, некалі ж я вярнуся дадому.

...Заводзіў дызель і раптоўна пабачыў на бакавой сцяне драбнюсенькія кроплі нібыта вады. Правёў дрыжачай рукой — так і ёсць! Значыць, за гэтай сцяной змянілася тэмпература, значыць, там — пустата, там дакладна не балота! Пачаў біць сцяну ў генератарнай.

Раблю вечарам запісы пасля таго, як перачытаю напісанае. І тады мне спакайней. Бо часам мроіцца, што ўсё гэта сон, ці наадварот, што сон — усё, што было раней: дом, вучоба, армія, неба над галавой. Я чытаю тое, што напісаў — і бачу, што я жывы, што ідзе час, што выйсце магчымае. Гэта добра, што мне трапіўся гэты журнал, і я вырашыў пісаць.

Да гэтага часу спаў у «дзяжурцы», каб быць побач з рубільнікам. Цяпер перабраўся ў невялікі, больш-менш утульны пакойчык. Ягонае назначэнне, хутчэй за ўсё для адпачынку дзяжурнаму афіцэру. Тут тапчан, я прыцягнуў матрац і дзве коўдры. Ёсць стол. Тут я толькі сплю. П’ю ваду

і ем палову бляшанкі тушонкі з галетамі, пасля быццам абедаю і вячэраю тым жа ў штабным пакоі. Там працуе прыёмнік. Я знайшоў яшчэ адзін, зацягнуў да сябе ў пакой, але няма куды падключыць, а акумулятар у ім трымае хвілін трыццаць. Я зараджаю яго ў «штабе», пасля нясу з сабой і засынаю пад чалавечую гамонку. З кожным вечарам мне падаецца, што я больш і больш разумею польскую мову.

Некалькі дзён я не пісаў. Трэба хутчэй выбірацца адсюль. Хутчэй! Бо іначай мне канец. Тады я прачнуўся такім разбітым, быццам і не клаўся адпачываць. Але лямпачкі ледзь свяціліся ў калідоры — значыць, часу прайшло многа. Дзіўна, бо я працаваў учора, як і заўсёды. Хутчэй пабег у генератарную, завёў дызель. Калі выходзіў, кінуў вокам на сваю ўчарашнюю работу. І тут мне падалося, быццам куча бетоннага друзу на падлозе выглядае трошкі большай. Але не падышоў — накіраваўся ў штабны пакой есці. Прыхапіў тушонку, галеты. Зайшоў і замёр: на стале валялася пустая бляшанка, побач ляжаў штык-нож, якім я ўскрываю кансервы. Распатрошаная ўпакоўка галет, крошкі на стале, на падлозе. Гэтага не магло быць. Я ўчора даеў тушонку і паставіў бляшанку ў кут. Выціраў стол. Браў штык-нож з сабой... У калідоры быццам пачуліся крокі. Я адчуў, як здранцвела спіна, страх скаваў мышцы, а скура на галаве сцягнулася так, ажно стала балюча вачам. Здолеў павярнуцца. Нідзе нікога няма. Роўна працуе дызель-генератар. Ірвануўся ў свой пакой, схапіў аўтамат, шмаргануў затвор. Абышоў увесь ЗКП, трымаючы палец на курку. Спіна ўзмакрэла ад напружання. Вярнуўся ў штабны пакой трохі заспакоены: мабыць, я так стаміўся ўчора, што забыў, як сябе паводзіў. Прысеў, пачаў ускрываць бляшанку. Павярнуўся, каб уключыць прыёмнік. І тут на дошцы — там такая вялікая дошка, як у школьным класе, нават крэйда ляжыць, пабачыў надпіс: «Табе канец!»

Не помню, колькі я прасядзеў у здранцвенні. Мяне трэсла як ад ліхаманкі. Сцены пакоя ехалі на мяне з бакоў, вось-вось магла грымнуцца столь. Нешта мармытаў прыёмнік. Я падскочыў і закрычаў у роспачы: «Хто тут!?» Выскачыў у калідор і пусціў адразу чаргу з аўтамата ў адзін канец, а пасля — у другі. Гукі стрэлаў не толькі аглушылі, але быццам працверазілі. У мяне ў руках — зброя! Я — моцны. У наступнае імгненне я ўжо ляцеў у збройны пакой — там жа былі яшчэ аўтаматы. Усё было на месцы. Пахапаў іх, павалок з сабой. Сеў у штабной так, каб бачыць уваход перад сабой, трымаў аўтамат між каленяў. Ускрыў бляшанку, чапляў штык-нажом кавалкі стылай вяндліны, запіхваў у рот і жаваў, не адчуваючы ні смаку, ні насычэння. Надпіс быў перад вачыма. Ён смяяўся і здзекаваўся з мяне: «Табе канец!». У адно імгненне мне падалося, быццам я недзе раней бачыў яго. Думка была такая нечаканая і абсурдная. Я сасніў яго? Не. Недзе чытаў? Ды не. Але чаму ён такі знаёмы? Глядзеў, глядзеў, так напружыў позірк, быццам свідраваў дзірку ў той дошцы. І здагадка прыйшла. Не ведаў, радавацца ёй ці выць ад болю. Надпіс быў мне знаёмы, бо гэта быў мой почырк. Гэта я пішу вось так літару «ц» з выкручастым хвосцікам, гэта я высока задзіраю «дзюбку» ў літары «к». Падышоў да дошкі і хутка напісаў гэтыя два словы знізу. Адзін у адзін. Усё стала на месца. Значыць, учора я лёг спаць, але прачнуўся, біў сцяну, пасля еў, зрабіў гэты надпіс — і не помню нічога. Калі б не надпіс, я падумаў бы, што віной усяму стома. Але надпіс кажа пра іншае: я вар'яцею. Таму мне трэба выбірацца адсюль. Хутчэй выбірацца.

...У ЗКП цяпер два чалавекі. Я — першы, той, які піша гэтыя радкі. І я — другі, які таксама б'е сцяну — і б'е яе больш спрытна і ўмела. Які не прыбірае за сабой на стале, не выцірае штык-нож, а бляшанку з тушонкай ускрывае,

амаль разразаючы яе напапалам. Я — другі намаляваў на дошцы мішэнь, страляе ў яе з аўтамата. Я — другі пакідае мне, я — першаму, яхідныя і здзеклівыя кароткія пасланні. У асноўным пра тое, што я тут загіну. Што я — слабы і дурны. Ён насамрэч разумнейшы за мяне — знайшоў у скрыні сярод інструментаў, скрыня якіх ёсць у дызельнай, зубіла! Цяпер і я высякаю невялікі раўчук, б'ю ломам, кувалдай — і добры кавалак адколваецца.

...Я — першы б'ю дзірку ў генератарнай. Я — другі б'е ход у сцяне туалета. Не ведаю, ці стамляецца ён. А мне ломіць спіну, баляць рукі. Мяне бясконца хіліць у сон. Я — другі здзекуецца з мяне: піша розныя слоўцы на дошцы. Фізічна знясільвае. Мабыць, калі я ўпаду бездапаможны, тады ён цалкам заўладарыць маёй свядомасцю. Ён б'е і б'е сцяну, быццам зроблены з жалеза...

...Дык які ўрэшце я на самой справе? Які я сапраўдны? Вось гэткі, цяперашні, бездапаможны і запужаны, атручаны сваёй адзінотай і думкамі пра безвыходнасць, ці той, які прачынаецца ўва мне, які піша здзеклівыя надпісы на сценах, які апантана і спрактыкавана дзяўбе бетон? Ён пасміхваецца, ён адчувае сябе моцным і разумнейшым за мяне, такога. Ён ведае пра мяне ўсё! Ведае мае думкі, мае планы... А я не ведаю пра яго нічога! Ён — гэта я сам і яшчэ нехта, яшчэ нейкая асоба ўва мне, якую я не адчуваю. Я кажу пра сябе начнога — «звар'яцелы», але... Мне непадуладна яго адчуць і зразумець, а вось яму, звар'яцеламу, лёгка чытаць маю душу і калупаць мой розум, знаходзіць там глыбока прыхаваныя ўспаміны і перажыванні, выцягваць іх з прорвы бяспамяцтва. Ён помніць больш за мяне, ведае больш за мяне, ён ведае мяне! Дык, можа, вар'яцтва — гэта насамрэч, не хвароба, а маё новае нараджэнне, гэта нараджэнне новай асобы, вышэйшай за сённяшнюю,

звычайна здаровую? А калі цалкам прыняць яе — хіба я, цяперашні, знікну? Хіба, стаўшы часткай цэлага, павінна знікнуць частка? Калі я прыму яго, калі я аддамся ягонай волі, не стану супраціўляцца — хіба горай стане мне, атрымаўшы ад яго іншае мысленне, іншы погляд на свет? Навошта мне пакутаваць, чапляцца за сябе сённяшняга, угаворваць і пераконваць сябе ў тым, што менавіта мой цяперашні стан — гэта стан нармальны, калі страх і безвыходнасць пануюць у маім розуме? А ён, той я — другі, не баіцца нічога, ён пасміхаецца з мяне, разгубленага і бездапаможнага. Гэта, урэшце, можа значыць толькі адно: ён не проста мацнейшы за мяне і таму больш пратрымаецца. Ён ведае выйсце! Вось чаму ён смяецца адкрыта, вось чаму кпіць з мяне. Я — першы не веру ўжо, што магу выбрацца адсюль — заканчваецца паліва ў бочцы. Я — другі ўпэўнены, што выйдзе адсюль...

Стась замоўк, прагартаў яшчэ старонкі — запісаў больш не было. Як ніколі доўга, яны маўчалі, мо ў першы раз чуючы ўсе гукі вострава: шум ветру, ценьканне птушак, стракатанне конікаў.

— Бедны салдат,— выдыхнула Яніна.— Маці так і не дачакалася яго. І ўжо цяпер не дачакаецца. І ведаць ніколі не будзе, што з ім зрабілася.

— Чаму? — падхапіўся Арцём.— Мы ж цяпер ведаем, мы ўсім раскажам...

— Таму што на балоце застрэлілі не салдата, а беглага злачынцу,— рэзка спыніў яго Віталь, падняўся на ногі.— Давайце так: выберамся адсюль — пагаворым.

— Ды пра што гаварыць? — не супакойваўся Арцём.— Што вы цямніць пачалі?

— Хопіць псіхаваць,— падтрымаў Віталю Стась.— Не час пра нешта спрачацца. Вядзі, Віталь!

# 18. Героі навін

Зноў «абуліся» ў чорныя мяшкі. Па добра бачнай у балоце сцяжынцы ішлі шпарка, наколькі можна было шпарка ў балотнай твані, густой траве па шчыкалатккі, а дзе і вышэй. Віталь падганяў, падбадзёрваў:

— Ну, паднатужымся! Хутка ўжо! А бабуля Зося такіх блінцоў напякла! А мае бацькі прыехалі — прысмакаў навезлі!

Выйшлі да межавой канавы, і тут Віталь павярнуў улева:

— Сюды, давайце сюды!

— Нам жа наўпрост, здаецца! — спыніўся Арцём.

Спыніўся і Віталь.

— Дыхаем дзесяць хвілін і слухаем. Крук зробім, абыдзем вёску і выйдзем з боку лесу. Не забываем, мы сказалі, што Лера ў лесе заблукала. Я і бацьку так сказаў. Зараз во зноў будзе званіць. Яны будуць чакаць нас з лесу. Можа, і сустрэнуць. І хутчэй за ўсё, з міліцыяй. Лера, што будзеш расказваць?

Дзяўчына, на дзіва, не разгубілася ад пытання.

— Так і буду расказваць: выйшла да ветру, быў туман, нейкая птушка. Спужалася, упала, пабегла — і не змагла выйсці з туману. Ад страху згубіла голас. Ішла і ішла ўсю ноч. Апынулася ў незнаёмым лесе, гукала, блукала...

— Малайчына, Лера, разумная ты дзяўчына,— ухваліў Віталь.

— Што ела? — хутка спытаў Стась Леру.

— Ягады мо...

— Так, чарніцы ўжо ёсць. А піць?

— Не ведаю...

— Тут па карце ў лесе ёсць і балотцы, і ручай быццам. Карацей, балотцы,— падказаў Стась.— Начавала?

— Пад кустамі...

— Лепш — пад вываратнямі, усё зацішней. Ламала галлё, укрывалася ім, колькі можна было.

— А чаму тэлефон на ўзбочыне дарогі знайшлі? — уставіў пытанне Віталь.

— Не ведаю... Не помню...— засмуцілася Лера.

— Нармальны адказ,— супакоіў яе Стась.— Не ўсё чалавек у стрэсе помніць.

— Добра, Лера, гэтага і трымайся. Ты пачула сёння нашы галасы, бо мы гучна крычалі. Цяпер усім кажу: мы адшукалі Леру ў лесе. Былі ўпэўненыя, паверылі табе, Цёмка,— Віталь кіўнуў Арцёму,— што Лера нікуды не магла збегчы, а толькі заблукаць. І насамрэч жа, мы табе паверылі, ты нас пераканаў,— усміхнуўся лагодна Віталь.— А пра востраў, ЗКП і ваўкалака, пра яго запісы, пра зніч той — пакуль маўчым. Я казаў коратка, зараз дадам: мой дзядзька ў арміі служыць. Там людзі вельмі сур'ёзныя і не любяць, калі нехта даведваецца пра тое, што яны ўтойваюць ад іншых. ЗКП — не наша справа, нельга нам там было быць. Тым больш яны думаюць, што затапілі падзямелле, яны гэта і рабілі. І паперы там... вельмі нядобрыя. І яшчэ... Той ваўкалак пісаў, ды і бачна было, што на запасным пункце было шмат усякага дабра. І калі тушонка ды бушлаты — лухта, то аўтаматы і патроны — зброя. І чым мы дакажам, што не мы ўзялі аўтаматы? Ды нас да восені зачыняць дзе-небудзь і будуць дапытваць па адным, лавіць на супярэчнасцях, пагражаць. Бо зброя — не жарты. Ну вось... Ты, Стась, хочаш рэшту лета правесці ў якой камеры з размовамі са следчымі?

— Ведаеш, я вельмі хачу, як вернемся, прыйсці да сябе на лецішча, паліць кветкі, пасля заваліцца на канапу і глядзець якое-небудзь кіно. Любое, абы там не было ваўкалакаў,— адказаў Стась.— Да следчага не хачу, з версіяй згодны.

— Ты, Яніна, што скажаш? — павярнуўся Віталь да дзяўчыны.

— А ты яшчэ пытаешся? — зморшчыла нос Яніна.— Я цудоўна помню, як мы шукалі па лесе Леру, Стась нас вадзіў па сваім навігатары.

— А я дык і не надта помню тыя сцежкі,— усміхнуўся задаволена Віталь, зазірнуў у вочы Арцёму: — Цёмка, ты як? Толькі без псіхаў, калі ласка, па справе.

— А пасля? А што рабіць пасля? Там — капішча старажытнае, нікім не чапанае! Там зніч! Гэта навуковае адкрыццё, ды вучоныя...— Арцём у запале не заўважаў, як пырскае слінай.

— Ды супакойся ты! — прыкрыкнуў Віталь.— Пераначуем дык пачуем! Пасля, пасля... Нам зараз важна трымацца такой версіі, каб нас не зацягалі роспытамі і допытамі.

— Вось яшчэ што дадам,— умяшаўся Стась.— Слухай, Цёмка, уважліва. Калі мы спускаліся ў ЗКП, там ля ўвахода, дзе гара друзу бетоннага і зямлі — там яшчэ і попел. Я звярнуў увагу. Цяпер згадваем у запісах пра малую колькасць дызпаліва. У цемры нельга прабіваць сцяну і капаць. Значыць, там гарэў агонь. Што было паліць? Толькі паперу. А яе мы бачылі — тыя звышсакрэтныя папкі. Ваенныя прыедуць, праверацъ. Нічога не знойдуць. І мы, а не мёртвы ваўкалак, будзем адказваць на пытанне: згарэлі тыя дакументы ці мы іх прадалі якой замежнай разведцы? І гэта ўжо не простыя ваенныя будуць, а Камітэт дзяржбяспекі. Ці хочацца мець з імі справу?

— Я не дурны! — выгукнуў Арцём, адвярнуўся ўбок, глядзеў пільна на кусты, быццам там шукаў нешта, што зрабіла б ягоныя словы важкімі для ўсіх і апошнімі.— Згодны, я буду з вамі тое ж расказваць. Але толькі да таго моманту, пакуль усё ўляжацца. Пасля на востраў прыйдзем мы — я і мой выкладчык. І Леру возьмем.

— І быццам наноў знойдзеце ўваход і іншае, так? — падказаў Віталь.

— Ну, хай так. І каб вы не перашкаджалі.

— Ды шукай! — Віталь ляпнуў па плячы Арцёма, ставячы кропку ў размове: — Усё, дамовіліся: праз два тыдні чакаем цябе і выкладчыка, Леру, можаш яшчэ сяброў узяць. Во, і мяса бярыце! Шашлык зробім...

— Ага, на Праскоўіным надворку,— рагатнуў Стась.— І пачакаем ваўкалака,— закончыў ён таямніча.

— Хай прыходзіць і крадзе,— уставіла Яніна.— Я зараз не напужаюся!

Засмяяліся.

— Ідзём! Нам кіламетры тры ўсяго — і будзем у патрэбным месцы. Так, Стась?

— Так, у лес трохі заглыбімся — і будзем выходзіць... Дзяўчаты, вы як? Не стаміліся з непрывычкі? — Стась зірнуў на Леру і Яніну.

— Нармальна, клапатлівы ты наш,— незласліва падначыла Яніна.— Лера вунь колькі дзён адпачывала, хай разамне ногі!

На патрэбную кропку выйшлі раней, чым разлічвалі. У дарозе Арцёму патэлефанаваў выкладчык.

— Мірон Сяргеевіч сказаў, што з жонкай з’ездзіў да Лерыных бацькоў, зараз кіруюцца сюды.

Перадыхнулі трохі. Толькі пакрочылі ў бок вёскі, зазвінеў тэлефон Віталя. Ён размаўляў на хаду. Пасля гукнуў усім:

— Рыхтуемся! Навіна пра выратаванне Леры ўжо ў сацсетках і на сайтах навін. У вёску прыляцелі журналісты. Бацька кажа, на дзвюх машынах. Мо яшчэ падскочуць. Нас сустракае ўся вёска.

— Лера, трымайся! — падбадзёрыў Стась дзяўчыну.— Тваё найлепшае выратаванне — «не помню». І тут няма страху — ты насамрэч не абавязана ў такім шоку ўсё

помніць. Арцём, трымай Леру за руку — гэта ж твая заслуга, ты настойваў на тым, каб яе тут шукалі. Вы за намі ідзіце, а мы ўтрох наперадзе...

Іх сапраўды сустракала ўся вёска. Першымі з пярэстага натоўпу вырваліся трое фатографаў — двое маладых хлопцаў і дзяўчына. Яны моўчкі, не задаючы пытанняў, пстрыкалі з усіх бакоў, прысядалі і ледзь не кlaліся пад ногі. Адзін, самы нахабны, хацеў пакамандаваць, сказаў, каб Леру з Арцёмам пусцілі наперад, на што Віталь цыркнуў слінай пад ногі і спытаў:

— А сцяг мне ў рукі не дасі?

Наперадзе натоўпу стаяла маці Віталя — мажная жанчына з загарэлым тварам, які зараз быў вельмі прыгожым ад радаснай усхваляванай усмешкі на вуснах. Усміхаліся і бацька Віталя, і бабуля Зося; усміхаўся старшыня сельвыканкама, і нават участковы міліцыянер, яшчэ зусім малады лейтэнант радасна глядзеў у іх бок.

Пасля нейкі час было тлумна. Не паспявалі адказваць на пытанні. Наляцелі на ўсіх пяцярых і ўсе разам: вяскоўцы, родныя, журналісты. Сядзелі на лаўцы, трымаліся адзін за аднаго, адказвалі і адказвалі. Пад'язджалі ўсё новыя машыны — з раённага аддзела міліцыі, яшчэ журналісты, нават здымачная група нейкага тэлебачання. Апошняй прыехала машына, за рулём якой была жонка выкладчыка Кацярына Віктараўна. У машыне быў сам Мірон Сяргеевіч і маці Леры. Тут ужо была «карцінка» для журналістаў... А Віталю і Стасю было найцяжэй у тыя хвіліны, бо маці Леры, плачучы, дзякавала ім, абяцала нейкія падарункі, ад чаго хлопцы адхрышчваліся, як маглі. Яніна неўпрыкмет падалася ўбок, а пасля і збегла да сваёй хаты.

Мірон Сяргеевіч моцна паціскаў хлопцам рукі, а Лера, яе маці і Арцём ужо былі ў аўтамабілі — выкладчык збіраўся і самога Арцёма адвезці дахаты, каб «рэшту лета спакойна далячыцца».

Нарэшце ля хаты і на двары стала ціха. Раз'ехаліся аўтамабілі, разышліся суседзі. Можа, адчулі, што гаспадарам трэба адпачыць. Ды і расказалі ж усё. Колькі можна распытваць? Бабуля Зося і Віталева маці на верандзе гатавалі вячэру. Да Віталя і Стася, якія сядзелі на лаўцы перад хатай, выйшаў Віталеў бацька, Андрэй Міхайлавіч.

— Ну, як вы, героі? Не дапякла вас такая ўвага?

— Ды норм,— кісла пасміхнуўся Віталь.— Больш стамляе, чым пешкі па балоце.

— Ага,— бацька ці то зрабіў выгляд, што не пачуў «па балоце», ці то вырашыў пра ўсё распытаць пазней, ці то надта нецікава яму было: з якой прычыны ягоны сын швэндаўся па балоце, калі яны былі ў лесе? Ён кашлянуў адно і спытаў яшчэ: — Гэта, можа, вы патраціліся на што? Ну, грошы там ці іншае?

— Ага, грошай пазычалі ў бабы Зосі, пяцьдзясят рублёў. Мы дамаўляліся скінуцца...

— Не трэба, я вярну...

Бацька не стаў затрымлівацца, пайшоў у хату.

— Пайшлі да бабулі Арыны,— сказаў Віталь Стасю.

Той не пытаючыся, падняўся.

— А дзе яна зараз?

— Папрасіла, каб бацька ў садок адвёз.

Надыходзіў надвячорак. Сонца свяціла на старэнькую жанчыну ў калясцы праз лістоту яблыняў. Здавалася, што бабуля была ў дробных сонечных зайчыках. Яна глядзела туды — на захад, на сонца не жмурачыся. Можа, таму, што яе глыбока запалыя вочы ўжо самі бараніліся ад нябеснага святла. Віталь падышоў, стаў спераду, апусціўся перад бабуляй на кукішкі. Стась падумаў, што размова будзе не кароткай, і зрабіў тое ж самае. Бабуля ніколькі не здзівілася з'яўленню хлопцаў, уздыхнула неглыбока.

— Памру гэтай восенню,— сказала ціха і спакойна, як аб нечым звычайным.— Хадзілі на балота? — спытала.

— Хадзілі,— прызнаўся Віталь.— Мы бачылі зніч, бабуля Арына. І тое месца, якое, вы казалі, пад зямлю правалілася. Там жыў гэты... ваўкалак. Там ёсць тыя камяні і агонь гарыць.

— Хай бы і жыў далей...— пашкадавала бабуля.— Ды не нам тое вырашаць. Ты цяпер дарогу і месца ведаеш — табе і сцерагчы агонь.

— Як гэта мне сцерагчы? — трохі ашаломлена перапытаў Віталь.

— Табе, і сябру во твайму. Каб не згас зніч.

— Дык нам што, ваўкалакамі парабіцца? — без усмешкі спытаў Стась.

Бабуля Арына зірнула на яго з нейкім агеньчыкам у вачах.

— Зараз усё іначай. Навошта ваўкалакамі? Важна, каб агонь гарэў. Каб абы-хто да яго не лез. Каб не паскудзілі на святым месцы.

— Зразумела... А чаму вы вырашылі гэтай восенню паміраць? — нечакана спытаў Стась.

— Бо аджыла сваё,— без скрухі адказала старая.— Ногі не ходзяць, але, дзякуй Богу, не здзяцінела. Што ўва мне трымалася — тое ў вашы галовы ўклала. А раз вы хлопцы кемлівыя, значыць я спакойная.

— Дык што нам рабіць, парайце...

— От таго не ведаю. Мне мой татка, калі пераказваў пра дарогу да зніча, гэтаксама не сказаў, што з тым веданнем рабіць. То і я вам не райца. Рабіце, што ўдумаеце. Адно, каб жыў...

— Дзякуй, бабуля,— Віталь падняўся.— Будзем думаць.

— Ідзіце сабе. Прыдумляйце. Вы галавастыя, — быццам благаславіла бабуля Арына хлопцаў, прыкрыла вочы.

Выйшлі на вуліцу. У Стася падаў сігнал тэлефон. Хлопец зірнуў на экран, усміхнуўся.

— Маці піша: «Віншую героя́ў сённяшніх навін. Ганаруся» і спасылку дае. От так, зірні: мы ўжо ў навінах у сеціве.

— О, які наш Рамэа круты! — усміхнуўся Віталь, разглядаючы фотаздымкі ў тэлефоне.— А загаловак, загаловак які: «Каханы не паверыў — і ўратаваў сваё каханне». Вось дзе герой дня. Слухай, Стась, сядайма, спытаю... Можа, хопіць з Арцёма і такой славы, га?

— У сэнсе: не пускаць Арцёма з яго выкладчыкам на востраў? Чаго ты баішся? А ўяві: будуць прыязджаць розныя экскурсіі, Яніна будзе выдаваць ім мяхі смеццевыя на ногі, ты — вадзіць па балоце як сапраўдны сталкер! Ды і грошы будуць!

— Ага. А чаму ты такія радасныя рэчы кажаш без сапраўднай радасці на твары?

— Бо не мне быць сталкерам,— развёў рукамі Стась.— Уся слава Арцёму ды табе з Янінай.

— Добра, давай сур’ёзна... Ты ж мяне падтрымаў там, на балоце. Ну, калі Цёмка ледзь усё не здаў. Што думаеш?

— Шкада...— уздыхнуў Стась.— Нечага шкада. Для бабулі Арыны, для тых, хто раней жыў, гэтае месца было... Ну, святым, скажам так. А я нямала чытаў, як сябе паводзяць турысты ў самых розных месцах. Сапраўды будуць прыязджаць ды шашлыкі смажыць? Будуць. Нехта дакладна паспрабуе. Само месца цікавае, канешне. Раскапаюць, зробяць уваход асаблівы, з парэнчамі. Як гэта называецца — «акультураць». Па тэлевізары пакажуць, брэндавае месца будзе. Дарогу яшчэ пракладуць — тут няцяжка, каб святы ладзіць. Усё магчыма. Турысты будуць заглядваць пад камень, шукаць балон газавы...

— А без балона гарэць не будзе? — здзівіўся Віталь.— Навошта балон?

— Ды мне адкуль ведаць, колькі там гарэць знічу? Газ знізу сочыцца, праходзіць акурат па расколінах у камені.

Думаю, калі там паскакаць добра, ён тады можа знікнуць, парушацца выхады газу, разумееш? У іншыя месцы знойдзе газ ход — і ўсё... Ну і падвядуць аднекуль са схаванага балона. Ды ўсё адно тут іншае важней.

— І што?

— А табе што? — хітравата прыжмурыўся Стась.— Арцём меў рацыю: то для цябе ўсё размовы — казкі, а тут раптам: не крычы пры зніча, пакрыўдзіцца.

— Дык я ж сказаў там праўду — бо недаверак! — ажно пакрыўдзіўся Віталь.— Мне пабачыць і памацаць трэба!

— Ну і пабачыў, дык што? Паверыў у моц зніча?

— Хто яго ведае... Кажуць жа пра месцы асаблівыя. Можа, там такое? Ну, навошта было пад зямлёй хаваць столькі гадоў? Але... Знаеш, бабуля Арына ведала пра гэтае месца. Усё жыццё ведала. Надышоў час — яна нам сказала дарогу. І цяпер во кажа: буду паміраць. Разумееш? Для яе гэтае месца такое важнае, што вось, зрабіла яна ўсё, каб перадаць веданне пра яго — і больш ёй рабіць няма чаго на гэтым свеце. Раней ніколі пра смерць не гаварыла, а тут так кажа, быццам пра вячэру звычайную. Ты цяміш, не стаў бабулі расказваць, ад чаго той зніч гарыць. Як было б бабулі пачуць: там не агонь непагасны таямнічы, а звычайны газ балотны. І твой дзед, твой татка, твая матка былі дурныя-дурныя, бо таму агню кланяцца, як во табе сёння газавай канфорцы! І яшчэ зарагатаць! Не, хай памірае бабуля без такога ведання. Урэшце, калі ўсё разам скласці, я зараз пра што падумаў: каб не яе распаведы пра зніч і ваўкалака, не знайшлі б мы Леру! Загінула б яна там, хіба не так?

— Так,— згадзіўся Стась.— Маеш рацыю. І пра Леру, і пра ўсё астатняе. Дык што будзем рабіць?

— Не ведаю... А ты што прапануеш?

— Пакуль нічога. Дзень такі тлумны, можа, хопіць на сёння? Яшчэ ж запісы ў мяне. Хачу свайму суседу па ле-

цішчы, таму прапаршчыку былому паказаць. Ён гэта ўтойваў ад нас, а цяпер зразумела: думаў ён пра свайго салдата. Як мяркуеш, разумна будзе?

— Глядзі сам. Калі лічыш патрэбным — кажы.

З веранды пачуўся голас Віталевай маці, бадзёры, зазыўны, які абяцаў прыемнае:

— Віталь! Стасік! Хлопчыкі, хадзіце за стол! Усё гатова!

Ці то позні абед, ці то ранняя вячэра, а хутчэй — нейкае свята, бо стол быў літаральна застаўлены прысмакамі.

— Ого! — цмокнуў языком Віталь.— Мама, а заўтра так карміць ужо не будзеш? Ці з сённяшняга дня ў нас будзе такі стол будзённым?

— Яшчэ адну дзяўчыну з балота выцягнеце — будзе! — рагатнуў бацька.

— Тады мы падбухторым Яніну заблукаць,— знайшоўся Віталь, зірнуў на Стася, а той ледзь кіўнуў галавой у бок вуліцы, і Віталь зразумеў: — А калі мы паклічам Яніну да нас, гэта не будзе парушэннем статусу нашай сямейнай вячэры?

— Вой, паклічце, канешне, я забегалася, і думала ж,— паўшчувала сама сябе Віталева маці.

Віталь набраў Яніну па тэлефоне:

— Яніна, што робіш? Бульбу на вячэру абіраеш? Чуеш, тут вельмі тэрміновая справа. Падбяжы. Ага, зараз жа. От падбяжыш і раскажам. Ну канешне, Стась тут. Чакаем!

Праз пяць хвілін Яніна адгарнула цюлевую фіранку, зазірнула ў расчыненыя дзверы і застыла, трохі спалоханая, бо ніяк не чакала пабачыць амаль святочны стол, за якім сядзела пяцёра і бабуля Арына ў вазку ля стала.

— Заходзь, заходзь, Янінaчка! — падхапілася Віталева маці з месца.

Яніну пасадзілі між хлопцамі, і ці не першы раз за ўвесь час побач з імі яна пачувалася сапраўды сарамліва, ажно Віталь не вытрымаў і шапнуў:

— Ну, што ты як чужая? Быццам першы раз у гэтай хаце. Глядзі, чым нас сёння кормяць! Нават чырвонай ікры прывезлі!

Вядома ж, размова за сталом міжволі зварочвала на тэму пошукаў Леры. Віталь расказваў бацькам пра дзеі апошніх дзён: як хадзілі на былую ракетную базу, як знайшлі логава ваўкалака на Праскоўіным падвор'і, нафантазіраваў, як блукалі сёння па лесе, надаючы больш увагі Стасю і ягонаму ўмельству выкарыстоўваць навігатар у тэлефоне, што давала ім упэўненасці: яны не заблукаюць. Але, бацькі, відавочна, ведалі больш, і дзеці ведалі, што бацькі маюць рацыю, а тыя здагадваліся, што дзеці ведаюць... Карацей, гэта было падобна больш на канспіратыўную гамонку, усё роўна як сядзеў за сталом невядомы нябачны госць, у прысутнасці якога заранёў было дамоўлена не размаўляць да рэшты адкрыта.

— Вы малайцы, канешне,— пахваліў Віталеў бацька дзяцей, дадаў: — Толькі вось можна б было і да старэйшых звярнуцца. Справа рызыкоўная.

І тут нечакана ўмяшалася бабуля Арына, якая з замілаванасцю на твары ўсю вячэру паглядвала на праўнука і ягоных сяброў:

— Ты, Андрусь, не кажы абы-што. Сябе ўспомні: у такіх гадах сам памочнікам камбайнера быў, а як той хварэў два дні, дык ты і жаў. І Зося, маці твая, за тваёй спінай не стаяла, не папраўляла, і бацька твой ад цябе зерне адвозіў, а не рукі твае на рулі трымаў. А чым твой сын горшы? Не зломак, а розумам яны ўдвая за нас возьмуць. Харошыя дзеці, усё змаглі. І больш зробяць...

Пасля вячэры на двары Віталь перапытаў у Стася:

— Ты лічыш, што прапаршчыку варта паказаць запісы і расказаць?

— Ну, не ўсё расказаць, але галоўнае, лічу, трэба. І паказаць запісы, канешне. А ты як лічыш? — звярнуўся Стась да Яніны.

— Ага, пакажы. Дзядзька ад нас, магчыма, гэта і хаваў. Я яшчэ тады так падумала.

— Дык пайшлі са мной, да ночы яшчэ далёка,— прапанаваў Стась.

— А навошта я?

— Ды разам неяк ямчэй. Я цябе назад правяду. Кветак накрадзеш.

— Сама дарогу ведаю,— чмыхнула Яніна, хітравата прыжмурылася: — А ты навёў парадак у сваім дамку перад прыездам бацькоў? Ці мяне папросіш?

— Навёў,— усміхнуўся Стась.— Якраз учора. За дзень пылам не прыпала.

— Ну, пыл ужо я сцерла б... Пайшлі! Але каб да цемнаты вярнуцца, бо бабуля перажываць будзе.

— Ды нядоўга ж. Пагаворым толькі.

Ля свайго лецішча Стась прыпыніўся збянтэжаны: вароты ў двор былі цалкам расчынены.

— Што за халера?

Яшчэ два крокі — і ўсё стала зразумелым: ля дамка стаяў іхні аўтамабіль. Мабыць, бацькі толькі што прыехалі, зараз занеслі рэчы ў дамок, бо багажнік аўто яшчэ не быў зачынены. Адчыніліся дзверы, і яны выйшлі разам — маці і бацька.

— Сынок!

Маці, загарэлая так, што валасы сталі святлейшымі за скуру на твары, у светлым лёгкім касцюме з кароткімі рукавамі, які яшчэ больш падкрэсліваў смугласць рук, і трошкі чужая ад усяго гэтага, кінулася насустрач Стасю, абняла яго, нямоцна прыціснула, чмокнула ў нахіленую патыліцу.

Стась разгубіўся: яны ж сёння толькі пісалі, што будуць заўтра раніцай. Азірнуўся назад з вінаватай усмешкай, працягнуў руку, каб узяць за руку Яніну, бо тая таксама застыла збітая з панталыку, засаромленая. У гэты момант

пачуўся бацькаў голас, больш з'едлівы і насмешлівы, чым жартаўлівы:

— А ты перажывала, што ён сумаваць будзе! Ха, глядзі, мы яму спатканне сапсавалі, ён ужо дзевак сюды водзіць!

Мажны, з чырвоным вялікім пузам, у доўгіх паласатых шортах, ён стаяў у расчыненых дзвярах і пачэсваў такія ж чырвоныя, як і пуза, грудзі.

Стась хацеў павярнуцца на голас, але Янініна рука, пальцы якой ужо ляжалі ў ягонай далоні, ірванулася вонкі, Яніна пабегла да выхаду.

— Чакай, Яніна! Ну чакай, калі ласка! — Стась крутнуўся за ёй.

— Славік, што ты вярзеш? — пачуўся крык маці за спінай.— Як табе не сорамна, на свайго сына казаць такое, ды яшчэ пры дзяўчыне, яе абражаеш! І накінь безрукаўку на плечы, людзі саромеюцца!

Стась паспеў, схапіў дзяўчыну за руку.

— Прабач. Не звяртай увагі.

Яніна спынілася пачырванелая, разгубленая.

— Я на сваім лецішчы! Бач, дарослым стаў! Срач развёў у хаце, прыбраўся б лепш, на гулі пацягнула! — крычаў бацька, не зважаючы на словы Стасевай маці.— Як адчуваў, што трэба сёння ехаць!

— Замаўчы, людзей сорамна! — сарвалася на крык Стасева маці, павярнулася да сына:

— Стась, праходзьце ж, ты не папярэдзіў, што... што не адзін прыйдзеш...

— А я вас не прашу нам прыём ладзіць бы ў амбасадзе! — з крыўдай у голасе рэзка адказаў Стась.

— Я пайду! — Яніна пацягнула руку, якую моцна трымаў хлопец.— Пусці, сіняк застанецца.

У гэты момант пачулася шалясценне — з суседняга ўчастка, рассоўваючы голле парэчак, да агароджы падышоў былы прапаршчык.

— Вы мяне, суседзі, прабачце, але мушу стаць на абарону справядлівасці,— гучна загаварыў ён.— Малады чалавек вёў сябе самым прыстойным чынам! Ягоныя сябры — такія ж прыстойныя маладыя людзі, і займаліся яны сур'ёзнымі справамі. Ніякіх галаслоўных абвінавачванняў!

— Ты мне яшчэ вякаць будзеш,— агрызнуўся бацька Стася, павярнуўся і зайшоў назад у дом.

— Мікалай Іванавіч! Нам да вас трэба. Ці можна зайсці? Мы па справе,— звярнуўся Стась да суседа.

— Канешне, маладыя людзі! Заўсёды буду рад! Давайце ў альтанку, зараз скажу Марыі, каб згатавала чай. Ці, можа, нешта перакусіць?

— Дзякуй, мы толькі з-за стала,— Стась нямоцна пацягнуў руку Яніны, яна падпарадкавалася, пайшла за ім да брамкі на лецішча прапаршчыка.

— Сынок, а як жа... мы прывезлі дыню, кавун, я зараз парэжу...— разгубілася маці.

— Пасля, мама,— далікатна адказаў Стась.— У нас сапраўды справа. Гэта не надоўга.

Альтанка ля дамка прапаршчыка была маленечкая, толькі і сесці чатыром чалавекам. Пакуль расселіся і Стась даставаў з заплечніка той самы журнал з запісамі, Марыя Антонаўна паспела прынесці печыва ў талерцы, кубачкі і чайнік з кіпнем.

— Яніна мне вось сведкам будзе,— ніякавата ўсміхнуўся Стась.— Мы разам былі... Усе гэтыя дні.

— Але напачатку хай нам Мікалай Іванавіч прызнаецца, што ад нас утойваў,— заявіла Яніна без усмешкі, можа, наструненая пасля «сустрэчы» на надворку Стасевага лецішча.

— Што я мог утойваць? — развёў рукі Мікалай Іванавіч, але, зірнуўшы на твары сваіх гасцей, кракнуў: — Так, мушу прызнацца, усяго не дагаворваў.

— І чаго? — дапытвалася Яніна.

Прапаршчык маўчаў, памешваў лыжачкай у кубку. Уздыхнуў, зірнуў на сваю жонку, якая прысела на краечку лаўкі, склаўшы рукі на жываце.

— Піце чай, дзеткі, піце! — угаворвала яна.— І печыва бярыце. Толькі раніцай пякла, сённяшняе.

— Мы праўда толькі з-за стала,— мякка адмовіўся Стась.— І торт елі... Дык раскажаце што, Мікалай Іванавіч?

Прапаршчык ківаў галавой, усё гэтак жа памешваючы лыжачкай, глядзеў на кубачак. Узняў вочы, уздыхнуў.

— Я сябе ў тым здарэнні вінавачу. Той салдат, Рыгор Лушчык, надта ўражлівы быў. А я яго ў каравул паставіў у тую ноч, замяніў ён таго, якога адвезлі ў шпіталь. І ён прапаў. Запісалі дэзерцірам, канешне. Я ж вам казаў, частку леса прачасалі, колькі была магчымасць, бо ж час такі быў — уся армія разбягалася, што там нейкі адзін салдат. Пасля ездзілі, канечне, на радзіму салдата, і я ягоную маці наведаў. Не аб'явіўся нідзе Грышка. І праз пяць гадоў, і праз дзесяць. Мне думалася, ён нейкім чынам на базе мог схавацца. Бо пасля капітан з групы ракетнага абслугоўвання мне шапнуў: маглі пары ракетнага паліва так падзейнічаць, што чалавек галаву губляе. Мы ж не ведалі... Лецішча тут набылі, цягнула сюды дый годзе. А тут чуткі пра чупакабру. Я і сказаў вам пра базу. У самога здароўя не хопіць — надта ногі баляць у суставах, і дзвесце метраў не прайсці. Ход на востраў мяне непакоіў. Але ў той дзень, як салдаты туды цягалі скрыні з нечым, варта была. Не наша, іхняя. І ноччу, бачыў, стаяў вартавы. Ды іх апытвалі, канешне.

— Але ён праскочыў туды,— цвёрда сказаў Стась.

Уздрыгнуў прапаршчык, вохнула ціха ягоная жонка.

— Але адкуль вы ведаеце?..

— Ведаем. Ён праскочыў, па тым ходзе. І апынуўся на другім востраве. Там пад зямлёй быў абсталяваны запасны камандны пункт, як вы і казалі, на выпадак сапраўднай

вайны. З запасам ежы, вады... Ход заканчваўся дзвярыма, ён зачыніў іх за сабой і страціў прытомнасць ад атручэння парамі гептылу. Калі апрытомнеў, тунэль быў затоплены. Выхаду на паверхню з ЗКП не было. Ён сам прабіў бетонную сцяну. Пасля знайшоў дарогу праз балота за гэтыя гады. І жыў на востраве. Не ведаем, якім чынам, але ў яго наладзіліся стасункі з адной жанчынай. Яна жыла на краі вёскі. Ён прыносіў ёй нешта з ЗКП; мяркуем — адзенне, можа, апаратуру, ежу. Была там і зброя. У старой быў сын. Мяркуючы па ўсім, ён зрабіў схованку для... для Грышкі. І той, магчыма, жыў некалькі гадоў між востравам і вёскай. Чаму старая не прывяла яго да людзей — пра гэта не даведацца: старая памерла. Нам здаецца, што з-за доўгага знаходжання на востраве ў адзіноце ён... ну, пачаў вар'яцець. А калі памерла старая... Ён баяўся людзей. Краў, каб есці, выжыць. Калі прапала студэнтка, мабыць, ён сачыў за лагерам, бо падворак той старой быў ягоным домам многа гадоў. Дарэчы, дзяўчына сама вінаватая: спужалася савы, пабегла, заблукала. Упала ў канаву — а там яны глыбокія, ад балота ідуць. Ён, Грышка, яе выцягнуў, уратаваў ад смерці. Але... не адвёў у лагер, пацягнуў з сабой. Яна знаходзілася на тым ЗКП. Ён краў ежу для яе, хлеб, іншае. Вы ведаеце, ваенныя заўважылі яго з верталёта, ён кінуўся на балота. Канешне, спыніцца ён не мог — баяўся. Па ім стралялі. Загінуў. Сказалі, што гэта беглы злачынца. Ну, нейкая частка праўды тут ёсць: дэзерцір жа злачынца, так?

— Злачынца,— хрыпата прамовіў Мікалай Іванавіч.

Пачуўся кароткі ўсхліп, калі бывае, чалавек церпіць з усяе моцы і не можа сцярпець. Жонка прапаршчыка, Марыя Іванаўна, выцерла вочы, вінавата шмарганула носам:

— Прабачце мне...

Стась пасунуў па драўлянай стальніцы той самы журнал.

— Вазьміце. Гэта ваша. Той салдат Грышка рабіў тут запісы. З іх вы многае зразумееце.

Мікалай Іванавіч асцярожна разгарнуў журнал, зірнуў на старонкі, пачаў чытаць. На твары заторгалася нейкая жылка. Ён асцярожна перадаў журнал з раскрытай старонкай сваёй жонцы. Яна блізарука нахілілася над сталом, ледзь варушыліся яе вусны.

— Божачкі! Гэта сапраўды яго, майго Грышы...— жанчына не ўтрымалася, захліпнуўшыся плачам, выйшла з альтанкі і пакрочыла ў дом.

Яніна са Стасем пераглянуліся. Мікалай Іванавіч заўважыў іх позіркі.

— Той салдат Грышка, ваўкалак, беглы злачынца, якога застрэлілі на балоце,— яе сын,— са скрухай патлумачыў ён.— Ён быў адзіны ў яе. Муж яе кінуў. Я ездзіў некалькі разоў да Марыі. Спачатку правяраць, ці не аб'явіўся беглы салдат. Пасля... Мы пажаніліся, у нас вырасла дачка.

Маўчанне цягнулася. Стась бачыў, як маці ад свайго дамка глядзіць на іх. Трывога ў яе вачах была відавочнай: жанчына бачыла, мабыць, як са слязьмі адышла ад альтанкі Марыя Антонаўна, які выгляд мае сусед-прапаршчык.

— Мы пойдзем,— узняўся Стась. За ім — Яніна.

Выйшлі з альтанкі. Яна спынілася, азірнулася на гаспадара:

— Нам вельмі шкада яго!

За веснічкамі леціпшча Яніна прыпынілася.

— Я пайду дахаты...

— Я разумею. Прабач.

— Табе цяжка вось так?

— Бацькоў не выбіраюць,— крыва ўсміхнуўся Стась.— Затое мама ў мяне — самая цудоўная на свеце.

— А ты заўтра прыйдзеш?

— Прыйду, канешне. Мы не завяршылі...

— Каб без мяне нічога не рабілі!

— Добра, абяцаю.

Стась глядзеў услед дзяўчыне — яе постаць у светлай сукенцы на доўгай вуліцы, была быццам намаляваная як у прыгожым кінафільме. Калі Яніна знікала за паваротам, Стась зайшоў на сваё лецішча. У іхняй альтанцы сядзеў бацька, разваліўшыся на лаве, а маці якраз несла на пластыкавым сінім падносе вялікую жаўтабокую дыню.

— А дзе... твая госця, сынок? Зараз парэжам дыню.

— Яна пайшла дахаты. У яе справы,— хутка адказаў Стась.— Я не хачу дыню, прабач. Можа, пазней. Дарэчы, я прасіў зефір у шакаладзе, ты не забылася, мама?

— Не забылася, сынок, прывезлі. А каму гэта, калі не сакрэт?

— Не сакрэт. Адной старэнькай бабулі. Я вельмі стаміўся. Дзень доўгі быў, хачу адпачыць.— Стась падняўся на ганак, пацягнуў за ручку дзвярэй, як яго гукнуў сусед:

— Адну хвілiначку, Стась!

Мікалай Іванавіч зноў прадзіраўся праз кусты парэчак да агароджы.

— Пры тваіх бацьках кажу: я і мая жонка будзем удзячныя табе да скону. Тое, што ты зрабіў для нас, не вымяраецца ніякімі грашыма. Наш дом адкрыты для цябе ў любы час,— хвалюючыся, прамовіў ён, павярнуўся да Стасевай маці: — Дзякуй вам за сына, шаноўная суседка. Ён сапраўдны ў вас. Дзякуй.

Маці Стася разгублена глядзела то на суседа, то на Стася.

— Прабачце, а што здарылася? — няўцямна спытала яна.

— Ваш Стась вярнуў маці сына,— адказаў Мікалай Іванавіч.

## 19. Зніч павінен гарэць

Аказваецца, спаць, рана прачынацца і зноў засынаць з думкай пра тое, што няма ніякае тэрміновае справы, не хвалююць нявырашаныя задачы, не трэба некуды абавязкова прыйсці да вызначанага часу,— салодкае, прыемнае і ўжо нават трохі забытае пачуццё. Стась зірнуў на тэлефон — і ажно прысвіснуў: хутка поўдзень! Вось гэта ён спаў — больш за дванаццаць гадзін. Ляжаў з расплюшчанымі вачыма. Недзе па суседняй вуліцы праехала машына з курыным гноем — у іх быў такі прыдуркаваты сігнал, гучны: куры квохчуць, з нейкага мульціка. Глядзі: звычайны гной прадаюць як тавар. Бацька стукаў унізе, здаецца, убіваў калок у зямлю, ды не адзін. Усякі раз ён нешта тут парадкуе. Усё яму каб пад лінейку, градкі Стась ускопвае пад нацягнуты шнурок, і каб ні на сантыметр убок. Ледзь чутны шум на кухні — там маці.

Яна абярнулася на крокі, сустрэла лагодна-клапатліва:

— От, мабыць, гэтак натаміліся-нахадзіліся ўчора! Так ужо соладка ды моцна ты спаў. Умывайся ды сядай — дранікі свежыя.

Стась еў, маці сядзела збоку, падпёршы рукой шчаку.

— Што ты так на мяне глядзіш, мама?

— Дзіўлюся,— загадкава ўсміхнулася маці.— Дзесяць дзён цябе не бачыла, а ты так змяніўся. Быццам год мінуў, нейкі дарослы зусім... Мо засумаваў, у горад паедзеш?

— Тут сумна не было. Пазней у горад паеду, ёсць яшчэ справа. Я ў вёску пайду, вярнуся да вечара, звані, як што.

— Добра... А пра суседа раскажаш? Ну, пра сына?

— Гэта не яго сын. Яго жонкі. Яны ажаніліся пасля таго, як ён прапаў.— Стась уздыхнуў: нікуды не падзецца, трэба нешта расказаць.— Калі прапаршчык тут служыў, прапаў адзін салдат. Яго палічылі дэзерцірам. А ён атруціўся парай ракетнага паліва, забег у запасны каманды

пункт і там зачыніўся. У гэты час тунэль да пункта затапілі — не ведалі ж, што ён там. Яму не было як выйсці. Ён біў бетонную сцяну, не ведаю колькі, можа, і год. І там... звар'яцеў. Жыў у тым падземным пункце. Напачатку ў яго была тушонка, пасля па вёсках краў гусей, курэй, нават казлянят. Тут загаварылі пра чупакабру, ваўкалака. Была экспедыцыя, ну, пра гэта вы чыталі, дзяўчына прапала. Яна заблукала, ледзь не патанула. Яе гэты вар'ят выратаваў. Але завёў да сябе, у балота. Яго пабачылі ваенныя, ён загінуў. А дзяўчыну мы знайшлі. Вось і ўсё.

— Божа, нават не верыцца. А адкуль жа вы ведаеце, што застрэлены вар'ят і той салдат — адзін і той жа чалавек?

— Пакуль у яго быў розум, ён вёў запісы. Мы іх учора перадалі Мікалаю Іванавічу. Ягоная жонка, як я зразумеў, пазнала почырк сына. Дзякуй, я наеўся. Пайду — шмат спраў яшчэ. Не хвалюйся, у нас прыгод болей не чакаецца.

— Чакай, сынок! Зефір вазьмі. І дыню, пачастуй сваіх сяброў...

— Добра, дзякуй.

Толькі выйшаў з дачнага пасёлка, пазваніў Віталь.

— Ты мо ў горадзе ўжо?

— Ды не, пакуль падпрацоўваю разносчыкам.

— У сэнсе?

— Пачастункі разношу. Бабулі Арыне — зефір у шакаладзе. Табе і Яніне — дыню.

— Ага! Дык слухай, давай паспяшайся, бо дыню мы яшчэ ўчора хацелі!

— Хутка буду.

— Чакаем! Я гукну Яніну.

Дыня была вялікая, ёй пачаставалі ўсіх. Дарослыя ўзялі па скрыльку, а бабуля Арына адмовілася: не любіць яна дыні. Жанчына з дзіцячай беражлівасцю падтрымлівала рукой на каленях адкрытую каробку з зефірам, ела, адкусваючы патроху, а на твары яе чыталася ціхая радасць.

— Чуеш, Віталь, трэба табе ў радаводзе тваім пакорпацца: не іначай, у крыві тваёй бабулі кроў шляхецкая ёсць. Глядзі, яна есць, быццам арыстакратка,— не падколваючы, у захапленні шапнуў Стась.

— Няма радаводу, хто яго складаў? Мо і папытаць.

— Пытайся цяпер... Бабуля яшчэ сваіх дзядоў помніць, у цябе такі шанец! Калі ўзнікне пазней жаданне ведаць пра свой род як мага болей, дык не будзе ў каго пытацца. У мяне бабуля адна засталася, дык яна хворая зусім, не помніць іншым разам, як яе завуць. У інтэрнаце спецыяльным.— Стась уздыхнуў.— Што рабіць будзем?

Хоць не казаў, пра што пытае, Віталь, вядома ж, зразумеў.

— Спаць клаўся, думаў: от зараз рашу задачу. А толькі лёг — заснуў адразу. І нічога не прыснілася. Зараз Янінку спытаем.

— Нічога не рабіць, кладку ўзарваць! — параіла Яніна.

— Якія радыкальныя жанчыны ў нас пайшлі!

— Разумныя, а не радыкальныя, не блытай.

— Добра, давай сур'ёзна,— папрасіў Стась.

— У вас дзве галавы, у мяне адна, і тая есць дыню! — Яніна паказала язык.

— Ясна... Віталь, пакліч бацьку. Усё адно палову ён зараз ведае, а другую ты яму раскажаш пазней.

Віталеў бацька выйшаў тут жа, прысеў на лаўку, дастаў пачак цыгарэт.

— От, малайцы, што паклікалі, хоць пакуру. А то знайшлі мне работу — шчаўе перабірай!

— Андрэй Міхайлавіч,— звярнуўся да яго Стась,— тут такое пытанне. Ёсць нешта, што трэба, каб захавалася як мага надалей, каб не спаскудзілі. Як лепш зрабіць?

— Схаваць так, каб ніхто нават выпадкова не знайшоў,— сур'ёзна адказаў мужчына, нікольκі не здзівіўшыся пытанню.

— А калі гэта вялікае? Скажам, будынак?

— Калі яго зверху не відаць, дык замаскіраваць да яго дарогу.

— Ясна... Віталь, твае думкі?

— Дарогу не схаваеш... — услых разважаў Віталь.— Сцежка — лухта, калі верталёты ёсць. Дый балота даўно не тое, што раней,— пры жаданні без сцежкі дойдзеш. Трэба хаваць уваход.

— Закрываць,— удакладніў Стась.

— Закрыць мала. Засыпаць?

— А калі дарабіць тое, што ваенныя пачалі, ды ў іх не атрымалася?

— А агонь?

— Уваход закрыць! — ляпнуў сабе па калене Стась.

— Шарыш! — гукнуў Віталь, паглядзеў на бацьку, які нават галавы не паварочваў на галасы хлопцаў, моўчкі прыкурваў, быццам яго зусім не цікавіла гутарка.— Карацей, паважаны Андрэй Міхайлавіч, маладое пакаленне мае да цябе вялікую просьбу.

— Давай, слухаю,— бацька пыхнуў дымам.

— Тата, трэба... мабыць, мяшок цэменту.

— А хопіць? Які мяшок? Пяцьдзясят кілаграмаў ці палова?

— Я не ведаю... Ну, дзірка метр на метр. Метр — таўшчыня сцяны. Закласці кавалкамі рознымі...— тлумачыў Віталь.

— Пясок на востраве ёсць? Норы лісіныя ці барсуковыя бачылі?

— Былі норы лісіныя,— успомніла Яніна.— А можа, барсуковыя, не ведаю. І старыя, і цяперашнія. Бачыла. Жоўты пясок там.

— Ясна, моладзь. Колькі ісці па часе?

Было зразумела, што бацька аднекуль ці то ведае, ці то пра ўсё здагадваецца. І намерваецца, падобна, сам ісці на востраў. Віталь не стаў далей гуляць у жмуркі:

— Так разумею, што ты разумееш: мы прайшлі на востраў і там патрапілі ў запасны камандны пункт. Там знайшлі Леру. Хочаш сам туды патрапіць?

Бацька пільна зірнуў на хлопцаў, шырока ўсміхнуўся:

— Эх, моладзь! Ды вяскоўцы адразу здагадаліся, што дзяўчыну вы адтуль прывялі. Бо пра таемнае будаўніцтва на востраве ўсе ведалі. Некалі даўно зімой туды на зайцоў падаліся паляўнічыя, дык іх вартавыя з аўтаматамі сустрэлі. Нашы і забылі туды дарогу. І калі гэтага бедалагу там падстрэлілі, тым больш усе ўпэўніліся. А што трэба схаваць? Гэты ЗКП? Ды каму ён трэба цяпер?

— Не зусім... Ёсць там яшчэ... аб'ект. Пра яго бабуля Арына быццам казкі расказвала.

— Чуў я тыя казкі пра агонь непагасны... І многія чулі, і нас, малых, тым агнём і вострывам палохалі. Ведзьмакі там некалі жылі. Дзяцей кралі — так апавядалі. Добра. Зараз я ў мястэчка падскочу, вазьму цэменту, кельму... Дык колькі па часе на востраў?

— Гадзіна самым хуткім тэмпам.

— Значыць, заўтра... Ліхтарыкаў пару? Што яшчэ?

— Ага, ліхтарыкі! Пакетаў для смецця вазьмі, мы іх на ногі надзявалі, каб па балоце ісці.

— Прыдумалі ж,— усміхнуўся бацька.— Добра, мяркую, невялікага мяшка цэменту нам хопіць. А ад каго ці чаго закрываем дзірку?

— Ад вады,— адказаў Стась.

— То ж важны момант,— прыцмокнуў мужчына.— Трэба і сілікату ўзяць... Які ўваход?

— Ход у зямлі, вельмі круты, вузкі, метры тры ці больш глыбінёй.

— Вяроўка трэба.. Значыць, заўтра каб у сем выйсці, так?

— Згода.

Віталеў бацька пайшоў у дом. Стась павярнуўся да Яніны:

— Ты пойдзеш з намі?
— Канешне!
— Навошта табе ногі біць?
— Мае ногі, хачу і б'ю! — з выклікам адказала Яніна і цішэй дадала: — Ля зніча хачу пастаяць.
— Што прасіць будзеш у чарадзейнага агню? — не падначаваў, сур'ёзна спытаў Віталь.
— Каб мне жаніха багатага паслаў!
— Добрая справа,— усміхнуўся Стась.— У тваім тэлефоне застаўся нумар бацькоў Леры. А ў іх павінен быць нумар выкладчыка. Давайце пазвонім яму.
— Што скажам? — насцярожыўся Віталь.
— Спытаем,— падміргнуў Стась,— што там Арцём паспеў распавесці...
Яніна патэлефанавала, папыталася, як адчувае сябе Лера. Там было ўсё добра. Маці Леры які ўжо раз пачала дзякаваць і абяцала прыехаць на днях, прывезці падарункаў. Пасля па атрыманым нумары патэлефанаваў Стась.
— Мірон Сяргеевіч, дзень добры! Гэта Стась, ну, які з іншымі Леру шукаў.
— Вітаю, Стась! Помню, канечне. Як у вас справы, чым займаецеся?
— Усё добра, ёсць адно пытанне да вас.
— Вось як? Калі магу нечым дапамагчы, то буду толькі рад.
— Хіба парадай... Хочам пачуць ваша меркаванне. Вось уявіце на хвілінку: вы адшукалі зусім выпадкова старажытнае паганскае капішча. Некранутае нікім. І там гарыць да гэтай пары агонь. Зніч. Што б вы рабілі? Менавіта вось цяпер...
Нейкі час выкладчык маўчаў, не задаючы ніводнага пытання. Пасля ўздыхнуў і сказаў:
— Значыць, Арцём не блефаваў, калі казаў, што мае ў руках такое, што ўскалыхне вучоны свет...

— Ну, Арцём тут такі эмацыянальны стрэс перажыў, бабуля Арына яму нарасказвала казак, дык і прымроілася яму нешта. Дык што б вы зрабілі, каб зніч застаўся цэлым надалей, як заставаўся гэтыя вякі?

— Слухай, Стась... Пакажыце мне яго. А потым... Потым я сам дапамагу вам зрабіць усё, каб ён гарэў некранутым яшчэ столькі гадоў, колькі спатрэбіцца. Да таго часу невядомым заставаўся, пакуль наша грамадства не ўступіць у фазу свайго развіцця, у якой зможа атрымаць і не збэсціць, не апошліць святыню. Так, я б схаваў непагасны агонь. Пакажыце мне яго, прашу.

— Што, Віталь? — Стась зірнуў на сябра, той кіўнуў галавой у знак згоды.— Ты, Яніна? Супраць няма, Мірон Сяргеевіч. Калі паспееце заўтра да сямі раніцы да нас, то пабачыце.

Стась адключыўся, спытаў:

— Нічога я не сапсаваў?

— Ён разумны дзядзька! — усклікнула Яніна.— І нам дапаможа.

— Як прыедзе, то ў нас будзе два мужчыны, якія панясуць цэмент,— рагатнуў Віталь.— Усё быццам правільна, Стась. Мне хочацца яму верыць. І разумна ён сказаў. Зараз ім пакажы, насамрэч, як ты казаў,— папрууца шашлыкі смажыць... А пайшлі цяпер! Падкормім рыбу, а на захадзе сонца пасядзім ля рэчкі з вудамі! Цішыні ўжо хочацца, праўду кажу...

Выкладчык Мірон Сяргеевіч з жонкай, Кацярынай Віктараўнай, прыехалі ўвечары — хлопцы якраз вярталіся з рыбалкі. Ім патэлефанавала Яніна.

— Гэй, зноў наш Праскоўін падворак занялі! Палатку паставілі, касцёр распалілі. Клічуць нас. Пойдзем?

— Пабяжым.

Пайшлі, вядома. Іх ужо чакалі. Абое — муж і жонка — былі апрануты па-паходнаму. Апусціўся вечар, цёплы і без

камароў. Мірон Сяргеевіч пачаў расказваць пра зніч, пра паганства, пра ролю веры, узнікненне рэлігій — і расказваў так захапляльна, цікава, што яго слухалі, бы студэнты на лекцыі. Калі пачало добра цямнець, Стась патэлефанаваў маці, сказаў, што хутка прыйдзе. Сталі развітвацца. Кацярына Віктараўна нечакана папрасілася:

— Вазьміце мяне заўтра, калі ласка! Абяцаю, ніякіх клопатаў са мной не будзе! Я — вопытны падарожнік. І дужая, праўда. Магу нешта несці, калі вам трэба. Віталь, ты тут галоўны, дазволь?

— Я галоўны, калі сам сябе назначаю — у лесе ці на балоце, калі адказваю, вось,— засаромеўся Віталь.— Мне што... Я б дазволіў. Хай Стась кажа.

— Панесяце цэмент,— са шкадаваннем усміхнуўся Стась,— раз напрасіліся.

— Ты яшчэ скажы — увесь мяшок! — абурылася Яніна.— Не слухайце яго! Канешне, пойдзем.

— А цэмент нашто? — здзівіўся Мірон Сяргеевіч, а пасля махнуў рукой: — Але, значыць, вы ўсё прыдумалі. Што нам браць з сабой?

— Ліхтарыкі трэба. Ну, паесці, бо хто ведае, можа, і на дзень затрымаемся.

Самая цяжкая дарога — тая, па якой ты ішоў у невядомае, рызыкаваў, але ведаў, што поруч сябры, якія за цябе, а ты за іх; па якой ты дайшоў мо да самага галоўнага ў сваім жыцці адкрыцця, а за свае цяперашнія пражытыя гады дык дакладна да галоўнага; па якой ты будзеш ісці неаднойчы яшчэ, заплюшчваючы вочы познімі вечарамі, калі прыкрасць дня будзе шаптаць табе аб тваёй поўнай адзіноце і непатрэбнасці на гэтай зямлі; па якой ты ідзеш зараз — і ідзеш апошні раз.

І баліць асабліва таму, што не нехта закрывае ад цябе гэтую дарогу, а ты сам робіш свой шлях незваротным,

сам паліш за сабой масты, сам хаваеш ад сябе і людзей адкрытае. І толькі адна думка трымае цябе на шляху, кліча прайсці да канца і здзейсніць задуманае: той агеньчык, што гарэў для тваіх продкаў, не павінен згаснуць. Ён павінен жыць, і ты разумееш, што толькі надзейна схаваны ад вачэй чужых, вачэй тваіх знаёмых, і нават родных, ён здолее захаваць сябе. Таму боль твой не тужлівы, а светлы. Канешне, ты некалі яшчэ прыйдзеш сюды, прыйдзеш праз год; ды толькі гэтая дарога не будзе дарогай да зніча, бо да самога зніча ты не дойдзеш, як дойдзеш цяпер. Ты проста патрапіш на востраў. Каб упэўніцца, што тут ніхто не спрабаваў парушыць шматгадовую цішыню і некранутасць месца, што шматвекавы знявечаны дуб усё гэтак жа трымае з апошніх сіл сваю адзіную зялёную галіну. Ты прысядзеш пад ім, спінай адчуваючы цвёрдую шурпатасць старой кары, і будзеш глядзець прама перад сабой, а зрок твой пранікне глыбока ўніз, пад зямлю, і ты пабачыш, як там гарыць роўна аранжава-жоўты агеньчык. І ты ўстанеш і пройдзеш некалькі крокаў наперад, спынішся і адчуеш, як ад зямлі ласкава кранаецца цябе ягонае цяпло і ягоная жыццядайная сіла, якую ты не адчуваў раней. Адтуль, з глыбіні зямлі. Ты не затрымаешся тут доўга — сюды не ходзяць у госці, але паспееш за кароткія хвіліны згадаць мінулыя за гэты год падзеі — добрыя і дрэнныя, вялікія і малыя; і сам не заўважыш, як знойдзеш іх у сябе, знойдзеш сваю баязлівасць і самахвальства, бязвольнасць і ганарлівасць, нават непатрэбную злосць і здраду. І ты будзеш судзіць тут сам сябе, судзіць жорстка і без адваката, а пасля станеш выглядаць жолуд пад вечным дубам — як знак прымання святым агнём твайго пакаяння і ачышчэння тваёй душы...

...Віталеў бацька паспеў да сямі раніцы падзяліць мяшок цэменту на часткі, дапамог кожнаму загрузіць заплечнікі, старанна патушыў цыгарэту і сказаў:

— Вядзі, Віталь!

Пайшлі не вясковай дарогай — паўз агароды, бо навошта людзей пужаць такой працэсіяй? Іх ажно шэсць чалавек, з заплечнікам кожны, апранутыя не на гулянку — ёсць з чаго падзівіцца і пасля пapляткарыць. Віталь з веданнем ранейшага шляху выбіраў дарогу, каб і карацей, і зручней: не па росным лузе, не па бураковым полі, тым больш ноччу прайшоў добры дождж. На беразе канавы, за якой пачыналася балота, прыпыніліся перадыхнуць. І хоць шлях па балоце мінулым разам прайшоў гладка, Віталь зноў дастаў вяроўчыну, каб злучыць ёй паходнікаў.

— След у след трапляйце, сцежка не шырокая, менш за крок,— сур'ёзна казаў ён больш бацьку і выкладчыку з жонкай.— Абапірайцеся на калкі, каб трымаць раўнавагу...

Як і ў той раз, недзе на сярэдзіне адлегласці ад канавы да вострава балота раптоўна ачысцілася ад туману, засляпіла сонца. Рэшткі туману невялікімі доўгімі аблачынкамі нізка слаліся над дрыгвой, чапляючыся за кусты, знікаючы на вачах. Кацярына Віктараўна прабачалася, прасіла на імгненне прыпыніцца і пстрыкала сваім фотаапаратам з вялізным аб'ектывам, які важыў мо з кілаграмы два. На беразе вострава аддыхаліся, але спыняцца адпачыць не сталі — адразу пайшлі да прыхаванага лаза ў ЗКП. І толькі там прыселі на зямлю, дасталі тэрмасы з гарачымі чаем і кавай, бутэрброды, бо ніхто з падарожнікаў і не снедаў толкам. Віталеў бацька з кубкам кавы ў руцэ абышоў вакол, нешта выглядаючы.

— Там горка з лісінымі норамі,— паказала рукой Яніна ў бок дуба.

— Ну, з-за пяску чужое жытло мы калечыць не станем,— адмовіўся ад падказкі Андрэй Міхайлавіч.— Цікава: калі тут ліса ці барсук, значыць, ёсць сцежкі сушэйшыя. Але хіба толькі лісе па іх прабягаць... А пясок вось блізка

будзе — ён кіўнуў на праплешыну між елкамі. Сама болей — на паўметра ўглыб.

Спусціліся ўніз. Апошняй на гэты раз была Кацярына Віктараўна. Толькі апынулася пад зямлёй, дастала з кішэні компас і нататнік. Запаліла начэплены на галаву ліхтарык.

— Я тут не заблукаю? — спытала ў хлопцаў.

— Не, тут няма дзе блукаць. Прама калідор — да зачыненых дзвярэй, ён паніжаецца, там вада плюхае ў канцы. Налева будзе яшчэ калідор, да генератарнай. Нам туды. Памяшканні з калідора толькі, няма чаго асабліва глядзець.— Стась, пакуль ішлі, расказваў пра памяшканні.— Тут нейкія паперы, папкі, на іх штампы «надзвычай сакрэтна». Мы не сталі корпацца — ну іх!

— Мабыць, і нам без патрэбы,— сказаў Андрэй Міхайлавіч.

Праз нізкі лаз у капішча праціскаліся па адным. Віталь стаяў і сачыў, каб ніхто не кідаўся да зніча. Зрэшты, дарэмна: дарослыя застывалі, забываючыся ступіць крок убок, каб даць магчымасць выбрацца наступнаму.

— Мы думаем, што калі разам ля зніча патаптацца, то можна парушыць месца выхаду газу,— чамусьці шэптам патлумачыў Віталь сваю перасцярогу.— Стась кажа, што гэта газ гарыць, балотны...

— Галоўнае, што ён гарыць,— сцішана прамовіў выкладчык, Мірон Сяргеевіч.— Ніколі не чакаў такой узнагароды ад лёсу — пабачыць сапраўдны зніч на некранутым капішчы...

Нейкі час стаялі на месцы, застыўшы перад каменем, на якім трапятаў агеньчык.

— Што ж, зоймемся справай,— нагадаў аб мэце прыходу Віталеў бацька.— Вы, хлопцы, выбірайце кавалкі бетону адсюль, ад увахода. Яніна, дапамагай ім. Вы, Кацярына?

— Што скажаце, тое і буду рабіць,— адгукнулася жонка выкладчыка.

— Будзеце з мужам прымаць і насіць пясок... І вады трэба будзе пазней у гэтыя пакеты смеццевыя набраць, патрошкі. Яны, вытрымаюць, яе многа не трэба. Я наверх — буду капаць пясок і вам падаваць.

Праз паўгадзіны на бетоннай падлозе быў замешаны цэментны раствор, побач ляжала добрая гара кавалкаў бетону.

— Ну, пайшлі развітаемся, ці што,— быццам саромеючыся сваіх слоў, прапанаваў Андрэй Міхайлавіч і першы палез да капішча.

Стаялі моўчкі, глядзелі на агонь.

— А ён не згасне? — з бояззю спытала Яніна.

— Не павінен,— адказаў Стась.— Ён гарэў тут да таго, калі наш ваўкалак прабіў сюды ход. Значыць, недзе ёсць шлях паветру.

— Чаму так упэўнены? — спытаў Віталь.— Можа, ваўкалак падпаліў?

— Не, ён бы атруціўся адразу, як ход прабіў. Метан — цяжкі газ, збіраецца ад паверхні...

— Праз дах вентыляцыя,— заўважыў Андрэй Міхайлавіч.— Неяк хітра камяні ляжаць... А ўваход быў вунь там.— Ён паказаў у кут, дзе некалі пабачылі Леру. Бачыце, камяні ва ўсіх сценах на нейкім растворы ляжаць, а там — навалены валуны...

Кацярына Віктараўна пстрыкала фотаапаратам, чыркала ў сваім нататніку, гледзячы на компас.

Яніна першая зрабіла тры крокі наперад, да зніча, асцярожна, быццам ішла па тонкім лёдзе. Спынілася, моўчкі засяроджана глядзела на агонь, не зважаючы на ўспышку фотаапарата Кацярыны Віктараўны.

Калі Яніна адышлася, Віталь кашлянуў і, хаваючы сарамлівасць за зухаватасцю, сказаў:

— Пайду і я жаданне загадаю! А раптам збудзецца...

Потым саступіў месца Стасю. Стась — Кацярыне Віктараўне.

Апошнім пакідаў памяшканне капішча выкладчык Мірон Сяргеевіч. Яго чакалі, не зазіраючы ў ход. Усім падалося надта доўгім ягонае баўленне, жонка няголасна гукнула:

— Мірон, не назаўсёды хаваем!

Пасля закладвалі ход кавалкамі бетону і растворам. Гэта рабілі хутка, бо Віталеў бацька дадаў у раствор вадкасці — сілікату, каб раствор не прапускаў ваду; але ж і застываў цяпер раствор хутка. Ход увачавідкі закрываўся, адразаючы нечакана адкрытую таямніцу мінулага ад будзённай сучаснасці. Яшчэ і яшчэ слой, вось і рэшткі раствору трамбуюцца ў шчыліну, вось ужо кельмай старанна загладжваецца кладка...

Андрэй Міхайлавіч яшчэ наверсе паспеў падумаць і пра дзверы ў тунэль — ён выразаў ёмкі дубовы дручок, цяпер старанна прывязваў яго вяроўчынай да рычага.

— Такім чынам мы рычаг павялічым, прасцей будзе адчыніць дзверы...

— Нас жа знясе адразу! — ажно пахіснуўся Стась.

— Калі будзем стаяць — знясе,— усміхнуўся мужчына.— Бачыш — крук у столі? Дзверы прыадчынім да самага мінімуму — і на выхад. А пасля пацягнем — павінны выйсці штыфты.

— Прыадчынім, дык ліне добра,— выказаў думку Віталь.

— Ліне, але можа пакрысе забіцца розным друзам. Каб ужо напэўна...

Рычаг скраналі з месца удвух — Віталь і Стась.

— Трошкі ўверх і ўніз, уверх і ўніз,— падказваў Віталеў бацька.— Іржой прыварыла, расшавяліце як след...

Расшавялілі — верхні штыфт на трэць выйшаў з паза (ніжняга не было відаць пад каламутнай вадой), а вада забіла пругкімі плоскімі струменямі праз шчыліны. Балазе, убок, а не на саміх хлопцаў.

— Павінна атрымацца...

А вада была па шчыкалатку ўжо, паўзла далей у калідор. Працягнулі вяроўчыну, выбраліся наверх.

— Усе мы тут? Ну, пацягнем. Хай ён там спакойна гарыць...

Працягнулі. Глухі шум раздаўся ўнізе, быццам уздыхнула вялізнае страшыдла. Свяцілі ліхтарыкам і бачылі, як віруе там вада, імкліва паднімаецца ўверх, бы намерваючыся адтуль выскачыць вонкі, на востраў, і паглынуць яго; пасля супакойваецца, яшчэ крыху паднімаецца, і вось ужо бачна яе без ліхтарыкаў, яна ўсяго метры за два ад паверхні.

— Зараз будзе цяжка і доўга,— папярэдзіў Андрэй Міхайлавіч.— Хто ў чым злаўчыцца, я б прапанаваў змесціва заплечнікаў выкласці і ў іх пясок насіць. Многа трэба, таму што будзе размывацца. Стась і Віталь, зараз з жэрдак і маёй вятроўкі зробім ношы...

Здавалася, рукамі насіць пясок і сыпаць яго ў лаз, зараз затоплены вадой,— што лыжкай закідваць зямлю ў кузаў аўтамабіля. Гадзіну працавалі безупынна — і нішто не змянілася, хіба вада зверху ўся была ў парушынні, іглiцы і шышках. Сыпалі і сыпалі яшчэ гадзіну, пакуль не пабачылі, як чарговая порцыя пяску не плюхнулася глыбока ўніз, а распаўзлася вадкай граззю.

— Можа, не трэба тут ірвацца,— спытаў Віталь, калі прыселі перадыхнуць.— Пакінулі б, як раней было.

— Небяспечна, дружа,— адказаў яму бацька.— Пройдзе выпадкова нехта — смерць.

І хоць зямля, якую сыпалі цяпер, паволі асядала, работа ішла шпарчэй, стараліся подбегам. Урэшце насыпалі — з горкай чорнай зямлі наверсе. Яна пакрысе асядзе, і хай будзе яміна потым, страх ужо не вялікі...

— Быццам магілку зрабілі,— з сумам заўважыла Яніна.

— Не трэба так драматызаваць. Не магілка, а абарона ад непажаданых, — суцешыла яе Кацярына Віктараўна,

дастала свой нататнік, компас, зрабіла колькі крокаў наперад ад засыпанага ўвахода.— Хадземце за мной! — гукнула ўсіх.

Яна ўпэўнена пракладвала па зарослым востраве свой маршрут, і ўсім так лёгка было ўявіць: вось яны брыдуць падземным калідорам: вось паварот у генератарную, вось сам лаз...

— Там — зніч.

Кацярына Віктараўна паказала на вялікую пляскатую горку, у якой віднеліся некалькі нор. За дзясятак крокаў далей стаяў той самы стары дуб.

— А вось тут павінен быць стары ўваход. Калі ён не вертыкальны, то дадаць варта крокаў сем...

Яна нешта яшчэ намалявала ў сваім нататніку, пасля нечакана прысела, скрыжаваўшы пад сябе ногі. Азірнулася:

— Вы хіба не адчуваеце, што тут усё іначай?

Можа, і было іначай. Лёгка — дык тое патлумачыць можна скончанай працай. Спакойна? Дык ніхто ім не перашкодзіў, і зрабілі яны тое, што планавалі, а зараз ніхто іх нікуды не гоніць. Вольна? Дык на сваёй жа зямлі.

Яны ўсе прыселі, хто як пажадаў, Андрэй Міхайлавіч дык і ўвогуле прылёг, дастаў цыгарэту, але чамусьці не прыкурваў, круціў у руках. У кішэні Стася завібрыраваў тэлефон — маці званіла. Ён адказаў.

— Сынок, бацьку патэлефанавалі, тэрмінова выклікалі на працу. Ён паехаў, вернецца паслязаўтра. Мне так няёмка перад тваёй сяброўкай. Калі ласка, запрасі яе ў госці сёння, торт у нас ёсць, я купляла спецыяльна для цябе.

— У мяне і сябар тут ёсць,— адказаў Стась.

— Канешне, канешне, прыводзь сяброў! Дык я чакаю к вечару, так?

— Добра, мама.

Да вечара было яшчэ далёка. Стась крануўся пляча Яніны, яна крутнулася, быццам чакала.

— Што там, непрыемнасці? — спытала сцішана

— Наадварот, прыемнасці. На торт нас запрасілі. Слухай, я вось падумаў... А ты як думаеш: чаму не ўсім людзям хочацца расказаць пра зніч? Нават самым родным?

— Гэта ты ў мяне пытаешся?

— У сеціве няма адказу на такое пытанне.

— Пэўна, таму, што не ўсіх мы любім.

— І не ўсе любяць нас.

— І не ўсім мы верым.

— І не ўсе вераць у нас.

— І не ўсім патрэбны зніч.

— І знічу не ўсе трэба.

— Мы абраныя?

— Мы абраліся самі.

— Каб берагчы і бараніць?

— Каб любіць...